## Колькі слоў уступу

**«Архіўная кніга», створаная Лявонам Юрэвічам, складаецца якбы з трох частак: адна -- гэта малаведамыя старонкі жыцьця пісьменьніка, раскрытыя аўтарам артыкулаў пра Ўладзімера Дудзіцкага, Хведара Ільляшэвіча, Уладзімера Клішэвіча, Уладзімера Сядуру-Глыбіннага, Міколу Вярбу, Юрку Віцьбіча на багатым архіўным матар'яле: афіцыйных дакумэнтах, манускрыптах -- пэрсанальных нататках, успамінах, ліставаньні, дзе найбольш поўна адлюстраваліся падзеі часу, складаныя ўзаемаадносіны людзей, назіраньні й разважаньні пісьменьніка. Другая частка -- гэта творы ці ўрыўкі твораў пісьменьніка, большасьць дасюль няведамыя -- з манускрыптаў, альбо і друкаваныя ды не заўважаныя чытачамі і крытыкай. Кожны разьдзел «Архіўнай кнігі» завяршаецца найбольш дакладнай і поўнай, на сёньня, бібліяграфіяй твораў пісьменьніка.**

**Пра вартасьць і значнасьць мастацка-літаратурных твораў, напэўна, скажуць сваё слова крытыкі, дасьледнікі пісьменьніцкае спадчыны.**

**У гэтым кароценькім уступным слове я выказваюся не пра літаратурныя якасьці апублікаваных твораў, а пра грамадска-культуралягічны асьпект дзейнасьці пісьменьнікаў (са значнай дозай асабістых меркаваньняў). З названых у «Архіўнай кнізе» мастакоў я быў добра знаёмы з Юркам Віцьбічам ды ўсёй ягонай сям'ёй. Ведаў Уладзімера Сядуру і Міколу Сільвановіча, супрацоўнічаў зь імі. Быў знаёмы з Уладзімерам Дудзіцкім і Хведарам Ільляшэвічам. І ніколі не сустракаўся з Уладзімерам Клішэвічам.**

**Для мяне, як і значнае часткі грамадскіх працаўнікоў на эміграцыі, эміграцыйныя пісьменьнікі былі аўтарытэтамі, паважанымі асобамі. Мы чыталі іхнія творы, выказвалі сваё захапленьне ці расчараваньне. Зь вялікім задавальненьнем віталі ў іхняй творчасьці зварот да беларускай нацыянальнай гістарычнай тэматыкі, катастрофы Беларусі пад бальшавіцкім панаваньнем -- тэмаў, забароненых ў літаратуры на бацькаўшчыне.**

**Але ў эміграцыйным асяродзьдзі быў яшчэ іншы крытэрый, іншае вымярэньне беларускага інтэлігента -- мастака, пісьменьніка, навукоўца, а менавіта -- ягоная грамадская дзейнасьць. Для значнае часткі беларускай дыяспары гэты крытэрый быў, бадай, найгалаўнейшым у вызначэньні ролі тае ці іншае асобы -- удзельніка беларускага нацыянальнага культурнага руху. І вось найчасьцей**

**менавіта з гэтага пункту гледжаньня, хай сабе і не аб’ектыўнага, магчыма, нават і прымітыўнага (іншыя могуць ужыць эпітэт і «палітызаванага»), эмігрантамі давалася ацэна пісьменьніку і фармаваўся ягоны вобраз. Але праз увесь эміграндкі пэрыяд жыцьця, прайшоўшы празь дзясяткі й дзясяткі эміграндкіх арганізацыяў, выкажу пагляд, што ўсе ці, дакладней, блізу ўсе эміграндкія паэты і празаікі былі ў той ці іншай ступені на розных этапах свайго шляху і палітычнымі і культурна-грамадскімі дзеячамі. Часта яны выконвалі ролю і рухавікоў нацыянальнага руху, а літаратурныя эміграндкія часапісы, такія, як «Шыпшына», «Сакавік», «Шляхам Жыцьця», «Пагоня», адыгралі й выдатную ролю ў кансалідацыі й выпрацаваньні палітычнага кірунку дыяспары.**

**І вось, перагортваючы старонкі, так-бы мовіць, «пэрсанальнай» часткі «Архіўнае кнігі», я заўважыў, што і пісьменьнікі вычувалі адносіны грамадства да іх, часта былі незадаволеныя ды крытычныя да грамадства. Вельмі важнае ў «пэрсанальнай» частцы «Архіўнае кнігі» тое, што асабістыя нататкі і разважаньні пісьменьнікаў, іхняя міжпісьменьніцкая камунікацыя выдатна перадае атмасфэру, у якой яны пісалі, умовы, у якіх праходзіла жыцьцё.**

**Шмат у іхніх паглядах ёсьць супольнага, тыпова пісьменьніцкага падыходу, але ёсьць шмат і адрознага, цалкам асабістага. Бадай, самае супольнае для тых, каго Лявон Юрэвіч выбраў у «Архіўную кнігу», гэта -- іхняе моцнае жаданьне стварыць нешта новае ў беларускай літаратуры. Усе яны добра ўсьведамлялі, што яны -- па-за бацькаўшчынай, і былі перакананыя, што пры бальшавізьме ім павароту на радзіму няма (праўдападобна, пераканаўся ў гэтым і Ўладзімер Клішэвіч). Але яны тварылі беларускую літаратуру, давалі яе беларускаму грамадству. І бадай ці не ўпяршыню ў «Архіўнай кнізе» пададзеныя са шматлікіх прыватных і грамадскіх архіваў погляды пісьменьнікаў як на бацькаўшчыну, так і на эміграцыю, зь якой яны дзялілі лёс.**

**Бясспрэчна, што «Архіўная кніга» Лявона Юрэвіча зьяўляецца важкім укладам у гісторыю літаратуры беларускай эміграцыі, асьвятляе па-новаму жыцьцё і творчасьць шэрагу пісьменьнікаў замежжа і дае дасьледнікам новы, цікавы ды вельмі каштоўны матар’ял.**

**Вітаўт Кіпель**

# *Post Scriptum*
## да «Збору твораў» Уладзімера Дудзіцкага[1]

*...вырасьце трава*
*і траву адшукае раса...*
*Анатоль Сыс*

**Першая кніга. Першы зборнік. І адразу «Збор твораў». Так прыйшоў да чытача Паэт...**

**Пры жыцьці Ўладзімера Дудзіцкага ня выйшла аніводнай ягонай кнігі, творы зьмяшчаліся толькі ў газэтах і часапісах. Але адно газэтныя й часапісныя публікацыі не даюць мажлівасьці нават неабыякавым сучасьнікам убачыць і ацаніць маштабнасьць пісьменьніка. Як звычай, кароткае жыцьцё пэрыёдыкі бярэ з сабою й памяць пра твор і ягонага аўтара. Гэта ўсьведамляў і сам Дудзіцкі. У лісьце да Віцьбіча ад 15 студзеня 1953 году ён пісаў: «Раскіданыя па часапісах і газэтах творы**

---

**[1] Уладзімер Дудзіцкі. Напярэймы жаданьням. Збор твораў. Нью-Ёрк, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, 1994. 312 б. + XXIX.**

**ніколі ня маюць такога значэньня, як сабраныя ў кніжку. «...» але самі ведаеце, што мы заўсёды аддавалі перавагу справам грамадскім, а сваё пакідалі на потым»[1].**

**«Збор твораў» Уладзімера Дудзіцкага складаўся па архіўных матар'ялах і выяўленых газэтных і часапісных публікацыях. Аднак і сёньня яшчэ не сабраныя і не апісаныя беларускія выданьні пэрыяду лягераў ДП і эміграцыі.[2] Бібліятэчныя-ж зборы беларусікі на Захадзе маюць у бальшыні сваёй няпоўныя камплекты пэрыёдыкі, што перашкаджае выяўленьню ўсіх публікацыяў аўтара. З гэтай прычыны, нават маючы рукапісны тэкст, цяжка праверыць, ці быў ён выдрукаваны.**

**Знойдзеныя ў архіве паэта творы ня былі падрыхтаваныя да друку. Гэта -- рукапісныя і машынапісныя старонкі, многія зь іх цяжка чытаюцца, патрабуюць дэшыфроўкі, пошукаў сувязі асобных раскіданых радкоў і адпаведнасьці завершаным (або незавершаным) творам.**

**Падрыхтоўка выданьня ўскладнялася й тым, што Дудзіцкі часам публікаваў адзін і той верш пад рознымі назвамі; устаўляў радкі, што былі, відаць, асабліва дарагія яму, у розныя творы; самастойныя вершы ўключаў у цыклі; друкаваў па некалькі варыянтаў аднаго верша, частак паэмаў.**

**Пошукі спадчыны паэта працягваліся й тады, калі «Збор твораў» быў ужо ў друку. Па выяўленых дадаткова газэтных публікацыях, архіўных знаходках, лістах паэта, успамінах сучасьнікаў запаўняліся прагалы жыцьцёвай і творчай біяграфіі Уладзімера Дудзіцкага.**

**29 кастрычніка 1994 году Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва наладзіў у Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага прэзэнтацыю кнігі Уладзімера Дудзіцкага «Напярэймы жаданьням».**

**Удзельнікі прэзэнтацыі -- і тыя, што працавалі з Дудзіцкім у розныя пэрыяды ягонага жыцьця, і тыя, што жылі побач, ведалі яго і ягоную сям'ю, -- сказалі пра паэта сваё слова, якое дазволіла разам з новымі адшуканымі фактамі больш грунтоўна асэнсаваць складаную, супярэчлівую постаць Уладзімера Дудзіцкага -- паэта й чалавека.**

**Творы Дудзіцкага друкаваліся на працягу многіх гадоў, але-ж наўрад ці хто ўяўляў, якую вялікую спадчыну ён пакінуў па сабе. Кніга «Напярэймы жаданьням» -- неспадзянка нават для тых, хто добра ведаў яго. Ці не таму доктар Вітаўт Кіпель на прэзэнтацыі кнігі Дудзіцкага гаварыў: «Сёньня адбылося нараджэньне новага пісьменьніка. Дудзіцкі**

**[1] Тут і далей публікуюцца лісты Уладзімера Дудзіцкага, якія захоўваюцца ў Архіве Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага (Нью-Ёрк).**

**[2] Можна назваць хіба што «Бібліяграфію беларускіх выданьняў на чужыне 1945-1950», выдадзеную М. Паньковым у 1952 г. у Нью-Ёрку, а таксама «Указатель периодических изданий эмиграции из России и СССР за 1919-1952 г.г.», выдадзены ў 1953 г. Інстытутам па вывучэньню гісторыі й культуры СССР у Мюнхэне.**

**быў згублены і як чалавек, і як паэт... Толькі сёньня мы, людзі, якія зь ім жылі і працавалі, усьвядомілі, хто такі Дудзіцкі...». «Я быў блізкі зь ім, -- сказаў доктар Янка Запруднік, -- але ніколі ня думаў пра яго як пра вялікага паэта. Як з паасобных цаглінак складаецца дом, так з паасобных вершаў, забытых публікацыяў вырас Паэт»[1].**

**З успамінаў сучасьнікаў паўстае вобраз прыгожага чалавека з густымі валасамі, заўсёды падкрэсьлена элегантна апранутага, эстэта, добра адукаванага, з вострым пяром, выключнай памяцьцю, таленавітага дэкляматара, выдатнага адміністратара і арганізатара. Разам з тым, чалавека трагічнага лёсу, з паламаным жыцьцём, страціўшага самых блізкіх людзей і найперш -- горача любімую маці. Доктар Вітаўт Кіпель прыгадаў, што нехта (нажаль, ня памятае, хто) казаў яму, нібы да Дудзіцкага, калі той быў кіраўніком аддзелу прапаганды ў акупаваным Менску, прыйшлі партызаны й запрапанавалі ісьці зь імі ў лес. Дудзіцкі адмовіўся. А празь некаторы час партызаны расстралялі (ці павесілі -- дакладна няведама) ягоную маці. Гэта-ж пацьвердзіў і доктар Янка Запруднік, спасылаючыся на словы жонкі Дудзіцкага: паэта ўсё жыцьцё помніў, што сьмерць маці на ягоным сумленьні.**

**Дудзіцкі належаў да пакаленьня людзей, скалечаных савецкім ладам. Ён ня мог даруваць яму свайго паламанага жыцьця, разбуранай бацькавай сям'і, загубленай маці і ўспрымаў бальшавізм як зло, якое неабходна зьнішчыць. Ён быў, як зазначыў доктар Кіпель, «апантаным ворагам Саветаў». І да канца дзён сваіх жыў з пачуцьцём нянавісьці да камуністычнага рэжыму.**

**Аповяд спадара Антона Шукелойця (разам з ужо надрукаванымі ягонымі ўспамінамі пра Менск часоў нямецкай акупацыі[2]) асьвятліў дзейнасьць Уладзімера Дудзіцкага ў ваенны пэрыяд.**

**«Я знаю Дудзіцкага не як паэта, а як адміністратара. Я супрацоўнічаў зь ім вельмі блізка падчас нямецкай акупацыі з 1941 году.**

**У выніку хуткага наступленьня нямецкай арміі на ўсход Заходняя Беларусь аказалася ў распараджэньні польскай адміністрацыі й паліцыі, а ўлада Цэнтральнай і Ўсходняй Беларусі -- у расейскіх руках. ("Немцы ня былі зацікаўлены, каб мясцовая адміністрацыя мела нацыянальны характар").[3] І нягледзячы на тое, што першым старшынёю гарадское ўправы гораду Менску быў доктар Тумаш, які прыехаў з эміграцыі разам зь немцамі, першым загадчыкам аддзелу культуры і асьветы быў прызначаны расеец прафэсар Прыляжаеў, вельмі культурны чалавек. Ён устанавіў свае парадкі. Школьніцтва меркавалася расейскім, тэатр быў**

---

**[1] Выступленьні спадароў Янкі Запрудніка, Вітаўта Кіпеля, Антона Шукелойця падаюцца паводле фанаграмы. Захоўваецца ў Архіве Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага (Нью-Ёрк).**

**[2] Антон Шукелойць. Менск пад немцамі. «Наша Ніва», !9, 1992.**

**[3] Антон Шукелойць. Менск пад немцамі. «Наша Ніва», !9, 1992.**

**таксама расейскі. Узначаліў яго расеец Панін, які потым на эміграцыі быў перакладчыкам у ААН. Так атрымліваецца, што ў пераломныя пэрыяды, асабліва ваеннага часу, беларускія лідэры аказваюцца па-за справамі, пераважна ў турмах. І таму нехта іншы заўсёды бярэ ўладу. Так было ў 1939, так сталася і ў 1941.**

**З Дудзіцкім я спаткаўся ў 1941 годзе на адным зь першых нелегальных паседжаньняў у Менску, калі беларускі актыў пераканаўся, што зь немцамі нам не па дарозе, немцы незалежнай Беларусі не пабудуюць, і трэба што магчымае браць у свае рукі. На гэтым нелегальным паседжаньні быў прыняты шэраг пастаноў, у тым ліку пастанова аб стварэньні Беларускай Незалежніцкай Партыі. Было прынята рашэньне і аб беларусізацыі ўрадавых устаноў.**

**І якраз тады першым загадчыкам аддзелу асьветы й культуры было прапанавана назначыць Гуцьку-Дудзіцкага, якога ўжо ведалі як патрыёта, пісьменьніка, нацыяналіста. Ведалі яго і як добрага адміністратара зь сільнай рукой, які патрапіць хутка навесьці парадак.**

**Спадар Гуцька, у першую чаргу, заняўся, ясна, школьніцтвам, прызначыў людзей, якія перагледзелі падручнікі, што былі да гэтага часу, каб адразу можна было іх скарыстаць».**

**«Задачаю школ ставілася разьвіцьцё беларускай культуры, выхаваньня і асьветы. «...» У інструкцыях зазначалася, што асноўнай мовай навучаньня павінна быць беларуская мова. «...» У студзені 1942 году ў Менску пачало выходзіць пэрыядычнае выданьне "Беларуская школа" ў дзьвюх сэрыях -- для вучняў і настаўнікаў. Яно павінна было часткова замяніць савецкія падручнікі, выведзеныя з ужытку».[1]**

**Настаўнікам і вучням, сямейнай маралі, навучаньню беларускай мовы ў школах прысьвечаны й тагачасныя артыкулы Ул. Дудзіцкага «Бацькі й дзеці», «За нацыянальную беларускую школу», «За культуру і асьвету», «Сьлядамі гадоў».**

**Як сьведчыць спадар Антон Шукелойць, Дудзіцкі пасьлядоўна праводзіў беларусізацыю і ў іншых галінах культуры: «Зьняў Паніна з дырэктарства тэатру, назначыў Краўчонка, юрыста, добрага адміністратара. Тэатр зьмяніўся. Тры часткі яго (опэрная, драматычная, эстрадная) адразу перайшлі на беларускую мову. Праблема была ў музэі. Бо немцы, дый хто хацеў, расьцягвалі музэйныя скарбы. Адказны за іх мастак Віер, які ня знаў нямецкай мовы, ня мог даць рады. Дудзіцкі мусіў адразу заняцца ахowай ад рабаўнікоў музэйных і бібліятэчных калекцыяў і архіваў і прызначыў туды мяне. І так ён усе ўстановы ў вельмі хуткім часе беларусізаваў.**

**Гэта было маё першае зь ім спатканьне й першае супрацоўніцтва.**

---

**[1] Юры Туронак. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Пераклад з польскай. Менск, 1993, б. 75.**

**Другое -- у канцы 1943, пачатку 1944 году, калі немцы моцна атрымалі на Ўсходзе й далі большыя магчымасьці арганізаваць новыя нацыянальныя ўстановы. Тады было створана Беларускае Культурнае Згуртаваньне. Дудзіцкі вёў першы аддзел -- прапаганды беларускае культуры. Да гэтага аддзелу належалі радыё, прэса, тэатр. Я тады быў загадчыкам аддзелу краязнаўства. Гэтая пара працы быьа найбольш патрыятычная».**

**Многа зрабіў Уладзімер Дудзіцкі ў гэты час для прапаганды беларускай культуры, і менавіта тады ён пісаў у артыкуле «Гістарычная дата»[1]: «Нашыя сіла і слава, здабытыя цаною крыві й жыцьця, цаною глыбокае мудрасьці нашых прашчураў у залатую пару вялікага нацыянальнага ўздыму канца ХУІ і пачатку ХУІІ стагодзьдзя ды яшчэ й раней, што было ведама ўсяму сьвету, часта занепадала й ня здолела ў поўнай меры стаць здабыткам агульначалавечай культуры ў поўным разуменьні гэтага значэньня. Аднак жыцьцё й дзейнасьць славутага доктара Францішка Скарыны, ахвярныя праца й дзейнасьць Вялікага Канцлера Льва Сапегі і шмат іншых папярэднікаў і пасьлядоўнікаў, нацыянальна сьведамых сыноў Крывіччыны -- Беларусі, стварылі няўмiручыя помнікі нацыянальнае культуры, якія вывучаліся й дасьледаваліся шмат якімі вучонымі й дасьледнікамі шмат якіх нават вялікіх краінаў.**

**«...» У трэцяй чвэрці XIX і першай чвэрці XX стагодзьдзяў (пэрыяд нашаніўства) ізноў пачынаецца адраджэнскі рух і паклікаюцца да жыцьця лепшыя сілы нашага народу, як у літаратуры (Ф. Багушэвіч, Ядвігін Ш., А. Гарун, М. Багдановіч, Я. Купала, Ц. Гартны ды шмат іншых), так і ў музыцы, архітэктуры й малярсьцьве. Гэтая творчая пульсацыя мела месца аж да прыходу барбараў камуністычнага ўсходу, якія, зманіўшы наш народ правакацыйнымі абяцанкамі пра нацыянальную "волю", выкарысталі яго ў сваіх, варожых народу, мэтах і пазьней зрабілі белымі нэграмі бальшавізму ды больш таго -- ахвярамі крывавае палітыкі камуністычнае Масквы...».**

**Пра абставіны жыцьця Дудзіцкага напрыканцы вайны расказаў доктар Вітаўт Кіпель: «Пошукі шляхоў барацьбы з бальшавікамі прывялі Дудзіцкага ў 1944 годзе да генэрала Ўласава. Капітан Міхал Пугачоў, першы арганізатар беларускай самааховы ў Менску, добры прыяцель Дудзіцкага, фармаваў для арміі Ўласава беларускія аддзелы. Ён прапанаваў Дудзіцкаму ўзначаліць прапаганду гэтай справы, і Дудзіцкі згадзіўся.[2] Ён езьдзіў па лягерах "остаўцаў", выступаў з дакладамі пра**

---

[1] **«Беларуская газэта», !12 (230), 12 лютага 1944.**

[2] **Верагодна, што істотную ролю ў гэтым рашэньні адыграла пазыцыя Ўласава ў справе стварэньня самастойнай Беларусі. Гл., напрыклад, мэмарандум Эдвіна Эрыха Двінгера «Што трэба зрабіць у сучасны момант, каб зьвергнуць сталінскую сыстэму?». Цыт. у артыкуле А. Літвіна «Время ли подводить итоги?», «Нёман», !5, 1995, б. 132.**

**Беларусь, патрэбу арганізацыі беларускага войска, каб змагацца з бальшавізмам, які нішчыць беларускі народ. Дудзіцкі ў тую пару быў і ў Празе, і ў Марыенбадзе, і ў шматлікіх гарадох Нямеччыны. У Бэрліне Дудзіцкі часта браў удзел ў нарадах Беларускага Камітэту пры ўласаўскім штабе, выступаў на шматлікіх мітынгах.**

**Збліжэньне Ў. Дудзіцкага, як і іншых беларускіх грамадска-палітычных і культурных дзеячаў -- В. Сэлеха-Качанскага, Анатоля Комара, Яўхіма Кіпеля і колькіх іншых, -- з ўласаўскім камітэтам адлучыла іх ад тагачаснага сфармаванага беларускага нацыянальнага "эстаблішмэнту" ды паставіла ў асяродзьдзе нацыянальна маласьведамае беларускае масы, былых чырвонаармейцаў, цяпер жаўнераў-уласаўцаў. Па вайне дачыненьне паміж тымі "ўласаўцамі" і шырокім беларускім нацыянальным грамадствам наладжваліся цяжка і не заўсёды пасьпяхова[1]».**

**У гэтым, трэба меркаваць, вытокі яшчэ адной трагедыі Ўладзімера Дудзіцкага: пазьней яму прыйшлося прыкласьці шмат намаганьняў, каб наладзіць дачыненьні са старымі сябрамі, беларускім эміграцыйным асяродзьдзем.**

**Пасьля вайны Ўладзімер Дудзіцкі апынуўся ў лягеры ДП («перамешчаных асоб») у Зальцбургу. Гэта быў украінскі лягер зь беларускай сэкцыяй. Дудзіцкі арганізаваў Беларускі Нацыянальны Камітэт літаральна празь дзесяць дзён пасьля капітуляцыі Нямеччыны. Наладзіў выдавецкую дзейнасьць: выходзілі часапіс «Пагоня» і газэта «Зь беларускага жыцьця», да выданьня якіх пазьней далучыўся Алесь Салавей.**

**У лягеры ДП Дудзіцкі быў параўнальна нядоўга. Як відаць зь ягоных пазьнейшых лістоў, да асаблівасьцяў жыцьця й панаваўшых там парадкаў ён ставіўся рэзка адмоўна: «Лягеры дэмаралізуюць людзей і абніжаюць годнасьць нацыянальных групаў. Дэмакратыя ў тым сьвятле, як яе ўспрынялі асобныя грамадскія дзеячы з лягераў ДП, нічым не адрозьніваецца ад савецкае самакрытыкі на партыйных чыстках; сродкі й мэтады, якімі падмацоўваецца права дэмакратыі крывога люстра, стаяць у адной роўніцы із сродкамі й мэтадамі работнікаў МВД. З такое сытуацыі трэба ўцякаць як найхутчэй. Працаваць на карысьць свае нацыі й рэпрэзэнтаваць вызвольныя ідэі народу можна заўсёды і ўсюды -- найлепей за акіянам...». *(Зь ліста ад 22 чэрвеня 1949)***

**Дудзіцкі выехаў у Вэнэцуэлю. Пачынаўся новы этап жыцьця -- бяз родных, блізкіх, знаёмых, бяз мовы, на чужой старане...**

**Прыроджаныя здольнасьці, энэргія, актыўнасьць дапамаглі яму ў хуткім часе ня толькі авалодаць гішпанскай мовай, але, праявіўшы ў новым асяродзьдзі свае веды й талент арганізатара, атрымаць «паважную**

---

**[1] Гл., напрыклад, Л. Галяк. Успаміны. Кн. 2. ЗША, 1983, б. 17.**

**і адказную працу ў такім вось вялікім дзяржаўным Інстытуце -- Instituto Nacional de Abras Sanitarias».**

**Уладкаваўшыся сам, пачаў рабіць захады для выезду зь лягераў ДП Юркі Віцьбіча, Масея Сяднёва, Уладзімера Клішэвіча: высылаў запрашэньні, афармляў дакумэнты, раіў, куды зьвярнуцца, каб пасьпешыць ход справы. У лістах да сяброў ён імкнуўся перадаць нязвычнае й новае для яго, чалавека з дасьведчаньнем жыцьця ў таталітарнай дзяржаве, адчуваньне свабоднай краіны з усім станоўчым і адмоўным. А па-за радкамі адчуваецца вострая туга па аднадумцах і спадзяваньні на агульную плённую нацыянальна-вызваленчую працу. Адсюль, думаецца, і спроба пераканаць у перавазе Вэнэцуэлі перад ЗША.**

**«Кажная краіна мае свае асаблівасьці; звычкі, традыцыі, жыцьцёвы ўклад, бязумоўна, ня маюць нічога супольнага з нашаю Бацькаўшчынаю, як і з Эўропаю наагул. Як і кажная краіна, яна мае свае і мінусы і плюсы. Жыць можна, а галоўнае тое, што тут чалавек вольны, як птушка. Пачатак-жа цяжкім ёсьць усюды, асабліва, калі чалавек прыязджае бяз грошай ды ня мае ні знаёмых, ні блізкіх і мовы ня ведае. Заўсёды лепш разьлічваць на благое, чым на добрае.**

**Абавязку працы Вэнэцуэля, як і ўся Амэрыка, ня ведала й ня ведае. Рабі што хочаш і жыві як хочаш. Сацыяльны кантраст страшэнны: поруч з казачным багацьцем стаіць і нячуваная беднасьць добрае чвэрці мясцовага жыхарства. Аднак, гэта тая частка, што ня любіць працы й ня хоча працаваць або прапівае ў сыботу ўсё тое, што заробіць за тыдзень (грошы тут плоцяцца кожнага тыдня, а п'юць так, як нам ніколі й ня сьнілася). Аднак, самы бедны чалавек ня ведае ні суму, ні цяжкіх (а мне думаецца, што наагул ніякіх) перажываньняў. Цяжка і, відаць, немагчыма зразумець гэтую зямлю таму, хто на ёй ня жыў і ніколі ня бачыў ейных людзей. Вельмі віратлівае жыцьцё; у ім няма часу на**

**доўгі адпачынак і вялікія развагі. Сіла гарачага поўдня, сіла зямлі -- найвялікшы валадар чалавека.**

**Адным словам, раўнуючы да іншых краінаў Амэрыкі, Вэнэцуэля ўсё-ж найбольш надаецца эмігранту. Бясспрэчна, Нью-Ёрк -- цудоўны горад, але ён не для крычаўскага Лукаша й не для старобінскае Тэклі... Там патрэбныя вялікія тысячы. І калі ў першым выпадку чалавек можа быць сам сабе гаспадаром, дык у другім -- вечным парабкам... І яшчэ заўважу. Сучасны -- першы дэмакратычны й сапраўды народны, нацыянальны -- урад вельмі дбае пра эміграцыю, гледзячы на яе, як на будучых сваіх грамадзянаў. Краіна зь вялікімі пэрспэктывамі. Між іншым, на прэзыдэнта абраны выдатны пісьменьнік Вэнэцуэлі і, бязумоўна, усяе Амэрыкі -- Gallegos Romulo. Клічу да Вэнэцуэлі».** ***(Зь ліста Ўладзімера Дудзіцкага да Юркі Віцьбіча ад 28 верасьня 1948)***

**Але блізкія, чаканыя людзі так і ня прыехалі. Усе яны сабраліся ў ЗША. І гэтая акалічнасьць -- адарванасьць ад цэнтраў жыцьця беларускай эміграцыі, -- як і тое, што ў Вэнэцуэлі Дудзіцкі быў ці не**

**адзіным беларускім пісьменьнікам, яшчэ больш ускладніла ягоныя адносіны з эміграцыяй. Дудзіцкі цяжка пераносіў сваю адзіноту й разарванасьць сувязяў зь землякамі. Перажываў, што былыя сябры, аднадумцы ня пішуць: усе ягоныя заклікі, звароты заставаліся бяз водгуку.**

**«Мае адносіны да ўсіх сяброў выказваюцца ў вершы:**

**Віецца шлях гразкою каляінай,**
**а часам камяністасьцю ўстае.**
**Я клічу вас, равесьнікі мае,**
**з далёкіх стэпаў песьняй сакалінай...**

**Клікаў я Масея Сяднёва і іншых; ня прыехалі й ня пішуць. Такой бяды... Прыкра, што сорам і абавязак адчуваюцца слабей, як голад і холад. Гэта наагул і між іншым. Кожнаму жадаю толькі дабра. Уласная няўдача ніколі не хвалявала мяне так моцна, як моцна цешыць посьпех найлепшага таварыша».** ***(Зь ліста Ўладзімера Дудзіцкага да Юркі Віцьбіча ад 4 травеня 1951)***

**Урад Вэнэцуэлі, сапраўды, добра ставіўся да эмігрантаў. Нават дзяржаўны пераварот не адбіўся на іхнім становішчы. Жыцьцё паступова наладжвалася[1].**

**Зьявілася магчымасьць атрымліваць беларускія часапісы зь Нямеччыны, што былі для Дудзіцкага даражэй за хлеб, падтрымлівалі еднасьць зь беларусамі, якія яшчэ заставаліся ў лягерах ДП. Шмат пісаў.**

**«Падрыхтаваў да друку два зборнікі вершаў -- "Хвалі" і "Да блізкіх і далёкіх", зборнік апавяданьняў "Купальскія росы" (зборнікамі, пэўна-ж, называю ўмоўна, бо ўсё роўна нідзе ня выдам). Скончыў пісаць аповесьць "Голас крыві" -- 8 друкаваных аркушаў. Працую над дзьвума вялікімі паэмамі».** ***(Зь ліста Ўладзімера Дудзіцкага да Юркі Віцьбіча ад 28 чэрвеня 1948)***

**«Вельмі задаволены Вашай думкаю пра выданьне кніжак паэтаў і пісьменьнікаў. Гэтае-ж пытаньне нікім яшчэ не закранала́ся. Ёсьць фонды ці няма, будуць ці ня будуць, а кніжкі выдаваць трэба. «...» Яшчэ ў 1942 годзе я меў гатовым да друку зборнік "Напярэймы жаданьням". «...» Маю гатовым да друку і другі зборнік "Журботныя струны". І**

---

**[1] Матэрыяльнае становішча Дудзіцкага ў Вэнэцуэлі, відаць, было неблагое. Вось прыкладныя цэны й заробкі на той час у краіне. Чарнарабочы атрымліваў 8-12 балівараў у дзень (адзін даляр адпавядаў прыкладна 3 балівaрам і 35 санцімам), шафёры, мэханікі, тэхнікі -- 20-30, заработная плата тапографа -- 26-35, простага ўрадаўца -- 15-20, інжынера -- 30-50. Цэны такія: белы хлеб (чорнага ня было) -- 1 балівар, мяса -- 3-6, кіляграм цукру -- 1. Мужчынскія чаравікі -- 20-50, мужчынскі касьцюм -- 150-300, рабочыя касьцюмы -- 35-60. Залаты гадзіньнік -- 100-400, залаты пярсьцёнак -- 12-70. Бутэлька піва -- 1 балівар, каньяку -- 7-35. Пакой бяз мэблі каштаваў 80-100, з мэбляю -- 200-250. Ул.Дудзіцкі, які рабіў захады, каб Юрка Віцьбіч прыехаў зь Нямеччыны ў Вэнэцуэлю, трымаў для яго працу -- 800 балівараў і аплочваў кватэру -- 90 у месяц...**

**першы, і другі -- памерам на 6-8 друкаваных аркушаў».** ***(Зь ліста Ўладзімера Дудзіцкага да Юркі Віцьбіча ад 15 студзеня 1953)***

**Дзе гэтыя рукапісы цяпер? Засталіся ў Вэнэцуэлі ці апынуліся пазьней ў Нямеччыне? Ці, можа, Дудзіцкі ўзяў іх у сваю апошнюю вандроўку?..**

**Частку напісанага дасылаў у розныя беларускія выданьні -- спачатку ў Нямеччыну, пазьней у ЗША. Вялікая адлегласьць паміж аўтарам і выдаўцамі ўскладняла кантакты, выклікала нараканьні на «недрукаваньне», а яшчэ больш -- на адвольнае «рэдагаваньне» («Мы-ж не якія-небудзь зломкі, каб нашыя творы правяраліся, як вучнёўскія дыктанты....»). З гэтае прычыны Юрка Віцьбіч, празь якога Дудзіцкі меў сувязі з рэдактарамі газэт і часапісаў, жартаўліва і зь непрыхаванай цеплынёй пісаў тагачаснаму рэдактару «Бацькаўшчыны» доктару Станіславу Станкевічу: «Мой сябра Ўладзімер Дудзіцкі змагаецца з рэдактарамі за кожную коску, за кожную літару ў сваім творы, як тэй пратапоп Абакум "за Сьвяты Аз". «...» Таму ветліва прашу Вас, калі што-небудзь такое заўважыце ў ягоных вершах, дык лагодна амінайце гэтае заўважанае».[1]** ***(Зь ліста Юркі Віцьбіча да Станіслава Станкевіча ад 15 красавіка 1953)***

**Некаторыя творы Дудзіцкі перакладаў на гішпанскую і ангельскую мовы. Нават зьбіраўся выдаць нейкую палітычную кнігу ў ангельскай мове. Ці была выдадзена? І як падпісваў тады сваё друкаванае слова Ул. Дудзіцкі -- Гуцька ці неяк інакш? Бо ведалі яго людзі, асабліва ў першыя гады ў Вэнэцуэлі, выключна як Гіцкага, і толькі дома, куды прыходзілі лісты, ён быў Дудзіцкім.**

**Верагодна, нямала сілы аддаваў Дудзіцкі й гуртаваньню беларусаў Вэнэцуэлі. У архіве паэта[2] захоўваецца «Пратакол», які паказвае на становішча беларускага арганізаванага жыцьця ў Вэнэцуэлі (ці, дакладней, на ягоны пачатак):**

**Пратакол 3/1**
**Трэціх збораў беларускага актыву, што адбыліся**
**ў горадзе Каракас дня 25-га верасьня 1949 году**
**а 2-й гадзіне папоўдні:**

**Паводле рэгістрацыйнага ліста, на Зборах былі прысутнымі наступныя:**
**1. Гуткоўскі Пятрусь, 2. Луфераў Мікола, 3. Луферава Тацяна, 4. Хмель Уладзімер, 5. Стасіловіч Юліян, 6. Стасіловіч Таіса, 7. Катовіч Іван, 8. Кішко Кастусь, 9. Лашук Мікола, 10. Агалец Павал, 11. Агалец Ганна, 12. Агалец**

---

**[1] Тут і далей публікуюцца лісты Юркі Віцьбіча. Захоўваюцца ў Архіве Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага (Нью-Ёрк).**

**[2] Архіў Белярускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (Нью-Ёрк).**

**Павал (сын), 13. Дудзіцкі Уладзімер, 14. [закрэсьлена, неразборліва* 15. Ёлуп Іван, 16. Грыгор'еў Анатоль.**

**За старшыню Збораў абраны аднагалосна Кіраўнік Ініцыятыўнае беларускае нацыянальнае групы ў Вэнэцуэлі спадар Дудзіцкі Ўладзімер, за сакратара -- сябра Ініцыятыўнае групы спадар Стасіловіч Юліян.**

**Парадак Збораў, прапанаваны спадаром Дудзіцкім Уладзімерам, прыняты бяз зьменаў:**

**1. Рэфэрат аб працы Ініцыятыўнае беларускае нацыянальнае групы ў справе арганізацыі беларускага нацыянальнага жыцьця ў Вэнэцуэлі -- Дудзіцкі Ул.**

**2. Утварэньне беларускае нацыянальнае арганізацыі ў Вэнэцуэлі-- Дудзіцкі Ул.**

**3. Выбар Часовае Ўправы беларускае нацыянальнае арганізацыі ў Вэнэцуэлі.**

**4. Розныя пытаньні.**

**1. Працу Ініцыятыўнае беларускае нацыянальнае групы Зборы вызналі здавальняючай. У кароткіх спрэчках былі выказаны канкрэтныя заўвагі і прапановы на будучыню.**

**2. Патрэба ўтварэньня беларускае нацыянальнае арганізацыі ў Вэнэцуэлі выказана Дудзіцкім Ул. грунтоўна і сур'ёзна. Прапанова аб утварэньні арганізацыі была горача падтрыманая ўсімі прысутнымі на Зборах. Назоў беларускае арганізацыі прыняты наступны: Аб'яднаньне Беларусаў Вэнэцуэлі, у скарочаньні -- А.Б.В.**

**3. Прапанова Гуткоўскага Пятруся аб складзе Часовае Ўправы Аб'яднаньня Беларусаў Вэнэцуэлі зь пяці чалавек -- старшыні, сакратара і трох ейных сяброў -- прынятая аднагалосна. Часовая Ўправа абраная аднагалосна ў наступным складзе:**

**1. Дудзіцкі Ўладзімер -- старшыня Ўправы**
**2. Стасілевіч Юліян -- сакратар Управы**
**3. Агалец Павал -- сябра Ўправы**
**4. Хмель Уладзімер -- сябра Ўправы**
**5. Ёлуп Іван -- сябра Ўправы**

**Трэція Зборы беларускага актыву зазначаюць, што абраная Часовая Ўправа праводзіць сваю працу да часу скліканьня 1-га Зьезду беларусаў у Вэнэцуэлі, на якім будзе абраная сталая Ўправа Аб'яднаньня Беларусаў Вэнэцуэлі. Вызначэньне тэрміну 1-га Зьезду даручана Часовай Ўправе.**

**4. Трэція Зборы забавязалі Часовую Ўправу паведаміць вышэйшыя беларускія інстанцыі і ўсю беларускую прэсу аб утварэньні Аб'яднаньня Беларусаў Вэнэцуэлі.**

**25.9.1949 г.   Старшыня Збораў Уладзімер Дудзіцкі**
**Каракас.   Сакратар Стасілевіч Юліян**

**Нечакана лісты ад Дудзіцкага перасталі прыходзіць. Да землякоў у Нью-Ёрку даносіліся розныя чуткі. Сябры трывожыліся...**

**«Ужо ладны час, як я шукаю праз знаёмых беларусаў у Вэнэцуэлі Ўладзімера Дудзіцкага. Нарэшце тыдзень таму атрымаў ад аднаго з гэтых беларусаў даволі сумныя весткі.**

**Прыехаўшы ў Вэнэцуэлю, Дудзіцкі перш за ўсё, як, між іншым, і ўсюды раней, пачаў шукаць прыгожых жанчын. Адна з гэтых жанчынаў -- Паўліна Хвёдараўна, -- што паходзіла із старое расейскае эміграцыі, сталася ягонай жонкай. Яна, як вэнэцуэльская грамадзянка, знайшла для Дудзіцкага адмысловую працу ў адным зь інстытутаў Каракасу. Праз колькі год Дудзіцкаму спадабалася іншая прыгожая жанчына -- жонка старэйшага ад яе на 15 год расейца і матка трох дзяцей. Дудзіцкі пакінуў Паўліну Хвёдараўну, а "іншая прыгожая жанчына" свайго мужа, забраўшы з сабою дзяцей. Ейны муж, што згубіў усю сям'ю -- і жонку і дзяцей, -- канчае самагубствам, пераразае артэрыі. У сваю чаргу, Паўліна Хвёдараўна, абураная з паводзінаў Дудзіцкага, робіць гэтак, што той ня толькі губляе сваю пасаду ў інстытуце, але вымушаны пакінуць Каракас.**

**Сёньня Дудзіцкі мае сям'ю з трыма дзецьмі і выпадковую (ня сталую) фізычную працу. Мне асабіста яго ад усяе душы шкада. Ён па сваёй натуры добры чалавек і таленавіты паэта».** ***(Зь ліста Юркі Віцьбіча да Антона Адамовіча ад 6 красавіка 1954)***

**Нарэшце Дудзіцкі, які нікому ня пісаў і сам нічога не атрымліваў, бо пошта прыходзіла на старое месца, у Каракас, куды ён ня мог паведаміць свой новы адрас, адгукнуўся:**

**«Благога нічога ня сталася, але й добрым не магу пахваліцца. Першага кастрычніка леташняга году давялося страціць працу, усё здабытае, пакінуць кватэру і выехаць (пасьля пэўнага часу) у далёкую, глухую і сьпякотную вобласьць краю. Прычына: пэрсанальныя інтрыгі й дзікія паклёпы прыватнага й палітычнага характару. За адзінаццаць месяцаў працы ў глыбіні краіны бруд мярзотнікаў змыўся, але справа не палепшылася: вельмі цяжка стаць нагамі на ўцёклы грунт. Пакуль што не памагаюць і вялікія сувязі зь дзяржаўнымі кіраўнікамі; сьпіцы й калючкі пачынаюцца зь нізоў. "Хождение по мукам" выматала душу і абясьсіліла матар'яльна. Вось ужо пяты месяц вішу, як кажуць, паміж небам і зямлёю, чакаючы якога-небудзь прызначэньня. Цяжка сказаць, як доўга будзе трываць маё каменнае цярпеньне».** ***(Зь ліста Ўладзімера Дудзіцкага да Юркі Віцьбіча ад 15 студзеня 1953)***

**Як толькі вестка аб узьнікшых у жыцьці Дудзіцкага цяжкасьцях дайшла да Злучаных Штатаў, з таварыскай дапамогай пасьпяшаўся Юрка Віцьбіч (зьвернем увагу на даты лістоў!). Лісты Віцьбіча, як і лісты Дудзіцкага, ня толькі дазваляюць убачыць «знутры» жыцьцё пісьменьнікаў на эміграцыі, але і сьведчаць аб маральных нормах, якімі яны кіраваліся, аб чалавечай годнасьці, захаванай большасьцю зь іх.**

**«Я й мая сям'я ніколі не забудзем, як Вы працягнулі нам сяброўскую руку дапамогі, калі мы без усялякіх пэрспэктываў на эміграцыю мадзелі ў Міхельсдорфе. Дазвольце й мне цяпер зрабіць усё магчымае, каб перацягнуць Вас адтуль сюды. Аднак хочацца спачатку ў пляне вялікае шчырасьці папярэдзіць Вас аб наступным.**

**Тут амаль немагчыма знайсьці адмысловую працу, але усё-ж можна. Адамовіч і Сядура працуюць у пэўнай навуковай установе як навукоўцы. Некаторы час там-жа працавалі Сяднёў, Цэлеш і я. Здаецца, цяпер там-жа знайшлі працу Ліманоўскі і Плашчынскі. Усё-ж гэтая праца тымчасовая. Пераважная бальшыня беларускіх інтэлігентаў тут на фізычнай працы. Калі ўзяць, напрыклад, мяне асабіста, дык за чатыры гады жыцьця ў ЗША я быў і на кані й пад канём. Цяпер працую ўпакоўшчыкам на ткацкай фабрыцы ад пятай гадзіны ўвечары да чацьвёртай-пятай-сёмай гадзіны ўначы ці раніцы. Праца (асабліва ў параўнаньні з маімі ранейшымі "джабамі"[1]) параўнальна не цяжкая, чыстая, у цёплым памяшканьні, але затое бракуе сну. Кавыль працуе падмятальшчыкам на мэдычнай фабрыцы, Сяднёў, Казак, Цэлеш, Клішэвіч, Золак, Крывічанін працуюць таксама на заводах і фабрыках. Разам з тым, кажны з нас пасьля фізычнае працы дзеля кавалку хлеба штодзённага знаходзіць час (ня вычэрпваецца дарэшты) для працы дзеля душы, для творчасьці.**

**Мы таксама знаходзім час для непасрэдных сустрэчаў, бо, па-першае, ад Саўт-Рывэру да Нью-Ёрку адна аўтобусавая гадзіна, а, па-другое, усе пісьменьнікі адкінулі сваю ранейшую варажнечу, паміж імі існуе цяпер сяброўства і еднасьць. Карацей кажучы, мне здаецца, што Вам варта пераехаць сюды, і, паўтараюся, я зраблю ўсё ад мяне залежнае ў гэтай галіне».** ***(Зь ліста Юркі Віцьбіча да Ўладзімера Дудзіцкага ад 28 студзеня 1953)***

**І хоць Віцьбіч вельмі сьпяшаўся, ліст ягоны прыйшоў тады, калі Дудзіцкі ўжо быў прызначаны дырэктарам Экспэрымэнтальнага Цэнтру сельскагаспадарчых культур. Нельга не падзівіцца разнастайным талентам гэтага чалавека: валодаючы дасканала беларускай, рускай, нямецкай мовамі, ён за кароткі час асвоіў ангельскую й гішпанскую мовы, стаўся аўтарытэтам у справе рэформы земляробства Вэнэцуэлі. Працоўны дзень быў доўгі, насычаны безьліччу праблем. Тропікі выматвалі дашчэнту. А тут яшчэ новая бяда: 19 верасьня 1954 году Дудзіцкі трапіў у аўтамабільную аварыю, зламаў нагу й месяц вучыўся хадзіць.**

**«Коратка аб профілі мае службы й працы. У Вэнэцуэлі, вельмі багатай краіне, сельская гаспадарка была ў вялікім заняпадзе -- у стане поўнага прымітывізму. У апошнія гады, амэрыканізуючы шпаркімі крокамі край, урад зьвярнуў асаблівую ўвагу на гэтую галіну, каб**

---

[1] **Job, англ. -- праца.**

**падняць яе да ўзроўню перадавых краінаў. У гэтым пляне пачаліся інтэнсыўныя распрацоўкі лясных масываў і заснаваньне вялікіх сельскагаспадарчых калёній. Бальшыня каляністаў -- эмігранты нашага тыпу й "шукальнікі шчасьця" з усяго сьвету. Цэнтральнай калёніяй у сыстэме Міністэрства земляробства зьяўляецца гэтак званая "Unidad Agrikola de Turen". Слова "unidad" абазначае "аб’яднаньне". Калёнія абымае ўжо каля ста тысяч гектараў. Кожны каляніст мае ад 40 да 100 гектараў зямлі. Сельскагаспадарчыя машыны, будоўля й зямля даюцца на выплату. Даюць адпаведныя грашовыя крэдыты. Усё пераходзіць ва ўласнасьць пасьля поўнае выплаты пазычанага дзяржавай. І вось на землях гэтае галоўнае вялізарнае калёніі знаходзіцца Экспэрымэнтальны Цэнтр сельскагаспадарчых культур краю й культур трапічных наагул, а таксама і асобных культур Эўропы з мэтай іхняе акліматызацыі. Асаблівая ўвага зварачаецца на культуры пладовыя. Экспэрымэнтальны Цэнтр мае 100 гектараў зямлі, першарадны дом з адпаведнымі лябараторыямі, мэтэаралягічныя станцыі, машыны, апараты і г. д. Цэнтр зьяўляецца месцам тэхнічных і навуковых кансультацыяў у шырокім пляне агранамічных навук, выдае свой навуковы часапіс, пэрыядычныя запіскі, бюлетэні і г. д. Маюць месца й рэфэраты на розныя тэмы. Шэфам гэтага Цэнтру працую ад студзеня месяца 1953 году, -- пасьля таго, як здаў экстэрнам экзамены і абараніў дыплём доктара сельскагаспадарчых навук. Пазьней дашлю што-небудзь з выдадзеных мною часапісаў на гішпанскай мове».** ***(Зь ліста Ўладзімера Дудзіцкага да Юркі Віцьбіча ад 18 лютага 1955)***

**Напружаная творчая праца даволі хутка прынесла плён. Як ацаніў яе й сам Дудзіцкі, «посьпехі маю неблагія». Імя ягонае сталася ведамым, а гэта, у сваю чаргу, прывяло «да інтрыгаў і розных паклёпаў ня з боку вэнэцуэльцаў, а з боку цэлай кучы ўсякіх "князёў", "баронаў" ды іншай расейскай трухлі».**

**«Апошнія тры месяцы заядала мяне вэнэцуэльская "agricultura". Жніво, падсумаваньні, разьлікі экспэрымэнтаў, падрыхтоўка зямлі й новая сяўба, кансультацыі й парады, а зьверху ўсяе гэтае крутні -- людзі з падбітымі нэрвамі: каляністы, мясцовыя ды "важныя" прайдзісьветы атручвалі й забіралі час. Адначасна-ж прываліліся яшчэ дзьве справы: хвароба жонкі (часта хварэе на ныркі) і дзяржаўны надзел (200 гектараў). Адным словам, сеў Уладзімер на зямлю й падняцца ня можа... І сам ня ведаў, што маю зялезныя нэрвы й каменнае здароўе. Аднак, здаецца, усё гэтае хутка скончыцца, і ад экзатычнае рамантыкі -- цікавае й цудоўнае, сухое й самабытна-дзікунскае, прыгодніцкае й душавынішчальнае -- застануцца адны-аднюткія ўспаміны і, магчыма, асобныя тэмы...».** ***(Зь ліста Ўладзімера Дудзіцкага да Юркі Віцьбіча ад 10 сьнежаня 1955)***

**І пры ўсім тым Дудзіцкі ні на дзень ня спыняў літаратурнай працы. Праз пасрэдніцтва Юркі Віцьбіча дасылаў свае творы ня толькі ў «Шыпшыну», рэдактарам якой быў Віцьбіч, а і ў «Конадні»,**

**«Бацькаўшчыну», іншыя выданьні. Магчыма, таму менавіта Віцьбіч так добра ведаў творчасьць Дудзіцкага й так высока яе ацэньваў.**

**«Хочацца падзяліцца аднэй прыемнай навіной. Атрымаў ліст Ул. Дудзіцкага, зь якім бадай 6 месяцаў таму назад згубіў лучнасьць. Ён там займеў вялікія няпрыемнасьці, у выніку якіх яму давялося вандраваць па гэтай краіне і зьмяняць адрасы. Цяпер ён зноў на кані...** ***Ён адзін з нашых найлепшых паэтаў, і дзякуй Богу, што ўрэшце-рэштаў так сталася*****».[1]** ***(Зь ліста Юркі Віцьбіча айцу Льву Гарошку ад 19 студзеня 1955)***

**«Спадзяюся, што вы дасталі ліст ад Уладзімера Дудзіцкага, які нарэшце знайшоўся, -- пісаў Юрка Віцьбіч 27 лютага 1955 году Станіславу Станкевічу. -- Мне ў сваім апошнім лісьце ён піша, што просіць "Бацькаўшчыну" выдаць ягоны зборнік. Дазвольце мне са свайго боку падтрымаць ягоную просьбу, калі ў гэтым ёсьць патрэба. Справа ў тым, што Дудзіцкаму, як паэту, бракуе гнуткасьці, і таму ён дагэтуль ня мае ні аднаго зборніка. Між тым Дудзіцкі, на пагляд шмат каго,** ***наймацнейшы наш паэта на чужыне*****».**

**Вершы Дудзіцкага гэтага часу перапоўнены пранізьлівым пачуцьцём тугі па Бацькаўшчыне, па блізкіх людзях і адчуваньнем страшэннай адзіноты. Хто ведае, наколькі вялікая наагул была беларуская калёнія ў Вэнэцуэлі, а тым больш у Турэне, дзе жыў Дудзіцкі. Але справа нават ня ў колькасьці беларусаў, а ў адсутнасьці сяброў, людзей агульных інтарэсаў, у адарванасьці ад усіх, каго цаніў і любіў, і ўсяго, што зьвязвала зь Беларусьсю. Дудзіцкі вельмі востра перажываў, што колішнія сябры ня прымаюць яго -- нездарма-ж яшчэ раней узьнікла «Здрада», потым «Сябром» («Мякка сьцелюць, ды мулка спаць...»), а цяпер -- «Чорная карта», прысьвечаная самаму сабе:**

**Як той колас у полі, адзін...**<br>
**Падстаўляючы сонцу грудзі,**<br>
**гавару сам сабе я: ідзі,**<br>
**куды сэрца вядзе, -- ня зблудзіш...**

**У вершах Дудзіцкі часта размаўляў з маці, і яна ў ягоных вершах заўсёды была жывая («Ня крыўдуй, дарагая мама...», «Радасьць якая, мой любы сыне...», «Родная, любая мама, доўга чакаю ліста я...»). І думка вяртала да тых часоў, калі пачынала ламацца яго жыцьцё, да месцаў зьняволеньня, да загінуўшых сяброў і да тых, хто, як ён лічыў, дапамагаў уладам. Пачаў працу над успамінамі пра жыцьцё ў Новасібірскім і Марыінскім канцэнтрацыйных лягерах.**

**Ня ведаем, ці былі напісаныя гэтыя творы. Ва ўсякім выпадку, нам не ўдалося пакуль іх знайсьці. Хутчэй за ўсё, яны перарасьлі ў кнігу надзвычайнай сілы, якую Дудзіцкі потым так і назваў -- «Успаміны».**

---

**[1] Падкрэсьлена мною (Л. Ю.).**

**Нягледзячы на вялікую занятасьць, цяжкую і адказную працу, крыўды, пачуцьцё адзіноты, сямейныя складанасьці, Дудзіцкі цікавіўся справамі пісьменьнікаў беларускай эміграцыі.**

**«Вестка аб аднаўленьні "Шыпшыны" ды яшчэ ў друкарскім вобліку ўсьцешыла мяне моцна. Пажаданьне маё гэтакае: выдаваць, каб ня быць ні ад кога залежнымі; памагаць грашыма, каб больш ня спынялася; дасылаць творы, каб ня мела перабояў. Што да самога сябе, -- пастараюся выканаць. У добры час!».** ***(Зь ліста Ўладзімера Дудзіцкага да Юркі Віцьбіча ад 25 лютага 1955)***

**Якраз тады прыйшла прапанова пераезду ў Нямеччыну на пасаду Дырэктара Беларускага Аддзелу Радыё «Вызваленьне». Напэўна, і сёньня ёсьць людзі сярод беларускай эмігранцкай інтэлігенцыі, якія ўважаюць памылковым прызначэньне Дудзіцкага на такую пасаду найперш таму, што дачыненьні паміж Уладзімерам Дудзіцкім і беларускім грамадствам ня былі наладжаныя, як ужо зазначаў Вітаўт Кіпель.**

**Характарызуючы Дудзіцкага на прэзэнтацыі ягонага «Збору твораў», спадар Антон Шукелойць казаў:**

**«Хачу гэтым адразу і адказаць тым, хто абвінавачвае доктара Тумаша, тады старшыню БІНіМа, які быў галоўным ініцыятарам прызначэньня Дудзіцкага на радыё, у першую чаргу, і мяне разам з Тумашам, што менавіта мы рэкамэндавалі Ўладзімера Дудзіцкага на пазыцыю кіраўніка беларускае сэкцыі Радыя "Вызваленьне": мы зналі яго як выдатнага арганізатара і патрыёта. І дзеля гэтага, калі быў патрэбны адпаведны чалавек на радыё, якраз і прапанавалі яго»...**

**Прапанова была сур'ёзная й заманлівая. Але, усімі сіламі імкнучыся да працы на карысьць Бацькаўшчыне, Дудзіцкі згадзіўся прыняць яе пасьля доўгага роздуму. Сваю згоду абгрунтоўваў тымі прынцыпамі, якімі імкнуўся кіравацца ўсё жыцьцё.**

**««...» Мы -- палітычная беларуская эміграцыя -- мусім думаць пра фізычнае й духоўнае захаваньне беларускае Нацыі і, бязумоўна, саміх сябе. Я прыгадваю вялікага беларускага лерніка Рыгора Распуцкага, старца зь вёскі Распуцьце (тры км ад вёскі Дудзічы), якога людзі празвалі праўдалюбам. Ён гаварыў заўсёды наступнае: "*Хаджу, сьпяваю й кручу корбу, каб не перакруцілі нашае душы беларускае*".[1] Уладзімер Хадыка меўся пісаць пра яго вялікі нарыс, але Рыгора арыштавалі, і ён памёр у канцэнтрацыйным лягеры, а Хадыка -- таксама... Шкада мне вялікіх землякоў, якія памерлі за песьню й корбу...».** ***(Зь ліста Ўладзімера Дудзіцкага да Юркі Віцьбіча ад 14 лістапада 1955)***

**Потым тлумачыўся крыху жартаўліва й глыбока філасафічна.**

**«Вось ужо нешта каля паўгода, як вырашаецца справа майго пераезду да Нямеччыны на працу ў якасьці Дырэктара Беларускага**

---

**[1] Тут і далей падкрэсьлена Ўладзімерам Дудзіцкім.**

**Аддзелу Радыё "Вызваленьне". Маю весткі, што Нью-Ёрк ужо зацьвердзіў маю кандыдатуру і што пераезд будзе мець месца ў першай палавіне месяца студзеня. Доўга думаў і нарэшце згадзіўся. Чалавек-жа ніколі ня ведае таго, што й дзе зь ім станецца. І хто яго ведае, як-бы яно было, каб сталася ня гэтак, а інакш, або ня інакш, а гэтак?** ***Добрае ляжыць у тым, што ня сталася, а благое -- у тым, чым завяршылася непачатае.*** **Мяне-ж цікавіць першае ў ягоным *станецца* і другое ў ягоным *пачатку*. Няхай-жа пачынаецца і станецца тое, пра што думаем мы ўсе».** ***(Зь ліста Ўладзімера Дудзіцкага да Юркі Віцьбіча ад 10 сьнежаня 1955)***

**Найбольш блізкія да Дудзіцкага людзі лічылі ягонае рашэньне няправільным. Адны ня прымалі пазыцыі Беларускае сэкцыі радыё «Вызваленьне» за адыход ад галоўнага -- барацьбы за незалежнасьць Беларусі. Другія знаходзілі, што сярод супрацоўнікаў сэкцыі замнога звадак і кар’ерызму. Трэція перасьцерагалі ад помсты агентаў КДБ. Найбольш поўна і -- канфідэнцыяльна -- гэтыя довады выказаў Юрка Віцьбіч.**

**«Вітаю Вас з пасадай Дырэктара Беларускае філіі радыё "Вызваленьне". Ня сумняваюся ў тым, што Вы, як добры беларус, паспрабуеце зрабіць усё ад Вас залежнае, каб гэтая філія сталася нарэшце запраўды незалежніцкай беларускай, а ня вылучна антыбальшавіцкай бяз уліку таго, што бальшавік і расеец -- гэта сынонімы.**

**«...» Уся праца радыё "Вызваленьне", а значыцца, і ейнае Беларускае філіі, пабудаваная на "непрадрашэнсьцьве", г. зн. без найвялікшае для беларускіх палітычных эміграантаў ідэі, бяз Акту 25 Сакавіка.**

**«...» Пераходжу цяпер да таго небясьпечнага, што нясе з сабою пасада дырэктара ў Беларускай філіі "Вызваленьня". Гэтая небясьпека мае два бакі. Па-першае, ад бальшавіцкіх агентаў, ахвярамі якіх ужо стаўся не адзін працаўнік "Вызваленьня" (дырэктар Азэрбайджанскае філіі радыё Фаталітбэйлі і іншыя), а ў тым ліку і 7 верасьня 1954 году Сьвятое Памяці добра знаёмы мне беларус зь Дзісьненшчыны Леанід Карась. Той самы, што на фронце сьпяваў французскую жаўнерскую песьню:**

> **Заўтра ..............**
> **Людзі сустрэнуць сонца**
> **І будуць пець і піць,**
> **І нават мо’ ня ўспомняць,**
> **Як мы хацелі жыць...**

**Ягонае цела з адзнакамі катаваньня знайшлі ў рацэ Ізары, на якой стаіць Мюнхэн. Дагэтуль добра няведама, хто забіў яго, -- ці непасрэдна бальшавіцкія агенты, ці "едінонеделімовцы" (бальшавік -- расеец), але адзінае не падлягае сумніву: забіты ён за тое, што зьяўляўся на працягу ўсяго свайго жыцьця, а значыцца, і ў "Вызваленьні",**

**беларускім патрыётам[1]. Гэтае небясьпекі мы не баімося, ад яе ніхто з нас і без пасады ў "Вызваленьні" не гарантаваны, сьмерць у выснаве яе зьяўляецца пачэснай. «...» Аднак затое ні ў якім разе не зьяўляецца пачэсным стацца ахвярай другое небясьпекі -- унутрыўзаемнае, каінаабельскае грызьні, хатняга змаганьня нашае беларускае палітычнае эміграцыі».** ***(Зь ліста Юркі Віцьбіча да Ўладзімера Дудзіцкага ад 26 сьнежаня 1955)***

**Глыбока прадумана, з цьвяроза ўзважанымі аргумэнтамі, з пазыцый сталага палітыка й мастака Дудзіцкі адказаў на сумненьні й перасьцярогі. На нашую думку, гэта больш, чым прыватны ліст, гэта Credo Дудзіцкага.**

**«Я не належу ні да якіх партыяў, ні партыйных угрупаваньняў; я не бяру жаднага ўдзелу ў раздвоеным "маршы" нашае беларускае эміграцыі; я -- вораг эгаістычных амбіцыяў, вораг плыткадумных, шкодных і дэзарганізуючых пачынаньняў і нічым не ўгрунтаваных засягаў, вораг усякага -- грамадскага, палітычнага й нацыянальнага -- шальмоўства; на ўсё гляджу выключна вачыма Беларуса; з уцехай і прыхільнасьцю стаўлюся да ўсяго добрага, станоўчага, глыбока нацыянальнага -- таго, што** ***цэмэнтуе, кансалідуе нашыя невялікія сілы на эміграцыі ў іхнім цяжкім змаганьні за вызваленьне й незалежнасьць Бацькаўшчыны*****. Беларуская філія радыё "Вызваленьне" --** ***нашая трыбуна, поле ідэйна-палітычнага змаганьня з бальшавізмам. Сродкі -- у нашых руках*****; чысьціня й вастрыня сродкаў змаганьня выходзяць з чысьціні і сьпеласьці нацыянальнай сьведамасьці, інакш кажучы, поўнасьцю залежаць ад нацыянальнае годнасьці Беларуса. Грызьня й халтура -- зьявы няпрыемныя, прыкрыя, але не становяць аніякага страху, аніякай небяспекі -- усё гэта лёгка папраўнае. Хіба-ж Вашыя матар'ялы ня спрычыняцца да выжываньня халтуры Павярхоўных? Хіба-ж Вы самі ня можаце заўтра-пазаўтра стацца супрацоўнікам на месцы, скажам, якога-небудзь згрызьлівага Пустадума ці Пустамола, каб аздаравіць склад службоўцаў і павялічыць нашую ўдзельную вагу ў "Вызваленьні"? Туды, дзе ўсё стаіць на добрай дарозе, няма чаго й лезьці; трэба йсьці туды, дзе выразна вычуваецца нястача й патрэба. Я й прыняў прапанову з гледзішча ўсяго мною вышэй пералічанага. З усяго сказанага выцякае й мой пагляд на гэтак званую "справу", што да "апанаваньня" філіі. Небясьпека вялікая, -- разумею, аднак, гэта, казаў той, справа лёсу, а праз гэта й ня можа разглядацца ў роўніцы поўнавартасных аргумэнтаў. Што-ж, у гэтым разе, гаварыць пра беларускіх партызанаў? Змаганьне ня**

[1] **Заўвага Вітаўта Кіпеля: «Я быў выкліканы з Бэльгіі, каб даць паліцыі паказаньні, бо пару дзён перад тым Л. Карась быў у Лювэне. Я быў у моргу -- "адзнак катаваньня" на бачыў. Перакананы, што Л. Карася забілі бальшавікі, каб застрашыць маладзейшых».**

**мае ніякае гарантыі. Нарэшце, не паміж анёлаў жыву я і ў Вэнэцуэлі...».** ***(Зь ліста Ўладзімера Дудзіцкага да Юркі Віцьбіча ад 16 студзеня 1956)***

**Мюнхэнскі пэрыяд быў вельмі плённы ў творчасьці Ўладзімера Дудзіцкага. Ён многа піша й часта друкуецца. Гэта вялікая паэма «Прысяга», шматлікія вершы, выдатная проза. І, зразумела, вострая, надзённая публіцыстыка.**

**Пра апошнія гады жыцьця Дудзіцкага мала што ведама. У спадзяваньні хочацца дадаць: пакуль што.[1]**

**Новыя знаходкі ахопліваюць творы, напісаныя яшчэ ў 30-40 гады і надрукаваныя ў 50-я, а пераважна паэзію і прозу другой паловы 50-х. Вершы гэтага часу вылучаюцца мастацкаю сталасьцю, філасофскаю глыбінёю, уласьцівай паэту касьмічнасьцю («Ад роўніка да нетраў Варкуты згінаўся сьвет у танцы дзікай сьмерці..»), вобразнасьцю («Сьціскаюць хвалі пеністыя мора маіх чаўноў скрыпучую тугу, а я кладу паволі на вагу драбніцы ўцех і смоль тугую гора...»).**

**Паэма «Прысяга» завяршае адну з галоўных у творчасьці Дудзіцкага тэмаў -- тэму трагедыі Бацькаўшчыны і адказнасьці ейных сыноў. Паэма мае доўгую і складаную творчую гісторыю. У архіве захаваўся першы варыянт пад назвай «Прысяга» (верагодна, пачатак 40-х). Новы варыянт, апублікаваны ў 1944 годзе, паэт назваў «Клятва духу». На працягу многіх наступных гадоў Дудзіцкі ўдасканальваў асобныя разьдзелы паэмы і друкаваў іх як самастойныя вершы (гл. Бібліяграфію). І толькі ў 1958 годзе быў выдрукаваны канчатковы варыянт паэмы. Дасьледчыкам творчасьці Дудзіцкага давядзецца прыкласьці шмат намаганьняў, каб асэнсаваць філасофскі зьмест і вобразны строй паэмы «Прысяга», якая разам з паэмай «Зьвер двухногі», бязумоўна, -- новае слова ў беларускай паэзіі ХХ стагодзьдзя.**

**Нарэшце, зараз ужо можна ўпэўнена гаварыць пра Дудзіцкага як пра таленавітага празаіка са сваёй тэмай, сваім стылем. Яшчэ ня знойдзены зборнік апавяданьняў, пра які мы даведаліся зь лістоў, выяўленыя толькі асобныя часткі аповесьці «Голас крыві». Аднак парадуемся, што адшукаліся старонкі «Успамінаў» -- твору, які належыць да так званай «лягернай» прозы і, бязумоўна, зойме сваё месца ў літаратуры, якая будзе напамінкам сучасьнікам і перасьцярогай нашчадкам.**

**Рукапісны варыянт «Успамінаў» надрукаваны ў «Зборы твораў», таму публікаваць у гэтым выданьні знойдзеныя старонкі здаецца немэтазгодным -- пачакаем на больш поўны «Збор твораў», а можа, нават і на асобны зборнік прозы Дудзіцкага. Тут друкуюцца навэлі «У гасьцях Цыпрона Цырубалкі» і «Гісторыя Сяргея Кастрыцы» 1943 году, «Андрэй**

---

**[1] Л.Савік. «Чорная карта» Ўладзімера Дудзіцкага. «Голас Радзімы», !3 (2353), 20 студзеня 1994.**

**Сякера» 1958, вядомыя толькі па газэтных публікацыях, а таксама нарыс «Пэдагагічныя ідэі Яна Амоса Коменскага».**

**Вывучэньне спадчыны Ўладзімера Дудзіцкага пачынаецца. Чым больш становіцца ведама пра яго, тым больш бачна, колькі застаецца няведамага. Пошукі павінны працягвацца -- у Вэнэцуэлі, Нямеччыне, магчыма, на Бацькаўшчыне, у прыватных зборах дзеячаў эміграцыі, на старонках газэт і часапісаў.**

**Але ўжо сёньня можна сказаць, што**

***зь Беларусі ня сышоў Прарок***
***і што з Пракорам***
***ацалела Слова*[1].**

**З ТВОРЧАЙ СПАДЧЫНЫ**
**ЎЛАДЗІМЕРА ДУДЗІЦКАГА**

## ПРЫСЯГА

***Мы крывёй на шляхох стагодзьдзяў***
***высеклі***
***несьмяротнае імя такое --***
***Б е л а р у с ь!..***
***Ул. Дудзіцкі***

---

[1] **Зь верша Анатоля Сыса.**

***І толькі варты той жыцьця й свабоды,***
***Хто кожны дзень за іх ідзе ў бой!***
***Гётэ***

**1**

**Навальніцы зьнішчальнае ўлева**
**напаіла душу маю гневам.**

**Ён, акрылены, думы пакратаў**
**і наструніў пад грукат гарматаў;**

**пад разьлівы агнёў і пажараў,**
**плач сіротаў і енкі ахвяраў...**

**Думы словам вазьму апрану я--**
**Няхай слова настрою пільнуе...**

**Няхай вошчацца подыхам вёснаў**
**гукі музыкі гнеўна-узьнёслай**

**і вядуць нас, узяўшы аберуч,**
**на змаганьне за Волю і Веру!**

**Калі сэрца крануць і расчуляць --**
**Маці боль свайго сына пачуе;**

**боль, што грудзі гарачыя выцяў**
**на зьмярканьні ў разьюшаным скрыце;**

**боль і цёплую радасьць спадзеву**
**скрыжаваную зь сілаю гневу...**

**Маці скажа: ідзеце сюды вы**
**слухаць думы жыцьця агнявыя --**

**думы працы і думы змаганьня,**
**думы блізкага, сьветлага раньня!**

**Гэтак час пабудзіў і пакратаў**
**струны сэрца пад грукат гарматаў,**

**каб у сьціплых фрагмэнтах паэмы**
**расказаць, як жылі і жывем мы;**

**каб пад родным скрываўленым сьцягам**
**даць Радзіме пакутнай прысягу.**

**2**

**Дарагая мая Радзіма!**
**Слова песьняю стацца прымусь,**
**каб яна нашу радасьць пладзіла,**
**што на сьвеце жыве Беларусь,**

**і, мінаючы глум і мукі,**
**на прысуджаным доляй крыжы**

**несла дзецям тваім і ўнукам**
**найвялікшае права -- жыць!**

**3**

**Ня спляміласся й не заліпла**
**злачыннасьць грахоў і правін...**
**Як човен із зарасьляў, выплыў**
**праз морак гадоў успамін.**

**Жыцьцё нас і гнула і секла**
**на часткі і напал -- абы**
**у хітра змайстрованым пекле**
**пладзіліся й чахлі рабы...**

**На д'ябальскім чорным экране**
**жахліва віднееца сьлед:**
**на болем разьятранай ране**
**Краіны трухлее шкілет...**

**Шавеляцца жоўтыя косьці,**
**і чэрап сухі галавы**
**аб лёсе свае маладосьці**
**такое гаворыць жывым.**

**4**

**Як каралі й калечылі-- не галасіла,**

**толькі тварам прыпадала да зямліцы.**
**Гэтакую, як той камень крамяністы, сілу**
**мела шчуплацелая у целе маладзіца.**

**Словам не азвалася да ворагаў ні разу**
**і павекаў не расплюшчыла. Каму? Навошта?**
**Заплаціла маладзіца катам за абразу**
**ня чым-небудзь, а жыцьцём -- найдаражэйшым**
**коштам.**

**Галасілі ўсе равесьніцы, бацькі, сястрыцы.**
**Покатам кацілася над полем галашэньне.**
**Ля вазёраў нашых сініх, паміж лозаў ніцых**
**унураўся неўтрапёны пошчак у імшэньнік.**

**А лясы -- бары сунічныя -- на хіб зялёны**
**падымалі і вышэй яго шпурлялі -- ўгору,**
**каб пачулі не адны мы -- цэлы сьвет,**
**мільёны --**
**пра вялікае на Беларусі нашай гора...**

**5**

**І казалі людзі, і казалі проста:**
**-- Наша шчасьце -- за дванаццацьцю**
**замкамі...**
**На парозе хаты, на дарозе росту**
**доля ўзгадавала цяжкі гора камень...**

**І пыталі людзі, і пыталі шчыра:**
**-- Ці не разьмінецца наша шчасьце з намі?**
**Ці не закалыша шум трывожны віру**
**цьвету сноў дзявочых у гаротным найме.**

**І чакалі людзі, і сьціскалі скроні:**
**-- А калі-ж мы скажам словы гневу сіле,**
**каб лягло, як сонца, шчасьце на далоні,**
**каб жыцьцё людское больш не галасіла?**

**І казалі людзям поле, лес і зоры:**
**-- Як ня сёньня -- заўтра, а ’ткі легчы**
**мусіць,**

**бо ня заўжды-ж маюць, як чаўны ў моры,**
**трушчыць іклы бураў косьці Беларусі!**

**6**

**Край дружбы з радасьцяй ня меў:**
**туга была штодзённай госьцяй.**
**І голас моўкнуў і нямеў,**
**як песьні скутай маладосьці.**

**І маладосьці ня было:**
**спыніла старасьць на паўкроку...**
**Яна тугім упала тлом**
**пласьмя на стоптаным абтоку.**

**Гайдаў трагічную труну**
**вятроў халодных час дрыготкі.**
**І край прыгадваў даўніну,**
**жыцьцё стваральнікаў і продкаў.**

**Ня раз братоў маіх, сясьцёр**
**на раду ў хату, кажуць, клікаў,**
**ды ня прыйшлі, бо й сьлед расьцёр**
**чужацкі лад асокай шпікаў.**

**Шчымела сэрца. І штодня,**
**каб крыўду помстай перагрызьці,**
**у сьцены білася радня --**
**шукала схованага выйсьця...**

**Інакшых лекаў анідзе**
**ня мела ўзяць Радзіма-маці.**
**І гурт сям'і яе радзеў**
**на чорным гора перакаце...**

**І сьлёзы буйныя цяклі,**
**паілі пекла мур акуты.**
**Калі, пытаўся Край, калі**
**цярпеў хто гэткія пакуты!**

**Навокал -- вусьціш. Ні душы.**
**І дзень падточаным парогам**

**нямую цемру варушыў**
**вар'яцтвам выкліканы рогат...**

**7**

**Дарогі разьмінуліся на Ўсходзе**
**і ўперліся ў нямыя тупікі...**
**Нязвыклым шляхам людзі ходзяць,**
**тасуючы ў памяці вякі.**

**Дванаццаты. Сямнаццаты. Дваццаты --**
**апошняя, заключная вярста...**
**Калоціцца, цярплівасьцяй напяты,**
**пад вобразам расьпятага Хрыста.**

**Нікому і нідзе даўно ня сьпіцца:**
**тасуюцца ў памяці вякі,**
**і неба нагартаваныя сьпіцы**
**ўядаюцца ў нямыя тупікі...**

**8**

**Стрэлы чорныя цела зямлі працялі...**
**Маці родная, сэрцам паслухай**
**і скажы сваім дзецям, ці бачыў калі**
**Край такую ў жыцьці завіруху.**

**Голас любы, цярэбячы шэрасьць імжы,**
**азываецца з хваль землятрусу:**
**-- Гэта-ж д'яблавы рукі ўбіваюць нажы**
**у сьвятую душу Беларуса...**

**9**

**Стаім па-над кручай. Сівыя гарбы,**
**нязломнае сілы грамады,**
**грукочуць і крышаць сьцен чорных ілбы --**
**астоі чужацкага ладу.**

**Зрываюцца буры з патрэсканых скал,**

**каб яркнулі зоры над пусткай,
каб сьлед ліхадзея агнём спаласкаць
з абшараў зямлі беларускай!**

**Сягоньня разгон хай няпоўны яшчэ,
ён заўтра патроіцца... Потым
ушчэнт чужаніцы ярмо расьпячэ,
муры, зьнітаваныя потам...**

**Іх ладзілі доўга найміты-майстры,
хаваючы ганьбу і сорам,
каб кроілі згубныя мору вятры
людскую ў мурох непагоду,**

**каб нема стагналі тугія пласты
у лёхах зьдзічэлага ўсходу;
каб цела калечыла лютая стынь
ахвярам крывіцкага роду...**

**Мацнее пачатая сілаў разьня --
упартае бураў змаганьне.
Пад грывамі пушчаў, чакаючы дня,
стаім ля апошняе грані...**

**10**

**Каліськці сокамі грудзей
жывіла продкаў ты, зямліца.
І нам, каб род не парадзеў,
дазволь пітва твайго напіцца.**

**З маленства сьнілася ў сьне,
было крыніцай дум адзіных.
Яму, як сонцу і вясьне,
маліцца хочам на Радзіме.**

**На землях выпетралых, дзе
над курганамі вецер вые,
дзе гора едзе на бядзе,
абняўшы дзіды агнявыя...**

**Дзе, веру росьцячы, браты
за волю кроў зямлі аддалі,
і дзе лунае дух сьвяты**

**над мужнасьцяй бунтарных даляў...**

**Паі-ж нас сокамі грудзей,**
**як продкаў некалі, зямліца!**
**Паі! Нас покліч твой вядзе**
**Табе і Небу памаліцца.**

**Прымі да споведзі. Вазьмі**
**прысягу верную. Ад шчасьця**
**сваімі моцнымі грудзьмі**
**цябе заслонім ад напасьці.**

**11**

**Вось і Менск -- старажытнае места.**
**Маршы, песьні і золата вестак...**

**Вось Няміга й Высокая Плошча.**
**Сонца вусны і душы палошча...**

**Вось жаўнеры і белыя коні,**
**і абраз старадаўняй Пагоні...**

*****

***«Бійце ў сэрцы іх, бійце мячамі,***
***Не давайце чужынцамі быць!***
***Хай пачуюць, як сэрца начамі***
***Аб радзімай старонцы баліць...***

***Маці родная! Маці-Краіна!***
***Ня ўсьцішыцца гэтакі боль...***
***Ты прабач. Ты прымі свайго сына,***
***За Цябе яму ўмерці дазволь!»***

**12**

**... Пасьля доўгіх і цяжкіх разлучын**
**радасьць стрэчы узрушыць балюча.**

**І скрыжуюцца вочы і рукі**
**пад цудоўныя радасьці гукі...**

**У зьняслаўленай бацькаўскай хаце**
**пачастуе сыноў сваіх маці.**

**Кроплі чыстыя першае чары**
**абдадуць цела палкасьцяй вару**

**і спалошчуць атруту былога**
**моцным хмелем пітва дарагога.**

**Гэтак, збыўшы пакуту разлучын,**
**радасьць стрэчы узрушыць балюча...**

**13**

**Каля сьвятыні, на пагосьце,**
**пад беларускім родным сьцягам**
**увесь народ крывіцкі й госьці**
**пачуюць нашую прысягу.**

**Мы тройчы ўкленчым урачыста**
**і прысягнем Радзіме гучна**
**ушчунуць рэшту змоў нячыстых,**
**што прагнуць зганьбіць нашу лучнасьць,**

**наровяць край наш родны, любы,**
**дабро й жыцьцё, што бралі з боем,**
**аддаць на новы зьдзек, на згубу --**
**у рукі спрытных людабояў.**

**І прысягнем, на зайздрасьць тлуму,**
**самім сабе, сьвятлу і веры,**
**каб ня чыніў чужынец глуму**
**і больш ня стукаўся у дзьверы...**

**14**

**О прысяга, о сіла сьвятая,**
**дух ваяцкі, бы птах, узьлятае.**

**Узьлятае на крылах і кліча**
**войска грознага лік павялічыць.**

**Яно прыйдзе і стане зь мячамі,**
**сіла гневу дзе б’ецца з начамі,**

**дзе ў пякельных агнёх навальніцы**
**сінь крывёю варожай імгліцца.**

**Прысягне, скажа шчыра і проста**
**у часіну ваяцкага хросту:**

**«Для цябе, беларускі народзе,**
**сіла збройная волю народзіць!**

**Ахрысьці на ахвярныя чыны**
**у змаганьні за славу Айчыны!**
**Маці родная! Вораг ніколі**
**ня скуе крывёй купленай волі!»**

**О прысяга, о сіла сьвятая,**
**дух ваяцкі, бы птах, узьлятае!**

*** * ***

**Тут, дзе воды Нямігі ўліваюцца ў Сьвіслач,**
**Сотні год дзе няволя чужацкая вісла, --**
**На зьняслаўленым пляцы разьбітай сталіцы,**
**Векапомнага Менску, дзе радасьць іскрыцца,**
**Над касьцямі ахвяраў вялікіх пад сьцягам**
**Далі Богу, Народу й Радзіме прысягу...**

*****

***«У белай пене праносяцца коні, --***
***Рвуцца, ймкнуцца і цяжка хрыпяць...***
***Старадаўняй Літоўскай Пагоні***
***Не разьбіць, ня спыніць, ня стрымаць!»***

**15**

**Грымяць і грымяць цягнікі**
**у бляску гарматных усхліпаў.**
**Ў трывозе вар'яцкай вякі,**
**здалося, да земляў прыліплі...**

**А шлях некароткі яшчэ --**
**наперадзе шмат кілямэтраў.**
**Ляцяць цягнікі ўсё шпарчэй**

**наўсуперак згубнаму ветру.**

**У воблік напятай начы**
**вачыма ўпіваюцца воі.**
**Ў тугую ляцяць далячынь**
**і іхнія думы-настроі...**

*****

**Зышліся ў грозным баі**
**вялікія, грозныя сілы.**
**Радзіма на варце стаіць --**
**да сну анікога ня хіліць.**

**Да скібаў вільготных прыляж,**
**адвага, часіну паслухай:**
**дрыжыць пад нагамі зямля,**
**прымае і радасьць і скруху.**

**З-за воблакаў месяц пасе**
**падзеі напятыя сутак...**
**Няпрошанай госьцяй прысеў**
**ля крыжа збуцьвелага смутак...**

*****

**І просіць, і моліць устаць**
**сыноў дарагая матуля,**
**абраз няўміручы Хрыста**
**да сэрца гарачага туліць.**

**-- Зірнеце, саколы, з магілак сырых**
**на сьвет гэты Божы, на наскі!**
**Малюся і плачу, каб нашай зары**
**ізноў не пасеклі на часткі...**

**16**

**Ні матулі, ні ейнага плачу**
**і ня чуюць сыны і ня бачаць.**

**Ані сонца, ні зораў, блакіту,**
**ані медзі ня бачаць ракітнай.**

**І зьнішчальны узьлёт навальніцы**
**не згадаецца ім, ня прысьніцца.**

**Прыняла іх зямліца ў пасьцелю,**
**вецер лісьцем курганы усьцеле.**

**Пракувае зязюля ураньні**
**пра ахвяры цяжкога змаганьня.**

**Неба хмары сівыя падоіць**
**і напоіць сыноў сырадоем...**

*****

**Сьпеце, сьпеце, крывіцкія воі,**
**ушануюць браты вашы мроі,**

**ушануюць і дзеці і сёстры,**
**сэрца жалем сьціскаючы гострым,**

**ушануе змагарныя чыны**
**Маці нашая, Маці-Айчына!**

**А зарою умыецца вечар --**
**прыйдуць маткі да вас і укленчаць...**

**І дзяўчаты, каб сны не каралі,**
**асыпаючы сьлёзаў каралі**

**на сьвяжуткі пясочак сыпучы,**
**засьпяваюць аб крыўдзе разлучын:**

**-- Дзе-ж ты, любы сокал,**
**Дзе-ж ты, сінявокі?..**

**Я журуся, я чакаю --**
**Любы, адгукніся!..**

**Будуць дні і цалюткія ночы**
**гаварыць аб нядолі дзявочай,**

**шчасьце з даляў сваё будуць клікаць**
**па ўсёй па краіне вялікай:**

**-- Я-ж кахала цябе, мая радасьць...**
**Помніш росныя сьцежкі у садзе?**

**Помніш рэчку, крынічка дзе звоніць?**
**Ты прыходзіў ды з кветкай півоні...**

**Хвалі беглі, каціліся ў далі,**
**квола кветкі-півоні гайдалі...**

**Я-ж кахала цябе, мая радасьць...**
**Помніш росныя сьцежкі у садзе?..**

**17**

**Плывуць жалобныя развагі,**
**плывуць і коцяцца паволі:**
**-- Пад бел-чырвона-белым сьцягам**
**ляглі сыны за шчасьце волі...**

**За рэкі й руністыя гоні,**
**за край вазёр, красы і веры,**
**за гарт Крывіцкае Пагоні**
**ляглі крывіцкія жаўнеры...**

**18**

**Ёсьць такія, што кажуць гэтак:**
**«Нам сваё наймілей бывае,**
**няхай восень сабе ці лета**
**узьвівае свой сьпеў над краем...».**

**Хай, што хочуць, гавораць людзі --**
**не такі ўжо вялікі грэх...**
**Сёньня тое злачынствам будзе,**
**калі думка чыя памрэ!**

**Не здалее ніхто на сьвеце**
**гадавацца, як трэба, жыць,**
**калі ўзьлёт іхні злосьнік-вецер**
**разапне на шпянёх мяжы...**

**Чаго варта цяпер істота**
**ў цяжкую жыцьця пару,**
**што наровіць, як смоўж, употай**
**прысмактацца да моцных рук?**

**Мо' таму й гнеў душу сьціскае,**

**і спадае сьляза з вачэй?..**
**Толькі грэшнік чужымі рукамі**
**на ражне славу дзён пячэ!**

**У мінуласьці -- час пражыты --**
**думку продкі радзілі дням,**
**каб да сонца, крывёй абліты,**
**гонар Бацькаўшчыны падняць.**

**Шанаваць, сьцерагчы нам трэба,**
**гартаваць і далей расьціць,**
**каб пад родным блакітным небам**
**канаваны шлях прайсьці!**

**Хай шпурляе, ірве навальніца**
**набалелыя ніці надзей,**
**хай падзем --**
**можа стацца так --**
**ніцма,**
**але краю ня зрадзім нідзе!**

**19**

**Прыйдзем, вернемся ў бацькаву хату**
**сьвяткаваць найвялікшае сьвята,**

**сьвята мужнасьці, моцы і сілы,**
**што няволю ў змаганьні скасіла.**

**Маці стрэне, гасьцінна адчыніць**
**сэрцу блізкія дзьверы сьвятыні.**

**І памолімся, палячы сьвечы,**
**за шчасьлівую нашую вечнасьць.**

**Думы радасьці нашае -- песьні --**
**узьлятуць у блакіт паднябесься...**

**Гэтак час пабудзіў і пакратаў**
**струны сэрца пад грукат гарматаў...**

**20**

**Родная! Заві, хвалюй усіх нас,**
**высака**
**падымаць над неспакоем сьцяг --**
**сыноў прымусь.**
**Мы-ж крывёю**
**на шляхох стагодзьдзяў высеклі**
**несьмяротнае імя такое --**
**Б Е Л А Р У С Ь...**

## З цыклю

## ПАДБІТЫЯ РЫТМЫ

### Васільковыя гады

**Адцьвілі гады.**
**Завялі ружы.**
**Цьвіляю**
**парог вясны цьвіце...**
**Выпаўзае,**
**чую,**
**сьлізкім вужам**
**із-пад ног**
**цяпло маіх уцех....**

**У палёх**
**смуглеюць думкі,**
**дзеі --**
**васільковыя,**
**юнацкія гады!**
**Над кавалачкам**
**цьмяным надзеі**
**пломіцца**

**куравы горкі дым...**

**Зачыняю дзьверы --**
**голас чую...**
**Не мая --**
**чужая маладосьць...**
**Чым-жа я**
**цяпер цябе расчулю,**
**нежаданы,**
**прыкры ў хаце госьць?**

**Не чакай...**
**І словам не пацешу:**
**горам**
**сьмех**
**у горле хрыплым скут.**
**Ля крыніцы**
**сум даўно ўжо чэша**
**цяжкіх сноў**
**халодную луску...**

**1938, Віцебск**

## Сябры

**Сустрэліся сябры маленства**
**каля парку.**
**-- Адкуль?..**
**-- Куды?.. --**
**цікавіўся скалечаны,**
**бязрукі.**
**А той --**
**крывы --**
**з крывёй,**
**запечанай на карку,**
**ня чуў --**
**стагнаў,**
**ад болесьці**
**згінаючыся крукам.**

**За местам**
**тлеў**
**над прысакам**

**паволі**
**вечар,**
**дыханьнем хваляў**
**цёплых,**
**траў**
**няўгойнасьць ранаў лашчыў.**
**-- Хто-ж крылы паламаў**
**і гэтак іх зьнявечыў?**
**Бяскрылы на зямлі --**
**ні госьць,**
**ні гаспадар.**
**Прапашчы...**
**А месяц --**
**плыў і плыў,**
**п’ючы валогу сіні**
**з ражка пуховага**
**вальнюткай**
**цьмянай**
**балачыны...**
**І нам хацелася,**
**каб боль**
**плыў на асіньнік**
**і каб сябры**
**жыцьцё**
**жывымі ўбачылі вачыма.**

**1946, Зальцбург**

## Мама

**Родная, любая мама,**
**доўга чакаю ліста я.**
**Можа хто іншы дзе, мама,**
**сягоньня яго лістае?**

**Любая, добрая мама,**
**цяжка, а рады ніякай.**
**Мусіць, радзіліся, мама,**
**мы пад няспогадным знакам?**

**Добрая, бедная мама,**
**хіба-ж ня чорная сіла**
**сьвету нядобрага, мама,**

**нашую радасьць скасіла?**

**Бедная, кволая мама,**
**жыць, кажуць, болей ня мушу...**
**Хто-ж прыгадае дзе, мама,**
**нашыя сьветлыя душы?**

**1955, Вэнэцуэля**

## Песьня

**Прыйшоў з даўніны апрычоны наш голас,**
**вялікі і моцны, і песьняю стаўся --**
**тканінай цудоўных і фарбаў і гукаў,**
**і шэлестаў-шумаў, і подыхаў-плыняў,**
**павеваў духмяных, і лозаў, і зёлак,**
**гаёў і аселіц, і звонаў крынічных,**
**чысьцюткіх, як сьлёзы, як душы людскія.**
**Налітая сумам лясоў і балотаў,**
**жыла і расла, і пад сонцам мацнела,**
**ад межаў да межаў кацілася вольна**
**зь вятрамі й бязь ветру -- высока і нізам,**
**із поўдню на поўнач, з усходу на захад**
**плыла, увівалася ў хвалі рачныя**
**і гора на скрутах вірлівых тапіла...**
**Празь вільгаць туманаў, празь немарач даляў,**
**праз горы, праз мора, праз акіяны**
**наўсуперак лёсу імчалася ўпарта**
**і сьмела лунала пад зорамі неба --**
**пад створам блакітным дзівоснага сьвету.**
**І слухалі людзі, і самі сьпявалі**
**ды іншых пяшчотнаю цешылі песьняй.**
**Ні холад ільдзяны, ні сьпёка пустэльняў --**
**нідзе не скавалі яе, ня здушылі,**
**а вельмі-ж хацелі зьняславіць, усьмерціць**
**чужыя, далёкія злосныя зыкі...**
**І млелі ўсе хцівыя зводнікі вуліц,**
**пачуўшы спакусныя, плынныя гукі --**
**журботны узьвіў Беларускае песьні...**
**Здаля навальніцы прыйшлі, загрымелі...**
**Зялёных маланак сьмяротныя стрэлы**
**спынілі і выцялі нашую песьню --**
**упала, як камень, на беразе кручы...**

**І доўга чутны былі болесьці ўзрыды...
І плакалі людзі, сьціскалі далоні,
а стрэлы ўядаліся ў іхняе цела
і нішчылі моўчкі за любасьць да песьні.**

**Прабілася песьня праз тысячы міляў.
Спатоліўшы сілу ў дарозе нялёгкай,
упала ізноў на халодныя скалы,
і голас спыніўся пад сьпінамі Альпаў.
Галосяць і б’юцца ад болю і крыўды
адрыўкі мэлёдыяў роднага краю,
і стогнуць, як буры, налітыя гневам,
на чорных абвалах падбітыя рытмы...
Яны-ж не памруць, бо жывыя жыць мусяць!
І толькі сягоньня, у час крутазлому,
падломаны голас, надрыўны, журботны,
шчапаецца, крышачы горла граніту,
крывавіцца, мосьцячы жорастам выйсьце...
Праб’ецца! Напіўшыся сокаў жывільных,
падымецца вышай, скране няжывога
і горам прыбітага роднага брата --
словам, ад сэрца, што йдзе, абнадзеіць.
Не! Нязьнішчальная нашая Песьня!**

**1946, Аўстрыя**

## Мой сьвет

**Мой сьвет --
у сьвеце зьяў,
уяў,
вятроў
і рухаў...
Каб рос,
мацнеў
і зьзяў,
ня вяў,
а жыў
і рухаў
наперад**

**плынь падзей,**
**адно,**
**як і дагэтуль,**
**у шчасьці**
**і ў бядзе**
**кажу такое**
**сьвету:**
**-- Мой сьвет**
**ня гэты --**
**той:**
**інакшым быў**
**і будзе, --**
**ён**
**гнеўнаю пятой**
**твае**
**растопча грудзі!**
**На цёплым,**
**сыпкім тле,**
**крывёй дзе**
**пахлі гоні,**

**скрыжую**
**у сьвятле**
**зь ім**
**моцныя далоні.**

**1956, Мюнхэн**

## РОЗНАЕ

### Манэкену

**Стаіш, убраная у строй найноўшых мод,**
**на целе жоўтым -- золата і пэрлы.**
**Спыняецца і дзівіцца ўвесь народ,**
**што ты ад шчасьця гэткага памерла...**
**І думаецца мне -- твой гібкі, стройны стан,**
**пагляд вачэй, і млявы і спакусны,**
**гаворыць моўчкі нам: за грэх прысуд Хрыста**
**расою божаю малюе вусны.**

## Ня ведаю...

**Тугая цішыня мой сум з трывогай жэніць.**
**Вясельле граецца і ў скронях, і ў плячы...**
**Якім-жа заўтра мне ўсьміхнецца нараджэньнем**
**мой дзень, прачнуўшыся пасьля скупой начы?..**

**Ня ведаю. Шчыміць у сэрцы прыкры выснаў,**
**густою плямаю кладзецца на душу.**
**А мне-ж хацелася быць плённым і карысным --**
**-- сказаць жыцьцю й вясьне, што ў сховах дум**
**нашу...**

## Званы

**Зьвіняць, гудуць мядзяныя званы**
**над вулкамі,**
**над плошчамі,**
**над местам.**
**Пра што-ж з тугой гавораць нам яны?**
**Якіх ад нас чакаюць сёньня вестак?**

**Стаю і голас потайкі лаўлю --**
**садоў,**
**палёў,**
**крыштальных цёплых росаў.**
**Званы пытаюцца:**
**-- Калі Тваю зямлю**
**сустрэне радасьць сьветлага ўваскросу?**

**1958, Мюнхэн**

## Максіму Багдановічу
**(Урыўкі)**

***... так і ўдарыўся-б грудзьмі***
***аб зямлю ды ўсё слухаў-бы,***
***усё плакаў-бы аб сваёй долі...***
***Максім Багдановіч***

**За пушчамі -- горы,**
**за горамі -- мора.**
**Там людское гора**
**з хвалямі гаворыць...**

**Я мінаю горы,**
**я іду да мора,**
**каб пачуць, што гора**
**з хвалямі гаворыць...**
**Я стаю ля мора,**
**я гляджу на гора--**
**гора й хвалі мора**
**слова не гавораць...**

*** * ***

**Гора плача,**
**мора стогне,**
**хвалі б’юцца ў берагі,**
**у супольным болю й стогне**
**завіваюцца ў кругі...**
**Мора плача,**
**гора стогне...**
**Сініх хваляў хіб пругкі**
**у пакутным болю й стогне**
**заплятаецца ў вянкі...**

**Неба плача,**
**неба стогне...**
**мора,**
**гора**
**і жарства**
**у цяжкім зьліліся стогне**
**ля магілы хараства...**

**Расьцьвітае колер сіні**
**на узьвівах хмар касых,**
**і сякуцца ў прызьме сіні**
**кроплі сьлёз**
**і сум красы...**

*** * ***

**Празь сёньняшняе бачу ўсякае мінулае,
зь мінулага -- сучаснае, бяду, нуду...
Паволі ў заўтрашняе зь песьняю іду,
бо шлях каменьнямі дарогаў ногі муляе...
А песьня з блізіні імкнецца ў далёкае,
каб сэрца ня сьціскалася ў бядзе грудзьмі.
Музыку-ж хочацца заўсёды быць зь людзьмі,
якім ня хочацца збываць іскрынку лёкаям...
І струны звонкія, вятрамі злымі бітыя,
васкуе боскі гнеў -- журботныя званы...
І сьняцца штоначы мне даўнасьць і яны --
Рагнеды плач і мужны голас князя Вітаўта.**

**1957, Мюнхэн**

## НОВЫЯ ВЕРШЫ

*** * ***

**Нашы думкі трывогай будзяцца:
а ці прыйдзе яна ці збудзецца?..**

**І калі, у якім-жа месяцы,
сум грымотамі хмар разьмесіцца?..**

**Ці ўвесну, ці позна ўвосені? --
і чакаем яе і просім мы:**

**-- Не спазьніся, Сястрыца-Вольніца,
сказаць слова сваёй Нявольніцы:**

**«Калі думкі трывогай будзяцца, --
я прыйду. Спадзяваньне збудзецца!».**

*** * ***

**Сьціскаюць хвалі пеністыя мора
маіх чаўноў скрыпучую тугу,
а я кладу паволі на вагу
драбніцы ўцех і смоль тугую гора...**

**-- Хутчэй, дзівак! -- рагоча непакора,**
**шпурляючы на чорную дугу**
**адвагу,**
**спрыт,**
**чаўноў маіх вагу**
**і ўсё, што ў думках песьціў я учора...**

**Муштруйце, штормы, гнеў душы, абы**
**на выспу цела вынесьлі гарбы**
**глыбінных бураў із паўторнай раты!**
**На выспах -- дзікім нетрыве скалы --**
**прабуюць сілы мужныя арлы,**
**растуць вызвольнікі і грозныя піраты...**

*** * ***

**Сіняе і чыстае такое,**
**хоць да раны сьвежай прылажы.**
**Толькі не дастаць яго рукою,**
**не пераступіць ніяк мяжы...**

**Выгнуліся гоні, тракты, вёрсты,**
**і дарожкі лесам зарасьлі.**
**Дык скажы мне, дружа, шчыра й проста,**
**як мы прывітаемся й калі?**

**Журацца і вербы, і ракіты,**
**і рабіны ў восеньскай імжы**
**клічуць мяне, кажучы: які ты --**
**родны полю, блізкі ці чужы?**

**Што сказаць далёкім, сэрцу блізкім**
**пра згібеньне зім маіх і лет?**
**Вецер нашчацінены з калыскі**
**бацькаўскай пагнаў мяне у сьвет.**

**Доўга буду жыць яшчэ ці мала,**
**але сэрцу мроіцца адно:**
**моцна да вачэй маіх прыпала**
**поля васількоавага відно --**

**сіняе і чыстае такое,**

**хоць да раны сьвежай прылажы.
Толькі не дастаць яго рукою,
не пераступіць ніяк мяжы...**

*** * ***

**Напярэймы зары ўсё ішоў,
а зара узяла дый пагасла.
І заціснуўся надаўга шоўк
маіх мрояў тугім перавяслам,
бо зара узяла дый пагасла.**

**Не гляджу я цяпер на усход,
бо на ўсходзе зара ня іскрыцца.
І ці мала йшчэ высьмягне год
у жыцьці сінявокай сястрыцы,
бо на ўсходзе зара ня іскрыцца.**

## Дзьве дарогі...

**Дзьве дарогі -- два шляхі
дзіўныя такія:
і дабро ўсё, і грахі
валочацца з кіем.**

**А куды й чаго яны --
аніхто ня скажа,
пакуль грэх -- дух сатаны --
дабру ног ня зьвяжа.**

**Бо дарогі тыя ўсе --
першая й другая, --
як той колас на касе,
рэжуць сэрца краю.**

**Трэцяй розруху няма:
абцугі ды клешчы.
Закаваная, сама
сваё шчасьце плешча.**

**Дзьве дарогі -- два шляхі
прыкрыя такія:
і дабро ўсё, і грахі**

**валочацца з кіем.**

## Прыйшлі і вернемся...

**Зь зямлі прыйшлі і вернемся ў зямлю,
каб пасьля тленьня цела, ліній, нормаў
(агнём душы цяплю шлях і жыўлю)
укласьці зьмест свой у інакшасьць формаў;**

**супольствам сілаў сьвет стварыць такі,
каб, з прышласьцяй сустрэўшыся нашчадкаў,
зайздросьцілі стваральнікам вякі,
эпохі й пакаленьні ўсіх пачаткаў;**

**каб грэшнікі і грэшныя багі
зямлі, што ганьбяць створ сьвятых вышыняў,
канчаючы злачынных спраў кругі,
у петлях выпрасталі дугі шыяў...**

**Усё, што ў думках пешчу і пладжу, --
даўно ўжо дух людскае сілы кратаў,
хістаў дзікунства стромую мяжу,
каб уваскросу морак ня прыпратаў...**

**Зь зямлі-ж прыйшлі і вернемся ў зямлю,
каб пасьля тленьня цела, ліній, нормаў
(агнём душы цяплю шлях і жыўлю)
укласьці зьмест свой у інакшасьць формаў!**

## Урывак з паэмы «Гранітныя абвалы»

**... Я-ж бачыў, як зьбліжаліся яны, --
грымотных гор гранітныя абвалы.
Ляўшун імчаўся зь левай стараны,
Правун -- із правай. Моцны, вытрывалы,
згінаў заміны шляху, быццам-бы
адзіны ён трымаў у шчопцях сілу,
што ўсё сатрэ -- і горы, і гарбы
ад поўначы да мутных хваляў Нілу,
каб далей потым рынуцца -- туды,
дзе горы горамі пакуль ня біты,
дзе з хмарамі гавораць гарады,**

**дзе земляў некранёных дрэмлюць міты...
Правун спыніўся. Гора Ляўшуну.
Над горамі лягло цяжкое гора.
Здалося, грэшнікі разгойдвалі труну
над штормамі страхотных хваляў мора.
У лютай празе сьмерці -- ня жыцьця,
зірнуўшы на вяршыні гор і скалы,
Правун, абняўшы чорны згубы сьцяг,
зьвярнуўся да маўклівае навалы:
«Гуртуйцеся, няўломкі-камяні,
абросшыя імхамі ціхалюбы...
У выпертым з грудзей зямных вагні
ня бачу я ні вусьцішу, ні згубы.
Разьятранаму -- стромы шлях, круты,
пастаўлены на хіб сьпічасты кону.
За посьпех наш, зьнішчальных бур браты,
малюся я ўсяможнаму Дракону!...
Няма й ня будзе сілы і раўні
магутнаму... Праз горы, долы й гаці
праб'ёмся мы, і як ты нас ні гні, --
скарыцца сьвет, і сьвету ўсе багацьці
да нашай, веру, скоцяцца гары...
Я пра адно сягоньня толькі мрою,
каб сьвет сказаў: "Бяры ты нас, бяры --
жыцьцё і кроў -- гранітнаму герою!.."
Кіпіць мой гнеў! Ня ён, Ляўшун сівы,
адродзьдзе гідкае Казьбеку і Уралу,
а Я і Мы ля берагоў Нявы
ушчунем злыбеды усходнюю навалу!
Дык пеце-ж кубак пеністы віна,
згібелі каб нікчэмных шпатаў залпы.
Над прыкрасьцю! -- касьцямі Ляўшуна --
на зайздрасьць сьвету узьнясуцца Альпы!».
Хаўрусьнік-жа, абветраны, руды,
падбіты ўжо атрутай трупнай мору,
зірнуў здаля на дзікі спрыт жуды --
патрушчаныя плечы касагору,
і хлынула з каменнага нутра,
расьпечанага палам хцівай прагі:
«Хто сьмее ў горле чорнага цара
тушыць пажар і пляміць нашы сьцягі?
Нясем мы сьвету нормы і правы,
нам кажны камень -- госьць і брат жаданы...
Із ног і рук, пакуль 'шчэ сам жывы,**

**ідзем здымаць ставечныя кайданы...**
**Прабуе хай Правун крануць...Каля**
**уласных гораў пахавае косьці!**
**Цалуйце зоры роднага Крамля --**
**крыніцу перамогі й маладосьці!**
**З расколін кручаў -- шчэлепаў труны --**
**шпурнуўся друз адборны першай раты...**
**Сьцяной зышліся ў стыку валуны --**
**хаўрусьнікаў разбойныя піраты.**
**Трагічны гром! Крышыліся шчыты**
**грымотных гор, каб гора не зацерці.**
**Ад роўніка да нетраў Варкуты**
**згінаўся сьвет у танцы дзікай сьмерці...**

**1957**

## Апошні ліст календара

**Апошні ліст календара**
**Перахінуў на дзень аджыты.**
**Пара, мой верш, табе пара**
**Спатоліць гневу боль сукрыты.**
**Імчыся, думкамі наліты,**
**Здаля да роднага двара**
**І прывітай гаспадара,**
**Каб ён, няволяю падбіты,**
**Ачнуўся... Рукі да зары**
**Узьняў... Зямлі гаспадары --**
**Сыны нявольніцы Айчыны --**
**Сваімі прагнымі вачыма**
**Сустрэнуць проблiскі сьвятла**
**І над сьлядамі бур і тла**
**Мячы скрыжуюць прад зарою.**
**А зь імі позьняю парою --**
**У міг дванаццатай гадзіны**
**Я п’ю за шчасьце Нарадзінаў**
**Мае пакутнае Радзімы...**
**На чорным цемры перакаце**
**Кажу: мой родны, любы браце,**

**Каб мроі нашыя збыліся --**
**За прыйсьце сьветлае маліся!**
**Я п’ю за шчасьце Нарадзінаў**

**Мае пакутнае Радзімы!**

**1957**

## Сьмерць жывая

**Шмат разоў гаварыў я сьмерці**
**пра звычайную рэч такую:**
**ня жыву, і мне цяжка памерці,**
**хоць і ты ля касьцей такуеш.**

**Абдымі мяне ўпол рукамі,**
**як калісьці рабоў у Рыме...**
**Ці зь пятлёю на шыю камень --**
**мора з радасьцяй цела прыме.**

**Няпрыемна -- на слуп дарогі**
**ці на гострыя сэрцам восьці, --**
**хай сьмяецца і кпіць двухногі**
**з пакалечанай маладосьці.**

**Наракаць на цябе ня буду:**
**я-ж ад гора ня ўмею плакаць, --**
**засьмяюся, як долу груды**
**пафарбуе ружовая мякаць...**

**Зашыпела у злосным блудзе,**
**быццам сэрца маё зжавала:**
**«Найцяжэйшаю карай будзе**
**табе, грэшнаму, сьмерць жывая...».**

**1948, Вэнэцуэля**

## Станіславу Станкевічу

**(У сувязі зь ягонымі ад’езьдзінамі ў Амэрыку)**

**Хто-б там што ні казаў,**
**але-ж ты -- гэта Ты.**
**Рук і крыл не вязаў**
**на адхонах крутых.**
**І ня зьвяжаш, бо ён --**
**кораб думак цяжкіх --**
**і цяпер, як здавён,**

**кліча ў сьведкі вякі,**

**каб сказалі яны,**
**каб сказалі аб тым,**
**што ўсе нашы сыны**
**мелі час залаты;**

**каб сказалі яны**
**сьвету ў гэтым вяку,**
**як сягоньня сыны**
**гора дзён валакуць...**

**Словы лынуць з душы**
**і гавораць -- скажы:**
**і жыві й варушы**
**думак цяжкіх гужы!**

*** * ***

**Праз горы, праз мора, праз акіяны**
**нясі нізку сноў беларускіх, мой дружа,**
**каб ведалі й чулі, што ў бурах каляных,**
**рыхтуючы Прыйсьце, жыве наша**
**мужнасьць.**
**1958, Мюнхэн**

*** * ***

**Ёсьць такія на сьвеце людзі,**
**пра якіх нават мовы няма...**
**Б’юць сябе кулакамі ў грудзі,**
**каб за лейцы сваіх трымаць.**

**А чужым -- чужаніцам -- насьцеж**
**дзьверы хаты, шляхі дарог...**
**Ім няцяжка шпурляць і красьці,**
**што ў пакутах гадоў зьбярог**

**чалавек -- і красу, і годнасьць,**
**срэбра думак, сьвятло сьвятла.**
**Вельмі прыкра, што  ў целе родным**
**прэе бросьня жывога тла...**

**1958 г.**

*** * ***

**...І чуваць здалёку,**
**і відаць із блізку --**
**ніжа мроі лёкай**
**на чужую нізку...**

**А чаму й навошта,**
**а каму для спору**
**росьціць цяжкім коштам**
**лёкай сум і гора?**

**І хто сёньня скажа,**
**і хто скажа заўтра,**
**што такое кражы**
**дараваць ня варта?**

**1958 г.**

*** * ***

**Мяне сягоньня моцна дакарае**
**чалавек зь няведамага краю.**

**І каб сон ня ведаў супакою,**
**кажа людзям, цэдзячы, такое:**

**«...і сякі ён, і такі, і гэткі...»**
**і «сяброў» маіх валае ў сьведкі:**

**«Ты, мая надзейная кагорта,**
**пільнай будзь! Уважна перагортай**

**дні яго... і мінусы, і плюсы..**
**Я-ж за ўсіх хварэю і малюся».**

**Так ён грэх свой латае і шые,**
**каб спрытней трымацца на вяршыні,**

**ледзьве скроенай на сыпкім чвыры,**
**прытвараючыся надта шчырым.**

**Папытайцеся -- адкуль і хто ён,
ён адразу скажа, ды ня тое:**

**«Я і сам душу сваю караю
за дабро няведамага краю»...**

**Дык чаму-ж мне моцна дакарае
чалавек зь няведамага краю?**

**1958 г.**

*** * ***

**Ёсьць у нашай малітве словы:
«Даруй грэшным усе грахі».
... Калі бачыш сьвятло ў новым --
ня спыняйся, ня будзь глухі!**

**1958 г.**

## У гасьцёх Цыпрона Цырубалкі

**Гэтымі днямі мне самому давялося пабыць у вёсцы майго знаёмага, у Іржаўцы.**

**-- Дзе тут жыве Цыпрон? -- пытаюся ў маладога хлапца.**

**-- Гэта вы пра пісьменьніка нашага? -- відаць, для большай пэўнасьці пацікавіўся ён. «О, думаю, знаны чалавек Цырубалка, усе ведаюць, што ў газэты піша».**

**-- Але, але, пра гэтага самага...**

**-- Вунь там. Ад канца трэцяя хатка каля вулачкі. Каля Пацяроба жыве.**

**Праўду сказаў хлопец, што «хатка». Маленькая, з двума вакенцамі... Рагатая рабіна каля варот, і сабака, як леў, на прывязі. «Вось і маёнтак пісьменьніка»,-- засьмяяўся я.**

*** * ***

**Стрэў Цыпрон мяне, як роднага брата. Спачатку паказаў гаспадарку: коніка буланага, цялушку, двое парасятаў, качку зь перакусанаю ножкаю і пяцёра куранятаў.**

**-- Усё бяз бацькі нажытае, -- жартуе гаспадар. -- Вярнуўся гэта я з савецкай «лячэбніцы», з Котласу. Узышоў на двор, стаў і думаю: «За што рукі зачапіць цяперака? Ні кала, ні вугла таго... Як языком вылізана кругом. Хоць ты вазьмі ды на рабіне гэтай павесься». Думаў, думаў, а пасьля злосьць нейкая апанавала: «Не,-- кажу сам сабе ўголас,-- перажылі лета гарачае, перажывем і... сабачае. Чалавек, як той кот: кінь яго плячыма, а ён перакруціцца й на ногі стане. Эт, неяк будзе». І от самі бачыце... Да кулака яшчэ далёка, але, дзякаваць Богу, жыву. Птушынае стварэньне люблю надта. Меўся дастаць яшчэ качкі са дзьве, але, ведаеце, не шанцуе нешта на іх мне, не раўнуючы, як на тым бугаі некалі: шэльма Кундаль ножку перакусіў качцы, а курыцу каршун ухапіў. Э, буду жыць -- будуць і качкі, клопат вялікі.**

**У хаце Цыпронавай, як у той сьвятліцы: чысьценька і ўсё на сваім месцы.**

**-- Баба мая Рыпіна, -- кажа Цыпрон, знаёмячы мяне з жонкаю, -- таксама мала вучаная, але бывалая. Любіць, каб лад і парадак быў у хаце. Вось бачыце, -- паказаў пальцам у бок куфэрка, -- і спадчына бальшавіцкая мае сваё месца. Ня судзі, Божа, заслужыць яшчэ такую памяць.**

**І што гэта, думаеце вы, было? Пара лягернага абутку -- сьцёртыя дзеравякі віселі на сьцяне, і ў торбачцы 205 колікаў, што пайкі хлеба сколвалі ў турме.**

**-- Хаваю, -- сьмяецца Цыпрон. -- Жонка хацела была ў печ укінуць, а я кажу: «Не, не, няхай ляжаць, есьці на просяць». Бывае, часам агорне мяне сум -- падыду, пагляджу, і на душы неяк лягчэй стане: як-бы яно цяпер ні было, а ўсё-ж ня тое...**

**Я рады быў слухаць пра гэтыя дзеравякі і колікі й далей, не ўважаючы на тое, што й самому давялося нямала паспытаць савецкага пачастунку, але гэтым разам загаварыла Цыпронава жонка.**

**-- Годзе табе пра гэтыя качарэжкі... Сваім дабром пахваліся... -- і запрасіла да стала.**

**Калі Цыпрон выйшаў у сенцы, яна, падаючы полудзень, зноў загаварыла:**

**-- Гора з маім дзедам. Захварэў чалавек, дый годзе... Бульбу трэба выбіраць, а ён сабе тупае й бурчыць нешта пад нос. Думаю, кажа, не мяшай мне. Бальшавікоў, кажа, на лапаткі палажыць трэба. Учора дык цялюткі дзень седзьма сядзеў і ўсё крэмзаў нешта. Бадай ты цяміўся, думаю. Вазьму, бывае, дый накрычу, а ён з кпінкамі да мяне: «Будзеш лаяцца -- адну пакіну ў Іржаўцы, а сам у Менск уцяку, у пісьменьнікі, кажа, падамся». Я-ж і кажу: захварэў чалавек.**

*** * ***

**А Цыпрон, каб вы ведалі, сапраўды жартаўнік добры:**

**-- Ты, кажа, баба, як знаеш, а я госьця сваім сокам частаваць буду... Сяньня вось тры гадкі, як адбыў савецкія лекі ў Котласе, дык сусед гэта ўчора прынёс і кажа: «Запі, Цыпроне, саладухаю гора ўчарашняе». Неблагая саладуха, дай яму Бог здароўя. А гэта, -- Цыпрон паказаў на гляк у меру вядра, -- сачок бярозавы, квашаны.**

**Прызнацца, мне вельмі да смаку прыйшоўся гаспадараў сок, а сам гаспадар больш налягаў на суседаву «саладуху». Выпіўшы некалькі кубкаў, Цыпрон стаў яшчэ больш гаваркі:**

**-- Вы, кажаце, жывяце ў горадзе, як у Бога запазухаю, а мы, як той гарох пры дарозе, -- усяго бывае. Праўда, каб не ўрачы, нашая Іржаўка пакуль убаку ад усякага ліха... Не без таго, бывае часам, што й сок у рот ня лезе, але жыць можна. Трэба ўмець жыць. Я заўсёды дзякую нябожчыку дзеду Нупрэю. Ягоныя муштры і цяпер трымаюць мяне на сьвеце. Бывае часам так крута, што стаіш ды думаеш: «Ну, цяперака канцы». Але раптам дзедава прымаўка -- «мора да варот, а ты цераз плот», і глядзіш -- усё добра й гладка. Шмат разоў ратавала мяне дзедава навука.**

**І Цыпрон, мераючы далей «саладуху», расказаў мне некалькі цікавых выпадкаў.**

**-- Было гэта ўжо нешта месяцы са два. У хаце й мышы ня было чым задавіцца. Адным словам, як кажуць, ці тапор кладзі ў гаршчок, ці зубы на паліцу. Давай гэта, думаю я, пайду ў лес ды ягад назьбіраю. Узяў і пайшоў. А гэтыя валацугі як аблупленага ведаюць мяне: «Мы яму, кажуць, пакажам, як пісаць у газэты». Зьбіраў, зьбіраў, а далей чую -- крэкча нехта. Стаў за хвою і гляджу: сядзіць, выгаліўшы зад, нейкая вантроба каля пня і пнецца, а побач -- стрэльба. От цяпер дык клямка табе, Цыпрон, шапчу сабе, і валасы, здаецца, дыба становяцца. Не, думаю, саб'ю з капытоў шэльму і -- залемантаваў наколькі духу ставала:**

**-- Паліцыя!!! Тут бандыты! Жывымі ўзяць іх... Божухна, каб вы толькі бачылі! Як ірвануўся гэты ваяка ды як паляцеў, і духу ня стала. А я гэта за стрэльбу й давай смаліць. Вось, думаю, дзедава навука і праз клямкі вылазіць умее. А што-ж зь ягадамі, папытаецеся вы? Адно мокрае месца засталося, гэтак зьмясіў іх нагамі, завучы ад страху паліцыю. Таму й кажу -- Іржаўка -- ня горад. Трэба ўмець жыць на сьвеце.**

**Тут і я ўжо ня мог ня выпіць кубка «саладухі» за Цыпронаву вынаходлівасьць.**

**-- І што-ж вы думаеце, падаткнуў нехта, што стрэльбу зь лесу прывалок у хату. Брэша мой Кундаль, аж разрываецца. А на дварэ цёмна, хоць вока пальцам выкаль. Прыліп я да сьцяны й ні дышу. Калі што якое, дык шмаргану, думаю, на гару, а там праз закот ды ў кусты. А далей... Божачкі мае, што было далей... Як кінецца мой Кундаль, як зараве, а нехта як заенчыць... Іржаўка мая, здалося, дагары дном**

**перавярнулася. Здаволіўся, відаць, Кундаль і змоўк, а нехта ўсё енчыў, скрыгаў зубамі й маліў Бога.**

**-- Выйдзі, -- кажу я сваёй Рыпіне, -- ды паглядзі. Ты-ж баба, ня бойся! Можа й добры чалавек папаўся на галодны зуб Кундалю. Паставіла яна сьвечку ў гладыш і выйшла. А я, як асінавы ліст, калачуся й на стрэльбу забыўся. Убегла ў сенцы баба й галосіць: «Прапалі цяперака, прапалі за нюх табакі... Колькі разоў казала збыць гэтага мядзьведзя... Ой, Цыпрон, Цыпрон, таўкач ты іржаўскі... Ня выратуе цябе, хвалько, і дзедава навука цяперака. Яно гэта добра, адной валацугай меней будзе, але-ж каб ты бачыў... Усю гэтую снасьць з карэньнем вылупіў... Гэта-ж трэба трапіць у такую мясьціну?.. Чалавек круціцца, як вужака, канае, а ён, відаць, ужо зьеў, сядзіць і аблізваецца. Абнадзіўся, каб яго воўк залупіў, курынымі, а цяпер і да чалавечых дабраўся... Яшчэ й з тваімі, пісака, гэтае самае, дажывешся...».**

**-- Доўга шараваў я мазгамі, доўга, але вылузаўся і з гэтае гісторыі, -- сказаў, сьмяючыся, Цыпрон і наліў яшчэ па кубку «саладухі».**

*** * ***

**Некалькі часінаў маўчалі. Курылі маю махорку, менскую. Далей Цыпрон зноў не абышоўся бяз жарту:**

**-- Кладзі, кажа, баба, яйкі на стол ці сваім сокам гасьця пачастуй.**

**І жонка прышыкавала яечню.**

**-- А днямі, -- пачаў зноў Цыпрон, -- бабе маёй давялося атаку адбіваць. Прыйшло неяк раніцою трох галадранцаў, вылупілі вочы, як жаба на купіну, і крычаць:**

**-- Падавай гарэлку, на фронт сьпяшаемся...**

**-- На фронт, -- засьмяялася Рыпіна, -- ваякі... З бабамі адно ваяваць умееце, а немца ўбачыце, дык ногі на плечы ды ў балота, як чэрці лазатыя.**

**-- Сама ты, як чорт, хітрая, -- сказаў нейкі касавокі. -- Разумная якая... Даволі, наваяваліся... Голымі жыватамі на танкі нямецкія кінемся ці што? Даволі. Падавай сьвянцоную!**

**Усе пячуркі вынюхалі нэндзы гэтыя. Пароліся, пароліся, але трасцу -- нічога не знайшлі. Але, ліха іх матары, іконку сьпёрлі, каб ім бакі парасьпірала, навалач нясусьветная. На хітрыкі кідацца пачалі. Дарэмна, вераб'я мякінаю не падманіш. Вучоныя...**

*** * ***

**Шчыра кажу: разумны чалавек Цыпрон. Адным словам, не загіне Іржаўка, калі жыў будзе Цырубалка.**

## Гісторыя Сяргея Кастрыцы
### (Апавяданьне Цыпрона Цырубалкі)

**Кажуць, што гара з гарою ня сходзяцца, а чалавек з чалавекам сыдзецца. І ведаеце, праўду кажуць. Такая неспадзяваная стрэча была й на маім вяку. Увосень 1919 году -- памятаю гэта як цяпер -- узялі й пхнулі мяне на фронт ды аж пад самы Харкаў. Нічога, думаю сам сабе, ня зробіш, -- вайна, але як-бы гэта ўткнуцца ў які-небудзь зацішак? Самі ведаеце, ня хочацца чалавеку галаву падстаўляць пад абух. І от, падыходзіць да нашага новага гурту жаўнер, вымае з кішэні сьпіс і крычыць:**

**-- Цырубалка Цыпрон!**

**-- Ёсьцека, кажу, Цырубалка. А ў сярэдзіне нешта так і ёкнула. Пэўна, на самую пазыцыю, мільганула думка. Жаўнер, відаць, адчуў маё хваляваньне дый кажа:**

**-- Ня бойся, добра будзе: на кухню за вадавоза прызначаешся. Пазьней я даведаўся, што гэты самы чалавек родам зь вёскі Мазалі майго Стаўбцоўскага павету і зваўся ён Сяргеем Кастрыцаю. Добры быў чалавек. Былі мы зь ім разам нешта месяцы два, а потым разышліся, разышліся як сябры, як землякі.**

**Прайшлі, прамінулі гады, і, як ужо гаварылася ў маім жытым і пераж ытым, апынуўся я ў Котласе... І тут, прызнацца, піхнулі мяне ў зацішны куток, але гэтым разам у лягерную лазьню, у «вашапрудку», як яе завуць. Прыходжу і гляджу, гляджу й вачом сваім веры не даю...**

**-- Кастрыца ці не Кастрыца? -- пытаюся ў згорбленага чалавека з густою, чорнаю, як смоль, барадою.**

**Не падымаючы галавы, чалавек адказаў глуха, але злосна:**

**-- Пяцьдзясят гадоў як завуць мяне гэтым імем.**

**Мінут праз пяць мы сьцьвердзілі нашую знаёмасьць пад Харкавам і неспадзяваную сустрэчу замацавалі доўгім пацалункам. Вось як бывае яно ў жыцьці, -- сказаў, гледзячы мне ў вочы, Цыпрон Цырубалка й расказаў гісторыю Сяргея Кастрыцы...**

*** * ***

**Родныя Мазалі няпрыхільна сустрэлі Сяргея Кастрыцу. Што ім да рагатае бляшанкі на хворым сэрцы ваякі? Эт, няхай блішчыць, клопат вялікі -- гэтак, здаецца, хацеў сказаць найлепшы сусед, паціскаючы шурпатымі далонямі кукслі Сяргеевых рук.**

**-- Ня гэтакія мы цяперака, браце Лукаш, як тады, памятаеш, калі на Траецкай у Менску апошняга пявуна прапівалі зь бяды-гора... Не такія... Цяперака -- усё наша, зарабілі. Жыві й цешся, адно абы сілы ды**

**здароўя ставала. -- Гаворачы гэта, Сяргей моцна прыціснуў да грудзей сваю ўзнагароду куксай і цяжка ўздыхнуў. Буйная, як гарошына, сьляза пакацілася з вока й расплылася на лішаі апаленае вятрамі шчакі. Не хацелася паказваць яе суседу, але яна, нібы адчуваючы, што чалавеку з бляшанкаю на грудзёх не выпадае гаварыць пра вялікія пакуты, сама пала на гэты лішай і расплылася ўлукаткі. Сяргей пастараўся абысьці гэта жартам:**

**-- Апошняя, відаць, бо надта-ж пякучая, шэльма.**

**Лукаш змаўчаў, але падумаў: «Не скакаў ты вышэй калена дагэтуль, цяперака -- наплачашся і наскачашся, небарака». А пасьля, каб не пакрыўдзіць, сказаў:**

**-- Пэўна, што апошняя. Іншыя няхяй цяпер плачуць.**

**Жонка не заўважыла Сяргея, калі ён узышоў на родны двор. Яна лупцавала малую дачку і, плачучы, гаварыла:**

**-- Самі чэзьнем з голаду, а ты пазычоную скарынку аддаеш...**

**Сяргей спыніўся, зьняў з плячэй зашмальцаваную торбу, павесіў на сукаваты кій, што памагаўісьці ягоным нагам, зьняў шапку і бліснуў жоўтаю лысінаю, калі Рыпіна, выціраючы сьлёзы, павярнулася на ягоны кашаль.**

**-- Нямяшака нічога ў мяне. Усе мы жабракамі сталі. Ідзі, чалавеча, з Богам, -- сказала яна й пайшла да ганку.**

**Гэтыя словы так пакрыўдзілі Сяргея, што ён ледзь вымавіў тры словы:**

**-- Рыпіна! Жонка любая!**

**Яму хацелася схаваць хоць на часіну свае куксалі, але правая рука міжвольна лягла на ордэн, а левая выпрасталася ў кірунку да жонкі.**

**-- Хіба-ж ты не пазнала? То-ж гэта я -- твой Сяргей.**

**І гэтым разам зноў пакацілася сьляза, меншая, але больш пякучая, чым пры сустрэчы з суседам. Жонка кінулася да гаспадара, прыпала да грудзей, і рагатая бляшанка холадам абдала гарачую шчаку Рыпіны.**

**-- Сяргейка!.. Ты ў дзізярцірах... Разумнік мой... Ой, як я рада. Адрывай, радасьць, гэтую бірку авечую, адрывай... Не, ня пушчу больш.**

**Такая неспадзяваная гаворка прыглушыла чуты нядаўна крык Рыпіны за скарынку хлеба, апраўданьне дачкі, якая, схаваўшыся недзе, сядзела цяпер і плакала ад крыўды, і нават тое, што ўсхваляванай жонцы сам ён, лысы, з кіем і торбаю, здаўся жабраком, і кранула гонар ваякі. Сяргей моцна й сярдзіта запярэчыў жонцы, крыкнуў:**

**-- Не, не дэзэртыр я, Рыпіна! Я -- шчыры ваяка. Не авечую бірку бачыш на грудзях, а ўзнагароду за адвагу... Рыпіна, Рыпіна, якая ты неразумная...**

**Але хворае сэрца не заўсёды было ў ладах з ягонаю думкаю: спачатку яно сьціснулася, аблілося крывёю, але мігам памякчэла,**

**расчулілася, і Сяргей, нібы просячы спагады, сказаў зусім ня тое, што думаў:**

**-- І ты яшчэ крыўдзіш мяне, Рыпіна?.. Даволі, што жыцьцё пакрыўдзіла... І дарма ты кажаш, што мы жабракі. Шмат я зарабіў багацьця... Во, зірні: пальцы гэтыя аддаў за нашае шчасьце... -- Ён патрос перад ёю пакалечанымі рукамі, а пасьля млява пагладзіў куксамі васковую лысіну. -- Кожны ворагаў стрэл каштаваў мне капы валасоў... Усё цяпер наша, усё... Будзе і зямля і гаспадарка. Гэтак нам гаварылі, і мы верым у гэта...**

**Кастрыца хацеў сказаць яшчэ нешта, але дзяўчына, учуўшы гаворку, выбегла зь сяней і зблытала ягоныя думкі:**

**-- Мамка, больш ня буду даваць жабракам хлеба, убачыш...**

**Сяргей ня схлусіў жонцы, калі гаварыў пра зямлю. Урэзалі й нямала -- цэлых шэсьць гектараў. І сям’ю апанавала радасьць.**

**-- Ну, што, Рыпіна? Былі голыя, як бізуны, а цяперака... Ого! Цяперака! Пасёлак -- ды такі надзел!..**

**-- Праўду кажаш, -- сказала жонка, -- але хто нам хлеба напрацуе? Я -- хворая, ты -- калека, а яна -- Раіна зірнула на дачушку -- дзіця яшчэ. Безь зямлі цяжка і зь зямлёю небалазе.**

**-- Рыпіна, сьвет не бяз добрых людзей: маем сваякоў, улада дапаможа, наймем сяды-тады чалавека, неяк будзе, абы жывы былі, -- гэтак цешыў Сяргей жонку, але чамусьці й сам паківаў галавою.**

**Збыліся гэтыя Сяргеевы словы: дапамаглі добрыя суседзі, дапамагла крыху ўлада, а сваякі дапамагалі заўсёды. І завідныя людзі гаварылі:**

**-- Бачыце, якую гаспадарку мае Кукса, -- гэтак празвалі яго злыя людскія языкі. -- О, што значыць мець бляшанку з-пад Харкава...**

**А калі ў дваццаць шостым годзе далі Кастрыцы, як добраму гаспадару, прэмію -- сем калодак пчолаў, ведамы мазалёўскі п’яніца Скакун каб прымеў дык зьеў-бы, здаецца, Сяргея. Адным словам, ня ведаў, як кажуць, за якое месца ўкусіць чалавека.**

**-- Паадкусваў, шэльма, на фронце пальцы ад страху, і на табе -- ордэн пачапілі хітруну. Ваяка! Шкада, што яшчэ чаго-небудзь не адкусіў... -- Яшчэ-б на тры кархі ашукаў начальства. Нябось, Крыкуну -- скулу ў бок, дарма што горка жывецца. А яму -- на, мядок ліжы, выслужыўся, каб ты лізаў немаведама што...**

**Але Сяргей не зважаў ні на што -- працаваў і маўчаў. Праўда, урэжа, бывала, якому-небудзь Крыкуну, калі той пачне ўжо пальцам у вока пароць.**

**Гэтак вось стаў на ногі бравы ваяка з-пад Харкава, стаў і моцна пусьціў карэньне ў зямлю. Урос гэтым карэньнем, умацаваўся, і думалася яму, што ніякая навальніца ня выверне яго з трывалага грунту. Працаваў ад сонца да сонца, цешыўся сваімі набыткамі. Добра жыў Кастрыца й ніколі ня цураўся людзей: няскупым, памяркоўным быў чалавекам.**

**Прыйдзе, бывала, да яго ягоны вораг, брахун ці якая лапатуха, папросіць шаснастку бульбы ці кавалак здору на затаўку, Сяргей, ані словам нічым ня ўпікаючы, дасьць і скажа:**

**-- Бяры, спажывай на здароўе, будзеш мець -- аддасі, не -- і так добра будзе. Ведаў ён, што ад гэтага не зглее, а чалавеку, у якога й мышы няма чым удавіцца, зробіць ласку вялікую. Не аднаго разу дапамагаў людзям.**

**-- Жыць жывём няблага, -- гаварыў ён часта сваёй Рыпіне, -- але ўсяляк можа стацца. Бог толькі ведае, што будзе.**

**Слушна гаварыў жонцы Кастрыца. Чалавек, які нанюхаўся пораху, мае, як кажуць, добры нюх да ўсяго. А жыцьцё таксама здольнае на ўсё: яно ўмее абняславіць чалавека і шпурнуць яго ў гразь, у прорву ды так, што аніякая сіла ня выбавіць і не паставіць больш на ногі; умее яно і гразь атрэсьці з чалавека, выжануць самыя вялікія нарасты на душы й целе, узьняць моцна чалавека, павярнуць яго тварам да сонца і трымаць так усё жыцьцё да самай сьмерці.**

**Першая такая здольнасьць жыцьця ня мінула й Кастрыцы. Праўда, цяжка было прыступіцца да яго й падрэзаць моцнае, трывалае карэньне гаспадара, але ўсялякія бываюць навальніцы й па-рознаму прыступаюць яны да свае ахвяры. Калі цяжка ўчапіцца за карэньне, навальніца ўмее пачынаць з галавы. Яна выпустошвае яе, як тая маланка, што выпякае сваімі агністымі стрэламі буйное зерне гарэху. Так навальніца часу падышла да Сяргея Кастрыцы.**

**Чалавек і думаць ня думаў пра што-небудзь благое. І навошта яму было думаць? Гэтулькі гадоў ваяваў, крыві нецьсколькі выліў на чужую зямлю, валасы выцьвілі й чуць ня ўсе высыпаліся. Дастаў узнагароду... «Хіба-ж гэта жартачкі? Адзін палец, казаў той, цэлага моргу варты, а ў Кастрыцы ўсе адшастала па самыя костачкі. Адным словам, ваяваў, даваяваў права на жыцьцё й сядзеў сабе цяперака панам у сваёй хаце. Праўда, сядзець не сядзеў, такія людзі, як Кастрыца, ня ўмеюць сядзець ці гульма гуляць. Такія людзі, калі й ня маюць чаго рабіць (а гэтага-ж ніколі й ня бывае), усё роўна нешта робяць: калупаюцца, длубаюць сёе-тое -- ні на часіну ня ўпыняюцца. Гэтак было і ў Сяргея. Цешыў ён сваю Рыпіну, а Рыпіна, каб не астацца ў даўгу, цешыла свайго Сяргея.**

**Падрастала дачушка, бялявая, разумная Волечка -- радасьць і ўцеха бацькоў.**

**-- Яшчэ гадок, яшчэ адзін, і будзе, Рыпіна, табе памочніца якая ўдалая. І хаты дагледзіць, і курыцы каршун ня ўхопіць, -- такую гаворку меў Кастрыца пры вячэры, калі Волечка падавала маці чыстую міску або суцішала крыклівага пявуна, які, зьбіўшыся з толку, глушыў ня ў пору хатку, седзячы з курамі пад печчу.**

**У хаце, як і ў гаспадарцы, заўсёды былі злагада й парадак. Але злагада злагадой, жыцьцё жыцьцём, а лёс -- лёсам. Ён даўно ўжо падпаўзаў пад гаспадарлівыя ногі. Шмат тугіх вузлоў навязалі завідныя**

**людзі на Сяргеевай дарозе... І толькі пазьней, калі пачалі прыцiскаць Кастрыцу гэтымі тугімі вузламі да мокрае сьцяны халоднага муру і калі расьцяць іх нельга было ўжо й рагатаю бляшанкаю, ён зразумеў, чаго вартыя былі Скакуновы словы: «О, я зраблю так, што і сок пацячэ». Чуў іх ня толькі сам Кастрыца й ня толькі ягоная жонка, чулі і іншыя, але тады й на ўвагу яны ня браліся. Ат, ці Скакун меле, ці сабака брэша -- адна цана.**

**Пазьней жанкі недзе вычулі, што чалавека схапілі якраз празь язык Скакуна, але і іхняй гаворцы яшчэ мала давалі веры. А як тыдні праз два з Мазалёў выхапілі яшчэ некалькі гаспадароў, а потым пачалі цягаць на допыты Сяргеевых суседзяў, -- людзі за галовы ўзяліся, быту не давалі Скакуну:**

**-- Як ты, абібок, гультай пракаветны, адважыўся гаварыць нячутае й нябачанае на гэтага чалавека?**

**-- Што-ж гэта ты сабе думаеш, стаўбун незавостраны?**

**-- Каб хто-небудзь людскі, а то гэтая мыш рызавая...**

**-- Языком не намелеш хлеба, а калі й намелеш, дык апруцянееш, атрута ты горкая, поскудзь нясусьветная, -- ня ўпынялася швагерка Кастрыцы.**

**Каб вы адно чулі, як дапякалі яму людзі. А ён, пошасьць гэтакая, выскаліцца, а далей утуліць галаву, як сабака хвост, і пасунецца, нічога не сказаўшы.**

**А на Сяргея кастрыцаю сыпаліся абвінавачаньні:**

**-- Прызнайся, контра, калі й дзе пальцы паадкусваў.**

**-- У каго й калі жыўцом ордэн вылупіў?**

**-- Колькі часу дэзэртырам хаваўся ў жонкі?**

**-- Колькі чалавек падбухторыў супраць нашага дарагога таварыша правадыра?.. Колькі, ліпавы ваяка?.. -- гэтак уперамешку нацiскалі на маўклівага Сяргея ў марудныя гадзіны допытаў энкавэдаўскія выцянгачы.**

**Вось як чарнілі чалавека, а ён-жа адно Богу душою быў вінаваты. А калі прызнацца зусім шчыра, то віна ягоная палягала... У шчырасьці ваякі пад Харкавам.**

**-- Папытайцеся, -- бараніўся Кастрыца, -- у майго камісара Калатоўкіна. Ён ня дасьць маніць, ён -- чалавек праўдзівы.**

**-- Ведаем мы тваіх калатоўкіных... За подмазку купіў яго ці што? -- дапякаў сьледчы. -- Дарагі таварыш Сталін і Лазар Кагановіч былі тады камісарамі, а ня ўсякія-такія Калатоўкі... Выкалацім душу -- прызнаешся, ня дзе дзенешся.**

**Доўга выкалачвалі Сяргееву душу, нець як доўга. Калацілі, калацілі, а пасьля ўзялі ды піхнулі пад нейкае мора. Пёкся Сяргей, не раўнуючы, як тая смала ў пекле. Сушыў невады, саліў рыбу, перакачваў кадушкі зь дзёгцем, аб'язджаў жарабкоў нейкага начальніка. Бывала, такая крыўда падступала пад сэрца, што проста жыць не хацелася.**

**«Сунуся, -- думаў ён, -- галавою ў вір, і ўсё. Хвалі няхай прымуць мае пакуты».**

**Сяргей, можа, і зрабіў-бы гэтак, каб ня было на сьвеце жонкі Рыпіны ды бялявае дачушкі. Удзень і ўначы стаялі яны перад ягонымі вачыма.**

**-- Не, трэба жыць, жыць ня дзеля самога сябе, а дзеля Волечкі, дзеля Рыпіны. Яны-ж таксама невінаватыя й пакутуюць, можа, яшчэ больш за мяне? Грэх, о, немаведама які вялікі грэх! -- Нехаця крыкнуў Сяргей, і яго апанаваў страх.**

**-- Перацярплю, перажыву, -- сказаў далей сам сабе ўголас. -- Жонка і Волечка таксама не прападуць: ёсьць пакуль што і хлеб і да хлеба, ёсьць і капейчына на зварот. Адно, -- мільганула благая думка, і ён скалануўся, як асінавы ліст, -- каб, ня дай Божа, ня выраклася мяне мая Рыпіна... Вайна... Турма... Якое нялюдскае жыцьцё! Хто ведае, можа, і дрэнна раблю, што яшчэ жыву? Можа, і Рыпіна праз гэта пакутуе?..**

**Сяргей, пэўна, і далей-бы яшчэ думаў, седзячы на баку чаўна, але сонца было ўжо зусім нізка, нейкая калючая вільгаць абдала ягоны твар, лысіну, і ад гэтага пачала балець апаленая гарачынёю скура.**

*** * ***

**У барак прыйшоў ён на зьмярканьні. Вячэра была нішчымная: сушаная бульба і кавалак цьвілое рыбіны. Густое паветра, здавалася, прыціскала яго да гліпянае падлогі, хіліла да сну, але спаць ня мог. І зноў апанавалі яго розныя думкі. Гэтым разам ён прыгадаў чамусьці акопы пад Харкавам...**

**Ноч... Ды такая цёмная, хоць вока пальцам выкалі. Недзе далёка бухаюць гарматы, і зусім блізка ірвуцца снарады. Ён прыслухоўваецца да стогну сухое зямлі. Каля суседняй лініі нехта крыкнуў нема і змоўк. Пасьля яшчэ, яшчэ, яшчэ... Яшчэ мацней напружваецца слых. Сяргей стараецца ўчуць апошняе слова чалавека перад скананьнем. Раптам нешта зазьвінела і -- сьціхла... Можа й ня сьціхла, можа яшчэ страшней грымела і стагнала навакольле -- Сяргей нічога ня чуў і ня бачыў. Толькі ўраньні, крыху ачуняўшы, ён убачыў, што ягоная галава ляжала на разарваным жываце свайго таварыша і што сам ён увесь быў у крыві, а рукі -- пакалечаныя й цяжкія, бы тыя набраклыя бярвёны...**

**-- А цяпер увесь, як бервяно, а можа нават больш, -- як гнілая калода... Думаю, і нічога ня думаецца, гляджу й нічога ня бачу. Ліха ведае, што сталася са мною, -- ціха сказаў Сяргей і падышоў бліжэй да вакна. У небе ярклі і дрыжэлі зоры, а месяц, здавалася, стаяў, як укапаны, не раўнуючы, як і сам Кастрыца.**

**«Няўжо й Рыпіна гэтак блага чуецца? Не, яна пакуль што гаспадыня, а я -- нявольнік. Яна мае пры сабе Волечку, а я -- халодныя**

**зоры і аслупянелы месяц», -- гэтакія параўнаньні мільганулі ў блытаных Сяргеевых думках.**

**Доўга яшчэ думаў ён і надумаўся напісаць да жонкі. Гэта будзе першы ягоны ліст: дагэтуль не хацелася хваляваць ейнага сэрца. «Эт, зажылі, -- думалася яму, -- раны, зарубцаваліся й няхай сабе маўчаць да пары, да часу, бо калі шмарганеш зьнячэўку па іх другім рубцом, -- ачнуцца, і зноў будзе непакой і небалазе».**

**-- Наважанае мусіць збыцца, напішу, -- сказаў Сяргей. -- Толькі вось адно: на чым напісаць? Усе даўно ўжо сьпяць, і не выпадае самому пароцца ў чужых скрынках: за злодзея прымуць сябры. А далей было больш цяжкае і пакутнае: «Не паможа ні аловак, ні папера... Хіба ільга куксамі напісаць ліст? Застаецца адно: памазаць дзёгцем абрубкі рук, зрабіць імі адбіткі на анучыне, а заўтра папрасіць каго-небудзь, каб ушыў у паперыну гэты нязвычайны ліст, і квіта... Жонка пабачыць і зразумее, што жыве пакуль на белым сьвеце ейны Сяргей Кастрыца ды ня толькі жыве, але і дбае і пра сям'ю, і пра гаспадарку».**

*** * ***

**Ураньні пабудзілі Кастрыцу ягоныя сябры з бараку. Сорамна было яму пазіраць у вочы мужчынам, якія таксама пазіралі на яго й меліся, відаць, нешта сказаць, але не адважваліся. Не хацелася гаварыць Сяргею, як гэта сталася, ды, мусіць, і сам ён ня ўсё добра ведаў. А калі-б і ведаў, то навошта было гаварыць? Кожнаму свайго клопату й гора стае. Абвёў ён вачыма яшчэ раз усіх мужчынаў, але гэтым разам так, што тым здалося, нібы Кастрыца шукае некага вінаватага. Ён адчуў гэта, пададзіцячаму ўсьміхнуўся й падумаў: «Каб толькі ведалі вы, хто такі Кастрыца й чаго ён варты!». Потым, ашчаперыўшы куксамі лысіну, ён доўга моўчкі сядзеў і ня чуў нават таго, што гаварылася пра яго самога:**

**-- Дзіўна неяк захоўваецца наш беларус!..**

**-- Ці ня драла думае ён даць?**

**-- Не, пэўна, пакрыўдзіўся на некага.**

**А стары Лявон з-пад Капыля зьвёў гаворку да жарту:**

**-- Што тут гаварыць ды прастарэкваць... Упадабаў чалавек кабеціну нейкую, рыбачку, закахаўся, уліп, як прус у саладуху, а цяперака сядзіць і думае, што калі дазнаецца, ня дай Божа, жонка, дык усю жоўтую макаўку скруціць з карку. А вы -- драла... Дзівакі...**

**Мужчыны зарагаталі ды так моцна, што Сяргей, стаўшы раптам на ногі, таксама засьмяяўся, хоць і ня ведаў, зь якое прычыны рагаталі мужчыны.**

**-- Сяргей, -- азваўся Піскун, самы гаваркі жыхар бараку, -- невады на пагулянку пайшлі, а ты ўсё думаеш і думаеш. Няхай конь думае -- у яго галава вялікая...**

**-- Няхай яны спрахнуць, тыя невады, клопат мне вялікі. Ня бацька спраўляў, ня сын езьдзіць... Без невадоў наловяць з такімі галовамі, як у цябе... -- доўга ня думаючы, паціху, але зусім сур'ёзна, адказаў Кастрыца.**

**Калі ўсе адступіліся й пачалі рыхтавацца да выезду на мора, Сяргей падышоў да таго самага старога Лявона і сказаў гэтак:**

**-- Ты, браце, таксама беларус. Душы нашыя і кроў -- роўныя, а грахі -- Бог зь імі з грахамі -- невялікія. Так што ня цэлы век сушыць нас тут будуць. Трапім калі-небудзь і дадому. Так што, браце, я хацеў-бы цябе папрасіць, каб ты гэта напісаў ад мяне, значыцца, ліст да мае Рыпіны... Ня шмат, ат, сёе-тое, ды годзе.**

**Лявон адразочку згадзіўся. Ён, каб вы ведалі, надта-ж быў добрым чалавекам, ну, як вам сказаць, такі, як і Сяргей, -- шмат мелі яны супольнага. Лучыла іх нават і тое, што ніводзін ня ведаў, на колькі іх пакаралі, дарма што справы іхнія былі зусім розныя. Таму й ня мог Лявон пакрыўдзіць свайго чалавека.**

**«Сёе-тое», як гаварыў Сяргей, ня так ужо хутка й лёгка пісалася. Толькі пачне Лявон пісаць, а Сяргей:**

**-- Не, браце, ня гэтак, а гэтак няхай будзе.**

**А гэтых «гэтак» было нямала. Нарэшце напісалі. І было ў тым лісьце вось што:**

**«Дарагая мая Рыпінка й любая дачушка Волечка!**

**Гэты самы ліст ад мяне, ад вашага Сяргея Кастрыцы. Вы, мусіць, думалі, што мяне й на сьвеце нямашака, а я жыву. Я то, Рыпінка й Волечка, кажу, што не -- гнію, а яны -- жывеш... Ня пісаў я, бо не хацеў балячак рабіць у вашых сэрцах. Сядзяць няхай, думаю, сьціхатою... Ня крыўдуй на мяне, Рыпінка, і ты, Волечка, ня злуйся. А яшчэ, ну, як гэта, ня думайце, што нешта нядобрае раблю тутака... Я, Рыпінка, і цяпер ёсьць тваім мужыком і Волечцы бацькам. Лысіна мая стала яшчэ большай, і нешта трохі не дабачу, а заўважыў гэта, калі глядзеў у кашулі... (далей некалькі слоў было зацухмолена), з палец велічынёю зараза гэтая... Ты, Рыпінка, даглядай гаспадарку, глядзі, каб не памерзьлі пчолы. Мёду мне ня шлі, усё роўна зьесца некім у дарозе. Ашчаджай, нам-жа трэба мець капейчыну. Калі жарабок гультуе й да яго ня водзяць, -- прадай і купі яшчэ адну карову, выгады больш мець будзеш. Вазьмі ў Сымона Чабарэты чатыры цапы, помніш, нашыя тыя, што з жоўтымы сырамяткамі, і швайку ў Банадысевага Івана. То ведайце-ж, што, як мне кажуць, жыву тут і гэтага вам жадаю. Ваш Сяргей Кастрыца».**

## Андрэй Сякера
## (Навэля)

### 1

**Андрэй ня чуў, калі зачыніліся за ім дзьверы. Апынуўшыся на мокрым цёмным ходніку, ступіў некалькі крокаў і, зябка здрыгануўшыся, спыніўся.**

**-- Куды-ж гэта яно мне? -- сударагава зашавяліліся ягоныя палушчаныя пазаўчарашняю гарачкаю губы. -- Сюды ці туды?..**

**-- Сюды, чалавеча, сюды... -- зазьвінелі, здалося яму, у правым вуху выразныя словы нейчага спагадлівага жалю.**

**-- Пэўне-ж сюды... -- зашавяліліся ізноў губы.**

**І Андрэй Сякера, сьціснуўшы рукою вузел клунку, кінуўся ў правы бок.**

**Ён ніколі ня быў у гэтым крывым няпрыемным завулку. Ён ня ведаў навет і самых Шыбеніцаў. Толькі адзін-аднюткі раз на сваім вяку быў ён у маладзіковую нядзелю на Шыбеніцкім кірмашы. І было тое даўно, тады, калі «багацей Сякера», як з пашаноўляй звалі іржаўцы Андрэя, прывозіў на продаж гладкую белабокую цялушку свае гадоўлі. І цяпер яму ўсё роўна куды ісьці. Аднак кінуўся ў падказанае «сюды» -- у правы бок, -- думаючы барджэй мінуць шалёны будынак і апынуцца ў відне нейкага далёкага ліхтара, што, здавалася, міргае, хістаючыся густым мокрым ветрам, каб выбавіць чалавека з глухой цішыні завулку й паставіць яго худым валасатым тварам да ягонае роднае Іржаўкі.**

**Сьпяшаючыся, Андрэй пасьлізнуўся, хлюпнуўся левым каленам у лужыну, наткнуўшыся грудзьмі на адтапыраную з плоту штакеціну. Ад болю навіліся сьлёзы, рука выпусьціла клунак, і парывісты кастрычніцкі вецер выхапіў халодны скрыгат зубоў і прыглушыў яго шумам мокрых кляновых кронаў. Падняўся, прытуліўся плячыма да плоту, каб ізноў ня ўпасьці. Ад замараку Андрэю здалося, што нехта дужы ўхапіў яго вышэй локцяў і пачынае ізноў валачы ў той самы будынак, дзе ён пакінуў пярэднія зубы, кончык адбітага зубамі языка й пахварбаваную крывёю падзёртую зрэбную кашулю... Зь перапалоху крыкнуў і так моцна, што навет не пачуў, як аднекуль зблізу вырваўся раптам глухі страхотны голас: «Ходу няма. Назад!». І толькі тады, калі той самы голас уварваўся ў вушы другім наваратам, Андрэй, ачнуўшыся ад прывіду, апраўдаўся: «Мяне-ж пусьцілі дадому»... І пайшоў назад -- у левы бок.**

**На бруку шыракаватай вуліцы, ледзь-ледзь асьветленай двума ліхтарамі, сакаталі колы трох калгасных хурманак. На першай Сякера пазнаў цукровыя буракі з бацьвіньнем, на другой -- пукатыя мяшкі, накрытыя рабымы посьцілкамі, а на трэцяй -- самай даўгой і высокай -- увязаныя вераўчакамі карчакі на распал у печы. Андрэй здагадаўся, што людзі вязуць усё гэта на продаж і не абы-дзе, а на Шыбеніцкім рынку.**

**Гэтак ён увазнаў дарогу й пайшоў, мінаючы хурманкі, на ўскрай Шыбеніцаў, адкуль пойдзе спачатку гасьцінцам, а потым -- адтуль, дзе гасьцінец збочвае да спаленага летась вялікім пяруном калгаса «Круты уздым» у старых багатых Стаўбуновічах -- возьме нацянькі, пярэйдзе каля муроў сыраварні, разбуранае ў дваццаць дзявятым годзе, уброд раку і сьценкамі напрасткі ў Іржаўку.**

**Так думаў Андрэй Сякера, ідучы на ўскрай Шыбеніцаў.**

**2**

**Нешта каля трэціх пявуноў, калі Андрэй Сякера мінаў ужо Шыбеніцкія могільнікі, ушчалася навальніца. Цяжка было ісьці, хворыя балючыя ногі ня трымалі на сабе спакутаванага ў турме цела. Маланка раз-пораз асьляпляла Андрэевы вочы ды ізноў упірала іх у пустую чэрню ночы. Раскацістыя грымоты і ўзьюшаны вецер зьбівалі з тропу. На целе -- ні сухога рубца. А дадому ісьці трэба, і трэба сьпяшацца. Бог сьвяты ведае, што там дома робіцца! Гэта-ж паўвеку, здаецца, прайшло, як Андрэй ня бачыў ні Тэклі, ні Аленкі. Заўтра-ж ёй васемнаццаты гадок. Тэкля зь вялікай радасьці будзе плакаць і выціраць хвартухом сьлёзы, а Аленка абдыме бацьку, выцалуе аброслыя шчокі й не адступіцца ні на часіну.**

**Радасныя думкі абарваліся сыгналам грузавіка. І сталася гэтак: Андрэй, стараючыся адступіцца набок, каб добра разьмінуцца з грузавіком, чамусьці апынуўся пасярэдзіне гасьцінца. Грузавік заскрыгатаў і спыніўся каля самага Андрэя. Раззлаваны шофэр пачаў крычаць і лаяць чалавека-разявяку, які стаіць, як той вадзянік, і не варушыцца. Аднак, зірнуўшы на ягоныя лахманы, на падвязаныя матузамі ашчэраныя падэшвы выцертых ушчэнт бесхалявак, на невялікі чорны клунак, зжаліўся:**

**-- Куды, бацька, паўзеш такою парою? Га?**

**-- Дадому. У Іржаўку, -- вінавата адказаў перапалоханы Андрэй Сякера, адступаючыся ўбок. Грымоты зьбілі мяне з панталыку... Можа-б падвёз, сынок, калі па дарозе?**

**-- Давай, вадзянік, у кузаў, -- загадаў шофэр і падпіхнуў Андрэя на бакавіцу грузавіка. Калі-ж той нечым забараніў, шофэр ужо зусім ветліва параіў:**

**-- Глядзі-ж, бацька, не зваліся. Трымайся! Дарога выбоістая.**

**Грузавік заскрыпеў, заскрыгатаў і паімчаўся, абіваючы нечым мулкім балючыя Андрэевы бакі. А дождж -- нябывалы, як з луба. Учасьціліся й маланкі. Пры іхнім вокамгненным сьвятле Андрэй Сякера ўбачыў у кузаве грузавіка дзьве навюткія нехварбаваныя труны й пачуў нейкія нечалавечыя цягучыя стагноты. Андрэя апанаваў жудасны страх. Ён, ня могучы вымавіць ані слова, пачаў стукаць кулакамі ў шыбіну шофэравае кабіны. Шофэр, чуючы грымоты, пяруны і стукатню трунаў,**

**не здаўмеўся, што гэта барабаніць ягоны «вадзянік» у кузаве. Пазьней, калі вярнуўся Андрэю дар мовы, шофэр пачуў ягоны голас ратунку:**

**-- Стань, чалавек Божы! Стань! Мерцьвякі твае варушацца!.. -- крычаў Андрэй, малоцячы кулакамі ў шыбіну шофэравае кабіны.**

**Шофэра гэты енк узлаваў, і ён хацеў высадзіць няўдзячнага баязьліўца, але-ж чалавек -- чалавекам і жаль чалавечы ў сэрцы сваім мае. Такім надвор'ем і сабакі крыўдзіць ня можна. Гэтак падумаў, памякчэўшы, шофэр, пачуўшы, можа, трэцім навaратам тое самае:**

**-- Стань, чалавек Божы! Стань! Мерцьвякі твае варушацца!..**

**Прыцішыўшы язду, шофэр прыклаў шчаку да шкла і, крычучы, ізноў парадзіў:**

**-- Гэта шыбеніцкая цялушка... шырпатрэбаўская... У другую труну хавайся, бацька!.. Хавайся!**

**Ляскочучы зубамі, Андрэй зьвіхнуў века труны, зь якой ня чутно было стогну, улез у яе, выпрастаўся і накрыўся тым самым векам.**

**Стомлены і целам і душою, Андрэй неўзабаве заснуў.**

**3**

**«...Пра тое, што чуў і бачыў, -- нікому ані слова. Ні жонцы, ні родным, ні блізкім, Андрэй Сякера»... «Стаў свой крыжык!» -- стагнаў у сьне Андрэй, хаваючы ў кішэні лахманоў пакінутыя ў Шыбеніцах пярэднія зубы, кавалачак адбітага зубамі пры катаваньні языка й пахварбаваную крывёю зрэбную кашулю...**

**Стагнаў і сьцішыўся...**

**На сьвітаньні грузавік спыніўся каля канторы «Іржаўскі шырпатрэб».**

**Века труны, у якой, расчыніўшы валасаты рот, соладка спаў Андрэй, ляжала збоку, каля левае бакавіцы грузавіка. Шофэр, будзячы свайго «вадзяніка», адштурхнуўся ад нечаканага зьдзіўленьня назад:**

**-- Дык гэта-ж ты... Наш Андрэй Сякера...**
**Сьпяшайся-ж, чалавеча, дадому!.. Сьпяшайся!..**

**4**

**На парозе хаты Андрэя Сякеру пераняла ягоная суседка Лукера. Узяла за рукі, сьціснула, зірнула ў вочы, заплакала й потым, апусьціўшы галаву, сказала:**

**-- Чакала бедная Тэкля... і не дачакалася... Пухам ёй будзе наша сьвятая зямелька...**

**5**

**Папаўдні Андрэй Сякера адчыніў дзьверы «Іржаўскага шырпатрэбу»...**

**1958**

## Пэдагагічныя ідэі Яна Амоса Коменскага
### Да 370-й гадавіны з дня нараджэньня

**Клясык беларускай літаратуры Максім Багдановіч, адзначаючы трохсотпяцідзясятую гадавіну з дня нараджэньня Галілея, пісаў, што Галілей пранізаў сваім разумовым позіркам цёмную далеч стагодзьдзяў і для нас зьявіўся ўжо не з ганебным кляймом «адступніка», а са сьветлым тварам усёперамагаючай праўды. Гэтыя словы паэта добра стасуюцца й да сына беднага мельніка, вялікага чэшскага пэдагога Яна Амоса Коменскага, з дня нараджэньня якога мінула нядаўна 370 гадоў.**

**Пэдагагічную дзейнасьць пачаў Ян Амос Коменскі ў першай чвэрці XVII стагодзьдзя. Грамада «багемскіх братоў» (так называлі сябе пасьлядоўнікі правадыра рэфармацыі ў Чэхаславаччыне Яна Гуса) прызначыла Коменскага спачатку за настаўніка ў адну з лацінскіх школаў, а праз год і за кіраўніка тае-ж самае школы. У 1618 годзе Коменскі стаўся ўжо рэктарам школы і сьвятаром. На гэтым становішчы Ян Амос Коменскі выявіў сябе выразна акрэсьленым пэдагогам-рэфарматарам і глыбока перакананым дэмакратам-гуманістам. Сіла гэтых вялікіх якасьцяў была надзейнай зброяй Коменскага ў ягоным навуковым і практычным змаганьні з моцнай у тыя часы спадчынай схалястычна-дагматычнай сыстэмы асьветы сярэднявечча.**

**«Асьвета патрэбная ўсім». «Трэба вучыць усіх і ўсяму». «Усе, знаныя й нязнаныя, багатыя й бедныя, хлопчыкі й дзяўчаткі мусяць вучыцца... каб кожны, хто жыве на сьвеце, знаў, што ў гэтым сьвеце адбываецца», -- пісаў і гаварыў Ян Амос Коменскі. «Ня трэба хаваць навуку ў кнігах дзеля вучоных, -- падкрэсьліваў ён, -- трэба, каб веды былі даступныя ўсім; трэба, каб кожны пісаў перш-наперш дзеля свайго народу». «Школа -- майстэрня сьвятла». «Школа -- майстэрня мудрасьці й чалавечнасьці».**

**Цяжка было ўжыцца ў тагачаснай Чэхаславаччыне сьветлым ідэям пэдагога-рэфарматара й дэмакрата-гуманіста. І Ян Амос Коменскі з трыццацьцю тысячамі чэшскіх сем'яў апынуўся ў 1628 годзе на тэрыторыі Польшчы. Тут Коменскі й напісаў у 1631 годзе свой знаны падручнік «Адкрытыя дзьверы да моваў» і сваю галоўную, выдатную працу «Вялікая дыдактыка». Абедзьве працы адразу зьвярнулі на сябе ўвагу перадавога пэдагагічнага сьвету ў Заходняй Эўропе, Амэрыцы й нават у асобных краінах Азіі. Кніга «Адкрытыя дзьверы да моваў» была неўзабаве перакладзеная на 12 эўрапейскіх і 4 азіяцкія мовы. «Вялікую**

**дыдактыку» пераклаў у тагачасную міжнародную літаратурную лацінскую мову сам Коменскі.**

**Цікава адзначыць, што «Вялікая дыдактыка», у якой геніяльна абагульненыя пэдагагічная тэорыя і практыка XV-XVII стагодзьдзяў ды створаная новая стройная тэорыя пэдагагічнае навукі й сыстэма народнае асьветы й выхаваньня, была перакладзеная ў расейскую мову праз 220 гадоў пасьля ейнага выданьня, а кніга «Адкрытыя дзьверы да моваў» ажно праз 262 гады! Не лягчэй прабіваліся ў «цёмнае царства» прыгоннае й пасьляпрыгоннае расейскае імпэрыі і ўсе іншыя навукова-пэдагагічныя працы Яна Амоса Коменскага.**

**Сыстэма народнае адукацыі Коменскага падзяляецца на чатыры ступені ў такім парадку: матчына школа, школа роднае мовы, гімназія і акадэмія. Матчына школа -- гэта выхаваньне дзяцей у сям'і да шасьцігадовага ўзросту. Роля выхавальніка, першага пэдагога належыцца самой маці. Яна, гаворыць Коменскі, мусіць сачыць за харчаваньнем дзіцяці, за ягоным здароўем, за гульнямі і адпачынкам. Маці мусіць ахоўваць дзяцей ад благіх уплываў, спрыяць разьвіцьцю пачуцьцяў, успрыманьняў і добрых густаў. Асаблівую ўвагу зварачаў Коменскі на разьвіцьцё роднае мовы дзіцяці, на вершы й казкі ў роднай мове, якія разьвіваюць першапачатковую фантазію дзіцяці; на выхаваньне ў ягонай сьвядомасьці павагі да родных звычаяў, да ўсталенага ў хаце бацькоў традыцыйнага ладу й парадкаў. Дзеля гэтага, гаварыў Коменскі, маці мусіць мець адпаведную адукацыю й быць вольнаю ад усякае працы. Маці -- цэнтральная фігура ў сям'і, выхавальнік «чалавека ў вечным шчасьці з Богам».**

**Школа роднае мовы, паводле сыстэмы Коменскага, абымае дзяцей ад шасьці да дванаццацігадовага ўзросту. Гэта адзіная агульная школа для дзяцей усіх пластоў грамадства. Усё навучаньне адбываецца толькі ў роднай мове, уключаючы катэхізіс і сьвятое пісьмо. «Нельга навучаць дзяцей іншаземнай мове да таго часу, пакуль яны не апануюць родную мову». У адваротным выпадку, гаварыў Коменскі, гэта нагадвала-б «навуку» езьдзіць конна, перш чым навучыць хадзіць уласнымі нагамі. У школе роднае мовы вывучаецца прыродазнаўства й геаграфія, але ў першую чаргу -- прырода й геаграфія свае бацькаўшчыны.**

**Вялікую цікавасьць становіць апошняя ступень у сыстэме народнае адукацыі Яна Амоса Коменскага -- акадэмія. Навучаньне ў акадэміі, гаворыць Коменскі, мусіць заканчвацца абавязковым падарожжам на бацькаўшчыне і ў розных краінах сьвету. Мала чытаць дазволеныя кнігі, пісаў чэшскі пэдагог, «кніга -- сьляпы настаўнік». Будучыя культурна-асьветныя грамадскія дзеячы й навукоўцы мусяць сваімі вачыма бачыць сьвет, знаёміцца зь ягоным парадкам, з навукай, культурай і асьветай розных народаў сьвету. Свабоднае падарожжа, падкрэсьліваў Коменскі, паглыбіць атрыманыя ў акадэміі веды й дасьць**

**магчымасьць рабіць самастойныя цікавыя выснавы. Ува ўсіх выпадках Коменскі дамагаўся аднаго: дзе-б хто ні быў, аб чым-бы ён ні пісаў, -- мусіць пісаць у сваёй роднай мове, пісаць для свайго народу.**

**Мусім адзначыць, што на такіх культурна-рэфарматарскіх, дэмакратычна-гуманістычных пазыцыях стаялі -- да Коменскага і ў ягоную эпоху -- і шмат якія нашыя вялікія продкі: Францішак Скарына, Лаўрэнцій Зізані, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Мілеці Сматрыцкі, асьветнік, вучоны, паэт і манах Сымон Полацкі ды іншыя. Як і Коменскі, яны змагаліся за асьвету ў роднай мове. У роднай мове пісалі яны свае навуковыя працы й літаратурныя творы. Перакладалі ў родную беларускую мову кнігі тагачасных вучоных і кнігі сьвятога пісьма -- Біблію, Эвангельле, Катэхізіс ды іншыя. Так як і Коменскі, былі змушаныя ўмовамі жыцьця аддаваць бальшыню свайго жыцьця й таленту чужыне. Напрыклад, Сымон Полацкі змушаны быў вучыць і выхоўваць ня толькі дзяцей упрывілегіяваных людзей Маскоўшчыны, але й нашчадкаў самога цара. Полацкі адыграў вялікую ролю ў культурным жыцьці расейскае дзяржавы. Ягоныя выдатныя вершы зрабілі вялікі ўплыў на разьвіцьцё клясычнае расейскае оды XVIII стагодзьдзя... А граматыка Сматрыцкага, напрыклад, трапіла ў Сэрбію і Балгарыю амаль адначасова з асноўнымі творамі Яна Амоса Коменскага.**

**Вялікія пэдагагічныя ідэі Коменскага, як і ідэі нашых вялікіх продкаў, цяжка прабівалі сабе шляхі ў царскай імпэрыі. Тлумачылася гэты рэакцыйнай, антынароднай палітыкай самаўладства, якое душыла нацыянальныя мяншыні і зьневажала іхнюю родную мову і культуру. Не лягчэй прабіваюцца іхнія ідэі і ва ўмовах камуністычнае імпэрыі, якая ўспадкаёміла шмат якія рэчы далёкага мінулага. Што-ж да свабоды думкі й слова, сьвежых, хоць і даўніх, ідэяў, савецкая рэчаіснасьць становіць вельмі-ж няпрыдатную глебу.**

**Спадзяемся, аднак, што сьвятло праўды, дэмакратыі й гуманізму, за што змагаўся вялікі чэшскі пэдагог Ян Амос Коменскі ды нашыя слаўныя продкі, выйдуць рана ці позна на сьвятло боскае і стануцца залатым фондам у скарбніцы культуры, асьветы й навукі на землях нашае Бацькаўшчыны Беларусі.**

**1962 г.**

## БІБЛІЯГРАФІЯ
## ТВОРАЎ УЛАДЗІМЕРА ДУДЗІЦКАГА

### СКАРАЧЭНЬНІ

| | |
|---|---|
| **Уладзімер Дудзіцкі. Напярэймы жаданьням. Збор твораў. Нью-Ёрк, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, 1994, 312+ XXIX б.** | **Напярэймы жаданьням** |
| **Ля чужых берагоў. Альманах твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў. Мюнхэн, «Бацькаўшчына», 1955, 230 б.** | **Ля чужых берагоў** |
| **«Гаворыць радыё "Вызваленьне"». Выбраныя матар'ялы Беларускае Рэдакцыі. Кніжка першая. Стараньнем Беларускае Рэдакцыі Радыя «Вызваленьне». Мюнхэн, 1956, 144 б.** | **«Гаворыць радыё "Вызваленьне"»** |
| **Архіў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Нью-Ёрк** | **(Архіў БІНіМа)** |
| **Архіў Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага. Нью-Ёрк** | **(Архіў Фундацыі)** |

### ПОДПІСЫ. ПСЭЎДАНІМЫ. КРЫПТАНІМЫ

| | |
|---|---|
| **Ул. Гіцкі** | **У. Г.** |
| **Ул. Гуцька** | **Ул. Д.** |
| **Мікола Дварэцкі** | **У. Д.** |
| **Уладзімер Дудзіцкі** | **У. Д-і** |

**Уключаныя ў бібліяграфію творы і выданьні апісаныя de visu.**

---

**Абразок.** Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 269. Гл. **Куды вочы глядзяць...** (Апавяданьне).

**«Адарві ды выкінь».** З радыёвай хвалі «Вызваленьне». Надрукавана: «Бацькаўшчына», !4 (338), 27 студзеня 1957.

**«Ад Каракасу да Маракаі...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 200.

**«Адкрываць ня ўмею ніякіх Амэрык я...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 200.

**«Ад маленства і жыў і рос там...». Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 195.**

**Адменная ода («Твая слава ня мной расьпечана...»).** Надрукавана: «Шыпшына», !9, 1950, б. 4; Ля чужых берагоў, б. 57; Напярэймы жаданьням б. 143; у цыклі (Вязанка вершаў, 4): «Бацькаўшчына», !32-33 (214-215), 29 жніВеня 1954. Пераклад на польскую мову Юзафа Лабадоўскага надрукаваны: «Конадні», !2, 1954, б. 50.

**«Адцьвіла маіх надзеяў ружа...».** Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 112.

**Андрэй Сякера** (Навэля). Надрукавана: «Бацькаўшчына», !45-46 (431-432), 30 лістапада 1958.

**Апавяданьне.** Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 258; «Бацькаўшчына», !42-43 (376-377), 31 кастрычніка 1957, назва **Сэрца Паўла Бурэ.**

**«Апошні ліст календара...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа), першае чатырохрадкоўе. Надрукавана: «Бацькаўшчына», !4 (390), 26 студзеня 1958; Напярэймы жаданьням, б. 205, першае чатырохрадкоўе.

**Апошняя малітва** («Яшчэ раз кленчу я ля сьценаў Храма...»). Надрукавана: «Пагоня», !1, сьнежань 1945, б. 14; «Божым шляхам», !1, 1947, б. 11; Напярэймы жаданьням, б. 113.

**А ратунку ня было й няма** («Колер неба хмары ўслалі густа...»). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 12; у цыклі вершаў (Песьні няволі, 3): «Новы шлях», !20 (32), 1943, б. 15.

**А я -- наадварот...** («Вы кажаце, што не?..»). Рукапіс (Архіў БІНіМа), назва **Наадварот** і прысьвячэньне -- «Далакопам...». Надрукавана: «Шыпшына», !4, 1947, б. 19; у нізцы вершаў (Выбраныя вершы, 13): «Бацькаўшчына», !47-48 (277-278), 27 лістапада 1955, назва **Наадварот;** Напярэймы жаданьням, б. 5.

**Балючым накіпам свае крыві** («Адчуў на скрыўджаным парой пагосьце...»). Рукапіс (Архіў БІНіМа), назва **Рудая, чорная**. Надрукавана: «Голас вёскі», !47 (101), 25 лістапада 1943, назва **Вясна жыве;** «Беларускі работнік», !39, 24 верасьня 1944; «Пагоня», !3, чэрвень-ліпень 1946, б. 5-6; Напярэймы жаданьням, б. 42.

**Бацькі й дзеці. Да пытаньня ўзгадаваньня маладога пакаленьня.** Надрукавана: «Беларуская газэта», !15 (35), 9 сакавіка 1942. Подпіс Ул. Гуцька.

**Беларускае Культурнае Згуртаваньне.** Надрукавана: «Новы шлях», !8 (44), красавік 1944.

**Беларускай моладзі** («Дарма, што сплямлены наш сад...»). Рукапіс (Архіў БІНіМа), назва **Шуміць пад зорамі краса** (Экспромт) і прысьвячэньне Баранавіцкай моладзі. Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 53.

**Блакіт вачэй** («Усьмешкай сэрца мне параніў...»). Машынапіс (Архіў БІНіМа), прысьвячэньне В. Б-й і заўвага аўтара: «Раманс напісаў кампазытар Мікола Шчаглоў». Надрукавана: «Новы шлях», !8 (20), 1943, б.15; Напярэймы жаданьням, б. 60.

**Блізкі і такі знаёмы** («Часта чую сьлёзна-шчыры, любы голас...»). Рукапіс (Архіў БІНіМа), заўвага аўтара: «Урывак з пачатае паэмы «Зязюля». Надрукавана: «Пагоня», !3, чэрвень-ліпень 1946, б. 4; «Голас вёскі», !28 (82), 15 ліпеня 1943; Напярэймы жаданьням, б. 63. Пераклад на ўкраінскую мову Б. Аляксандрава надрукаваны: «Літаври», !3, чэрвень 1947, б. 48-49, Зальцбург, заўвага перакладчыка: «Сярод беларускага народу жыве даўняя легенда пра зязюлю. Кажуць, што зязюля была калісьці жанчынаю і жыла ў пары зь Якубам. Аднаго разу Якуб апусьціўся на дно мора, каб дастаць адтуль утопленае ворагамі шчасьце. Доўга чакала Зязюля Якуба, пасівела, чакаючы, але Якуб не вярнуўся. Зьлітаваўшыся, Богператварыў Зязюлю-жанчыну ў зязюлю-птушку і загадаў, каб яна кожны год вясною клікала свайго Якуба і так распавядала пра сваё гора людзям. З таго часу і кліча яна сваю пару. Яе голас "ку-ку" нагадвае раздвоенае слова-імя "Я-куб"... Верш зьяўляецца ўрыўкам з паэмы, над якой цяпер працуе аўтар».

**Была восень** («Бяз прычын ня бывае гора...»). Надрукавана: «Новы шлях», !8 (39), 1944, б. 13; Напярэймы жаданьням, б. 59.

**Былое трупам мусіць пасьці** («Я дружбы з радасьцяй ня меў...»). Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 65.

**Васільковыя гады** («Адцьвілі сады. Завялі ружы...»). Надрукавана ў цыклі вершаў (Падбітыя рытмы, 1): «Бацькаўшчына», !28-29 (310-311), 15 ліпеня 1956.

**«Веру я ў сілу сілаў...».** Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 114.

**Верш** («Падышла і сказала...»). Рукапіс (Архіў БІНіМа), назва **Часіны трывогі**. Надрукавана: «Новы шлях», !20 (32), 1943, б. 13; Напярэймы жаданьням, б. 54.

**«Вечарэла, стомлены, ля ганку...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 197.

**Вільні** («Упяршыню сустрэў твае муры...»). Надрукавана: «Беларуская газэта», !38 (256), 18 травеня 1944; Напярэймы жаданьням, б. 77.

**Віюцца чорныя дарог брыжы** («...І дзе ні стань...»). Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 197.

**Восень** («Хто сказаў, што цяпер нявесела?»). Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 157.

**«Вось і вуліца тая і ліпа...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 194.

**Вузкі стрыб дугі** («Сонца плавіцца, а я, дзівак, бажуся...»). Надрукавана ў цыклі вершаў (Журботныя струны, 9): Ля чужых берагоў, б. 64; «Бацькаўшчына», !12-13 (242-243), 25 сакавіка 1955; !15-16 (245-246), Вялікдзень 1955; Напярэймы жаданьням, б. 186.

**Вусны і песьні** («Прачніцеся, вусны і песьні...»). Надрукавана ў цыклі вершаў (Журботныя струны, 1): Ля чужых берагоў, б. 64; «Бацькаўшчына», !12-13 (242-243), 25 сакавіка 1955; !15-16 (245-246), Вялікдзень 1955; Напярэймы жаданьням, б. 178.

**Выбраныя вершы.** Нізка вершаў: 1. **Зь ліра-паэмы «Сьцені»** («Падышла і моўчкі села...»), 2. **Цьмяныя плямы** («Якое сьвету хараство!..»), 3. **Жыву і ня жыву** («Чым акрылю і ўсьцешу чым душу?..»), 4. **Навальніца** («На сьцежках крыжавых сустрэлі навальніцу...»), 5. **Напярэймы жаданьням** («Што-ж, снуюцца няхай сьмерці чорныя здані...»), 6. **Жывое праўдзівае слова** («Песьціў доўга цябе, шанаваў і сьцярог...»), 7. **І мала слоў...** («І мала слоў, каб выказаць настрой...»), 8. **Хутчэй, хутчэй...** («З-пад сьнегу першы ’шчэ храсток...»), 9. **Ля роднай бацькаўскай мяжы** («Ля роднай бацькаўскай мяжы»), 10. **Не зракуся** («Хіба шмат такіх вось нашых раніц...»), 11. **Не памру я** («Ні то восень, ні то вясна...»), 12. **Маем сілу і край свой** («Праўду кажуць: "Жывем"...»), 13. **Наадварот** («Вы кажаце, што не?..»), 14. **Пела мне маці** («Помню, у час вечаровы...»), 15. **Дымяцца хмары** («Дымяцца хмары. Неба край...»), 16. **З паэмы «Ружовы ранак»** («Ад болю ўсё яшчэ гудзе...»), 17. **Пціч** («За хваляй хваля ўсё шпарчэй...»). Надрукавана: «Бацькаўшчына», !40-41 (270-271), 9 кастрычніка 1955; !47-48 (277-278), 27 лістапада 1955.

**Вэнэцуэля.** Цыкль вершаў: 1. **Сіла рэчы** («Учора цяжка зробленая рэч...»), 2. **Помнікі і абэліскі** («На плошчы -- помнікі і абэліскі...»). Надрукавана: «Конадні», !5-6, 1958, б. 75; Напярэймы жаданьням, б. 189-190.

**Вязанка вершаў.** Цыкль вершаў: 1. «**Ня першы раз і не апошні, мусіць...»**, 2. **Дымяцца хмары** («Дымяцца хмары. Неба край...»), 3. **Цьмяныя плямы** («Якое сьвету хараство!..»), 4. **Адменная ода** («Твая слава ня мной расьпечана...»), 5. **Думка** («Хай, што хочуць, гаворацць людзі...»), 6. **І мала слоў...** («І мала слоў, каб выказаць настрой...»), 7. **На скрыжаваньні** («На скрыжаваньні -- тры крыжы...»). Надрукавана: «Бацькаўшчына», !32-33 (214-215), 29 жніваня 1954.

**Вязанка новых вершаў.** Цыкль вершаў: 1. **Даты і іксы** («Пакідаючы попел, узялі адно...»), 2. **Спрытныя жарты** («Сонца, важкое і вельмі чырвонае...»), 3. **Ні маністаў, ні зораў** («Я адзін ля вакна у суворай сяджу камяніцы...»), 4. **Каб хоць раз усьміхнулася шчасьце** («Каб ня рукі, а крылы магутныя меў...»), 5. **Пякельны дар** («У новы край, далёкі і нязнаны...»), 6. **Ня сыходзяцца горы з горамі** («Ня сыходзяцца горы з горамі...»), 7. **Прыйдзі** («З блакітнай вышыні прыйдзі, малю, хутчэй...»). Надрукавана: «Бацькаўшчына», !21-22 (152-153), 31 травеня 1953.

**Вялікія шэльмы** («У маленстве чужыя казалі...»). Прысьвячаецца Станіславу Станкевічу. Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 113; у цыклі вершаў (Журботныя струны, 11): «Бацькаўшчына», !12-13 (242-243), 25 сакавіка 1955; !15-16 (245-246), Вялікдзень 1955.

«Даруйце, ня толькі мяне, але шмат каго яшчэ, зьдзівіла Вашае прысьвячэньне вершу "Вялікія шэльмы" Станіславу Станкевічу. Для літаратараў відавочна, што Вы мелі на ўвазе чужых, якія казалі: "...эгзотыка нейкай Казані прыгажэй за лясоў Беларусі", але да сярэдняга чытача гэтае не дайшло, а прычапілася ў ягоным уяўленьні да Станіслава Станкевіча. Прыпушчаю, што Вы ня ўлічылі гэтую акалічнасьць, калі назоў з прысьвячэньнем не падпарадкуюцца волі аўтара і набываюць двухсэнсоўнае значэньне». (Зь ліста Юркі Віцьбіча Ўладзімеру Дудзіцкаму ад 16 травеня 1955)

**Вясна жыве** («Адчуў на скрыўджаным парой пагосьце...»). Гл. **Балючым накіпам свае крыві** («Адчуў на скрыўджаным парой пагосьце...»).

**«Гаварыла і "так" і "але"...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 197.

**«Гавораць, што ўсё ня гнуся я...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 203.

**Гады крылатыя** («Гады крылатыя, юнацкія гады...»). Надрукавана: «Новы шлях», !15(27), 1943, б. 14; Напярэймы жаданьням, б. 34.

**Гістарычная дата.** Надрукавана: «Беларуская газэта», !12 (230), 12 лютага 1944. Подпіс Ул. Гуцька.

**Гісторыя Сяргея Кастрыцы** (Апавяданьне Цыпрона Цырубалкі). Надрукавана: «Голас вёскі», !41 (95), 14 кастрычніка 1943; !52 (106), 31 сьнежаня 1943.

**Глухія шчасьця крокі**. Цыкль вершаў: 1. **Кавалачак неба** («Да плямкі шкляной вакна...»), 2. **Шчасьце** («У далоні меў тваю далонь»), 3. **Грахі** («Разышліся, як дарогі ў полі...»), 4. **Пракалоліся вочы жалю** («Я нічога зь сябе ня выжаў...»), 5. **Шлях** («Ня ўлукаткі, а проста -- напрасткі...»). Надрукавана: «Конадні», !4, 1955, б. 29; Напярэймы жаданьням, б. 173-177.

**Голас Барысаўшчыны.** Надрукавана: «Голас вёскі», !42 (49), 26 лістапада 1942. Подпіс У. Д.

**«Гора плача, мора стогне...».** Надрукавана ў нізцы вершаў (Максіму Багдановічу, 2): «Бацькаўшчына», !23 (357), 9 чэрвеня 1957.

**Горкія ўспаміны** («Цяжка ўспамінаецца зіма 1933 году...»). Уступнае слова аўтара да цыклю вершаў «Песьні няволі». Надрукавана: «Новы шлях», !20 (32), 1943, б. 15; Напярэймы жаданьням, б. 9.

**Грахі** («Разышліся, як дарогі ў полі...»). Рукапіс (Архіў БІНіМа), назва **За цёмныя горы.** Надрукавана ў цыклі вершаў (Глухія шчасьця крокі, 3): «Конадні», !4, 1955, б. 29; Напярэймы жаданьням, б. 175.

**«Да вас, суродзічы, да блізкіх і далёкіх...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 102.

**«Дагарэла сонечнае лета...».** Гл. **Не шкадую яго і ня плачу** («Лета выскубла жмук асакі...»).

**Да зброі, да чыну** («Прыслухайся, зноў, як калісьці, нас кліча...»). Рукапіс (Архіў БІНіМа), строфы 6 і 7 выдзелены як самастойны верш **Насуперак буры.** Надрукавана: «Беларуская газэта», !20 (238), 11 сакавіка 1944; Напярэймы жаданьням, б. 72.

**Далей і далей** («Хвалі ад берагу -- далей і далей...»). Надрукавана ў цыклі вершаў (Журботныя струны, 3): Ля чужых берагоў, б. 64; «Бацькаўшчына», !2-13 (242-243), 25 сакавіка 1955; !15-16 (245-246), Вялікдзень 1955; Напярэймы жаданьням, б. 180.

**Да пары, да часу...** («Пад Менскам, на могільніку...»). Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 171.

**Дарагія Юнакі і Юначкі (Ліст штандару «Гарц»).** Надрукавана: Скаўцкі бюлетэнь штандару «Гарц», !7-8, 31 жнівеня 1948, б. 4.

**«Дарма, што на чужой зямлі жыву...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 147.

**Дарога газэты.** Гістарычны нарыс. Надрукавана: «Голас вёскі», !45 (52), 18 сьнежаня 1942.

**Да родных, блізкіх і далёкіх (**Лісты). Нізка вершаў: 1**. «Ня крыўдуй, дарагая Мама...»,** 2. **«Ці мала мелюць чутак-баек...»,** 3. **«Радасьць якая, мой любы сыне...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 168-170.

«**Даруй, што я плачу...» (**Замест успамінаў**).** Надрукавана: «Беларускі работнік», !39, 24 верасьня 1944; Напярэймы жаданьням, б. 216.

**«Дарэмна прамяняў я сон начы...».** Надрукавана: «Шыпшына», !5, 1947, б. 26; Напярэймы жаданьням, б. 3.

**Даты і іксы** («Пакідаючы попел, узялі адно...»). Прысьвячаецца Юрку Віцьбічу. Надрукавана: Ля чужых берагоў, б. 59; Напярэймы жаданьням, б. 161; у цыклі вершаў (Вязанка новых вершаў, 1): «Бацькаўшчына», !21-22 (152-153), 31 травеня 1953.

**Дваццаць пяты** («Ні сіла наймітаў, ні блуд, ні звады змоў...»). Рукапіс (Архіў БІНіМа), падзагаловак: «Да 25-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі». Надрукавана: «Беларуская газэта», !24 (242), 25 сакавіка 1944; «Беларускае слова», !4 (5), 25 сакавіка 1949; «Бацькаўшчына», !11-12 (345-346), 25 сакавіка 1957; Напярэймы жаданьням, б. 70. Пераклад Гэрмана Рыдмюлера на нямецкую мову надрукаваны: «Minsker Zeitung», 1943.

**Дзьве дарогі** («Дзьве дарогі -- два шляхі...»). Надрукавана ў нізцы вершаў (Новыя вершы, 5): «Бацькаўшчына», !35-36 (369-370), 8 верасьня 1957.

**«Дзьверы -- насьцеж...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 195.

**Для несьмяротнай Беларусі.** Гл. **Маіх уяў ружовых ранак.**

**Думка** («Хай, што хочуць, гавораць людзі...»)**.** Гл. **Клятва духу.**

«**Думкі -- пыл ліпкое мелі...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 203.

**Думы мае, думы мае («**Думы мае, думы мае, цяжанька мне з вамі!..»). З Тараса Шаўчэнкі**.** Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 207.

**«Душылі іх майстры адметнай пробы...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 204.

**Дымяцца хмары** («Дымяцца хмары. Неба край...»)**.** Гл. **Зьвер двухногі.**

**«Ёсьць такія на сьвеце людзі...».** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !41-42(427-428), 2 лістапада 1958.

**«Ёсьць у нашай малітве словы...».** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !41-42(427-428), 2 лістапада 1958.

**Жалоба** («Было ды з вадою сплыло...»). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 163; у цыклі вершаў (Журботныя струны, 12): «Бацькаўшчына», !12-13 (242-243), 25 сакавіка 1955; !15-16 (245-246), Вялікдзень 1955.

**Жалобная струна** («Нялёгка сёньня пішуцца лісты...»). Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 107.

**Жаўтагрывістыя хмары** («З-пад стэпаў-пустак прытаўкліся...»). Гл. «**З-пад стэпаў-пустак прытаўкліся...»**

**Журботная вазёраў сінь** («Ня першы раз і не апошні, мусіць...»). Гл. **«Ня першы раз і не апошні, мусіць...».**

**Журботныя струны**. Цыкль вершаў: 1. **Вусны і песьні** («Прачніцеся, вусны і песьні...»), 2. **Неспадзявана** («Неспадзявана сьцішылі хаду...»), 3. **Далей і далей** («Хвалі ад берагу -- далей і далей...»), 4. **На ганьбішчы славы** («Прыляж да зямлі і паслухай, як кліча...»), 5. **Жыцьцё** («Шанаваў я цябе, кунежыў...»), 6. **Няпослуху дзівацкага сакрэт** («Патоляй сьвет ня лашчыў нас ніколі...»), 7. **Ля берагоў крывіцкае Нямігі** («Уецца шлях гразкою каляінай...»), 8. **Сябром** («Мякка сьцелюць, ды мулка спаць...»), 9. **Вузкі стрыб дугі** («Сонца плавіцца, а я, дзівак, бажуся...»). Надрукавана: Ля чужых берагоў, б. 64; Напярэймы жаданьням, б. 178-186. У газэце «Бацькаўшчына», !12-13 (242-243), 25 сакавіка 1955; !15-16 (245-246), Вялікдзень 1955 цыкль дапоўнены вершамі: 10. **Сьвітанак** («Сьвяжуткі зары сьвітанак...»)**,** 11**. Вялікія шэльмы** («У маленстве чужыя казалі...»)**,** 12**. Жалоба** («Было ды з вадою сплыло...»), 13**. Жылачка** («Пад кашуляй зь беларускага радна...»)**.**

**Жыве Беларусь.** З цыклю «Крывавыя сьцежкі». Надрукавана: «Беларуская газэта», !21 (239), 15 сакавіка 1944.

**Жыві...** («Час кароткі мне векам здаўся...»). Машынапіс (Архіў БІНіМа), прысьвячэньне В. Б-й. Надрукавана: «Новы шлях», !8 (20), 1943, б.15; Напярэймы жаданьням, б. 61.

**Жывое праўдзівае слова**. Цыкль вершаў з уступным аўтаравым словам **Скупыя заўвагі** (« Масква сьпявала...»): 1. **Жывое праўдзівае слова** («Песьціў доўга цябе, шанаваў і сьцярог...»), 2. **Навальніца** («На сьцежках крыжавых сустрэлі навальніцу...»), 3. **Маем сілу і край свой** («Праўду кажуць...»), 4. **На парозе пары** («Не багацьце і слава, а гонар душы...»), 5. **Па-над кручай** («Стаю па-над кручай...»). Надрукавана: «Новы шлях», !22 (34), 1943, б. 15; Напярэймы жаданьням, б. 14-22**.**

**Жывое праўдзівае слова** («Песьціў доўга цябе, шанаваў і сьцярог...»). Надрукавана: «Беларускі работнік», !39, 24 верасьня 1944, тры першыя чатырохрадкоўі; у цыклі вершаў (Жывое праўдзівае слова, 1): «Новы шлях», !22

(34), 1943, б. 15; Напярэймы жаданьням, б. 15; у нізцы вершаў (Выбраныя вершы, 6): «Бацькаўшчына», !40-41 (270-271), 9 кастрычніка 1955. Пераклад Б.Аляксандрава на украінскую мову надрукаваны: «Нові дні», 2 сьнежаня 1945, б. 3; «Нові дні», Ч. 1, люты 1950, б. 21.

**Жывой крыві жывыя цельцы** («Гулі вятры...»). Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: «Беларускі работнік», !39, 24 верасьня 1944, чацьвёртае чатырохрадкоўе; Напярэймы жаданьням, б. 29.

**Жыву і ня жыву** («Чым акрылю і ўсьцешу чым душу?..»). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 23; у нізцы вершаў (Выбраныя вершы, 3): «Бацькаўшчына», !40-41 (270-271), 9 кастрычніка 1955.

**Жылачка** («Пад кашуляй зь беларускага радна...»). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 164; у цыклі вершаў (Журботныя струны, 13): «Бацькаўшчына», !12-13 (242-243), 25 сакавіка 1955; !15-16 (245-246), Вялікдзень 1955.

**Жыцьцё** («Шанаваў я цябе, кунежыў...»).Надрукавана ў цыклі вершаў (Журботныя струны, 5): Ля чужых берагоў, б. 64; Напярэймы жаданьням, б. 182.

**«За горадам, як выдзьмуты пухір...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 195.

**«За горамі горы, хмарамі спавіты...»**. (Каўказ. Урыўкі з паэмы). З Тараса Шаўчэнкі. Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 210.

**«За днямі дні, і месяцы за імі...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 201.

**За культуру і асьвету.** Надрукавана: «Менская газэта», !1, 21 верасьня 1941; «Голас вёскі», !1, 1 кастрычніка 1941, подпіс Ул. Гуцька; «Раніца», !22 (56)-23 (57), 30 верасьня -- 10 кастрычніка 1941, подпіс Ул. Гуцька. Заўвага рэдакцыі: «Передрук зь "Менскай газэты"».

**Залатая зямлі мяцеліца** («Хто сказаў, што цяпер нявесела?»). Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 158.

**Замест разьвітаньня** («Нашу радасьць -- буйное калосьсе...»). Рукапіс (Архіў БІНіМа), заўвага аўтара: «Чарнавы накід. Верш, напісаны разам з Масеем Сяднёвым». Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 80.

**За нацыянальную беларускую школу.** Надрукавана: «Голас вёскі», !2, 17 кастрычніка 1941. Подпіс Ул. Гуцька.

**Запавет** («Як памру я, пахавайце...»). З Тараса Шаўчэнкі. Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: «Українські Вісті», !21, 12 сакавіка 1953; «Бацькаўшчына», !12-13(143-144), 25 сакавіка 1953; Напярэймы жаданьням, б. 206.

«Ул. Дудзіцкі зрабіў пераклад у Зальцбургу і першы раз прачытаў яго там 6 красавіка 1947 году на Шаўчэнкаўскім вечары з праграмаю ў беларускай мове, ладжаным для беларусаў». («Бацькаўшчына», !12-13(143-144), 25 сакавіка 1953).

**«За пушчамі -- горы, за горамі -- мора...».** Надрукавана ў нізцы вершаў (Максіму Багдановічу, 1): «Бацькаўшчына», !23 (357), 9 чэрвеня 1957.

«**Заставацца -- небясьпечна...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 199.

**Званы** («Зьвіняць, гудуць мядзяныя званы...»). Надрукавана ў нізцы вершаў (Рознае, 3): «Бацькаўшчына», !49-50 (435-436), Каталіцкія Каляды 1958.

**«Злыя хмары плылі з усходу...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 201.

**Змаганьне за будучыню.** Надрукавана: «Беларуская газэта», !58 (78), 13 жніўня 1942. Подпіс Ул. Гуцька.

**«З-пад стэпаў-пустак прытаўкліся...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 198; **у** цыклі вершаў (Падбітыя рытмы, 9): «Бацькаўшчына», !28-29 (310-311), 15 ліпеня 1956, назва **Жаўтагрывістыя хмары.**

**З паэмы «Ружовы ранак».** Гл. **Маіх уяў ружовых ранак.**

**З паэмы «Цені сьмерці»** («Ты наровіш, пазнаў я, употай паўзьці...»). Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 88.

**Зрада** («Сярод чужых палёў расьціў свой агародчык...»). Надрукавана: «Шыпшына», !9, 1950, б. 5; Напярэймы жаданьням, б. 155.

**«З расколін чэрвеньскага землятрусу...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 202.

**«З табою, родны, блізкі і далёкі блакітны край...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 194.

**Зьвер двухногі.** Паэма з 12 частак. Прысьвячаецца «Сьветлай памяці тых, што загінулі за сьвятую веру ў няўміручасьць Бацькаўшчыны -- Беларусі». Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 115-134 (поўная публікацыя); «Пагоня», !4, 1946, б. 9-15.

Частка 3 пад назвай **На скрыжаваньні -- тры крыжы** («На скрыжаваньні -- тры крыжы..»): «Божым шляхам», !4 (19), 1949, б. 8; Ля чужых берагоў, б. 9; у цыклі (Вязанка вершаў, 7): «Бацькаўшчына», !32-33 (214-215), 29 жніўня 1954.

Частка 4 пад назвай **Цьмяныя плямы** («Якое сьвету хараство!..»): «Божым шляхам», !9-10 (24-25), 1949; !2-3 (29-30), 1950; Ля чужых берагоў, б. 56; у цыклі (Вязанка вершаў, 3): «Бацькаўшчына», !32-33 (214-215), 29 жніўня 1954; у нізцы вершаў (Выбраныя вершы, 2): «Бацькаўшчына», !40-41 (270-271), 9 кастрычніка 1955.

Частка 5 пад назвай **Дымяцца хмары** («Дымяцца хмары. Неба край...»): «Божым шляхам», !9-10 (24-25), 1949, б. 12; «Шыпшына», !8, 1950, б. 10; Ля чужых берагоў, б. 56; у цыклі вершаў (Вязанка вершаў, 2) : «Бацькаўшчына», !32-33 (214-215), 29 жнівеня 1954; у нізцы вершаў (Выбраныя вершы, 15): «Бацькаўшчына», !47-48 (277-278), 27 лістапада 1955.

**Зь дзёньніка ДП'і** («...І дзень ня спляміцца "заветны"...» ). Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 141.

**Зь ліра-паэмы «Сьцені».** Гл. **Сьцені.**

**Зь першых вершаў: 1. «Каму-ж паскарджуся і напішу...»,** 2. **Цяпер і я пазнаў сваю віну...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 32.

**«І вузей 'шчэ прыжмурыў вочы...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 203.

**«...І давядзецца мо' калі...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 203.

**І думы, і словы, і сны** («Былі яны, словы і думы...»). Надрукавана: «Беларуская газэта», !33 (251), 26 красавіка 1944; Напярэймы жаданьням, б. 50.

**Ізноў я тут** («Ізноў я тут, каля цябе...»). Надрукавана: «Беларуская газэта», !61 (179), 14 жнівеня 1943; «Пагоня», !3, чэрвень-ліпень 1946, б. 3; «Шыпшына», !4, 1947, б.18; Напярэймы жаданьням, б. 55.

**І мала слоў...** («І мала слоў, каб выказаць настрой...»). Надрукавана: «Шыпшына», !5, 1947, б. 26; Ля чужых берагоў, б. 59; Напярэймы жаданьням, б. 4; у цыклі вершаў (Вязанка вершаў, 6): «Бацькаўшчына», !32-33 (214-215), 29 жнівеня 1954; у нізцы вершаў (Выбраныя вершы, 7): «Бацькаўшчына», !40-41 (270-271), 9 кастрычніка 1955.

**«Ісьці ці застацца?...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 200.

**«І так яно ад веку і да веку...».** Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 7.

**«...І чуваць здалёку...».** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !41-42 (427-428), 2 лістапада 1958.

**Каб хоць раз усьміхнулася шчасьце** («Каб ня рукі, а крылы магутныя меў...»). Машынапіс (Архіў БІНіМа), заўвагі аўтара: «Турма ў горадзе Марыінску (Заходняя Сібір)», «Часапіс "Моладзь", !12, 1949, Парыж». Надрукавана: Ля

чужых берагоў, б. 62; Напярэймы жаданьням, б.24; у цыклі (Вязанка новых вершаў, 4): «Бацькаўшчына», !21-22 (152-153), 31 травеня 1953.

**Кавалачак неба** («Да плямкі шкляной вакна...»). Надрукавана ў цыклі вершаў (Глухія шчасьця крокі, 1): «Конадні», !4, 1955, б. 29; Напярэймы жаданьням, б. 173.

**«Калісь такім маленькім быў...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 201.

**«Каля вакна равесьнік-клён...».** Надрукавана: «Шыпшына», !8, 1950, б. 10; Напярэймы жаданьням, б. 140.

**«Каму-ж паскарджуся і напішу...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана ў нізцы вершаў (Зь першых вершаў, 1): Напярэймы жаданьням, б. 32.

**Кідаў я сеці ў глыб рачную** («За хваляй хваля ўсё шпарчэй...»). Надрукавана: «Беларуская газэта», !59 (177), 7 жніўня 1943; Напярэймы жаданьням, б. 40; у нізцы вершаў (Выбраныя вершы, 17): «Бацькаўшчына», !47-48 (277-278), 27 лістапада 1955, назва **Пціч.**

**Клятва духу.** Паэма з 12 частак. «Прысьвячаю любай і дарагой мне Маці». Машынапіс (Архіў БІНіМа), назва **Прысяга.** Рукапіс (Архіў БІНіМа), частка 10 («А часамі гавораць гэтак...») выдзелена як асобны верш бяз назвы. Надрукавана: «Беларуская газэта», !35 (253), 3 травеня 1944; «Узвышша», !1, 1944, б.41; Напярэймы жаданьням, б. 89-98.

Частка 2: «Пагоня», !2, красавік 1946, б. 14, назва **Маліцца хочам на радзіме** («Калісьці сокамі грудзей...»).

Частка 11: «Беларуская газэта», !71 (189), 18 верасьня 1943, назва **Кляцьве духу ня зрадзім ані** («Хай, што хочуць, гавораць людзі...»); пад назвай **Думка** («Хай, што хочуць, гавораць людзі...»): «Баявая Ўскалось», !3, 1950, б. 1-2; Ля чужых берагоў, б. 58; у цыклі (Вязанка вершаў, 5): «Бацькаўшчына», !32-33 (214-215), 29 жніўня 1954.

**Кляцьве духу ня зрадзім ані** («Хай, што хочуць, гавораць людзі...»). Гл. **Клятва духу.**

**Койданаў новы.** Надрукавана: «Беларуская газэта», !27 (145), 8 красавіка 1943. Подпіс У. Д.

**Коратка аб сабе.** Надрукавана: «Беларуская газэта», !35 (253), 3 травеня 1944; Напярэймы жаданьням, б. XXVIII.

**«Красою майскаю сады...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа), заўвага аўтара: «Успомнены пачатак вершу, надрукаванага ў беларускай газэце "Літаратура й мастацтва" ў 1939 г. (Менск)». Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 36.

**Крокі і вёрсты** («Сотні вёрстаў прайшоў...»). Надрукавана ў цыклі вершаў (Песьні няволі, 1): «Новы шлях», ! 20 (32), 1943, б. 15; Напярэймы жаданьням, б. 10.

**Крывёю купленае права** («Сягоньня бачыўся ў сьне...»). Надрукавана: «Беларуская газэта», ! 34 (252), 25 красавіка 1944; Напярэймы жаданьням, б. 75. Апошнія чатыры радкі верша цытуюцца ў артыкуле Ул. Дудзіцкага «Як Менск сьвяткаваў сваё сьвята працы»: «Беларуская газэта», !3 6 (254), 6 травеня 1944.

**Куды вочы глядзяць...** (Апавяданьне). Надрукавана: «Бацькаўшчына», !49-50 (435-436), Каталіцкія Каляды 1958; !1-2 (437-438), Праваслаўныя Каляды 1959. Варыянт апавяданьня **Абразок.**

**«Курган» Янкі Купалы.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !25-26 (307-308), 24 чэрвеня 1956. Подпіс Ул. Гіцкі.

**Ліст да маці** («Ліст гэты, матуля, ад меншага сына...»). Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 103.

**Ліст да сястры** («Сястрыца родная, паклон ад брата...»). Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 108.

**Ліст у газэту «Беларускае Слова».** Надрукавана: «Беларускае Слова», !5 (6), 15 красавіка 1949.

**Ліст у Рэдакцыю** (Водгук на недакладнасьці публікацыі артыкулу **Сіла праўды)**. Надрукавана: «Бацькаўшчына», !3 (337), 20 студзеня 1957. Подпіс У. Д-і.

**Ліст у Рэдакцыю** (Водгук на артыкул Ст. Станкевіча «Сярод суродзічаў у Амэрыцы»). Надрукавана: «Бацькаўшчына», !15-16 (451-452), 19 красавіка 1959. Подпіс Ул. Д.

**Лыжка мёду й бочка савецкага дзёгцю.** Надрукавана**:** «Гаворыць радыё "Вызваленьне"», б. 114.

**Ля берагоў крывіцкае Нямігі** («Уецца шлях гразкою каляінай...»). Надрукавана ў цыклі вершаў (Журботныя струны,7): «Бацькаўшчына», !12-13 (242-243), 25 сакавіка 1955; !15-16 (245-246), Вялікдзень 1955; Ля чужых берагоў, б. 64; Напярэймы жаданьням, б. 184.

**Ля вербаў моліцца мая уцеха.** Гл. **«Ня першы раз і не апошні, мусіць...».**

**Ля роднай бацькаўскай мяжы** («Ля роднай бацькаўскай мяжы...»). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 81; у нізцы вершаў (Выбраныя вершы, 9): «Бацькаўшчына», !40-41 (270-271), 9 кастрычніка 1955.

**«Ля сініх вазёраў спаткаліся мы...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 196.

**Маем сілу і край свой** («Праўду кажуць...»). Рукапісны лісток «Ahladchyk», !100, 23 сакавіка 1947. Надрукавана: «Шыпшына», !1, 1950, б. 29; у

цыклі (Жывое праўдзівае слова, 3): «Новы шлях», !22 (34), 1943, б. 15; Напярэймы жаданьням, б. 18; у нізцы вершаў (Выбраныя вершы, 12): «Бацькаўшчына», !47-48 (277-278), 27 лістапада 1955. Радкі зь верша **Маем сілу і край свой** цытуюцца ў артыкулах Ул. Дудзіцкага **Маем сілу і край свой** і **Як Менск абходзіў нацыянальнае сьвята 25 сакавіка**: «Беларуская газэта», !25 (243), 29 сакавіка 1944.

**Маем сілу і край свой (**Артыкул**).** Надрукавана: «Беларуская газэта», !25 (243), 29 сакавіка 1944.

**Маіх уяў ружовых ранак** (Паэма). Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 135. Надрукавана часткова пад назвай **Для несьмяротнай Беларусі (З паэмы «Маіх уяў ружовых ранкі»)**: «Божым шляхам», !1, 1947, б. 11; «Бацькаўшчына», !36-37 (218-219), 10 кастрычніка 1954; Ля чужых берагоў, б. 70; у нізцы вершаў (Выбраныя вершы, 16): «Бацькаўшчына», !47-48 (277-278), 27 лістапада 1955, назва **З паэмы «Ружовы ранак».**

**Максіму Багдановічу** (Урыўкі): 1. **«За пушчамі -- горы, за горамі -- мора...»,** 2. **«Гора плача, мора стогне...»,** 3. **«Празь сёньняшняе бачу ўсякае мінулае...».** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !23 (357), 9 чэрвеня 1957.

**Маладзіца** («Як каралі і калечылі...»). Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 38; у цыклі вершаў (Падбітыя рытмы, 3): «Бацькаўшчына», !28-29 (310-311), 15 ліпеня 1956; як 4 частка паэмы **Прысяга:** «Бацькаўшчына», !1-2 (387-388), 7 студзеня 1958.

**Маліцца хочам на Радзіме** («Калісьці сокамі грудзей...»)**.** Гл. **Клятва духу.**

**Мама** («Родная, любая мама, даўно чакаю ліста я...»). Надрукавана ў цыклі вершаў (Падбітыя рытмы, 7): «Бацькаўшчына», !28-29 (310-311), 15 ліпеня 1956.

**Манэкену** («Стаіш, убраная ў строй найноўшых мод...»). Надрукавана ў нізцы вершаў (Рознае, 1): «Бацькаўшчына», !49-50 (435-436), Каталіцкія Каляды 1958.

**«Матуля любая, даруй...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 101.

**Маўклівасьць дум. Песьні выгнаньня** («Бывае так, што думаеш адно...»). Рукапіс (Архіў БІНіМа), тэкст адрозьніваецца ад публікацыі і ня мае падзагалоўка «Песьні выгнаньня». Надрукавана: «Голас вёскі», !45 (52), 18 сьнежаня 1942; Напярэймы жаданьням, б. 33.

**«Маўклівы і такі сівы...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 202.

**«Мая родная, любая, кволая...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 30.

**«Месяц ліпень, і места Глыбокае...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 197.

**Мінаюць дні, мінаюць ночы («**Мінаюць дні, мінаюць ночы...»). З Тараса Шаўчэнкі. Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 208**.**

**«Мне сягоньня моцна дакарае...».** Надрукавана: «Бацькаўшчына», 41-42(427-428), 2 лістапада 1958.

**Мой сьвет** («Мой сьвет -- у сьвеце зьяў...»). Надрукавана ў цыклі вершаў (Падбітыя рытмы, 11): «Бацькаўшчына», !28-29 (310-311), 15 ліпеня 1956.

**Наадварот** («Вы кажаце, што не?..»)**.** Гл. **А я -- наадварот...** («Вы кажаце, што не?..»)**.**

**Навальніца** («На сьцежках крыжавых сустрэлі навальніцу...»). **Р**укапіс (Архіў БІНіМа), заўвага аўтара: «З тэхнічных прычынаў другая частка была апушчана рэдакцыяй часапісу "Новы шлях". Рукапісу не засталося, і тэкст не адноўлены». Надрукавана ў цыклі вершаў (Жывое праўдзівае слова, 2): «Новы шлях», !22 (34), 1943, б. 15; Напярэймы жаданьням, б. 16; у нізцы вершаў (Выбраныя вершы, 4): «Бацькаўшчына», !40-41 (270-271), 9 кастрычніка 1955.

**На вечную памяць Катлярэўскаму (**Урывак). («...Праўдзівы мой дружа!..»). З Тараса Шаўчэнкі. Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 209.

**На ганьбішчы славы** («Прыляж да зямлі і паслухай, як кліча...»). Рукапіс (Архіў БІНіМа), заўвага аўтара: «Высокае места -- месца старадаўняй мены, пазьней Траецкая гара ў Менску-Беларускім». Надрукавана ў цыклі вершаў (Журботныя струны, 4): Ля чужых берагоў, б. 64; «Бацькаўшчына», !12-13 (242-243), 25 сакавіка 1955; !15-16 (245-246), Вялікдзень 1955; Напярэймы жаданьням, б. 181.

**Надпіс да фотаздымку** («Зірні, мая радасьць... »). «Прысьвячаю Веры Стосуй». Рукапіс (Архіў БІНіМа), назва **Надпіс на паштоўцы**. Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 83.

**Над сьлядамі шляхоў аджытых** («Рассыпайся драбнюткім макам...»). Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 69.

**«На зялёныя лісткі...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 195.

**«Найпрасьцей яно -- зусім папросту...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 159.

**«На небе -- зоры й месяц...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 31.

**«На няпростай, крутой дарозе...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 203.

**На папялішчы руж** («Пачаў ды хутка змоўк...»). Прысьвячаецца С. А-ку. Рукапіс (Архіў БІНіМа), заўвага аўтара: «"Смарагды кроз" -- назоў паэмы Сяргея Астрэйкі "Бэнгалія" ў першай рэдакцыі. Гарбарная -- вуліца ў Менску-Беларускім, дзе жыў паэт -- аўтар "Бэнгаліі"». Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 35.

**На парозе пары** («Не багацьце і слава, а гонар душы...»). Надрукавана ў цыклі вершаў (Жывое праўдзівае слова, 4): «Новы шлях», !22 (34), 1943, б. 15; Напярэймы жаданьням, б. 20.

**На парозе турмы** («Ня украў, не зьнявечыў нікога...»). Надрукавана ў цыклі вершаў (Песьні няволі, 2): «Новы шлях», !20 (32), 1943, б. 15; Напярэймы жаданьням, б. 11.

**«На пераломе спадаў і няўдач...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 204.

**«На пераломе спады і няўдачы...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 204.

**Напярэймы жаданьням** («Што-ж, снуюцца няхай сьмерці чорныя здані...»). Надрукавана: «Беларуская газэта», !93 (113), 13 сьнежаня 1942; «Беларускі эмігрант», !9 (20), 1 кастрычніка 1949; Напярэймы жаданьням, б. 41; у нізцы вершаў (Выбраныя вершы, 5): «Бацькаўшчына», !40-41 (270-271), 9 кастрычніка 1955.

**«Напярэймы зары ўсё ішоў...».** Надрукавана ў нізцы вершаў (Новыя вершы, 4): «Бацькаўшчына», !35-36 (369-370), 8 верасьня 1957.

**«Нарадзіліся марудна і дасьпелі...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 199.

**Нараджаецца сьвет неапеты** («Словы думак ня зловяць ніяк...»). Надрукавана: «Раніца», !38 (200), 17 верасьня 1944; Напярэймы жаданьням, б. 82.

**«На скрыжаваньні -- тры крыжы...».** Гл. **Зьвер двухногі.**

**На станцыі начы. Зь дзёньніка** («Куды імчыш мяне, цягнік?..»). Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 100; у цыклі вершаў (Падбітыя рытмы, 10): «Бацькаўшчына», !28-29 (310-311), 15 ліпеня 1956.

**Насустрач будучыні нашай** («Я ўспамінаю дні "вясны"...»). Надрукавана: «Голас вёскі», !47 (101), 25 лістапада 1943; Напярэймы жаданьням, б. 58.

**«На схіле гор стаіць мой новы дом...».** Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 85.

**«На тле зруйнованых сьвятынь».** Надрукавана**:** «Беларуская газэта», !17 (235), 1 сакавіка 1944.

**«Нашы думкі трывогай будзяцца...».** Надрукавана ў нізцы вершаў (Новыя вершы, 1): «Бацькаўшчына», !35-36 (369-370), 8 верасьня 1957.

**Не зракуся** («Хіба шмат такіх вось нашых раніц...»). Надрукавана: «Новы шлях», 16 (28), 1943, б. 14, перад публікацыяй словы, падпісаныя У. Г.: «За апошнія гады расьцьвілі маладыя таленты гэткіх паэтаў, як Уладзімер Дудзіцкі, -- паэта з дубоўкавымі і пушчавымі традыцыямі ўлюбёнасьці ў вобразную семантыку слова»; Напярэймы жаданьням, б. 49; у нізцы вершаў (Выбраныя вершы, 10): «Бацькаўшчына», !40-41 (270-271), 9 кастрычніка 1955.

**Не памру я** («Ні то восень, ні то вясна...»)**.** Гл. **Не прадам я ніколі вясны** («Неяк рана прыйшла вясна...»)**.**

**Не прабуджанае сонцам раньне** («Не хвалю нічога і ня ганю...»). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 187; у цыклі вершаў (Падбітыя рытмы, 4): «Бацькаўшчына», !28-29 (310-311), 15 ліпеня 1956.

**Не прадам я ніколі вясны** («Неяк рана прыйшла вясна...»). Рукапіс (Архіў БІНіМа), назва **Не памру я** («Ні то восень, ні то вясна...»). Надрукавана: «Беларуская газэта», !55 (173), 24 ліпеня 1943; Напярэймы жаданьням, б. 43; «Бацькаўшчына, !40-41 (270-271), 9 кастрычніка 1955, назва **Не памру я.**

**Неспадзявана** («Неспадзявана сьцішылі хаду...»). Надрукавана ў цыклі вершаў (Журботныя струны, 2): «Бацькаўшчына», !12-13 (242-243), 25 сакавіка 1955; !15-16 (245-246), Вялікдзень 1955; Ля чужых берагоў, б. 64; Напярэймы жаданьням, б. 179.

**Нечакана зусім і проста** («Нечакана зусім і проста...»). Прысьвячаецца Веры Стосуй. Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 78.

**Не шкадую яго і ня плачу** («Лета выскубла жмук асакі...»). Надрукавана: «Новая дарога», 18 красавіка 1943; Напярэймы жаданьням, б. 45. Другая частка верша («Дагарэла сонечнае лета...») надрукавана: «Беларуская газэта», !27 (145), 8 красавіка 1943; «Беларускі работнік», !38, 17 верасьня 1944.

**Ні верыць, ні спадзявацца.** Надрукавана: «Гаворыць радыё "Вызваленьне"», б. 111.

**Ні маністаў, ні зораў** («Я адзін ля вакна у суворай сяджу камяніцы...»). Надрукавана: Ля чужых берагоў, б. 60; Напярэймы жаданьням, б. 26; у цыклі (Вязанка новых вершаў, 2): «Бацькаўшчына», !21-22 (152-153), 31 травеня 1953.

**Новая савецкая правакацыя.** Надрукавана: «Гаворыць радыё "Вызваленьне"», б. 103.

**Новыя вершы.** Нізка вершаў: 1. **«Нашы думкі трывогай будзяцца...»,** 2. **«Сьціскаюць хвалі пеністыя мора...»**, 3. **«Сіняе і чыстае такое...»**, 4. **«Напярэймы зары ўсё ішоў...»,** 5. **Дзьве дарогі** («Дзьве дарогі -- два шляхі...»), 6. **Прыйшлі і вернемся...** («Зь зямлі прыйшлі і вернемся ў зямлю...»), 7. **Урывак з**

**паэмы «Гранітныя абвалы»** («Я-ж бачыў, як зbліжаюцца яны...»). Надрукавана: «Бацькаўшчына», !35-36 (369-370), 8 верасьня 1957.

**Ня было і няма...** («Ня было і няма весялосьці...»). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 153; у цыклі вершаў (Падбітыя рытмы, 6): «Бацькаўшчына», !28-29 (310-311), 15 ліпеня 1956.

**Ня ведаю...** («Тугая цішыня мой сум з трывогай жэніць...»). Надрукавана ў нізцы вершаў (Рознае, 2): «Бацькаўшчына», !49-50 (435-436), Каталіцкія Каляды 1958.

**Ня грэе сонца на чужыне («**Ня грэе сонца на чужыне...»). З Тараса Шаўчэнкі. Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 206.

**«Ня крыўдуй, дарагая Мама...». Р**укапіс (Архіў БІНіМа), назва **Дэпешы**. Надрукавана ў нізцы вершаў (Да родных, блізкіх і далёкіх. Лісты, 1): Напярэймы жаданьням, б. 168.

**«Ня мёд п'юць, а чэмер упалыя грудзі...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 201.

**«Ня першы раз і не апошні, мусіць...». Р**укапіс 1933 г. (Архіў БІНіМа), назва **Ля вербаў моліцца мая уцеха**; рукапіс 1946 г. (Архіў БІНіМа), назва **Журботная вазёраў сінь.** Надрукавана: «Шыпшына», !5, 1947, б. 27; «Беларускае слова», !1(14), 1 студзеня 1950; Ля чужых берагоў, б. 55; Напярэймы жаданьням, б. 25; у цыклі (Вязанка вершаў, 1): «Бацькаўшчына», !32-33 (214-215), 29 жніўня 1954.

**Няпослуху дзівацкага сакрэт** («Патоляй сьвет ня лашчыў нас ніколі...»). Надрукавана ў цыклі вершаў (Журботныя струны, 6): «Бацькаўшчына», !12-13 (242-243), 25 сакавіка 1955; !15-16 (245-246), Вялікдзень 1955; Ля чужых берагоў, б. 64; Напярэймы жаданьням, б. 178-186.

**«Ня спляміласся, не заліпла...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 204, варыянт пачатку 3 часткі паэмы **«Прысяга».**

**Ня сыходзяцца горы з горамі** («Ня сыходзяцца горы з горамі...»). Надрукавана: Ля чужых берагоў, б. 62; Напярэймы жаданьням, б. 148; у цыклі (Вязанка новых вершаў, 6): «Бацькаўшчына», !21-22 (152-153), 31 травеня 1953.

**О родны край** («Са мною ты на яву і ў сьне...»). Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 110.

**Падбітыя рытмы.** Цыкль вершаў: 1. **Васільковыя гады** («Адцьвілі сады. Завялі ружы...»), 2. **Шлях зусім вузкі** («Пасьля лета гаспадарыць восень...»), 3.

**Маладзіца** («Як каралі і калечылі...»), 4. **Не прабуджанае сонцам раньне** («Не хвалю нічога і ня ганю...»), 5. **Сябры** («Сустрэліся сябры маленства каля парку...»), 6. **Ня было і няма** («Ня было і няма весялосьці...»), 7. **Мама** («Родная, любая мама, даўно чакаю ліста я...»), 8. **Песьня** («Прыйшоў з даўніны апрычоны наш голас...»), 9. **Жаўтагрывістыя хмары** («З-пад стэпаў-пустак прытаўкліся...»), 10. **На станцыі начы.** Зь дзёньніка («Куды імчыш мяне, цягнік...»), 11. **Мой сьвет** («Мой сьвет у сьвеце зьяў...»). Надрукавана: «Бацькаўшчына», !28-29 (310-311), 15 ліпеня 1956.

**Падумайце самі...** (Фэльетон). З радыёвай хвалі «Вызваленьне». Надрукавана: «Бацькаўшчына», !9 (353), 12 травеня 1957.

**Пакуль песьня яшчэ ня сьпета** («Ня пытайся, мой любы дружа...»). Надрукавана ў цыклі вершаў (Песьні няволі, 4): «Новы шлях», !20 (32), 1943, б. 15; Напярэймы жаданьням, б. 13.

**Па-над кручай** («Стаю па-над кручай ...»). Надрукавана: «Менская газэта», !4, 5 кастрычніка 1941; у цыклі вершаў (Жывое праўдзівае слова, 5): «Новы шлях», !22 (34), 1943, б. 15; Напярэймы жаданьням, б. 22; «Бацькаўшчына», !1-2 (387-388), 7 студзеня 1958, 9 частка паэмы **Прысяга.**

«**Пасьля адліву спадаў і няўдач...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 204.

**«Пачатак быў толькі такі...».** Прысьвячаецца Веры Стосуй. Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 79.

**Пачатак канца.** Адрыўны савецкі каляндар**.** З радыёвай хвалі «Вызваленьне». Надрукавана: «Бацькаўшчына», !10 (344), 10 сакавіка 1957.

**Пашто даганяць.** Надрукавана: «Гаворыць радыё "Вызваленьне"», б. 81.

**Пела мне маці** («Помню, у час вечаровы...»). Надрукавана: «Беларуская газэта», !11 (129), 10 лютага 1943; Напярэймы жаданьням, б. 47; у нізцы вершаў (Выбраныя вершы, 14): «Бацькаўшчына», !47-48 (277-278), 27 лістапада 1955.

**«Перада мной -- прастор нябёс...».** Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 105.

**«Перада мною новыя лісты...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 194.

**Перад бурай (**Урывак з аповесьці «Голас крыві»). Надрукавана: «Пагоня», !3, чэрвень-ліпень 1946, б. 18-19, подпіс Мікола Дварэцкі; Напярэймы жаданьням, б. 274.

**Песьня** («Прыйшоў з даўніны апрычоны наш голас...»). Надрукавана ў цыклі вершаў (Падбітыя рытмы, 8): «Бацькаўшчына», !28-29 (310-311), 15 ліпеня 1956.

**Песьня** («Хто-ж ня чуў Цябе і ня жыў Табой...»). Рукапіс (Архіў БІНіМа). У адным з рукапісных варыянтаў восьмае чатырохрадкоўе падаецца як асобны верш. Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 138.

**Песьні няволі**. Цыкль вершаў з уступным аўтаравым словам **Горкія ўспаміны** («Цяжка ўспамінаецца зіма 1933 году...»): 1. **Крокі і вёрсты** («Сотні вёрстаў прайшоў...»), 2. **На парозе турмы** («Ня украў, не зьнявечыў нікога...»), 3. **А ратунку ня было й няма** («Колер неба хмары ўслалі густа...»), 4. **Пакуль песьня яшчэ ня сьпета** («Ня пытайся, мой любы дружа...»). Надрукавана: «Новы шлях», !20 (32), 1943, б. 15; Напярэймы жаданьням, б. 9-13.

**Піраміда клясавых супярэчнасьцяў.** З радыёвай хвалі «Вызваленьне». Надрукавана: «Бацькаўшчына», !9 (343), 3 сакавіка 1957.

**Плача кроплямі золата дзень** («Сінь дзівосная неба, рассып...»). Надрукавана: Пагоня», !3, чэрвень-ліпень 1946, б. 4-5; Напярэймы жаданьням, б. 67.

**Помнікі і абэліскі** («На плошчы -- помнікі і абэліскі...»). Надруквана ў цыклі вершаў (Вэнэцуэля, 2): «Конадні», !5-6, 1958, б. 75; Напярэймы жаданьням, б. 190.

**«Праз горы, праз мора, праз акіян...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 200.

**«Празь сёньняшняе бачу ўсякае мінулае...». Надрукавана ў** нізцы вершаў (Максіму Багдановічу, 3): «Бацькаўшчына», !23 (357), 9 чэрвеня 1957.

**Празь цемру й пакуты.** Надрукавана: «Беларуская газэта», !29 (147), 15 красавіка 1943. Подпіс У. Д.

**Пракалоліся вочы жалю** («Я нічога зь сябе ня выжаў...»). Надрукавана ў цыклі вершаў (Глухія шчасьця крокі, 4): «Конадні», !4, 1955, б. 29; Напярэймы жаданьням, б. 176.

**«Пра што я раскажу табе...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 196.

**Просьба** («Я стаміўся ідучы...»). Прысьвячаецца В. С. Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 87.

**Прыйдзі** («З блакітнай вышыні прыйдзі, малю, хутчэй...»). Надрукавана: «Божым шляхам», !3 (18), 1949, б. 13; Ля чужых берагоў, б. 63; Напярэймы жаданьням, б. 156; у цыклі (Вязанка новых вершаў, 7): «Бацькаўшчына», !21-22 (152-153), 31 травеня 1953.

**Прыйшлі і вернемся...** («Зь зямлі прыйшлі і вернемся ў зямлю...»). Надрукавана ў нізцы вершаў (Новыя вершы, 6): «Бацькаўшчына», !35-36 (369-370), 8 верасьня 1957.

**Прысяга.** Паэма з 20 частак. Надрукавана: «Бацькаўшчына», 1-2 (387-388), 7 студзеня 1958. Дванаццаць частак (1, 3, 6, 8, 10, 12, 13, 14, 15, 16, 18, 19) -- перапрацаваныя разьдзелы паэмы **Клятва духу.** Варыянт пачатку 3 часткі пад назвай **«Ня спляміцца і не заліпне...» н**адрукаваны: Напярэймы жаданьням, б.

197. Часткі 4 («Як каралі і калечылі...») і 9 («Стаю па-над кручай...») публікаваліся як самастойныя вершы. Гл. **Клятва духу, Маладзіца, Па-над кручай.**

**Птушка** («Слова -- птушка, любая, павер мне...»). Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 86.

**Птушцы -- крылы, чалавеку -- свабода.** З радыёвай хвалі «Вызваленьне». Надрукавана: «Бацькаўшчына», !6 (340), 10 лютага 1957.

**Пціч** («За хваляй хваля ўсё шпарчэй...»). Гл. **Кідаў я сеці ў глыб рачную** («За хваляй хваля ўсё шпарчэй...»).

**Пэдагагічныя ідэі Яна Амоса Коменскага.** Да 370-ай гадавіны з дня нараджэньня. (Сцэнарый радыёперадачы). Машынапіс (Архіў БІНіМа).

**П'ю сок вясны** («Мой родны брат, сястрыца мая, маці...»). «З нагоды Першага Мая прысьвячаю сваім прыяцелям і радні, блізкай і далёкай». Рукапіс (Архіў БІНіМа); рукапіс (Архіў Фундацыі), перапрацаваныя 2 і 5 чатырохрадкоўі пад назвай **Вясна.** Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 52.

**Пякельны дар** («У новы край, далёкі і нязнаны...»). Надрукавана: Ля чужых берагоў, б. 62; Напярэймы жаданьням, б. 144; у цыклі (Вязанка новых вершаў, 5): «Бацькаўшчына», !21-22 (152-153), 31 травеня 1953.

**«Пяскі дарог і лісьцяў медзь...».** Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 106.

**«Радасьць якая, мой любы сыне...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана ў нізцы вершаў (Да родных, блізкіх і далёкіх. Лісты, 3): Напярэймы жаданьням, б. 170.

**Роднае слова** («Я ня жыў безь цябе... »). Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 192.

**Рознае.** Нізка вершаў: 1. **Манэкену** («Стаіш, убраная у строй найноўшых мод...»), 2. **Ня ведаю...** («Тугая цішыня мой сум з трывогай жэніць...»), 3. **Званы** («Зьвіняць, гудуць мядзяныя званы...»). Надрукавана: «Бацькаўшчына», !49-50 (435-436), Каталіцкія Каляды 1958.

**Сіла праўды** (З радыёвай хвалі «Вызваленьне»). Надрукавана: «Бацькаўшчына», !49 (331), 2 сьнежаня 1956, подпіс У. Д-і, пра недакладнасьці публікацыі гл. **Ліст у Рэдакцыю;** «Гаворыць радыё "Вызваленьне"», б. 140.

**Сіла рэчы** («Учора цяжка зробленая рэч...»). Надрукавана ў цыклі вершаў (Вэнэцуэля, 1): «Конадні», !5-6, 1958, б. 75; Напярэймы жаданьням, б. 189.

**«Сіняе і чыстае такое...».** Надрукавана ў нізцы вершаў (Новыя вершы, 3): «Бацькаўшчына», !35-36 (369-370), 8 верасьня 1957.

**«Скажыце, дзе вы бачылі такое...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 194.

**Скупыя заўвагі** («Масква сьпявала...»). Уступнае слова аўтара да цыклю вершаў **Жывое праўдзівае слова** надрукавана: «Новы шлях», !22 (34), 1943, б. 15; Напярэймы жаданьням, б. 14.

**«Слухаць мову тваю, Радзіма...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 191.

**Сон Зьнябыціча.** Гл. **Успаміны.**

**Спрытныя жарты** («Сонца, важкое і вельмі чырвонае...»). Надрукавана: Ля чужых берагоў, б. 60; Напярэймы жаданьням, б. 162; у цыклі (Вязанка новых вершаў, 2): «Бацькаўшчына»,! 21-22 (152-153), 31 травеня 1953.

**Станіславу Станкевічу** (У сувязі зь ягонымі ад'езьдзінамі ў Амэрыку) («Хто-б там што ні казаў...»). Надрукавана: «Бацькаўшчына», !43 (429), 9 лістапада 1958.

**«Стомлены цяжкімі думамі...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 198.

**«Стынуць хвалі і цяжэюць быццам...».** Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 2.

**Сьвітанак** («Сьвяжуткі зары сьвітанак...»). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 145; у цыклі вершаў (Журботныя струны, 10): «Бацькаўшчына», !12-13 (242-243), 25 сакавіка 1955.

**Сьлядамі гадоў.** Надрукавана: «Менская газэта», !1, 21 верасьня 1941; «Голас вёскі», !1, 1 кастрычніка 1941; «Раніца», !22 (56)- !23 (57), 30 верасьня-10 кастрычніка 1941.

**Сьмерць жывая (**«Шмат разоў гаварыў я сьмерці...»). Машынапіс (Архіў Фундацыі).

**Сьцені** (Ліра-паэма)**.** Рукапіс (Архіў БІНіМа), частка 1 як асобны верш мае назву **Аганёк**. Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 149; часткі 1. «Падышла і моўчкі села...», 2. «Нацямочку з хаты выйшаў...», 3. «'Шчэ драмалі струны ветру...», 4. «Золак выцадзіў з-за пушчы...» пад назвай **Зь ліра-паэмы «Сьцені»** ў нізцы вершаў (Выбраныя вершы, 1): «Бацькаўшчына», !40-41 (270-271), 9 кастрычніка 1955; часткі 5. «Палажыў на горб уласны...» і 6. «Я стаю і моцна зябну...»: «Конадні», !3, 1955, б. 6.

**«Сьціскаюць хвалі пеністыя мора...».** Надрукавана ў нізцы вершаў (Новыя вершы, 2): «Бацькаўшчына», !35-36 (369-370), 8 верасьня 1957.

**Сэрца Паўла Бурэ.** Гл. **Апавяданьне.**

**Сябром** («Мякка сьцелюць, ды мулка спаць...»). Надрукавана ў цыклі вершаў (Журботныя струны, 8): «Бацькаўшчына», !12-13 (242-243), 25 сакавіка

1955; 15-16 (245-246), Вялікдзень 1955; Ля чужых берагоў, б. 64; Напярэймы жаданьням, б. 178-186.

**Сябры** («Сустрэліся сябры маленства каля парку...»). Надрукавана ў цыклі вершаў (Падбітыя рытмы, 5): «Бацькаўшчына», !28-29 (310-311), 15 ліпеня 1956.

**Тайніцы Сьляпянскага лесу**. Надрукавана: «Бацькаўшчына», !1-2 (282-283), 7 студзеня 1956; «Гаворыць радыё "Вызваленьне"», б. 76; Напярэймы жаданьням, б. 219.

**«Там, на Радзіме, ля Пцічы-ракі...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 193.

**Тарас Шаўчэнка ў беларускай літаратуры. (**Рэфэрат). Надрукавана асобным выданьнем: Зальцбург. Аўстрыя, 1946, 4 б.

**«Тасуюцца і плямяцца тузы...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 205.

**Трагедыя беларусаў.** Надрукавана: «Гаворыць радыё "Вызваленьне"», б. 116.

**У гасьцёх Цыпрона Цырубалкі.** Надрукавана: «Голас вёскі», !38 (92), 23 верасьня 1943.

**«У жаўталістую, рудую восень...».** Надрукавана: «Шыпшына», !4, 1947, б. 19; Напярэймы жаданьням, б. 28.

**У палоне думак** (Урывак з аповесьці **«Голас крыві»).** Надрукавана**:** «Пагоня», !4, лістапад 1946, б. 26-27, подпіс Мікола Дварэцкі; Напярэймы жаданьням, б. 277.

**Упаў блакіт.** З настрояў ля Нёману («Упаў блакіт на шкло ракі...»).
Надрукавана: «Голас вёскі», !29 (83), 22 ліпеня 1944; Напярэймы жаданьням, б. 51.

**Урывак з паэмы «Гранітныя абвалы»** («Я-ж бачыў, як зближаюцца яны...»). Надрукавана ў нізцы вершаў (Новыя вершы, 7): «Бацькаўшчына», !35-36 (369-370), 8 верасьня 1957.

**«Усё ня так, як думаеш...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 154.

**Успаміны.** Разьдзелы: Праўду кажучы..., Шашаль-валасацік..., Украдзены «Маркс»..., Клясычная падрыхтоўка, Чорныя скуранкі, «Чорны воран», Далікатныя ў недалікатным месцы, Гулівэр Бязносы, І росы і лотаць..., Мікіта Бурболік, Сон Зьнябыціча, Кпіны цыбатага Валанцая, Жылістыя кулакі Валанцая, Целаскурыя й плацяныя чорненькія сабачаняты й добры дзяцел..., Непераліўкі «Прах-вэсара» Пыжыка й дыпляматыя «пана» Баніса, Гострыя швайкі разьніка Лаўрэна Пячонкі...,

Тайніцы Міхала Сырадоя. Надрукавана: «Бацькаўшчына», !23 (305), 3 чэрвеня 1956; !24 (306), 10 чэрвеня 1956; !25-26 (307-308), 24 чэрвеня 1956; !27 (309), 1 ліпеня 1956; !28-29 (310-311), 15 ліпеня 2956; !30 (312), 22 ліпеня 1956; !32 (314), 5 жнівеня 1956; !34 (316), 19 жнівеня 1956; ! 37 (319), 9 верасьня 1956.

Паводле аўтарскага машынапісу (Архіў БІНіМа) **Успаміны** надрукаваны: Напярэймы жаданьням, б. 222. Разьдзел **Сон Зьнябыціча** надрукаваны: «Пагоня», !1, сьнежань 1945, б. 16-19; «Божым шляхам», !2, 1947, б. 11.

**«У цішыні трывожны шум...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 203.

**Хай пеніцца віно** («Стаіць пітва нявыпітага кубак...»). Надрукавана: «Новы шлях», !23 (35), 1943, б. 14; Напярэймы жаданьням, б. 62.

**«Хоць у сьне ты мне, вазёрная, прысьніся...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 193.

**Хутчэй, хутчэй...**(«З-пад сьнегу першы ’шчэ храсток...»). Надрукавана: «Беларуская газэта», !30 (148), 20 красавіка 1943; Напярэймы жаданьням, б. 48; у нізцы вершаў (Выбраныя вершы, 8): «Бацькаўшчына», !40-41 (270-271), 9 кастрычніка 1955.

**«Ці варта караць за нямудрае...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 201.

**«Ці мала мелюць чутак-баек...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана ў нізцы вершаў (Да родных, блізкіх і далёкіх. Лісты, 2): Напярэймы жаданьням, б. 168-170.

**«Цішыню парушылі вятры...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 196.

**Цьмяныя плямы** («Якое сьвету хараство!..»). Гл. **Зьвер двухногі.**

**«Цяпер і я пазнаў сваю віну...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана ў нізцы вершаў (Зь першых вершаў, 2): Напярэймы жаданьням, б. 32.

**«Цяпер усё. Уласнымі вачыма пабачыў сьвет..».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 146.

**«Часам голаў ускружыць такое...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 202.

**Чорная карта** («Як той колас у полі, адзін...»). Прысьвячаецца «Самому сабе». Надрукавана: «Конадні», !3, 1955, б. 3; Напярэймы жаданьням, б. 167.

**Чорная курыца.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !35-36 (369-370), 8 верасьня 1957. Істотна перапрацаваны варыянт урыўкаў з незакончанай аповесьці **Голас крыві.** Гл. **Перад бурай** і **У палоне думак.**

**«Чужое гора вымераць нялёгка...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 202.

**«Шкада, гаворaць, працы нашай, поту...».** Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 84.

**Школьніцтва ў Барысаўшчыне.** Надрукавана: «Беларуская газэта», !65 (85). 6 верасьня 1942. Подпіс У. Д.

**Шлях** («Ня ўлукаткі, а проста -- напрасткі...»). Рукапіс (Архіў Фундацыі). Надрукавана ў цыклі (Глухія шчасьця крокі, 5): «Конадні», !4, 1955, б. 29; Напярэймы жаданьням, б. 177.

**Шлях зусім вузкі** («Пасьля лета гаспадарыць восень...»). Рукапіс (Архіў БІНіМа), назва **Зародкі хараства** выпраўлена аўтарам. Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 37; у цыклі вершаў (Падбітыя рытмы, 2): «Бацькаўшчына», !28-29 (310-311), 15 ліпеня 1956.

**Шукаюць наіўных.** Надрукавана: «Гаворыць радыё "Вызваленьне"», б. 78.

**Шчасьце** («У далоні меў тваю далонь...»). Рукапіс (Архіў БІНіМа), назва **Глухія шчасьця крокі**. Надрукавана ў цыклі вершаў (Глухія шчасьця крокі, 2): «Конадні», !4, 1955, б. 29; Напярэймы жаданьням, б. 174.

**«Я ведаю, ты не са мной...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 197.

**Я зь песьняй упоруч пайду** («Прамчаўся, расьцяты маланкаю час...»). Надрукавана: «Пагоня», !3, чэрвень-ліпень 1946, б. 6; «Бацькаўшчына», !19 (353), 12 травеня 1957; Напярэймы жаданьням, б. 56.

**«Як ласку матчыну, у думках калышу...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 196.

**Як Менск абходзіў нацыянальнае сьвята 25 сакавіка.** Надрукавана: «Беларуская газэта», !25(243), 29 сакавіка 1944.

**Як Менск сьвяткаваў сваё сьвята працы.** Надрукавана: «Беларуская газэта», !36 (254), 6 травеня 1944.

**Янка Купала.** Надрукавана: «Пагоня», !4, лістапад 1946, б. 57-70. Подпіс Мікола Дварэцкі.

**Я ня ведаю, дзе ты...**(«Я ня ведаю, дзе ты...»). Надрукавана: «Конадні», !3, 1955, б. 4; Напярэймы жаданьням, б. 165.

**«Я пазнаў і Эўропу і Азію...».** Машынапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 8. Верш цытуецца ў артыкуле Ул. Дудзіцкага **«Даруй, што я плачу...»** (Замест успамінаў): «Беларускі работнік», !39, 24 верасьня 1944.

**«Я шукаў цябе -- не знайшоў...».**Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 160.

**«Яшчэ адзін паставіў крок ты...».** Рукапіс (Архіў БІНіМа). Надрукавана: Напярэймы жаданьням, б. 200.

## Хведар Ільляшэвіч -- знаёмы і незнаёмы

***Мы хацелі над роднымі гонямі***
***запалаць, як палае зара,***
***мы хацелі гарэць паходнямі,***
***падымаць на змаганьне край!***
***І ня раз ланцугі зьвінелі,***
***на этапах сьцякала кроў,***
***маладосьці не крануўшы келіх,***
***мы ўставалі ў рады змагароў.***
***Хв. Ільляшэвіч***

**6 лістапада 1948 году ўвечары каля Ватэнштэту трагічна загінуў у выніку аўтамабільнай катастрофы на 38 годзе жыцьця паэта, публіцыст і грамадскі дзеяч Хведар Ільляшэвіч.**

**Сьмерць Ільляшэвіча ўзрушыла многіх...**

**«Ватэнштэт аплакаў Хведара Ільляшэвіча. Так шкадуюць людзі толькі нечым страшэнна блізкага чалавека. Ён быў і настаўнікам, і "дзядзем", і "старым скаўтам", і прыяцелем, і "простым", і чалавекам,**

**што "ўсё чыста рабіў"... Чалавекам, зь якім *нельга разьвітацца»,* -- пісала «Беларускае Слова»[1].**

**«З глыбокім жалем і смуткам схіляюся над сьвежай магілай дарагога сябра Хведара Ільляшэвіча. Разам зь сябрамі-шыпшынаўцамі ўплятаю і сваё вязьмо ў жалобны вянок. У няспрыяльным жыцьці-бадзяньні па белым сьвеце -- у ліхіх вятрох-злыбядах, што так свавольна разьбіваюць-разлучаюць нас, -- нахай-жа ня гасьне ў сэрцах і думках сьветлая памяць аб нашым сябру», -- пісаў Юрку Віцьбічу Алесь Салавей 11 лістапада 1948г.**

**«Бываюць людзі, для якіх няма асабістага жыцьця. Грамадская справа для іх запаўняе будні і сьвяты. Да такіх людзей належаў Ільляшэвіч... Ягоная песьня была дакорам для тых, у каго счэзла пачуцьцё нацыянальнага абавязку і падтрымоўвала сілы тых, хто апошнім высілкам трымае нацыянальны сьцяг...»[2] -- смуткавалі скаўты.**

**«Толькі гэтымі днямі дайшла да мяне сумная вестка аб перадчаснай, трагічнай сьмерці сьв. памяці Хведара Ільляшэвіча, ведамага беларускага паэта, няўтомнага грамадскага дзеяча Беласточчыны, улюбёнага моладзьдзю Настаўніка. Дык няхай на Вашае імя, як рэдактара "Шыпшыны", якой Пакойны быў супрацоўнікам, перашлю словы майго глыбокага жалю і спачуцьця». *(Зь ліста Антона Шукелойця Юрку Віцьбічу ад 2 сьнежаня 1948)***

**«Няўмольная сьмерць вырвала Ільляшэвіча тады, калі ён быў найбольш патрэбны для беларускай справы. і ня толькі беларускай. Зь ягонай сьмерцю Фронт Паняволеных Народаў страціў вялікага працаўніка і рэвалюцыянэра...» -- аплакваў Ільляшэвіча аўтар артыкулу ў газэце «Українське Слово».[3]**

**Такіх водгукаў было шмат...**

**Ішлі гады... Але памяць пра Хведара Ільляшэвіча жыла. Ягоныя творы друкаваліся ў альманаху «Ля чужых берагоў», у газэтах і часапісах; выходзілі асобныя зборнікі; пра яго пісалі артыкулы; яму прысьвячаліся вершы; удакладняліся факты ягонай біяграфіі...**

**Аднак так і застаўся амаль не асьветлены апошні пэрыяд ягонага жыцьця -- гады, праведзеныя ў Ватэнштэце...**

**Лягеры ДП... Хваля паваенных эмігрантаў перацякла ў гэтую «галяктыку» (паводле трапнага выразу эміграцыйнага паэта М. Юппа) і чакала вырашэньня свайго лёсу: прымусовая рэпатрыяцыя «на Ўсход» ці дазвол выехаць «на Захад». У адзінае пачуцьцё зьнітаваліся надзея й расчараваньне, радасьць і роспач.**

**Лягер Ватэнштэт, у якім апынуўся Хведар Ільляшэвіч, быў заснаваны 30 ліпеня 1945 году. «У беларускім лягеры ў Ватэнштэце было шмат людзей, пераважна маладыя сем'і зь дзецьмі, шмат моладзі, і сабралася тут, можна сказаць, уся беларуская інтэлігенцыя ангельскае зоны Нямеччыны. Лягер арганізаваны быў добра. Быў камэндант лягеру**

---

**[1] М.С. Хвёдар Ільляшэвіч.--«Беларускае Слова», 17 сьнежаня 1948 г.**
**[2] Міхась Стасюк. Штандар «Гарц».**
**[3] Анатоль Дэмус. «Українське Слово», 12 грудня 1948 г.**

са сваёй канцылярыяй. Была свая паліцыя. Была кухня, у якой варылі й выдавалі тры разы на дзень ежу. Была ў лягеры свая царква, свой сьвятар. Была пад кіраўніцтвам сп. Гладкага пачатковая школа, была гімназія. Зразумелая рэч, што школы былі беларускія. Быў мужчынскі і жаночы скаўтынг. Было сваё ратататарнае выдавецтва. Мелі сваю лякарню зь беларускім лекарам -- др. Вітаўтам Тумашам, дэнтыстычны кабінет зь беларускім дэнтыстам -- др. Баляславам Гагалінскім.

У лягеры ўрачыста адзначаліся ўсе рэлігійныя й нацыянальныя сьвяты. На гэта мы мелі ўсе магчымасьці: свой клюб, мастацкую самадзейнасьць, нацыянальную сьведамасьць і беларускі патрыятызм. З розных нагодаў адбываліся канцэрты, ладжаныя або скаўтамі, або лягерным хорам. Ставілі пастаноўкі.

Была сувязь і да пэўнай меры супрацоўніцтва зь беларускімі лягерамі ў іншых зонах Нямеччыны, а перадусім з амэрыканскай зонай, дзе беларусаў было найболей. Напрыклад, на скаўцкія зьлёты мы, скаўты і скаўткі з Ватэнштэту, езьдзілі ў амэрыканскі беларускі лягер, або з амэрыканскае і францускае зонаў скаўты прыязджалі на зьлёт у Ватэнштат.

Былі ў лягеры і палітычныя групоўкі -- крывічоў і зарубежнікаў...».[1]

Успаміны Р. Жук-Грышкевіч дапаўняе кароткая і зьмястоўная справаздача Беларускага Дапамогавага Камітэту ў Ватэнштэце:

«Беларускі Дапамогавы Камітэт
у Ватэнштэце

Ватэнштэт, дня 12.1.48

Беларускаму Дапамогаваму Камітэту
на ангельскую зону

У вадказ на Ваш абежнік !4 з дня 21.11.47 паведамляем:

1. У лягеры праведзена ўрачыстае сьвяткаваньне 27 гадавіны Слуцкага паўстаньня -- у YMCA[2], у лягеры, у скаўцкай арганізацыі і ў школах. (Гл. "Шляхам Жыцьця", !11, 1947)

2. Справаздача зь дзейнасьці Беларускага Дапамогавага Камітэту будзе зьмешчана ў !12 "Шляхам Жыцьця" за 1947 г. З увагі на вялікі пмер справаздачы яна будзе даслана ў найбліжэйшым часе дадаткова.

3. Адначасна з гэтым перасылаецца поштай належнасьць зь сяброўскіх узносаў.

4. Ніжэй зьмяшчаем спіс арганізацыяў у нашым лягеры, якія просяць зарэгістраваць іх пры БДК на ангельскую зону, прычым

---

[1] З успамінаў Раісы Жук-Грышкевіч, дасланых Барысу Рагулю, аўтару кнігі «Беларускае студэнцтва на Чужыне», Лёндан (Канада) -- Нью-Ёрк, 1996, 206 б.

[2] YMCA -- Young Men's Christian Association.

**справаздачы іхнія будуць дасланыя дадаткова з увагі на тое, што яны не змаглі закрыць справаў мінулага году.**

**Арганізацыі і установы лягеру:**

**1) Беларускі Дапамогавы Камітэт у Ватэнштэце.**
**2) Рэдакцыя "Шляхам Жыцьця".**
**3) Беларуская група YMCA.**
**4) Хаўрус Абсальвэнтаў Беларускае Гімназіі ў Вільні.**
**5) Беларускае Спартовае Аб’яднаньне.**
**6) Беларускае Царкоўна-Рэлігійнае Брацтва імя Еўфрасіньні Полацкай.**
**7) Саюз Беларускіх Вэтэранаў.**
**8) Беларуская Гімназія.**
**9) Беларуская Пачатковая Школа.**
**10) Беларускі Скаўтынг (два Сьцягі -- мужчынскі й жаночы).**
**11) Аб’яднаньне Беларускіх "анчын.**
**12) Суполка "Заранка".**
**13) Рэдакцыя "Праваслаўнага Беларуса".**
**14) Прафэсыйны Саюз Беларускіх Работнікаў.**
**15) Рэдакцыя "Радыё-Бюлетэня".**
**16) Аб’яднаньне прыхільнікаў Беларускага Тэатру.**
**17) Аб’яднаньне Беларускіх "урналістых.**
**18) Таварыства "Дзіця й Маці".**
**19) Хаўрус масавага выхаваньня "Сям’я і Школа".**
**20) Хаўрус Беларускіх Філатэлістаў.**
**21) Саюз Беларускіх Інвалідаў і Сірат.**

**Старшыня: С. Коўш**
**Сакратар: Ільляшэвіч»**[1]

**Куды-б нас лёс ні кінуў --**
**ў чужы, далёкі сьвет, --**
**ніколі не забудзем**
**наш лягер Ватэнштэт!**

**Драўляныя баракі,**
**фабрычных трубаў рад...**
**Ды тут заплача ўсякі.**
**Тут кожны табе брат.**

**Праходзяць дні выгнаньня,**

---

[1] **Архіў Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага (Нью-Ёрк).**

**трывогаў і надзей,**
**ўспамінаў і каханьня**
**і месячных начэй.**

**Наш дух расьце, мацнее,**
**і водгульле ідзе.**
**Мы сьветлыя ідэі**
**нясем у грамадзе.**

**Дык хай высока рэе**
**наш беларускі сьцяг.**
**Хай сьветлыя ідэі**
**наш асьвятляюць шлях.**

**Так апеў «свой» лягер Хведар Ільляшэвіч. Тут ён быў і настаўнікам гімназіі, і рэдактарам часапісаў, і метранпажам, і кіраўніком скаўтаў, і арганізатарам мастацкай самадзейнасьці... Менавіта грамадскай справе аддаваў сілы і час Хведар Ільляшэвіч.**

**Калі ў сьнежані 1945 году адбыўся Зьезд дзеячаў ангельскае акупацыйнае зоны, на якім быў прыняты Статут Беларускага Дапамогавага Камітэту на ангельскую зону, ён быў адным з тых, хто падпісаў Статут і ўвайшоў у раду камітэту. Калі ў травені 1947 году прайшоў зьезд прадстаўнікоў беларускіх лягераў ангельскае зоны Нямеччыны, ён быў абраны сябрам зоннага камітэту.**

**Ільляшэвіч ачольваў беларускую групу YMCA, стаўся першым дарадчыкам ва ўсіх скаўцкіх справах.**

**Ён прымаў актыўны ўдзел у рэлігійным жыцьці беларускіх эмігрантаў. І калі 5 травеня 1946 году ў Рэгенсбургу адбыўся Першы зьезд праваслаўных беларусаў, ён стаўся сябрам Прэзыдыюму, а на Другім зьезьдзе, 12 верасьня 1946 году, рашуча выказаўся за Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву.**

**«Цяпер пара было-б разьвязаць справу "аўтакефаліі". Справа, урэшце, не ў аўтакефаліі, як такой, а ў тым, каб праз царкву не аддаваць у чужыя рукі нашае "масы", якую так лёгка адкідае большасьць нашых ура-патрыётаў. А нашыя япіскапы пайшлі ў нейкае мутнае балота й мяшаюць расейцаў зь беларусамі. Мне здаецца, можна яшчэ спрабаваць Уладыку Філафея і Ўладыку Апанаса перакanaць. Калі-ж нічога ня выйдзе, -- дык проста пакінуць іх сабе: хай робяць, як хочуць. А мы тады лепш зоймемся літаратурай. Яна таксама ня менш галоўны фактар», -- пісаў Ільляшэвіч Юрку Віцьбічу.** ***(Зь ліста ад 15 лютага 1947)***

**Хведар Ільляшэвіч, адзін з шырока адукаваных людзей беларускай эміграцыі -- навуковец, пісьменьнік, музыкант, пэдагог, -- справай першаступеннай важнасьці лічыў працу з моладзьдзю. І на занятках у Беларускай гімназіі імя Максіма Багдановіча, заарганізаванай 15 кастрычніка 1945, дзе ён быў выкладчыкам роднай мовы, і падчас**

**скаўцкіх збораў («стары скаўт»!) ён імкнуўся выхоўваць людзей адукаваных і адданых Беларусі. Гэтаму служылі і ягоныя п’есы-мантажы «У Купальскую ноч» і «Шэрыя дні», што ставіліся дзецьмі на сьвятах лягеру, і нават адбор нумароў для канцэртаў мастацкай самадзейнасьці.**

**«Спадар Равенскі!**

**Да Вас вялікая, вялікая просьба -- прышліце абавязкова нам ноты (і тэксты) хоць дзьвюх-трох беларускіх песьняў (між іншым, Вашую «Застольную»!). У нас няма рэпэртуару!**

**Перадайце іх сп. Віцьбічу і скажыце, каб ён мне пераслаў.**

**Пры нагодзе аддзячуся!**

**А калі-ж Вы выберацеся да нас? Хоць у госьці!**

**Зь беларускім прывітаньнем. Ваш Ільляшэвіч».** ***(Зь ліста да Міколы Равенскага ад 24 студзеня 1947 г.)***

**Другім першараднай важнасьці заняткам, што забіраў час, была друкарска-выдавецкая дзейнасьць. Ільляшэвіч рабіў усё: набіваў матрыцы, працаваў ля ратататарнага станка, выдаваў кнігі, рэдагаваў часапісы, клапаціўся пра водгукі на апублікаваныя матар’ялы.**

**Выдавецкая дзейнасьць лягераў ДП увогуле амаль не дасьледаваная, яе фэнамэн заслугоўвае асобнай гаворкі. Сказаць, колькі было выданьняў і які іхні наклад, сёньня вельмі складана ды наўрад ці магчыма. У пераважнай бальшыні яны друкаваліся ратататарам на кепскай паперы, бо ня было інакшай, ці нават размалёўваліся ад рукі, што рабіла наклад яшчэ меншым. Што-ж гэта былі за выданьні? Перш за ўсё, часапісы й газэты. Асобныя зь іх пазьней атрымалі працяг у ЗША, некаторыя мелі адзін-два нумары. У Ватэнштэце ратататарам выдаваліся «Шляхам Жыцьця», «Царкоўны Голас», «Беларускі Скаўт», «Скаўт», «Скаўцкі Бюлетэнь», «Юнак», «Апошнія весткі»[1]. Ільляшэвіч рэдагаваў многія зь іх.**

**Амаль кожнае «выдавецтва» лягеру ДП друкавала падручнікі й кнігі для дзяцей, бо найпершая задача была ня толькі даць ім дастатковую адукацыю пры адсутнасьці хоць нейкага навучальнага матэрыялу, але й ня «згубіць» маладое пакаленьне беларусаў. Хв. Ільляшэвіч у выдавецкай суполцы «Заранка» набіваў матрыцы для чытанак «Родны Палетак», «Малюнкі мінулага», для літаратурнай чытанкі-хрэстаматыі «Наша Краіна», што была выдадзена двума шрыфтамі -- кірыліцай і лацінкай. Былі яшчэ і кнігі казак, перакладаў, беларуская клясыка...**

**Найчасьцей выдаўцы бралі на сябе і продаж кніг. Вось што пісаў Хв. Ільляшэвіч айцу Мікалаю Лапіцкаму: «Пасылаем Вам 100 падручнікаў "Старога Запавету". Цана яго 10 марак. Цану ўстанавіў Уладыка Апанас зь меркаваньнем, што даход будзе прызначаны на**

---

**[1] С. Коўш. Беларускі лягер у Ватэнштэт. Альбом. Гістарычная даведка. ЗША, 1981, б.102.**

**дапамогу беларускім студэнтам. Будзьце ласкавы, распаўсюдзьце гэты падручнік там, дзе Вы можаце, каб яго прадаць... Калі будзеце патрабаваць яшчэ колькі падручнікаў, напішыце, -- у нас на складзе яшчэ крыху знойдзецца. Зь беларускім прывітаньнем».** ***(Зь ліста Хведара Ільляшэвіча да айца Мікалая Лапіцкага ад 28 красавіка 1949)***

**А вось ліст да Юркі Віцьбіча: «У нас выйшаў вельмі салідны часапіс "Беларускі Скаўт", у якім наша моладзь, так сказаць, рэальным становішчам выказвае сваю салідарнасьць са старэйшым грамадствам адносна справы "Крывіччыны". Варта было-б адзначыць маленькай рэцэнзіяй гэты часапіс. Будзьце ласкавы, перашліце яго ва ўкраінскія газэты і скаўцкія часапісы. Важна было-б пашырыць яго (прынамсі, па адным экзэмпляры) у беларускіх асяродзьдзях амэрыканскай зоны.... Мяне забівае (ці заразае) лягерная мітусьня, ад якой папросту няма ніякага адбою. Усё прыходзіцца займацца рознай драбязой, якая абрыдла, але ад якой ніяк нельга пазбавіцца...».** ***(Зь ліста Хведара Ільляшэвіча да Юркі Віцьбіча ад 25 лістапада 1946)***

**Але пры ўсёй занятасьці грамадскімі справамі Ільляшэвіч заставаўся пісьменьнікам. Ён пісаў апавяданьні, вершы, артыкулы. Тут ім былі створаны «Tango Noturno», «Сон», «Вызвалілі...», шэраг крытычна-публіцыстычных твораў -- «Прарок беларускага народу (Ідэя Беларускага Адраджэньня ў творах Янкі Купалы)», «Пясьнярка барацьбы (У 31-я ўгодкі сьмерці Цёткі)», «Пясьняр няўмольнай красы (Да 30-х угодкаў ад дня сьмерці Максіма Багдановіча)», «Нашы песьняры» і іншых.**

**Рыхтаваў зборнік «Нязжатая радасьць». Уключаў у яго ня толькі новыя вершы, але і напісаныя ў ранейшыя гады, тыя, што былі сугучныя цяперашняму душэўнаму настрою. Так, сюды ўвайшлі «Цымбалы», «Дзень павіс шэрай хусткай...», «Нехта стаў за вакном і маўчыць». І старыя і новыя вершы («Ашалелы вецер на прасторы сьвішча...», «Клёны», «Міраж», «Чорныя цені») вытрыманы ў аднолькавай танальнасьці.**

**Ён ніколі не парываў сувязяў зь сябрамі, раскіданымі па розных акупацыйных зонах, цікавіўся іхняй працай, заклікаў калег-пісьменьнікаў да лучнасьці, паразуменьня, марыў пра арганізацыю творчых аб’яднаньняў.**

**«Літаратурнаму Згуртаваньню "Шыпшына".**

**Нажаль, прыехаць на зьезд сяброў "Шыпшыны" я не змагу. Аднак далей я той-жа "шыпшынавец". Лічу, што супольнымі сіламі мы павінны паставіць наш часапіс на вышыню, на якой павінны сягоньня быць беларускія пісьменьнікі й паэты. Да гэтых вышыняў мы дойдзем. (Я асабіста задаволены, што творыцца новы Саюз пісьменьнікаў і журналістых, я спадзяюся, што хто-хто, а пісьменьнікі хіба-ж у сваёй працы ня пойдуць тымі дарогамі, якімі пайшлі некаторыя нашыя арганізацыі. Каб-жа стварэньне новага згуртаваньня пісьменьнікаў**

**сьведчыла аб нашым духовым росьце й багацьці...). Я далей застаюся "шыпшынаўцам", бо я ў "Шыпшыне" чуюся нічым ня зьвязаным у сваіх творчых пачынаньнях, і яе прыгожы ідэал мне вельмі даспадобы.**

**Дарагія сябры! У час горкіх выпрабаваньняў (калі беларускі пісьменьнік часта даслоўна адчувае правакацыйную «траўлю»), няхай яшчэ мацней аб'яднаецца нашая дружная сям'я, няхай дух сяброўства пануе сярод нас, а ідэалы 25 сакавіка непахісна вядуць нас у далейшай нашай працы. Справа, якую мы пачалі, не павінна замерці. "Шыпшына" ўвойдзе ў гісторыю беларускай літаратуры і гісторыю нашага руху. Толькі мы павінны гарачэй праняцца нашай працай, пастарацца, каб наш часапіс выходзіў часьцей, ды -- друкам. Я, прызнаюся, сам мала спрычыняўся да працы нашага Згуртаваньня: розныя справы стаялі на перашкодзе. Я адчуваю, што так ня можа быць далей. Я пачну больш працаваць для нашай літаратуры, што заўсёды ляжала і ляжыць мне на сэрцы.**

**Жадаю вам посьпехаў у працы. Вашыя думкі я заўсёды падзяляю і буду заўсёды з вамі.**

**Няхай жыве "Шыпшына"! Ваш Хв. Ільляшэвіч».** ***(Ліст ад 19 жнівеня 1947 г.)***

**Ільляшэвіч прымаў актыўны ўдзел у палітычнай барацьбе. Нажаль, ён адышоў ад пазыцыі нацыянальнай лучнасьці, калі менавіта тут, у лягерах ДП, пачаўся той палітычны раскол, які пакінуў найцяжэйшы сьлед на ўсім наступным жыцьці беларускай дыяспары.**

**Заклікаючы лідэраў партый і груповак да аб'яднаньня, Васіль Рагуля зьвяртаўся да ўплывовых дзеячаў беларускай эміграцыі, у іх ліку і да Ільляшэвіча.**

**«Былы Сэнатар Рагуля Васіль — Майнлейс,**
**ДП. Лягер Майнлейс 13а — 3.12.1947 г.**
**Блёк 7-2**

**Копія: Марбург, Пав. Сп. Рагулю Б.**
**Мюнхэн, Пав. Сп. Гарошку**
**Остэргафэн, Пав. Сп. Кендышу**
**Віндзіш, Пав. Сп. Скабею**
**Міхельсдорф, Пав. Сп. Ігнатовічу**
**Зальгау, Пав. Сп. Войтанка**
**Эльвангэн, Пав. Сп. Сакалоўскаму**
**Ватэнштэт, Пав. Сп. Ільляшэвічу**

**Паважаны Спадар Ільляшэвіч!**

**Да гэтага часу я сядзеў, маўчаў. Глядзеў, як нясуць намі ўзьняты наш Народны Сьцяг маладзейшыя.**

**Але мушу сказаць з болем у душы, што як далей так пойдзе, то загіне намарна ўся нашая праца.**

**Атрымліваючы розныя газэты, часапісы, адозвы, закрытыя і адкрытыя лісты, нідзе нічога важкага не знайшоў.**

**Грызьня.**

**Грызьня за што? Хіба на гэта ўсё адкажаце Вы самі. За што грызецеся? Каму ставіце плюсы? Хто з гэтага карыстае? У нашай некалькітысячнай эміграцыі да гэтай пары праз гэтую грызьню не змаглі Вы нічога зрабіць.**

**Дзе наш Эміграцыйны Цэнтр? Хто сяньня ў нас галавой усёй нашай Эміграцыі? Які ў нас Галоўны Камітэт? Каго слухаць? Каму даваць узнагароды? Каго судзіць? Вы адкажаце? НЕ.**

**А час найвышэйшы паставіць на гэта адказнага чалавека. Час найвышэй кінуць пісаніну розных лістоў-памфлетаў, адозваў і г. д. Зьменшыць лік розных Камітэтаў і Рад.**

**Хопіць нам ужо гэтых сварак. Хопіць грызьці адзін аднаго. Хопіць нам гэтых дзеячаў у чужаслове. МЫ ДЗЯРЖАЎНЫ НАРОД. І кожная Дзяржава цэніцца паводле ейных жыхароў-грамадзян. Ёсьць прыказка: "Скажы мне, з кім ты знаёмы, а я табе скажу, хто ты". Дык вось мо' сказалі-б нам сёньняшнія Старшыны, з кім яны знаёмыя?**

**Тры гады дзёрціся за ўладу ў імя лакальнага патрыятызму, ня выходзячы за рамкі лягеру далей, як толькі зрабіць данос на таго ці іншага.**

**Гэта сорам.**

**Іменаваць сябе камітэтам ці радай толькі для таго, каб весьці ўнутры сваёй Эміграцыі барацьбу, а звонку баяцца выступіць у абарону Народнага Сьцягу, падпісацца ініцыяламі на адозве. Не, Паважаныя Спадары. Пры такіх абставінах, у якіх мы сёньня знаходзімся, і з такім усім, мы ня толькі ня зможам сказаць штось у абарону задушанага бальшавікамі нашага Народу на Бацькаўшчыне, але і ў сваёй абароне нічога ня скажам.**

**Нам самім прыйдзецца злажыць свае косьці ці выехаць на чужыну зь Нямеччыны пад імем другой нацыянальнасьці, як учора ад'ехаўшым з нашага лягеру праз транзітны лягер у Амбергу маім суродзічам з Наваградчыны ў Англію.**

**Яны паехалі як Полькі, паміма таго, што ў іх ў "ДП" было запісана, што яны Беларускі. Хто ў гэтым вінаваты? Разьбірайцеся...**

**Дарагія Спадары. Кідайце спрэчкі. Бярыцеся за працу. А калі ня зможаце самі, клічце тых, хто зможа. Не сядзіце бясчынна. Не баламуцьце людзей, даказваючы, што я старшыня, а ня ён...**

***Нам абавязкова і неадкладна трэ' выканаць наступнае.***

**У сьнежані гэтага году адбудзецца спэцыяльны Кангрэс у ЗША, і нам неабходна злажыць мэмарандум да Кангрэсу, каб для нас, як**

**Дзяржаўнага Народу, прызналі собскую эміграцыйную квоту; выконваць гэта трэба зараз-жа неадкладна.**

**Дык кіньце-ж гэта аплёўваньне адзін аднаго рознымі "адкрытымі лістамі" і памфлетамі... Уступіце адзін аднаму. Клічце іншых, калі самі ня можаце.**

**Далей так існаваць ня можа.**

**Дык да працы ў згодзе за Вольную і Незалежную Беларусь.**

**Рагуля Васіль, былы сэнатар».[1]**

**Аднак пераадолець палітычны раскол было немагчыма. Разыходжаньні паміж рознымі групоўкамі яшчэ больш паглыбляліся няпростымі чалавечымі адносінамі, які складваліся між людзьмі ў лягерах ДП.**

**Лягер ДП -- труднае месца для тых, хто хваравіта ўспрымае кожную праяву прыніжэньня і зьнявагі чалавечай годнасьці. Дастаткова зьвярнуцца да ўспамінаў Л. Галяка[2], А. Варлыгі (Я. Гладкага)[3], людзей, што апынуліся ў адным лягеры з Ільляшэвічам, каб убачыць сродкі й мэтады лягернай «дэмакратыі».**

**Вось адзін эпізод, расказаны дырэктарам Ватэнштэцкай школы Язэпам Гладкім: «Ільляшэвіч загінуў трагічна ў аўтамабільнай катастрофе. Блізка празь дзень пасьля гэтага ў табары было паседжаньне радных БЦР ватэнштэцкага аддзелу (ня помню, як яно называлася). У гімназіі Ільляшэвіч выкладаў літаратуру, і пасьля ягонай сьмерці ня стала падручніка па літаратуры (ня ведаю, ці хрэстаматыі, ці гісторыі літаратуры). На гэтым паседжаньні ўстаноўлена, што тая кніга ў мяне, і вынесена пастанова зрабіць у мяне на кватэрыператруску, а паліцыя павінна пакараць мяне (а Каўшова паліцыя[4] карала самым агідным спосабам -- розгамі ці іншымі пабоямі). «...» Празь некалькі дзён, як прыходзіў да мяне Коўш па кніжку, дзяўчына ў гімназіі пытае настаўніка: "Каму я мушу аддаць гэтую кніжку, яе мне даў Ільляшэвіч пачытаць?".**

**Калі-б ня гэта дзяўчына, дык мажліва, што для мяне гэтая справа скончылася-б трагічна.**

**Я калі выйшаў з гадоў падлетка-хлапчука, дык ні з кім ніколі ня біўся, але калі-б Каўшова паліцыя пачала мяне фізычна катаваць, дык-бы я прымушаны быў бараніць у сабе гонар чалавека й біцца да астатняга подыху».[5]**

---

**[1] Архіў Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага (Нью-Ёрк).**
**[2] Леанід Галяк. Успаміны. Кн. 1, 2. ЗША, 1983.**
**[3] А. Варлыга (Я. Гладкі).Чутае, бачанае, перажытае. Рукапіс (Архіў БІНіМа, Нью-Ёрк).**
**[4] С. Коўш -- камэндант лягеру ў Ватэнштэце.**
**[5] А. Варлыга (Я. Гладкі). Чутае, бачанае, перажытае.**

**«Працавітым, адданым, сымпатычным і ціхім»[1] Хведар Ільляшэвіч быў для тых, хто бачыў ягоную гатоўнасьць узяць на сябе любы клопат, хто цаніў ягоную паэзію, разумеў ягоную тугу й з разуменьнем ставіўся да ягонай бескарысьлівасьці, здольнасьці забываць пра сябе. Іншыя, якіх таксама было нямала, аддавалі належнае яму за высокі прафэсіяналізм як журналіста, рэдактара, метранпажа, разам з тым асуджалі яго за няўменьне думаць пра свае інтарэсы.**

**Чалавек зусім іншага складу, практычны, які да таго-ж знаходзіўся ў лягерных звадках на іншым баку, А. Варлыга (Я. Гладкі) пісаў пра Ільляшэвіча ў сваіх успамінах : ««...» ён быў дарослым бездапаможным дзіцём, якое бязь нянькі не магло жыць. Калі ён у гэтую мінуту быў пад'еўшы, дык ён ня думаў, што праз 4-6 гадзінаў захоча зноў есьці, і мог выкінуць вон усе свае запасы, а праз гэта ён заўсёды галадаў і пакутваў...».[2]**

**Чалавек, не прыстасаваны да жыцьця, як ня з гэтага сьвету, Ільляшэвіч лёгка трапляў у складаныя абставіны, зь якіх ня было выйсьця без маральных страт. Той-жа Варлыга, які быў дыплямаваным пэдагогам, апавядае, як захварэў і павінен быў на працяглы тэрмін пакінуць школу. «Маім намесьнікам застаўся Хведар Ільляшэвіч. Ён ніколі не працаваў у пачатковай школе, не сыстэматызаваў, а выкладаў тое, што яму было на памяці. Ён бальшынёй чытаў вершы і праводзіў гутаркі. Ні пэдагагічных правілаў, ні мэтадычнай сыстэмы ён ня прытрымліваўся. А вясной без паўтарэньня, без праверкі ведаў зрабіў выпускі, і зусім бяссумленныя. Ён нікога не хацеў пакрыўдзіць, для яго ўсе вучні былі добрыя, і ён усім паставіў добра, нават самым слабым вучням».[3] А. Варлыга скасаваў адзнакі, пастаўленыя Ільляшэвічам, зрабіў новыя экзамены, а Хведар Ільляшэвіч, з крыўдай у сэрцы, яшчэ больш замкнуўся ў сабе.**

**Блізкіх людзей, якія-б маглі стаць побач, падтрымаць, выслухаць, ня было. Сям'я засталася на радзіме, сябры раскіданыя па розных краінах, зонах і лягерах, дый зь імі Ільляшэвіч ня вельмі ахвотна дзяліўся сваім, па-чалавечы зразумелым, але далёкім ад агульных клопатаў і спраў. Ільляшэвіч піў...**

**Ня крыўдуйся, мой саколік:**
**няма ў гэтым тут маны,**
**бо, як кажны алкаголік,**
**ты гатоў прадаць штаны...**

**Так «жартавалі» нават блізкія сябры.**

---

**[1] «Беларускае слова», 17 сьнежаня 1948 г.**
**[2] А. Варлыга (Я. Гладкі). Чутае, бачанае, перажытае.**
**[3] А. Варлыга (Я. Гладкі). Чутае, бачанае, перажытае.**

**Сьведкай апошніх гадоў жыцьця Хведара Ільляшэвіча была паэтка Вольга Таполя (літаратурны псэўданім Вольгі Зубко)[1]. Пэўны час напрыканцы 40-х гадоў яна бачыла Ільляшэвіча амаль кожны дзень, размаўляла зь ім літаральна да таго дня, калі вырашыла вярнуцца на Беларусь. Была Вольга Таполя ня вельмі шчасьлівым чалавекам, улюбчывая, але, відаць, даволі дэспатычная ў сваім каханьні, ва ўсякім разе, такой яна паўстае зь лістоў таго-ж Хведара Ільляшэвіча, Юркі Віцьбіча, Уладзімера Сядуры.[2]**

**Вярнуўшыся на радзіму, яна доўгі час правяла ў зьняволеньні, потым, на пачатку 60-х гадоў, у савецкім друку зьявіліся празаічныя занатоўкі й вершы Вольгі Таполі, якія былі рэзка адмоўна ўспрынятыя на эміграцыі. Адны, як Сядура, усё-ж гатовы былі дараваць ейныя нападкі («Але і яна адпакутвала на катарзе 12 гадоў, і цяпер, нявольніца, мусіць пісаць пад дыктоўку»), другія, больш непрымірымыя, як Віцьбіч, тыя, што ў свой час імкнуліся дапамагчы ёй тут, на чужыне, знаходзілі такое «пісаньне» недаравальным («Ейны зварот туды, як і ейнае цяперашняе плявузганьне аб "сяброх на чужыне",   -- проста сьвінства. І вельмі й вельмі сумняваюся, каб гэтае плявузганьне, што нагадвае шантаж, рабілася там пад дыктоўку -- яна сама, нягледзячы на кволасьць, іншым прадыктуе...»).**

**Але гэта было значна пазьней, а тады, ў 40-я, калі воляю лёсу Вольга Таполя апынулася побач зь Ільляшэвічам, яна бачыла ў Віцьбічу аднаго з самых блізкіх людзей і шчыра дзялілася зь ім сваімі перажываньнямі.**

**Ліставаньне Вольгі Таполі -- жывы чалавечы дакумэнт. У ім -- трагедыя дваіх, страшэнна адзінокіх, але ня здольных дапамагчы адзін аднаму. Кожны зь іх асуджаны на пагібель у тых умовах, у якіх апынуўся. І калі чытаеш гэтыя лісты, сьмерць Ільляшэвіча, як і зварот Таполі на радзіму, дзе яе чакае турма (яна ня мае ўяўных надзей і спадзяваньняў), ужо не здаюцца раптоўнымі, выпадковымі. Разам з тым, з гэтых лістоў паўстае трагедыя бяссрэбраніка, чалавека мяккага і безабароннага перад звычайнымі плёткамі, нізасьцю і проста перад тым, што называецца побытам.[3]**

**Лісты Вольгі Таполі да Юркі Віцьбіча -- не выпадковыя старонкі, якія даносяць да нас галасы даўно адышоўшых людзей, а як-бы**

---

[1] **Мянчанка, скончыла Беларускі Дзяржаўны Ўнівэрсытэт, настаўнічала; працавала ў Дзяржаўным Выдавецтве, была карэктарам, літпраўшчыкам. У часы нямецкай акупацыі жыла ў Менску, працавала ў рэдакцыях газэтаў і часапісаў.**

[2] **Тут і далей публікуюцца лісты Ўладзімера Сядуры, Юркі Віцьбіча, Вольгі Таполі і Хведара Ільяшэвіча, што захоўваюцца ў Архіве Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага (Нью-Ёрк).**

[3] **Лісты Хв. Ільляшэвіча да Вольгі Таполі нарукаваны ў кнізе: Дадатак-дапаўненьне да кнігі «Недапетая песьня. Жыцьцё і літаратурная спадчына Хведара Ільляшэвіча». Сабраў і апрацаваў Юры Жывіца. Выдавецтва Інстытута Беларусаведы, Ляймэн, 1987.**

**завершаная аповесьць -- са сваёй экспазыцыяй, завязкай, кульмінацыяй, разьвязкай...**

**20 сьнежаня 1947 году**

**Дарагі Юры Аляксандравіч!**

**Шчыра дзякую Вам за лісты, за дасланьне «Спадзяваньняў». (Я думаю, што сам аўтар не зрабіў-бы гэтага, але прашу Вас перадаць яму маю падзяку за надпіс), за высланыя !9-10 «Шляхам Жыцьця». Але, між іншага, гэты нумар я маю ўжо ад Ільляшэвіча. Я ўжо грунтоўна прачытала яго. Мне вельмі падабаецца -- цікавы, зьмястоўны, бесстаронны, справядлівы часапіс. Ня тое, што «крывіцкая» літаратура. Шкада, што ня маю 8-га нумару, а апошніх -- цэлых два.**

**Вершы Сяднёва таксама вельмі падабаюцца, толькі яшчэ ня ўсе прачытала. Найперш прачытала «Сустрэчу», на які Вы ўказалі мне... Падабаецца! Мусіць, я адчула-б нешта падобнае, сустрэўшыся зь Ільляшэвічам. Толькі -- ці давядзецца сустрэцца?.. «...»**

**Сумна, але цешаць Вашыя лісты ды лісты Ільляшэвіча. Я ім страшэнна захапляюся, але, зразумела, як чалавекам і паэтам, а не як каханкам, якім ён для мяне ніколі ня быў і ня будзе. Таму майму захапленьню ім не перашкодзіць ягоны сум па сваёй сям'і... Я магу толькі бязьмежна спачуваць яму... Я таксама прысьвяціла яму верш, шкада толькі, што Вы ня друкуеце маіх вершаў! Ён, між іншага, прыслаў мне свой верш «Ашалелы вецер на прасторы сьвішча...», які паслаў да Вас у «Шыпшыну». А калі выйдзе «Шыпшына»? Чаму Вы не напісалі мне пра яе жаднага слова?**

**На просьбу Ільляшэвіча я паслала сваё апавяданьне ў «Шляхам Жыцьця» (але гэта не «Навальніца» -- іншае)...**

**Ільляшэвічавы вучні напісалі мне таксама вельмі мілы дзіцячы ліст... Я думаю, ён вельмі добры настаўнік. Ах, як шкада, што ў мяне няма пэрспэктываў зь ім пабачыцца! Гэта мяне вельмі засмучае... Гэтак апрыкрала аднэй сярод чужых пошленькіх людцаў, у якіх няма жадных духовых інтарэсаў, жадных глыбокіх пачуцьцяў... Гэтак вось жыць няма ні сэнсу, ні цікавасьці... А мо' пад уплывам хваробы, павышанай тэмпэратуры насьпявае неяк неадольна такое жаданьне: пабыць хоць крыху са сваімі людзьмі, запраўды сваімі, нагаварыцца адзін раз удостач з Вамі, зь Ільляшэвічам, а пасьля і зусім ня жыць больш, памерці...**

**Прабачце за «ўпадніцтва»! Вы-ж ня любіце такіх лістоў, я ўжо знаю! К Новаму Году, Калядам (Вы-ж сьвяткуеце 7-га?) напішу яшчэ... Пастараюся крыху весялей.**

**Усяго найлепшага! Сардэчнае прывітаньне Вашай сям'і, Сяднёву ды іншым маім знаёмым.**

**З пашанай Вольга Тапоrange.**

**20 студзеня 1948 году**

**Шаноўны і дарагі Юры Аляксандравіч!**

**Пэўна, Вы атрымалі маю паштоўку, якую я напісала Вам, выязджаючы ў Ватэнштэт. І вось я ўжо ў Ватэнштэце. Дарагі Юры Аляксандравіч, мне раптам здалося, што я апынулася ў сябе дома, на далёкай, згубленай нашай Радзіме. Ах, як добра... І, здаецца, мяне зробяць "ДП" і пакінуць тут назаўсёды... Так, Вы мелі рацыю, калі раілі мне сюды паехаць.**

**І Ільляшэвіч якраз такі, як Вы казалі: другому апошнюю кашулю гатоў аддаць. Сама бачу, як ён апошняе аддае іншым, а сам ня мае нічога, бядняк. Мне яго да болю шкада... Мы знаходзімся ў сумежных пакоях і бачымся штопоўгадзіны, а часам і штохвіліны. Мы працуем разам -- ён дае мне розныя "нагрузкі". Фактычна, я прыехала да яго, нікога іншага тут ня ведала. Але ўсе сустрэлі мяне, як сваю, даўно знаёмую. Камандант лягеру вельмі слаўны і сустрэў мяне вельмі цёпла. Ён зрабіў усё магчымае для таго, каб я сталася "ДП". «...»**

**Шчырае прывітаньне ад Ільляшэвіча. Шчырае прывітаньне Вашай сям'і.**

**З пашанай да Вас Вольга Таполя.**

***(Ліст не датаваны)***

**Дарагі і шаноўны Юры Аляксандравіч!**

**Урэшце пасылаю Вам вершы для «Анталёгіі». Ільляшэвіч даўно ўжо проста жыць не дае мне з гэтымі вершамі -- ён кажа, што паабяцаў Вам падганяць мяне, каб хутчэй даслала. А ў мяне ўсё справы неадкладныя, бо я-ж пераязджаю ў Ватэнштэт. Цяпер шлю вершы літаральна з дарогі, дзьве начы ня спала, таму прабачце за неахайнасьць.**

**Але я баюся спаткацца зь Ільляшэвічам, не адаслаўшы вершаў, бо будзе мне наганяй. Між іншага, ён якраз нядрэннай думкі аб маіх вершах. У большасьці (але ня ўсе) пасылаю па ягонаму ўказаньню. Ён параіў мне паслаць і эратычны вершык, і што-колечы зь інтымнай лірыкі. Ён мне казаў: «Ты, Вольга, -- наша Ахматава і ўносіш у нашу паэзію штосьці новае». Але, між іншым, гэта толькі часам бывала гэтае сяброўскае «Ты» -- цяпер яго зноў няма. Гэта ў нас быў такі праэкт вялікага сяброўства і «літаратурнага каапэратыву», мы нават напісалі разам адну маленькую рэч для часапісу -- бяз прозьвішчаў.**

**Але пляны часткова разьбіліся аб некаторыя мяшчанскія дробязі быту... А зрэшты -- далей будзе відаць. Толькі вельмі і вельмі прашу Вас: Вы нікому-нікамусенькі ні слова не кажэце, гэта я толькі адзінаму Вам кажу, бо ўсё будзе зразумета няправільна і не прынясе нічога, апроч няпрыемнасьцяў. І Хведару таксама нічога ня пішэце. Не кажэце нічога Масею Сяднёву наконт гэтага сяброўства, бо ён разумее сяброўства занадта вузка (увогуле, ён у жыцьці вузей, чым у паэзіі), і менавіта таму ў**

**нас зь ім выйшлі толькі няпрыемнасьці. Але аб іх я нікому ня хочу расказваць.**

**А вось Хведар можа быць запраўды вельмі добрым, надзвычайным сябрам, таксама як і Вы, дарагі Юры Аляксандравіч. Таму менавіта я і пішу гэтак шчыра. «...»**

**Ільляшэвіч прасіў мяне напісаць Вам -- але ўжо, мусіць, запозна, -- каб Вы не расказвалі нікому наконт майго "ДП", бо некаторыя асобы могуць выкарыстаць гэта супроць некаторых добрых людзей.**

**Ільляшэвіч пісаў Вам наконт мяне сам, але забыўся папярэдзіць. Пісаў ён і наконт літаратурнага майго вечара. Трэба сказаць, што я да яго зусім не рыхтавалася і чытала прыпадкова, што пад руку трапіла.**

**Усяго найлепшага! Шчырыя прывітаньні Вашай сям'і. Чакаю Вашага ліста -- засумавала ўжо, бо даўно ня мела.**

**Моцна цісну руку. З пашанай да Вас**

**Вольга Таполя.**

**Відаць, Вольга Таполя мела на ўвазе ліст Хведара Ільляшэвіча да Юркі Віцьбіча:**

**1 лютага 1948 году**

**«...» Таполя мела літаратурны вечар у нашым лягеры ад Згуртаваньня «Шыпшына». Вечар удаўся наогул. Яна прачытала адрыўкі з рамана «Тры спатканьні» і вершы «Я не паэт» і «Маёй матулі». Вечар быў 25 студзеня. Паміж іншым, яна прайшла ў нас скрынінг і мае правы "ДП". Будзе, здаецца, жыць у Ватэнштэце, але яшчэ зьезьдзіць у амэрыканскую зону.**

**Я буду яе падганяць, каб прыслала хутчэй нешта ў «Анталёгію». «...»**

**Жыве Беларусь!**

**Ваш Хв. Ільляшэвіч.**

**19 сакавіка 1948 году,**
**Ватэнштэт**

**Дарагі й шаноўны Юры Аляксандравіч!**

**Ужо мо' дзесяць ці нават болей разоў пачынала Вам пісаць, ды ўсё дзяру лісты -- усё неяк выходзіць ня так, як мусіць быць. Ну, гэтым разам як-бы ня выйшла -- пашлю яго.**

**Дазвольце Вам шчыра падзякаваць за «Шыпшыну». Атрымаўшы яе, была вельмі ўсьцешана. Як і заўсёды, нумар вельмі цікавы і зроблены па-майстэрску. Толькі ў мяне ўжо яго няма -- забраў Ільляшэвіч, бо ў яго таксама забралі. Яму мне, зразумела, не шкада, не шкада ня толькі «Шыпшыну», якая дорага мне, але ўвогуле не шкада нічога на сьвеце, не пашкадавала-б ні апошняй кашулі, ні апошняй лусты хлеба яму, але вось-жа ў яго таксама забралі, і ягоны нумар узялі людзі, якія літаратурай ня цікавяцца й ніколі ня чытаюць, а толькі робяць выгляд, што цікавяцца.**

**Тут увогуле такі прынцып -- што тваё, то маё. Вось я Вам пажалілася ўжо, і гэта дрэнна. Аднак я спадзяюся, што ўсё-ж гэта застанецца паміж намі, і Вы ня выдадзіце мяне перад Хведарам. Яму было-б няпрыемна.**

**Але, ведаеца, справа ўрэшце й не ў часапісе, і калі я пажалілася, дык таму, што мне балюча неяк, што ягоную дабрыню ўвогуле людзі заўсёды, на кожным кроку, выкарыстоўваюць, зусім ня ўмеючы й ня хочучы яе ацаніць. Ён аддае бяз разбору нават каму абсалютна ўсё, а сам ня мае нічога, нават самага неабходнага, нават ніводнай пары шкарпэтак, напрыклад. Жыве вельмі дрэнна. Такое жыцьцё, фактычна, зьяўляецца павольным самазабойствам. Ён мне сказаў: «Вольга, яшчэ год такога жыцьця, і мяне ўжо ня будзе...». Але ён сам ніколі ня жаліцца, толькі мне часам што скажа. Гэта вялікая справа -- ня жаліцца, калі цяжка і дрэнна. Вось Вы таксама ніколі ня жаліцеся, як-бы цяжка Вам ні было. Ня жаліцца, не зайздросьціць і не хваліцца -- гэта вялікая рэч, гэта трэба ўмець цаніць.**

**Вы і Ільляшэвіч -- цудоўнейшыя людзі, адзіныя, якіх я ведаю тут. Мы зь ім часта Вас ўспамінаем, мы Вас вельмі хвалім -- гэта не камплімэнт. І ведаеце, што Хведар асабліва часта паўтарае аб Вас? Што, калі ён памрэ, дык Вы будзеце адзіным чалавекам, які скажа аб ім цёплае і шчырае слова, слова праўды. Некалі ён разьлічваў, што гэта-ж самае разам з Вамі зраблю і я, але цяпер ён думае, што калі ён памрэ, то і я, пэўна, памру...**

**Так, Вы і Ільляшэвіч -- абодва людзі нязвычайныя, людзі вялікай душы, Вы ўладаеце рэдкімі чалавечымі якасьцямі абодва, але Вы, разам з тым, і розныя зь ім; ён -- палкі, гарачы лірык і ў творчасьці і ў жыцьці, Вы-ж больш эпічны, так сказаць. І яшчэ, мне здаецца, Вы -- цьвярдзейшы. Гэта плюс. Ільляшэвіч мяккі, як воск, і гэта часам дрэнна. Зь ім нават дзеці могуць зрабіць усё, што хочуць. Мабыць, усе, апрача мяне, бо я сама перад ім занадта мяккая. Ён страшэнна любіць дзяцей, але ня хлопчыкаў, а толькі выключна маленькіх дзяўчатак. Яны сядзяць у яго часам цэлымі днямі, перашкаджаюць яму ў працы і проста тэрарызуюць яго... «...»**

**Хачу і пажаліцца, бо я не ўладаю тымі станоўчымі якасьцямі, як вы і Ільляшэвіч. Вось тут, жывучы па розных чужых кватэрах, я разбазарыла амаль усе рэчы, якія з такой цяжкасьцю, зь нямецкай ашчадлівасьцю нажывала гадамі. Тут у мяне становішча іншае, як у Міхельсдорфе: тут я сама толькі раздаю апошняе. Абставіны часам змушаюць да гэтага. Я-б ня жалілася ўжо, бяручы прыклад з Вас і Ільляшэвіча, але мне крыўдна, што гэтыя рэчы ці нават прадукты (напрыклад, Шукелойць перад ад'ездам прыстараўся мне мукі белай) скарыстаў ня Хведар, які меў-бы ў іх больш патрэбы і права, а людзі, якія маюць куды больш за нас, бо гоняць гарэлку, трымаюць жывёлу, робяць гандаль і г. д. «...»**

**Я тут таксама маю ўжо каля 300 марак даўгоў -- такіх ня мела ніколі ў жыцьці. Паёк тут для адзіночак зусім галодны, горшы, як у вас. Нездарма Ільляшэвіч пісаў мне, што часта прыходзіцца галодным быць. Ён таксама часта галадае, хоць мае яшчэ магчымасьць перакусваць з вучнямі пры гімназіі. Але й гэта замала. Мы зь ім ня ўмеем устройвацца.**

**Ёсьць у мяне, зразумела, тут і плюсы. Вось маю ўжо нейкі самастойны катух. Маю працу -- набіваю розныя матрыцы. Вось і часапіс набіла, хоць, можа, і кепскавата -- розныя хваляваньні перашкаджалі. Усё-ж Ільляшэвічу некаторая разгрузка... Але ён усяроўна працуе за дзесяцярых і начамі ня сьпіць...**

**Стала я і актыўнай антыкрывічкай і артыкулы супраць іх пісала. Вызначылі мяне ў акруговую выбарчую камісію, але крывічы (яны ёсьць яшчэ тут) далі мне, здаецца, адвод... Але -- усяроўна!..**

**На мінулым тыдні ў гэты вечар мы сядзелі вось тут, у гэтым маім катушку, разам зь Ільляшэвічам і гутарылі, гутарылі бясконца. Тады быў нейкі разрывак з працай, у яго быў таксама асаблівы настрой, і мы правялі зь ім разам некалькі дзён і вечароў, сядзелі, зашыўшыся, як мышы ў нары, плюючы на ўсё на сьвеце.... Гэтак было ад чацьвярга да нядзелі... Тады было цудоўна. Цяпер мы бачымся ўрыўкамі. Ён страшэнна сумны...**

**Першы час, як я прыехала, усё было інакш. Я прыехала таму, што ён гэтага захацеў. Ён запрапанаваў мне прыехаць сюды, спачатку матывуючы гэта грамадскімі матывамі... Пасьля, на Новы Год, ён напісаў мне ліст, якога не хацеў быў адсылаць, але пасьля адаслаў. «Вольга, -- пісаў ён,-- Вы (мне так хочацца сказаць "Ты"!) адзіная душа ў мяне тут, на чужыне, якая мяне разумее і спачувае. Ах, калі-б Вы прыехалі!.. Калі-б Вы прыехалі!..».**

**Я прыехала -- спачатку ня ведаючы, што застануся тут, Ільляшэвіча ня было -- ён паехаў на паховіны аднаго беларуса, які загінуў трагічна. Я нікога ня ведала ў лягеры. Мяне вельмі цёпла сустрэў камандант, які фактычна зьяўляецца сябрам Хведара. Ён прывёў мяне да Ільляшэвіча на кватэру -- побач зь ім жыве жонка дзядзькі Шылы (дзядзька Шыла доўгі час моцна хворы). Камандант запрапанаваў Шылавай адчыніць пакой Ільляшэвіча і ўстроіць мяне там -- там былі, між іншага, два ложкі. Я разгубілася, а Шылава запратэставала ды запрапанавала спыніцца ў яе. Я так і зрабіла... Я толькі, нягледзячы на стому з дарогі, прывяла ў парадак ягоны пакой, які меў жахлівы выгляд...**

**Пасьля адбылося спатканьне... У першы-ж вечар ён сказаў мне: «Вы, Вольга, маглі-б быць тут, у мяне, але што скажуць людзі... А, зрэшты, пляваць на людзей... Але я мушу быць вольны... Я ня ведаю сам...».**

**Аднак, фактычна, той час мы былі ўсё роўна што разам -- гэта было праз тоненькую перагародачку, побач. І я наводзіла ў яго парадкі, паліла ў печы, гатавала есьці -- мы елі разам, раніцой будзіла яго на**

**лекцыі, грэла гарбату. Мне здаецца, што ў той час ягонае жыцьцё было крыху больш упарадкаваным й лягчэйшым...**

**Усё вельмі цяжка расказаць. Толькі тут, паколькі ў некаторых адносінах ён рабіў для мяне шмат, і паўстала небясьпека, што я, новая, чужынка тут, буду мець нейкае «ўзвышанае» становішча, якое хацелі манапольна захаваць за сабой толькі некаторыя іншыя, паўстала дробная зайздрасьць, пачаліся розныя плёткі, намовы і г. д. Плёткі, праўда, маглі быць і бяз гэтага, але гэта былі адмысловыя плёткі, з пэўным разьлікам. Мая гаспадыня была зацікаўлена ў тым, каб падшукаць мне іншы прытулак. Маглі ў яе быць і іншыя меркаваньні, аб якіх тут таксама шмат пляткарылі, але я ня хочу іх паўтараць.**

**І вось і я вырашыла перабрацца на іншую кватэру. Хведар і я, абое мы былі сумныя і нэрвовыя. Гаспадыня амаль увесь час была ня дома. Ільляшэвіч штохвіліны забягаў да мяне, а то спыняўся чагось у нерашучасьці каля дзьвярэй. Ён сказаў яшчэ раз: «Вольга, сумна і цяжка быць аднаму...». Бачачы ягоны страх перад абмовай, змаганьне з сабой, я перабралася не да яго. Тады ён выкінуў з свайго пакою другі ложак... У той-жа дзень...**

**І вось я не дапамагаю яму больш. Ён баіцца абмовы. А змаганьне ў ім усё яшчэ йдзе. Сам сказаў аб гэтым. Ён ня ўмее хлусіць. Але цяпер стараецца сябе паказаць да мяне горш, чым ёсьць. Раз я сказала яму -- людзі думаюць, ён да мяне кепскі. Ён нават узрадаваўся і сказаў: «Гэтак лепш». Абы яны ня думалі іншага.**

**Часам-жа, наадварот, бывае празь меру добры...**

**Гавару я зусім аб'ектыўна -- Ільляшэвіч чалавек выключны. Нязвычайна здольны, мнагагранны, вельмі глыбокая і складаная натура... Пра такіх я толькі ў кнігах чытала й ня ведала, што пабачу такога ў жыцьці. А вось пабачыла й пазнала нават больш, чым іншыя, бо іншыя, нават найлепшыя ягоныя сябры, ня ведаюць тых бакоў ягонага жыцьця і ягонае душы, якія ведаю я. Бо ён, хоць і шчыры вельмі, але і скрытны разам у некаторых дачыненьнях. Толькі, можа, гэта задорага будзе мне гэта каштаваць...**

**Мая адданасьць цешыла Ільляшэвіча, бо ніхто ня быў тут яму адданы, ніхто яму не спачуваў, не разумеў. Ён мне неяк сказаў: «У сваім жыцьці я чуў замала цёплых словаў. Я іх патрабую -- адчуваю гэта часам балюча». Але часам ён толькі дэнэрвуецца празь мяне, і я раблю яму ня лепш, а горш. Маёй сужыхарцы былой сказаў ён аднойчы (дый ня раз гэта было): «Вольга мяне здэзарганізавала, дзьве начы ня спаў... Яшчэ адна такая ноч -- і я звалюся». Ён быў крыху шчыры зь дзьвума асобамі тут, якія жылі са мною разам. Абедзьве падвялі, як найгорш. Цяпер ён і найлепшым гаворыць адваротнае...**

**Увогуле ўсё страшэнна заблыталася, ускладнілася. Я цяпер сама ня спала некалькі начэй. Пачуваюся хворай. Таму мо' ня ведаю сама, што пішу Вам. Неяк ня так зьбіралася я напісаць.**

**Ускладненая сытуацыя была ўжо і тады, калі я ехала па рэчы. Я спытала ў Ільляшэвіча па-шчырасьці: «Можа, лепш мне ня прыязджаць больш? Я-ж магу, і будучы "ДП", жыць недзе на прыватцы...». І вось быў адказ: «Адзіная просьба -- прыехаць найхутчэй». Я просьбу выканала... А можа, гэта была вельмі грубая памылка?**

**Толькі часамі бывае добра, калі, забыўшыся пра ўсё на сьвеце, мы гадзінамі гутарым «по душам», часамі нават пры замкнёных дзьвярах. Тады ён іншы раз гаворыць: «Вольга, мяшчанства-ж тут скрозь, фактычна... Толькі ты ды я... Двое нас тут толькі... І яшчэ недзе там -- Віцьбіч, на якога ўся мая надзея...».**

**Я тут больш самотная, чым у Ляцінгене нават. Ніякіх добрых знаёмых, як у Міхельсдорфе, у мяне няма. Няма куды й пайсьці, няма з кім пагутарыць. У сьвята ніхто нікуды не запросіць, сяджу адна «ў сваёй бярлозе», як кажа Хведар, і толькі чакаю: а можа прыйдзе ён, адгуляўшы сьвята ў іншых... Часамі прыходзіць... «...»**

**Хутка прышлю Вам нешта з прозы, толькі ня знаю, ці пасьпее ў наступны нумар. У мяне ёсьць адна нясконченая новая рэч, я хацела нават падагнаць яе ў «Шляхам Жыцьця», але Ільляшэвіч сказаў мне: «Пашлеце, Вольга, у "Шыпшыну", гэта-ж і я нічога не паслаў, калі не маё, дык хай ваша будзе». Я яму паабяцала ды за рознымі справамі ўсё яшчэ ня скончыла. А раней я меркавала ў «Шыпшыну» іншае падрыхтаваць.**

**21 сакавіка 1948 году**

**Атрымаўся міжвольна перапынак у лісьце. Была ў нас зь Ільляшэвічам праца на дзень і ноч. Учора к вечару скончылі. Я была ледзьве жывая, але тым ня менш мы зноў правялі зь Ільляшэвічам цудоўны вечар у бясконцых гутарках, у якіх і Вас добрым словам паміналі... Найлепшае ў жыцьці, калі можна так шчыра і па-сяброўску гаварыць з чалавекам, які мае глыбокую душу...**

**Я неяк недарэчна пачала ліст, мусіць, таму, што мела дрэнны настрой. Увогуле, усё напісала ня так, як трэба, але ўсяроўна -- пашлю. Толькі прашу Вас, як будзеце пісаць Ільляшэвічу, пішэце, як заўсёды. Я заўважыла, што яму нават прыемна, калі Вы што-небудзь успамінаеце пра мяне, ён тады з такой сьветлай усьмешкай дакладвае аб гэтым, але мая шчырасьць з Вамі была-б яму няпрыемная.**

**Як узор маёй працы па набіўцы матрыц, Вы атрымаеце скаўцкі бюлетэнь штандару «Гарц», высланы Вам учора.**

**Шчырае прывітаньне Вашай сям'і.**

**З найшчырэйшымі пажаданьнямі і пашанай да Вас**

**Вольга Таполя.**

**1 красавіка 1948,**
**Ватэнштэт**

**Дарагі й шаноўны Юры Аляксандравіч!**

**Пасылаю Вам свой новы твор. Я прысьвяціла яго Ільляшэвічу. Ён заслужыў гэтага. Мне хацелася напісаць інакш, але інакш нельга было... Мне вельмі, вельмі сумна. Ільляшэвіч цяпер хворы. Ён ляжыць у сябе ў пакоі, і яму вельмі кепска. Учора было крышку лепей, ён прачытаў мой твор і нейк усьцешыўся, а сёньня ізноў горай. У яго хворыя лёгкія й сэрца. Я за яго страшэнна баюся, бо яго брат памёр ад сухотаў...**

**Учора цэлы дзень ляжаў галодны. Я занесла яму тое-сёе, зварыла заціркі, а сама нічога ня ела, бо ў нас зь ім няма нічога... Але гэта ўсё было нішто для хворага... Я дамовілася з камандантам, каб Хведару далі, хоць часова дадатковыя харчы, і камандант зрабіў гэта... Сёньня ён атрымае. Але яму дрэнна, у яго жахлівы настрой. Кепска ў яго цяпер з нэрвамі таксама. Апошнія дні ён піў, і гэта вельмі пагоршыла ягоны стан. Яму цяпер ня можна піць...**

**Яму цяжка. Сапраўдных сяброў у яго тут няма. Камандант толькі крыху сябра, дый той сёньня выехаў... Хведар страшэнна, жахліва самотны... Вакол толькі дробная, нізкая зайздрасьць, розныя інтрыгі.**

**Калі яму кепска цяпер, шмат хто цешыцца... І я не заўсёды магу яму дапамагчы з-за розных складанасьцяў. Становішча такое, што звар'яцець можна. Ах, калі-б Вы былі недзе бліжэй, дарагі Юры Аляксандравіч!**

**Я страшэнна баюся за Хведара. Вы напішаце яму, ці-ж ня праўда? Вы напішыце, што даведаліся ад мяне аб ягонай хваробе, але наконт нэрваў і выпіўкі ня трэба пісаць, а то яму будзе яшчэ цяжэй... Гэта між намі. Вы-ж залаты чалавек, Юры Аляксандравіч, Вам-жа ўсё можна сказаць, Вы-ж не асудзіце яго, як іншыя. А іншыя, якія яго асуджаюць, самі ў сто разоў горш...**

**Усяго найлепшага, Юры Аляксандравіч. Моцна, моцна цісну Вашу руку. Шчырае прывітаньне Вшай сям'і.**

**З глыбокй пашанай да вас**

**Ваша Вольга Таполя.**

*** 

**Табе, адзінаму і незраўнанаму,**
**І песьня, і жыцьцё, і ў рукі твае -- лёс!**
**Ты сэрца мне зрабіў крывавай ранаю,**
**І вочы празь цябе лілі азёры сьлёз...**
**Пакуты жудкія і крыўды нявымерныя,**
**Раней нязнаныя, зазнала празь цябе,**
**Ты мучыш зьдзекамі і недаверамі.**
**І я зусім не пазнаю сябе...**
**Ды -- хай ня вынесу, няхай звар'юю я,**
**Няхай пакутамі ты мне скрышыў душу, --**
**Усё, як ёсьць, усё табе дарую я,**

**На ўсё пяшчотнасьцю бязьмежнай адкажу!**
**Бо ў тваіх вачох пад маскаю халоднасьці**
**Я бачыла жывы неапісальны боль,**
**Бо ў тваіх вачох, чужых мне, столькі роднасьці,**
**Што я жыву табой, адным, адным табой!**
**Бо да мяне аднэй такі несправядлівы ты,**
**Бо ты -- цудоўнейшы, найлепшы між людзей,**
**Табою, як нікім, пакутаў кубкі выпіты,**
**Дарога -- цяжкая, і лёс твой -- ліхадзей...**
**І, можа, я адна спагадаю гарачаю --**
**Сярод халодных, абыякавых, чарствых --**
**Паўна к табе. Ды толькі ня зьінaчу я**
**Твайго жыцьця і сумных дзён тваіх!..**

*** * ***

**Да цябе, як бывала, прыйсьці не магу я,**
**Як раней, праведаць цябе не магу,**
**Не скажу табе больш, як жахліва сумую,**
**Па табе н'ат у вершы ня выльлю тугу.**
**Бо з табой адышла мая верная муза,**
**Хай пішу, ды ня так, як бывала пішу,**
**Бо абломкі мінулага роспачы грузам,**
**Стопудовым каменьнем ляглі на душу...**
**Ды няхай адышоў ты, бязьмежна мне любы,**
**Хай жыву безь цябе, ды жыву я табой,**
**Зь ціхім стогнам тулю перасохлыя губы**
**Да прадметаў, крананых тваёю рукой...**

*** * ***

**А як ноч распрастрэ свае цёмныя крылы**
**І як імі ў зьнямозе атуліць зямлю,**
**Сумным ценем брыду пад вакно к табе, мілы,**
**Бо шалёна, нясьцерпна, жахліва люблю!**
**На грудзёх сашчапіўшы самлелыя пальцы,**
**Нібы здань, ў сінім мроку вясновым адна,**
**Доўга, доўга бражу нясуцешным скітальцам**
**Дзесь паблізу твайго вакна.**
**І калі у прагненьні маім мне ўдасца**
**Там забачыць на міг хоць-бы твой сілуэт, --**
**Задрыжу, нібы ліст, ашалею ад шчасьця,**
**О, цудоўны, адзіна-каханы паэт!**
**У пакоі тваім мая лямпка сьвіціцца,**

**Зіхаціць, разьлівае навокл сьвятло.**
**І здаецца мне -- ў лямпцы люстрыцца, іскрыцца**
**Усё тое, што ў сэрцах гарэла агнём.**
**Гэту лямпачку я табе ўпотай прыслала,**
**Як сядзеў ты у змроку панур, адзінок,**
**Каб яна табе сьветам каханьня зазьзяла,**
**Каб сагрэла цяплом твой куток...**

*** * ***

**Ды былі надарэмны мае ўсе стараньні, --**
**У шалёнай, упартай з сабой барацьбе**
**Ты адрынуў, пракляў на’т маё ты каханьне,**
**І яно ўжо ня грэе, ня сьвеціць табе!..**
**І таму мая лямпка гарыць так маркотна**
**Ў кволым змроку празрыстай вясновай начы,**
**І сядзіш ты пануры, жахліва самотны,**
**Ды цяпер мне самоты тваёй не змагчы!**
**Хай ад мукі пякельнай раскрышыцца сэрца,**
**Хай звар’юю ці вечна хай буду тужыць, --**
**Як другія, ня маю на’т права памерці**
**І, бязь сіл да жыцьця, мушу жыць...[1]**

**Іхнія сьцежкі разышліся ў ліпені 1948 году.**

***[Ліст не датаваны****

**Хведар, родны, найлепшы!**

**Ітак -- скончана... Мы нават не сябры, сказалі Вы... Які шалёны боль... Нічога няма, апроч гэтага болю...**

**Дык я іду, Хведар... Іду *туды*... Заўтра, а дзясятай гадзіне раніцой еду ў Браўншвайг, а там... Што-б ні чакала мяне. Я выканаю свой намер. Бывайце! Бывайце, родны, незраўнаны!.. Шчасьце маё, бывайце! Маё сэрца разрываецца ад болю... Шануйце сябе!.. Я-б ня выконвала гэтага намеру цяпер... Мой адзіны шлях -- туды. «...» Я ня ведаю, як лепш... Не для мяне, як лепш, а наогул... Я сказала: выканаю любы загад Ваш! Можа, лепш чакаць тут? Але Вы -- адыходзіце!.. Калі-б гэтага ня было, я чакала-б, *бо я ня маю сілы Вас пакінуць...* І ня ведаю, як сапраўды лепш...**

---

**[1] Верш Вольгі Таполі друкуецца згодна з арыгіналам, што захоўваецца ў архіве Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага (Нью-Ёрк). Варыянт верша памылкова зьмешчаны складальнікам Ю. Жывіцам у зборніку твораў Хв. Ільляшэвіча(Дадатак-дапаўненьне да кнігі «Недапетая песьня». Жыцьцё і літаратурная спадчына Хведара Ільляшэвіча, б. 15-16).**

**Але я шчырая, і вось я даводжу сваю шчырасьць. Гэта больш, чым цаною жыцьця, боісьці ад Вас -- горш, чым памерці.**

**Але Вы адышлі ад мяне, сказалі: «Бывайце назаўсёды!». Пэўна, я сама вінавата... Не, зразумела, ня Вы!.. Вы -- найлепшы, Вы -- цудоўны, добры... Толькі я ня мела права кранаць некаторых рэчаў... Бо Вы ня маеце падстаў мне верыць... А калі атрымаеце іх, дык будзе запозна... Бо мяне ня будзе тут...**

**Хведар, я дзякую Вам за ўсё, за ўсё... Калі я буду паміраць, дык апошнім маім словам будзе Ваша імя... Родны, цудоўны!.. Я шчырая... Я вельмі шчырая... Вы больш ніколі нідзе не спаткаеце такой шчырасьці, такой самаадданасьці, такой гарачай, глыбокай прывязанасьці, як у мяне да Вас. Ніколі! Даруйце, родны, што я прычыніла Вам боль... Вам, найлепшаму сярод людзей... Я не хацела!.. Я сама замучылася зусім... Я зрабілася ледзь не вар'яткай... І я так баюся за Вас!..**

**Пасьля той апошняй выпіўкі ўдваіх было палягчэла, бо мы рассталіся добра, Вы абяцалі прыйсьці... І мне зрабілася неяк лёгка, хацелася быць вясёлай, хацелася сьмяяцца, забыць усё цяжкае... Але, калі пры сустрэчы я цёпла ўсьміхнулася Вам, а Вы не адказалі на ўсьмешку, я зразумела, што ня будзе добрага...**

**Хведар, я хацела быць Вам найлепшым, найшчырэйшым, найадданейшым сябрам... Я люблю Вас больш, чым можна любіць... Вы для мяне даражэй жыцьця... Я ня вораг, о, не!.. Я ня чужая, Хведар, не!.. Чаму не адчуваеце Вы маёй шчырасьці?.. Я шчырая!.. Я не магла ўстрымацца, каб не гаварыць з Вамі шчыра!.. Бо з кім-жа, з кім?.. Вы -- над усімі і над усім!..**

**У апошніх размовах я не казала, што цяпер выканаю свой намер. «...» Цяпер-жа, калі Вы адышлі ад мяне, калі я ўбачыла Вашы сумненьні, правільней, адчула іх, я вырашыла безадкладна пайсьці на рашучы крок і зваротам *туды* выкупіць свае памылкі, свае грахі, аб якіх я казала Вам... Намер гэты быў і раней, стаяла, аднак, пытаньне аб часе зьдзяйсьненьня і спосабе зьдзяйсьненьня... Цяпер -- вызначана... Заўтра, а дзясятай гадзіне -- адсюль, а далей будзе відаць... Далей пакіруюць іншыя. «...»**

**Помніце -- ніхто ня будзе Вас любіць, як я!.. Я не магу бяз Вас!.. Вы -- маё жыцьцё!.. Мне было-б лягчэй памерці. Але я ня скончу самагубствам. Я пайду *туды*. Я ня чужая, толькі слабая... Аднак сабрала ўсе сілы і -- іду... Я ўкладаю сюды запіску аб самагубстве. Гэта толькі, *каб Вы маглі паказаць Каўшу...* «...»**

**Шануйце сябе! Цалую рукі Вашы.**

**Ваша Вольга.**

**13 ліпеня 1948 году**

**Дарагі й шаноўны Спадар Віцьбіч!**

**Мусіць, цяпер я ня маю ўжо права называць Вас так... Вы мяне асудзіце страшэнна.**

**Не магу ўстрымацца, каб не напісаць Вам гэтых апошніх радкоў. Бо нягледзячы на тое, што мы з Вамі -- людзі розных шляхоў і розных перакананьняў, але самыя сьветлыя ўспаміны аб Вас будуць жыць ува мне да апошніх хвілін майго жыцьця...**

**Я іду шляхам Тодара Лебяды. Гэта ўжо зроблена, і паварату няма. Можа, гэта вар'яцтва, пэўна, аддаю сябе на турму, на пакуты, але гэта зроблена шчыра... Як загіну, дык з чыстым сумленьнем, бо шляхам доўгіх ваганьняў прышла я да аднаго перакананьня... Аднойчы я сказала аб гэтым шчыра і вось цяпер даводжу шчырасьць...**

**Мне бясконца цяжка й сумна, мне цяжка да чорнага жаху вар'яцтва, хвілінамі думкі мяшаюцца ў галаве. Я пакідаю Хведара, які стаў для мяне даражэйшым за жыцьцё... «...»**

**Юры Аляксандравіч, бывайце!!! Ня судзіце... Ці -- судзіце, як знаеце... Скажыце калі-небудзь Хведару, што маім апошнім словам, апошнім брэдам будзе ягонае імя... Бо я, мусіць, ня вытрымаю, мае нэрвы зусім хворыя.**

**Юры Аляксандравіч, слаўны, харошы, падтрымайце яго!.. Бо яму цяпер цяжка і сумна... Ён самотны цяпер...**

**Бывайце!!! Вольга Таполя.**

**Апошні акорд у гэтай гісторыі -- ліст Хведара Ільляшэвіча да Юркі Віцьбіча.**

**17 ліпеня 1948 году**

**Глыбокапаважаны Спадар Віцьбіч!**

**Ліст Ваш атрымаў. У найбліжэйшым часе вышлю свае творы ў !8 «Шыпшыны». Тое-сёе маю.**

**Мушу Вас з прыкрасьцю паведаміць, што Вольга Таполя выехала «на радзіму». Гэта наагул нейкая надламаная істота. Яна дабівалася майго каханьня, прычым мне нарабіла шмат прыкрасьцяў сваім гістэрычным і незраўнаважаным захаваньнем. Ніякія нагаворы і пераконваньні не памаглі... Я пераканаўся аканчальна, што яна з нашым нацыянальна-вызвольным рухам анічым ня зьвязана, а на літаратурны гарызонт выплыла прыпадкова. Ня ведаю, ці аб сваім намеры яна паведаміла Вас? Агідна і прыкра, што сярод «Беларусі дзяцей» такія ёсьць сьлімазарныя істоты. Але аб гэтым больш і пісаць ня хочу.**

**Што чуваць у Вас?**

**Я цэлы тыдзень хварэў, цяпер толькі ўстаў на ногі, пачну працаваць і працаваць, каб надрабіць страчаны час.**

**Прыкра ўсё-ж з гэтай Таполяй. Ёй зрабілі столькі дабра, так стараліся дапамагчы, а яна замест працаваць (усе варункі для гэтага яна мела)... Зрэштай, яна сама выразна заявіла, што яе шлях -- туды. Аб Дубоўку, Пушчы і іншых яна раз сказала, што яна іх ненавідзіць. І наагул**

**-- паскудства! Я нават і задаволены, што мы пазбавіліся такога барахла або і варожага элемэнту. Пойдзем далей сваёй дарогай!**

**Пішыце, хоць коратка. З пашанай**

**Хведар Ільляшэвіч.**

**Для цікавасьці -- ліст Таполі.**

**Летам 1948 году Вольга Таполя выехала. А ў лістападзе таго самага 1948 загінуў Хведар Ільляшэвіч. Ці было тое звычайнай дарожнай катастрофай ці дывэрсыяй з боку савецкіх агентаў, якія займаліся дэпартацыяй «перамешчаных асобаў» у СССР, пра што хадзілі чуткі, няведама. Камандант лягеру Ватэнштэт Сьвятаслаў Коўш быў вымушаны надрукаваць «Адкрыты ліст да Беларускае грамадскасьці», адкідаючы папрокі й падазрэньні ў гвалтоўнай сьмерці Ільляшэвіча.**

**Ішлі гады. Імя Хведара Ільляшэвіча не забылася. Ня была забытая і спадчына паэта. Спраўдзіліся думкі Ільляшэвіча: адным з тых, хто дбаў пра захаваньне ягонага імя й твораў, стаўся Юрка Віцьбіч. «Увогуле, мы, беларусы, часам (ды ня толькі часам) сьмяемся тады, калі на душы зусім ня сьмешна, -- пісаў ён да Ўладзімера Дудзіцкага ў лісце ад 12 красавіка 1949 году. -- Той страфой Ільляшэвіча, якую я Вам паслаў у мінулым лісьце, канчаецца ягоны верш "Жонцы" -- цяжка знайсьці штонебудзь больш сумнае, чым гэты верш за вылучэньнем апошняе страфы. У мяне цяпер архіў Ільляшэвіча, і гэтая дваістасьць уласьціва ўсім ягоным апошнім вершам. Яна ўласьцівая ня толькі яму. Гэта наша нацыянальная рыса. Успамінаецца "Чаму-ж мне ня пець". Звычайна розныя ардэнаносныя лаўрэаткі выконвалі яе як нешта мажорнае, жартаўлівае. Толькі тут, на эміграцыі, ад аднае таленавітае сьпявачкі[1] я пачуў аднойчы гэтую песьню па-сапраўднаму -- як стогн народу».**

**І потым -- у артыкуле:**

**«ЗША. Саўт-Рывэр. 1953 год. Жменька ўжо крыху пажоўклых лістоў -- вершы, апавяданьні, маленькі сшытак у чорнай вокладцы -- гэта ўсё рэчавае, матэрыяльнае, што засталося ў мяне ад Хведара Ільляшэвіча. Пяшчотна пераглядаю лісты й не заўважаю ў іх аніякіх скаргаў на асабістае. Але затое кідаецца ў вочы:**

**"Будзьце ласкавы, напішэце аднаму хвораму беларусу. Ён прыслаў мне аповесьць, я яе выпраўляю (грунтоўна), выйдзе, магчыма, нядрэнная рэч".**

**У іншым лісьце чытаю:**

**"Я пасылаю Вам ноты беларускага вальсу "Успаміны", які напісаў адзін малады наш кампазытар. Я горача прашу Вас перадаць гэтыя ноты для спадара Шчаглова, каб ён распрацаваў аранжыроўку".**

**І гэтак скрозь. Усё аб суродзічах і пасьля гэтага крыху між іншым аб сабе. Але-ж гэта лісты, а ня вершы, дзе бяз сумніву мае адбіцца**

**[1] Лідзія Рыгораўна Янушкевіч.**

**асабістае. Я бяру гэты маленькі чорны сшытак. Ён складаецца з пачатых, але ня скончаных вершаў. І яны ніколі ня будуць скончаныя. Таму асьцярожна перагортваю кволыя старонкі. І раптам пераконваюся, што гэты сшытак, магчыма, зусім невыпадкова чорны. У ім столькі суму. Вось верш "Жонцы", які канчаецца радком "Дзе ты, сяброўка мая?". Можа, ніхто гэтак не сумаваў па сваёй сям'і, як Хведар Ільляшэвіч, застаючыся толькі сам-насам з чорным сшыткам. І як спалучыць творчасьць з чорнага сшытку з заўсёды жыцьцярадасным, энэргічным Хведарам Ільляшэвічам. Можа ў ім знайшлі адбітак толькі вузка асабістыя перажываньні, на якія ня мае права жаўнер, што змагаецца за Незалежнасьць свае Бацькаўшчыны? А можа часам сваё асабістае гора здаецца маленькім і ня вартым агульнае ўвагі ў параўнаньні зь бязьмежна вялізарным горам свайго Народу, за шчасьце якога трэба змагацца? Так! Толькі так! -- адказвае паэта ў сваім няскончаным вершы».[1]**

**Пасьля сьмерці Ільляшэвіча частка ягонае паэтычнае спадчыны была надрукаваная ў часапісах і газэтах. У 1948 годзе ў лягеры Ватэнштэт быў выдадзены зборнік апавяданьняў пад псэўданімам Сьвятаслаў Залужны (так Ільляшэвіч падпісваў празаічныя творы). Вялікую працу ў пошуках і зьбіраньні спадчыны паэта ўзяў на сябе Юрка Жывіца, што выпусьціў двума выданьнямі ў Нямеччыне збор твораў Ільляшэвіча «Недапетая Песьня», які ўвабраў вершы са зборнікаў даваеннага часу, працы пра друкарню Мамонічаў і Ядвігіна Ш., артыкулы й вершы часоў эміграцыі. Большая частка архіва знаходзіцца зараз у Нямеччыне. Але...**

**Чорная кніжыца зь вершамі й занатоўкамі паэта... Я гартаю яе пажоўклыя старонкі -- старонкі таго самага чорнага сшытку, пра які пісаў Віцьбіч і які цяпер, праз гады, выпадкова знойдзены мною між рукапісных лістоў і газэтных выразак у архіве Юркі Віцьбіча. Амаль кожны верш перакрэслены: аўтарам? ці тым, хто пазьней зьбіраўся друкаваць? Зьбіраўся ці ўсё-ж надрукаваў?..**

**Чорны сшытак -- гэта нататнік памерам 16,5 на 10,5 см, чорная з матэрыі пацёртая вокладка, 37 пажоўклых аркушаў у клетку.**

**Толькі самае асабістае з апошніх гадоў жыцьця Хведара Ільляшэвіча знайшло адбітак на старонках гэтай кніжачкі: нічога няма тут ні пра зьезды, ні пра выдавецкую дзейнасьць; лягерныя спрэчкі таксама абмінулі яе. Аднак пра душэўны стан паэта, пра ягоны ўнутраны сьвет, пра галоўнае, што займала ягоныя думкі й сэрца, і пра творчую лябараторыю паэта гэты маленькі нататнік гаворыць больш за многія лісты і ўспаміны сучасьнікаў.**

---

**[1] Поўнасьцю артыкул Юркі Віцьбіча «Усё для лепшай долі нашай Беларусі» быў надрукаваны ў газэце «Беларуская трыбуна», !3 (17), лістапад 1953 г. Тут падаецца згодна з рукапісам (Архіў Юркі Віцьбіча. Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага. Нью-Ёрк).**

**Калі гартаеш старонкі чорнага сшытку, то міжволі прыгадваюцца ўжо цытаваныя словы Юркі Віцьбіча, што Ільляшэвіч заўсёды старанна хаваў свой сум і тугу, бо «можа часам сваё асабістае гора здаецца маленькім і ня вартым агульнае ўвагі ў параўнаньні зь бязьмежна вялізарным горам свайго Народу». У гэтым, гранічна асабістым сшытку, няма ні аднаго радка, напісанага ад першай асобы. Толькі ў вершах аўтарскае «Я» адкрыта, бо ў паэзіі аўтарскае «Я» звычна ўспрымаецца, як «Я» лірычнага героя. Лірычным героем аўтар як-бы прыкрывае боль сваёй душы. Ва ўсіх іншых запісах Ільляшэвіч нібы староньні назіральнік, дакладней сказаць, пісьменьнік, для якога й вонкавыя зьявы і ўнутраныя аднолькава пераплаўляюцца ў новы, нікім яшчэ ня бачаны сьвет новага твору. Чорны сшытак -- гэта быццам накід аповесьці ці рамана, зроблены пісьменьнікам, які выключна валодае самымі авангарднымі прыёмамі, у тым ліку «плыньню сьвядомасьці», кінематаграфічным мантажом, зьмяшчэньнем вобразу і г. д.**

**Герой чорнай кніжыцы -- чалавек вельмі адчувальны, інтэлігентны. Ён глыбока адчувае музыку, фарбы, ён увесь адкрыты да ўспрыманьня вобразнай таямніцы сусьвету. Здаецца нават, што больш за ўсё ён заклапочаны імкненьнем знайсьці свае, адзіныя й непаўторныя вобразныя эквіваленты таму, што адкрывае яго пачуцьцям навакольны сьвет. Ён прыслухоўваецца да гукаў слоў, углядаецца ў дакладнасьць узьнікшага вобразу, нібы ўзважвае яго на нейкіх паэтычных шалях. «Раптам, з-за загібу выскачыла сьвятло і белай мышкай бегла па рэйках». «Самаходы праносяцца... ураажаньне сільнага парыву ветру, які пралятае з канца ў канец вуліцы». «Семафор у змроку, як расьпяцьце...». І разам з тым душэўны стан героя поўны тугі й надлому. Галоўны колер ягонага сьвету -- шэры, цёмны. Туман, дым, імгла... «Туманна й пуста на вуліцах. Ён пайшоў у туман, у няведамае». «Сьветла-шэры туман. Быццам у мора адплылі дамы. Усё патанула ў шэрай імгле». «Дахі дамоў у шэрым змроку здаваліся грэбнем шырокай хвалі, ападаючай у цёмнае поле (над цёмнай зямлёй)». І толькі дзе-ніздзе агеньчыкі, але й тыя не даюць ані радасьці, ані надзеі. «Шэрая імгла. І ў ёй расплыліся вочкі затануўшых дамоў, быццам зоркі ўпалі ў шэрае возера і сьвецяцца з мутнага дна». «Здаецца, нейкая пячора, а ў ёй прабіты ваконцы (жоўтыя), як скіты». І музыка нараджае ў ім вобразы суму, тугі й роспачы: «Клявішы жаласьліва загучэлі». «Гукі высока падымаліся, а пасьля падалі абрывам, быццам санкі валіліся ў сьнег з гары і абдавала халодным сьнегам». Гэтыя гукі й фарбы -- знакі адзіноты.**

**Адсюль і такое вострае ўспрыманьне дамоў, вокнаў, прыкметаў сямейнага жыцьця.**

**Многа яшчэ апавядае чорная кніжыца аб душэўным стане паэта -- героя незакончанага рамана, прасякнутага трагедыяй тонкай мастацкай натуры й няспыннай працай творчага духу. Угледзьцеся ў зрокавыя вобразы, пачуйце музыку слоў, учытайцеся ў радкі вершаў. Наўрад ці**

**знойдзецца яшчэ твор, дзе працэс тварэньня так аголены. Вершы ў момант іх нараджэньня... Потым іх прыгладзяць, падчысьцяць і толькі тады аддадуць чытачом і крытыкам. А зараз яны яшчэ дыхаюць жывым цяплом.**

**Друкуецца кніжка запісаў Хведара Ільляшэвіча, друкуецца так, як было, -- бяз выпраўленьняў, пропускаў і ўставак. Апошні рукапіс паэта, пакінуты ім -- мо' ў спадзяваньні, што ягонае слова ўсё-ж адгукнецца.**

## З ТВОРЧАЙ СПАДЧЫНЫ ХВЕДАРА ІЛЬЛЯШЭВІЧА

*** * ***

**Я сягоньня расчуліўся неяк --**
**гэты вечар навеяў мне штось ..**
**Я ўспомніў, як ў бурах-завеях**
**раскідалі і мы маладосьць!**

**Нас жыцьцё таксама ня песьціла,**
**і ішлі мы праз хмурыя дні.**
**І гарэлі ў тумане -- дзесьці --**
**нашы мэты -- ясныя агні!**

**Мы хацелі над роднымі гонямі**
**запалаць, як палае зара,**
**мы хацелі гарэць паходнямі,**
**падымаць на змаганьне край!**

**І ня раз ланцугі зьвінелі,**
**на этапах сьцякала кроў,**
**маладосьці не крануўшы келіх,**
**мы ўставалі ў рады змагароў.**

**Цяпер сэрца ня гэтак буяніць,**
**і каменьнем гнятуць гады.**
**Ды я чуюся заўжды з вамі,**
**як тады, калі быў малады.**

**І калі я стаю ў клясе , --**
**проста сябра й настаўнік ваш,**
**мне робіцца сумна часам,**
**што і ў вас маладосьці нямаш.**
**Але ваш пагляд праменны,**
**вашых душ юнацкі парыў**
**мне заўсёды кажа: «Мы -- зьмена!**
**Мы такія самыя змагары!».**

**Не шкадуйце-ж адцьвіўшых вёснаў,**
**ня схіляйце голаў ніц.**
**Пэўне, гэтакі выпаў лёс нам --**
**жыць у бурах навальніц!**

**Ня зьніжайце арлінага лёту**
**распрастаных магутных крыл!**
**У маланках і у грымотах**
**гартуйце моц сваіх сіл!**

**Жыцьцё здабывайце самі,**
**напралом ідзіце да ўзвышш!**
**Што не здабыта намі, --**
**напэўна, здабудзеце вы!**

**І хоць мы ідзем праз штормы,**
**і хоць гора -- наш штодзённы госьць,**
**зацьвіце ў Беларусі прасторах**
**заўтра новая маладосьць!**

*** * ***

**Усё часьцей я цябе ўспамінаю,**
**мой родны, мой мілы браце.**
**Ці і мне не пара ў выраі,**
**ў краі сьветлыя выбірацца.**

**Як жывы, устаеш ты часта --**
**і ў дажджлівай асеньняй вуліцы**
**капялюша крыло намоклае**
**і усьмешка нейкая сумная.**

**Мне цяпер яна так зразумелая,**
**я і сам усьміхаюся гэтак.**

**Можа мы былі нешчасьлівыя,**
**што сталіся інтэлігэнтамі.**

**Ўсё часьцей я цябе ўспамінаю,**
**мой родны, мой любы браце.**
**Ці ня знак гэта мне, што болей**
**я з табой не змагу спаткацца.**

*****

**Толькі постаць твая ўсплывае,**
**твае сумныя ўсьмешкі, браце,**
**над жыцьцём...**

*** * ***

**Так... жыцьця нашы сьцежкі**
**праходзілі блізка зусім.**
**Твае сьветазарныя ўсьмешкі**
**ня згасьлі ў сэрцы маім.**

**Мне часта твой тварык прыветны**
**сьмяяўся зарніцай вясны.**
**Ды ў сьвеце хіба ўжо гэтак,**
**што шчасьце -- нязбыўныя сны**

**Запаў гэты вобраз прачысты**
**у душу той раньняй парой.**
**Тады ты была гімназісткай,**
**маленькай, прыгожай такой.**

**Быў я тады надта паважны,**
**а ты была толькі дзіця,**
**цяпер-жа ў другім пэрсанажы --**
**раблюся дзіцём часта я.**

**І зь нейкай трывожнай надзеяй,**
**як ловіць дзіця матыля,**
**ганюся за марай аднэй я --**
**сьмешны, наіўны я!**

**Нідзе не знайшоўшы спагады,**
**усьціску нейчых рук,**

**уночы, адзін, бязуладны,**
**брыду  ў сваю кануру.**

**Заснуць мне ніяк не ўдаецца**
**ў бяздоннай, мёртвай цішы.**
**Доўга месяц халодны льлецца**
**стэарынавым воскам шыб.**

**І неяк ня хочацца верыць,**
**што гэты жарт -- няўпрыцям --**
**цэняць яго бязь меры,**
**даюць назоў *жыцьця...***

## Чорны сшытак

**Балонка 1**

**Канцэрт**
**«Мяцеліца»**
**1. «Лявоніха»**
**2. Растрападка**
**3. Полёнэз Агіньскага**
**4. Вальс Казакова**
**5. Мазурка Вяняўскага**
**6. Вясёлы беларускі марш**

*7. Крайсьлер.*[1]
**7. Крайсьлер. Мукі каханьня.**
**8. Чардаш Ліста**
*9. Шуберт*
**9. Вальс**

**Балонка 2**

**Госляр. Вечар у Валодзі. Латышка іграла на піяніне. Скрыпка.**

**Ён выйшаў у другі пакой. Вялікае запацеўшае вакно працёр рукой.**

**Цень ад праязджаючага самаходу, як галоўкі (сылюэты) карагоду праплылі.**

**Агні самаходу рассыпаліся ў вуліцы, як разьбітыя буйныя зоры, быццам нехта сарваў і кінуў зоры -- іскрынкі ясныя, сьветлыя.**

**«Верасы» Гапкоўскага.**

**Чамусьці яму** ***здавалася, што*** **хацелася глядзець у тую даль, кудысь за блакітны небасхіл, што падаў за цёмнымі горамі.**

**[*нрзб.** *** былі яны!**

**Прыпомніўся жніўнёвы гарачы дзень.**

**[*нрзб.** *** я, фурманка**

**Ён слухае музыку, а яна?**

**Ён заплакаў.**

**За вакном адбіваўся аганёк папяросы чырванаватай пазалотай пад бальконам.**

**Водблеск сьвятла**

**Ён глядзеў. З залаціста-малінавага сьвету вырысоўвалася постаць некай жанчыны, якая сядзела на бальконе.**

**Яму прыпомнілася хвіліна.**

**Балонка 3**

**Школа. Госляр. Дзеці сьпяваюць калядку «Хрыстос радзіўся»**

**«Анёлы сьпяваюць,**
**Караля вітаюць,**
**Цуда, цуда павядаюць».**

**Чыстыя, сьветлыя галасы, як званочкі.**

**Ён увайшоў на карідор. Высокая галя. Шырокія ашклёныя дзьверы. На карыдоры [*нрзб.** *** ходзіць [*нрзб.** *** у гумовых [*нрзб.** *****

**Пасьля гісторыі з А.**

**Усё [*нрзб.** *** удзельную вагу, усё атрымоўвае іншую расцэнку.**

**[*нрзб.** *** Каляды.**

**Як ішлі ў школу, былі ў Віці А-к.**

---

[1] **Курсівам выдзелены закрэсьленыя аўтарам словы і радкі.**

**-- Ідзем у школу. Лекцыя сьпеву.**
**-- Я купіў у кіно білет.**
**Разьвітаўся.**
**Ідзіце ў клас. А-к езьдзіць у [*нрзб.*****
**Шырокая песьня-калядка.**
**Ён стаяў ля вакна.**
**Успомнілася яна:**
**-- Я-б хацела для дзяцей зрабіць такую ёлку, на якой я была маленькай дзяўчынкай.**
**На калідоры вучыцель прабіраў вучня. Той расплакаўся.**
**-- Ідзі, не саромайся, ідзі ў клясу заплаканы.**

**Балонка 4**
**«Туман».**
**Студэнты ў К-цы:**
**«Ночы няма. Да 12 гадзіны -- вечар, а пасьля 12 гадзіны -- раніца».**
**Стукаюць у дзьверы. Сядаюць на парозе з важнецкімі мінамі.**
**-- Ах, вы... і Бася заліваецца сьмехам.**
**-- Па-першае, я ня п’ю, па-другое, наліце, а па-трэцяе, чаму такая малая чарка?**
**-- За вашымі шэптамі нашага гоману ня чуваць.**
**Прыйшоў у пакой Х. Федзя Ш.**
**-- Зьява першая. Акт другі, -- абвясьціў урачыста М.**

**Балонка 5**
**А. у Валодзі.**
**Бабушка.**
**Калі ён прыйшоў дахаты, В-я сядзеў у мяне.**
**-- Ты яшчэ не пагаліўся?**
**-- Агарошаны.**
**Абед.**
**-- Ах, эти чёрные глаза**
**Меня смутили...**
**Туман. Расплыўчатыя ваганькі на горах. Туманна і пуста на вуліцах. Ён пайшоў у туман, у няведамае. За вокнамі чорна-белыя фіранкі... У тонах раяля сум.**
**Яна іграла,**
**пасьля ня стрымалася,**
**жаль прарваўся, яна заплакала. Клявішы жаласьліва загучэлі.**

**Балонка 6**
**Скрыпка. Гукі высока падымаліся, а пасьля падалі абрывам, быццам санкі валіліся ў сьнег з гары і абдавала халодным сьнегам («Тропка»)**

**Царкоўны хор. Сьпевакі -- вяскоўцы. У напеве -- працяжныя гукі, як у жніўнай песьні, -- прарываюцца.**

**Балонка 7**

**Гукі падалі, як лёгкія пэрлачкі**

**Балонка 8**

**Госьлер. Горы.**

**Зраньня *заўсё* пакрытыя дымам. Здаецца, дым ад ляснога пажару. *Здаецца пастухі паляць недзе ў далінах вогнішча*. Здаецца, толькі што сьціх бой і дым ад гарматаў клубіцца па горах.**

**А пасьля імгла зьнікае і воку адчыняюцца ціхія ялінкі, пакрытыя далікатнай намаразьзю, быццам апранутыя ў лёгкія вэлюмы.**

**Госьлер. Вечар. Здаецца, нейкая пячора, а ў ёй прабітыя ваконцы (жоўтыя), як скіты. Ціха і маўкліва.**

**Балонка 9**

**Вечар. Ёлка. У Ж.**
**п. Марыя**
**твар як з воску**
**у хаце ў**
**сьпяць**

**В. бярэ [*нрзб.** на рукі і нясе на ложак. Засынае ў сукенцы.**

**Балонка 10**

**На новы год (1946)**

**Недзе за горадам кідалі ракеты. Зялёныя, чырвоныя. Яны падымаліся ціха, высока і разам зь імі па шыбах хутка беглі заглушаныя пажарам залаціста-чырвоныя шалі.**

**Пакой уночы. Вокны -- сьветла-белыя соты, фіранкі сьветлым (воскам) стэарынам сплываюць з карнізаў.**

**Шум у салі -- быццам шэлест лістоў.**

**Балонка 12**

**Вось ён бачыў. Але, можа, ён стоіцца і ня скажа.**
**Вецер шугае.**
**Зараз як шалясьнеш -- і ўпадзеш!**

**Балонка 14**

**Заштрыхаванае галінкамі неба...**

**Сінім атрамантам заліло вакно. У вершы хочацца захуліганіць.**

**Балонка 16**

**<u>Сябром</u>**

**Асеньні шторм. Чужы мне лістапад**
**(паўночны шторм)?**
**Лісьцё мяце паўночны вецер**
**Паўночны шторм. Чужы мне лістапад.**
**А за дзьвярыма шорах лісьцяў.**
**Асеньні шторм. Чужы мне лістапад**
**Пануры вецер сэрца смуціць**
**Маўкліва я сяджу**
**Каб глянуў хто --**
**Ахінуты ў анучы той жабрак!**
**Ні гуку. Ноч. Як у магіле.**
**Мінае час. Я моўчкі ўсё сяджу**
**І жудасна мне азірнуцца --**
**Здаецца -- дзьверы расчынены**
**Мяне даймае вецер. Здаецца --**
**Гурбы лісьцяў на парозе.**
**А недзе сьвет, і рух, белыя рукі**
**І сьмех**
**(адвык сьмяяцца я!)**
**усё -- не для мяне.**
**Ды рады мукам я. У сэрцы цёпла,**
**што я пакутую [за нешта***
**І калі дасьць мне лёс**
**[ў імглу радзімых раніцаў***
**крыштальнасьць гэтую я пранясу**
**Асеньні шторм. Халодны лістапад.**
**А за дзьвярыма сумны шорах лісьцяў.**
**[стапа***

**Балонка 17**

**Успаміны наплываюць, [як хмары***
**Дзе вы, сябры?**
**Я вам, няведамым сябрам,**
**даўно пішу, складаю гэты верш.**
**Складаю днямі і начамі**
**І вось у гэты шторм --**
**папера замакрэлая і алавік ня піша**
**і плачуць зь ветрам строфы,**
**як сэрца, абрываецца**

**Халодны і абдзёрты, у дождж, у непагоду**
**на ростані пакінуў мяне лёс**
**Ніхто рукі ня сьцісьне, ня скажа**
**слова пацехі**
**Ці згіну дзе ў дарозе --**
**ці замерзну, як сабака,**
**завыўшы ў зорнасьць неба?**
**...Пуста і холадна.**
**Дождж. Вецер.**
**Ці чуеце вы мой голас...**
**Ціха. Ноч. Паўночны шторм.**
**Муцяцца думкі. Я адзін, адзін...**

**Шлезвіг.**
**Лістапад**

**Але я ўпарты,**
**але я сьмяюся --**
**ўсё для лепшай долі --**
**нашай Беларусі.**

**Балонка 18**

**<u>Жонцы</u>**

**На вуліцах морак. Чужы, пануры готык**
**Маўчыць над затокай імглістай**
**І цені людзей, быццам постаці**
**ўваскросшых манахаў...**
**Ангельскія аўты кідаўць сьвятло**
**Цені людзей бягуць уздоўж сьцен**
**Я іду... бяз мэты...**

**На вуліцах чужых, пустынных**
**Часта ў змрокі ў халодны сутунак**
**убачу пастаць, падобную да цябе.**
**Я іду за табой! Як гэта больна!!**
**Больна вяртацца ў сапраўднасьць**
**Я бачу сябе сьмешным дзіваком,**
**Ня ўмеўшым цаніць шчасьця.**

**Чужы пануры готык...**
**Маўчыць над затокай імглістай.**

**———**

**Дзе ты цяпер, мая сяброўка?**

**Шлезвіг. Лістапад.**

**Балонка 20**

**Госьляр. Сьветла-шэры туман. Быццам у мора адплылі дамы. Усё патанула ў шэрай імгле. Толькі чатыры зубцы («изразцы»), быццам вялікія капюшоны, навісьлі зь неба, быццам манахі...**

**Шэрая імгла. І ў ёй расплыліся вочкі затануўшых дамоў, быццам зоркі ўпалі ў шэрае возера і сьвецяцца з мутнага дна.**

**У царкве было холадна. А. Імануіл -- Ён стаяў і...**

**У горадзе была вялікая ёлка**

**Дождж. Быццам нехта хлюпаў на двары**
**(«Гродня каля хаты»)**

***Войны ўночы -- рамы -- чорныя крыжы***

**Балонка 22**

**Ватэнштэт**

**Далёка недзе між фабрычнымі і лягернымі збудаваньнямі міхцеў аганёк, быццам матылёк біўся крыламі на гарызонце.**

**Балонка 25**

**У вакне -- змрочна-шэрыя хмары**
**Дзень і ноч нада мною плывуць...**
**Мо' таму так голаў цяжарыць**
**Хварабліва-п'яная муць.**
**Ўсё, здаецца, мінула бязсьледна,**
**Кануў з плёскам жыцьця майго шум**
***У адплываючы вечар бледны***
***Ціха* На пасьцелі ў вечар бледны**
**Ціха, ціха загалашу**
**Усё ніжэй навісаюць хмары,**
**Над пасьцеляй маёй плывуць**
**І снуюцца *мары,* як цені,**

***Не даюць мне***
***Я жыву. І пла***
***Я ўсё сьню, усё аб нейчым мару,***
**Не даюць супакою нічуць.**
**Я вясёлы пад хмараў абрывам**
**Мкну стралой праз палі і лясы**
**ў сьнезе сьпеўна скрыпяць палазы**
**Я тану ў правалах сьнежных,**
**Сані рэжуць усьпенены сьнег**
**За імглістай лясной мярэжай**
**Ты чакаеш, чакаеш мяне.**

**——**

**Перад хатай спыняюцца сані,**
**Я ўбягаю на ганак. І вось --**
**У цябе я *ізноў* -- даўно чаканы,**
**Найшчасьлівейшы ў сьвеце госьць!**
**У тваёй хаце ўсё па-старому.**
**[*нрзб.**

**Балонка 26**

**У вачох нашых зноў адлега,**
**Брызгі радасьці, як віно,**
**Хай бушуе і сыпе сьнегам**
**Завіруха ўсю ноч за вакном.**

**Ізноў -- вецер хмары гоніць**
**Топіць надым іх дзесь за лясы**
**Недзе ў змроку брыдуцьв мае коні,**
**Ня скрыпяць ужо больш палазы**
***Усе, здаецца, прыйшлі***

**Ці ў тэй хаце**
***Выглядаеш***
**Надарэмна чакаеш мяне**

***У вакне -- змрочна-шэрыя хмары***

**Усё, здаецца, прапала бязсьледна**
**Толькі хмары плывуць і плывуць**
**Дзе цяпер ты, мая сяброўка,**

**Ці чакаеш мяне, як даўней?**

**Балонка 28**
**Шалясьцелі лісты пад нагамі, быццам нехта маўкліва брыў паміж дрэў у саяне.**

**Скрай хаднікоў ляжала зьмеценае лісьце, як чырвоная пена, прыбой восеньскіх раніцаў, абліты халоднай зарой.**

**Дахі дамоў у шэрым змроку здаваліся грэбнем шырокай хвалі, ападаючай у цёмнае поле (над цёмнай зямлёй).**

**Мэвы над вадой -- белыя сьнежкі, нерастануўшыя ў халодным сонцы.**

**Сонца разьбівалася пырскамі ў вадзе, быццам серабрыстая луска рыбы.**

**Мэвы над дальлю водаў здаваліся пялёсткамі, якія круціў вецер над далёкім востравам.**

**Мэвы -- белыя матылькі.**

**З-за празрыстых воблакаў, што брудна-шэрым дымам нясьліся ў небе, праблісквалі зоркі, быццам вецер нагнаў з засеянага пад вечар поля зярняты. Адзінока яны трапяталі ў вышыні, яшчэ ў пазалоце сонца, адарваныя ад зямлі, на якую яны надарма хацелі ўпасьць.**

**Балонка 29**
**Была позьняя восень**
**Надходзіла позьняя восень**
**Прыйшла позьняя восень. Цёплыя асеньнія дні ціха праплылі над палямі. Зь вечару браўся мароз і доўга трымаўся ўдзень. Кожную раніцу шумным шэлестам ішоў лістапад. У золаку вырысоўваліся ўсё больш агалелыя галіны дрэў. Толькі на вяршынах трымаліся яшчэ лісты, быццам стада вераб’ёў. Прыйшла позьняя восень.**

____

**Цёмныя вокны, маўкліва і пуста, быццам усе памерлі...**
**...Здрыгануўся ад гэтых думак. Хутчэй ад гэтага дому сьмерці! Нейкая сіла цягнула яго ў рухлівыя вуліцы, у людскі натоўп, дзе былі агні і рух.**

____

**Вісіць бялізна на шнурку. Уяўленьне разгортвае абразы сямейнага жыцьця. Вешаюць бялізну. (Ён і яна -- сьмяюцца...)**

____

**...Накідае гной з панадворка. Пласты. Чорныя ягады (лета), яблыкі (агрызкі) -- восень -- уяўленьне разгортвае плястычныя вобразы...**

**Ідуць дахаты, сьветлыя вечары, сьветлыя вішні ў садох (горад).**

**____**

**Büchman (краўчыха)**
**... рубае дровы... абед; сямейная**

**Балонка 30**
**ўтульнасьць; радыё-музыка. Сінія фіранкі. Жоўтае лісьце за вакном.**

**____**

**Clausen -- капаньне агароду. Боты!**

**____**

**Над вачыма -- павекі цененькай чоранай вышыўкай.**

**____**

**Самаходы. Быццам палівае нехта з кішкі вадою вуліцу.**

**____**

**Самаходы праносяцца... уражаньне сільнага парыву ветру, які пралятае з канца ў канец вуліцу.**

**____**

***-- Надарыў мане Бог брадзягаю сухою...***
**Шлезвіг**

**<u>Дзеці</u> [*нрзб.** * **<u>(навэля)</u>**
**Агата! (крадзеная цыбуля)!**
**<u>Thumby!</u> Начлег з I...**
**праходка; б. б. = незнаёмы!**

**Балонка 31**

**У пакоі і холад, і морак**
**ў задуменьні стаю ля вакна --**
**Мне здаецца -- толькі ўчора**
**(яшчэ)**
**Зацьвітала мая вясна...**
**[*нрзб.** * 
**Кожны дзень цяпер стаў гадавінай**
**Разьвітаньняў і чорных няўдач.**
**[Я-ж быў зь нейкай жаласнай мінай**
**ўміг гатовы раскіснуць у плач...***

**Гэты дзень туманны...**

**Гукі цягніка,**
**Што гучаць лагодна за сьцяной,**
**Так мяне настроілі...**

**Спадала лісьцё на шляхох**

**Балонка 32**
**Памёршы:**
**пасінелыя рукі, як скрэпшая смала яліны.**

**____**

**Выбегла яна. У парывістых рухах відаць была нейкая п'яная безнадзейнасьць. Вецер разьвеяў валасы.**

**-- Міхась! -- крыкнула надрывіста, глуха. І ў гэтых гуках неяк дзіўна, насьмешліва быў скумечаны ўвесь боль сэрца. Гэта была просьба і роспач... Але вецер кінуў іх недзе ў траву. І там шэлестам упала іх шчасьце і надзея. Міхась ішоў, не аглядаючыся, крокам падарожнага, які зьбіраўся ў далёкую дарогу. Ён не пачуў гэтых слоў.**

**_____**

**... Быццам пяялі маладыя дзяўчаты ў сьветлую раніцу. Галасы віснуць *над* між белых бяроз на шляху. Чыстыя, звонкія галасы круціліся, спавіваліся *між па-* каля паважнага альта, то беглі ўздагон за ім, то забягалі наперад. Імкліва падымаліся галасы, быццам быстрыя птушкі, увысь, то падалі ніц да зямлі.**

**Гукі разьбягаліся і зараз-жа ізноў ліліся каля аднаго тону, гучэлі дружным роем.**

**Гукі ішлі ў паход, бадзёра, ясным напевам (матывам).**

**Балонка 33**
**Ён яшчэ не адчыняў вачэй, але чуў, як на вуліцы ігралі трамваі.**

**S - Bahn. Раптам, з-за загібу выскачыла сьвятло і белай мышкай бегла па рэйках.**

**Сьвятло S - Bahn -- няма, няма.**
**Раптам нехта быццам махнуў у цемры белай хустачкай, і хутка набягаў цягнік.**

**____**

**Знайшоў вакно ў рэстаране, зь якога відаць была вуліца, якая прыпамінала вёску. І доўга ён марыў каля вакна.**

**Самалёт піша крэйдай кругі на небе.**

**Семафор у змроку, як расьпяцьце; зьвесіўшы галаву чалавек, з высунутымі каленьмі. Нешта асьлізлае...**

**Чырвоныя радкі на станцыі -- нібы калядоўшчыкі ходзяць недзе ўночы.**

**Балонка 34**
**У электрычным сьвятле зелень выглядае сьвежай, як пасьля дажджу**
**Здавалася -- нібы вялікія галубы лятали над зямлёй**
**На небе было некалькі зорак, яны, здавалася, плылі пад ветрам.**

**Балонка 36**
**Шуток -- 100**
**Хмура -- 100** **[*нрзб.** *]
**Баградановіч -- 50**
**Наумчык -- 50 ?**
**Слава + Міхал -- 20**
**нямецкай**
**Рая Жук -- 10 + 20**
**англ. (натуральная рэч)**
**Сымон -- 150**
**Пет [*нрзб.** * **-- 110**

**Балонка 38**

**Bielefeld (West)**
**Pawlus Str 33 II**
**Jakubaw Kons.**

**Балонка 40**

**<u>Гамбург</u>**
**<u>Мост над Эльбай -- даўгі XII</u>**
**вялікі рух**
**цёмныя вуліцы -- плаваючыя агні.**
**Драты трамвайныя -- як серабрыстыя зорачкі -- серабрыстае павуціньне.**
**Немцы зьбіралі вугольчыкі на вуліцы.**
**[*нрзб.** * **-- манастыр**
**царква**

**Балонка 47**

**Rostborobi [*нрзб.** Michal**
**Polisch Camp # 1**
**UNRRA Team 307**
**Bumberg [*нрзб.***

**Балонка 52**

**Вогнішча -- вагонь, дым прыпамінае, быццам вёска гарыць.**
**[*нрзб.** -- зарава!**

**Балонка 59**

**I-ая група (Крыжачок, Лявоніха)**
**1 Гарохава В.**
**2 Лапцік Ж.**

| | |
|---|---|
| | **II група** |
| | **Оля Супрун** |
| **3 Стася Журан** | **Соня Багдановіч** |
| **4 Мар. Супрун** | **Палюховіч** |
| | **Каўтуновіч** |
| **1 Пракаповіч** | |
| **2 Ж. Наумчык** | **Пятро Валасовіч** |
| **3 Аркадзь [*нрзб.*** | **Косьцік Мітковіч** |
| **4 Гарохаў** | **Шуток Валодзя** |

**Хмура**

**Балонка 60**

**Туман**
**Хор у царкве «Господзі, памілуй...»**
***доўга* сьпеў нарастаў, *як-бы хваля,***
**падымаўся, *біўся,* а пасьля доўга, доўга**
**заціхаў, як хваля, пакуль не растаяў**
**у цішыні**
**Тып рэгента: Сурвіла**

**Балонка 61**

**Танцоры: II гр.**
**Стася Шуток**
**Маруся Супрун**
**Жэня Ляцкая**
**Валя Гарохава**
**Гарохаў**
**Пракаповіч**
**Жоржык Наумчык**
**Коля Вярчун**
**Соня**

**2 пары Шунко [*нрзб.** Яся**
**Хмура**
**II група**
**Стася Шуток**
**Маруся Супрун**
**Соня Багдановіч (Лапцік?)**
**Валя Гарохава**
**Гарохаў**
**Пракаповіч**
**Жоржык Наумчык**
**Аркадзь [*нрзб.**

**Балонка 62**

**Русалкі**
**Ляцкія Жэня і Вера**
**Навіцкая**
**Стася Шуток**
**Маруся Супрун**

**Краскі**

**Ведзьмы:**
**А. Супрун**

**Балонка 63**

**3. VII**
**Танцы ў 9 гадзін**
**Рэпэтыцыя ў 10 гадзін**

**Балонка 64**

**<u>Сюжэты</u>**

**1. <u>Бацькоўскі сход.</u>**
**2. Пастаноўка -- праца -- няўдзячнасьць -- сцэна, дэкарацыя -- тры-два вазоны абсталявяць.**
**<u>Сявец</u> (спаў у салі)**
**Спацелы**
**<u>Іван Фёдараў</u>**
**<u>дзядзя Баглай</u>**
**3. <u>Вольнае каханьне</u>**
**К. А.**
**4. <u>Мама</u> (лямпа)**
**5. Сны (разьвеянае каханьне; Л-а; царква)**
**6. Алярм**
**7. Зямля (повесьць)**
**увядзеньне калхозаў. Вёска Х (Т)**
**8. Чорная дама (крыжы на грудзях -- мастак)**
**9. Паварот з катаргі**
**(тып вучаніцы)**
**Аіда -- С.**
**10. Тып скрыпача.**

**<u>«Вызвалілі»</u>**
***Сон***
***Спатканыя***

**Балонка 65**

**Зоя Мікулоўская. Ліст на Вялікдзень**
**Зю-ль, вёска на Палесьсі = зьнік пару месяцаў перад вайной**
**Доктар. Стары эмігрант. Мае жонку немку. Дзяўчына -- пляменьніца -- жыве разам зь ёй. Зайздросны [*нрзб.* * *Разыходзіцца з...* Кідае жонку.**
**«Пляменьніца» кідае Доктара**
***«Tango Noturno»***
**«Цягнікі адышлі»**

**Балонка 66**

**Шопат зямлі**
**Разьвітаньне**
**У вагоне**
**Мастацтва**

**Спатканьне**
**Сон**
**Сосны шумяць**
**Фіранка**
**Бунт**
**<u>«Tango Noturno»</u>**
**«Вызвалілі»**
**«Цягнікі адышлі»**

**Балонка 70**

**Урыўкі з Баркулабаўскага летапісу.**

**1582 roku mnoga mno'estva strawnyx i velikix hudes gospod; bog okazati rahil% peruny i grady velikiq^ suxost;^ morozy amal; ne herez vse leto byli u Litve& Ot velikogo morozu na poli u kolos;i 'ito posxlo^ mnogiq domy panov zacnyx ot perunov velikix pogoreli^ zime z morozov i metelicy po dorogam mnogoe mno'estvo l[dej ubogix^ tak'e i kupeckix pomerlo& A lete velikij 'ar byl% 'ito^ qri^ trava^ tak'e qriny ogorodnyq vse pogorelo u Litve^ a zvla]a okolo Menska^ okolo Vilni^ l[di ubogiq z xleba na Rus; davalisq -- molodcy^ 'onki^ devki^ mnogo na Rus; i na Ukrainu ponaxodilo&&&**

**Балонка 71**

**Гастрыё мяча -- атручанае.**
**Атручаная татарская страла!**
**Кухарка ў В. -- тып паганкі.**

**Балонка 73**

**[*нрзб.** Прышло ў[*нрзб.** 25-28**
**I, II, III, IV, V**

**Скараход**

**Экскурсіі 24. VI**

**Балонка 74**

**Ноч. Вецер. Асьветлены двор. Зборка ў В.
Айцец Міх. Даклад, плакаў.**

---

## БІБЛІЯГРАФІЯ ТВОРАЎ ХВЕДАРА ІЛЬЛЯШЭВІЧА

**СКАРАЧЭНЬНІ**

**Хведар Ільляшэвіч. «Веснапесьні». Выданьне Ніны Ільляшэвіч. Вільня, 1929, 71 б.** — **«Веснапесьні».**

**Хведар Ільляшэвіч. Зорным шляхам. Вільня, 1932, 65 б.** — **Зорным шляхам**

| | |
|---|---|
| Хведар Ільляшэвіч. Захварбаваныя вершы. Вільня, 1936 | Захварбаваныя вершы |
| Хведар Ільляшэвіч (Сьвятаслаў Залужны). Апавяданьні. Пасьмертнае выданьне. Выданьне Беларускага Дапамогавага Камітэту лягеру АБЦ у Ватэнштэт, 1948, 41 б. | Апавяданьні |
| Недапетая Песьня... Жыцьцё і літаратурная спадчына Хведара Ільляшэвіча. Сабраў і апрацаваў Юры Жывіца. Пірмасенс: «Вехі», 1981, 191 б. | Недапетая Песьня |
| Недапетая Песьня... Жыцьцё і літаратурная спадчына Хведара Ільляшэвіча. Сабраў і апрацаваў Юры Жывіца. Другое выданьне, папраўленае і дапоўненае. Пірмасенс: «Вехі», 1982, 202 б. | Недапетая Песьня(2) |
| Дапаўненьне да кнігі «Недапетая Песьня». Выдавецтва Інстытута Беларусаведы, Ляймэн, 1987, 42 б. | Дадатак |
| Ля чужых берагоў. Альманах твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў. Мюнхэн, «Бацькаўшчына», 1955, 230 б. | Ля чужых берагоў |
| Весткі Інстытута Беларусаведы. Ляймэн, !4, 1989, 82 б. | «Весткі» |
| Архіў Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага. Нью-Ёрк | (Архіў Фундацыі) |

## ПОДПІСЫ. ПСЭЎДАНІМЫ. КРЫПТАНІМЫ

| | |
|---|---|
| М. Дальны | І -- ч |
| Залужны | М. Д. |
| Сьвятаслаў Залужны | С. З. |
| У. Залужны | Х. І. |
| Хведар Ільляшэвіч | Ю. М. |

**Л. Іскра**
**Малады**
**Леанід Нічыпарук**[1]
**Стары Скаўт**

**Уключаныя ў бібліяграфію творы і выданьні, за выключэньнем пазначаных зорачкай, апісаныя de visu.**

---

**Абрыўкі біяграфіі Канстанцыі Буйло.** Надрукавана: «Новая дарога», 12 сакавіка 1944, подпіс М. Дальны.

**«Ад вока схавалі нам даль...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 49.

*__Адцьвітаньне.__ Надрукавана: «Народная справа», 16 кастрычніка 1946.

«**Алесь Салавей».** Надрукавана: «Беларускі работнік», !40, 1 кастрычніка 1944; Недапетая Песьня (2), б. 193-194. Подпіс Леанід Нічыпарук.

**Асеньняя паэма** («Неба -- сіні плякат...»). Рукапісны зб. «Нязжатая радасьць» (Архіў Ул. Пелясы. Нью-Ёрк), назва **Восень** («Неба -- сіні плякат...»). Надрукавана: *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 75; «Калосьсе», кн. 5, 1935, назва **Васеньняя поэма**; Недапетая Песьня (2), б. 80.

**«Ашалелы вецер на прасторы сьвішча...».** Рукапісны зб. «Нязжатая радасьць» (Архіў Ул. Пелясы. Нью-Ёрк). Надрукавана: «Шыпшына», !6, 1948, б. 5; «Бацькаўшчына», !12-13(194-195), 27 сакавіка 1954; Ля чужых берагоў, б. 164-165; Недапетая Песьня, б. 83; Дадатак, б. 14-15 (у лісьце Хв. Ільляшэвіча ад 26 кастрычніка 1947 да Вольгі Тапалі).

*__«Бабка»__ [Апавяданьне*. Надрукавана: «Родны край», 7 красавіка, 4 травеня 1934; Зборнік «Роднага краю» за 1934 г., Вільня, 1935. Подпіс М. Дальны.

**Балёнік** [Апавяданьне*. Надрукавана: «Калосьсе», кн. 2, 1935, б. 86; Недапетая Песьня, б. 96.

**Без павароту** («Ці помніш ты, як маці ля калыскі...»). Надрукавана: *«Крыніца», 5 ліпеня 1925; «Веснапесьні», б. 15; Недапетая Песьня, б. 47.

**«Беларусь ты мая расьсьпяваная!..».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 10; Недапетая Песьня, б. 62.

**«Беласьнежным, сьвежым цьветам...».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 46; Недапетая Песьня, б. 69.

**Бор** («Крылата цені мітусяцца...»). Надрукавана: «Веснапесьні», б. 57; Недапетая Песьня, б. 57.

**«Бразнулі з грукатам дзьверы...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 51; Недапетая Песьня, б. 56.

---

[1] **Па зьвестках Юры Жывіцы; Вітаўт Кіпель лічыць, што Леанід Нічыпарук -- псэўданім Антона Адамовіча.**

**Брату** («Ты плачаш, мой браце?..»). Надрукавана: «Веснапесьні», б. 8; Недапетая Песьня, б. 46.

*Бунт [Апавяданьне*. Надрукавана: «Новая варта», !1, 1931.

**«Бура бушуе злосна...».** Надрукавана: Недапетая Песьня, б. 86.

**Бура** («Сьнег... Бура... Галалёдзіца...»). Надрукавана: *«Беларуская ніва», 20 студзеня 1926; «Веснапесьні», б. 23; Недапетая Песьня, б. 50.

**Бывай, лета...** Надрукавана: «Шляхам Жыцьця», !10, 25 кастрычніка 1946, б. 6-7; Недапетая Песьня, б. 166-167. Подпіс Стары Скаўт.

**«Вагні ярчэйшыя...».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 57; Недапетая Песьня, б. 70.

**«Валакуся ўтомлены, зմораны...».** Надрукавана: *«Шлях моладзі», !7, 1931; Зорным шляхам, б. 27; Недапетая Песьня, б. 65.

*Варона. Надрукавана: «Вольная думка», 7 ліпеня 1929. Подпіс Малады.

*«**Веснавітая рань. Яшчэ росы блішчаць...».** Надрукавана: «Права працы», 24 сьнежаня 1937.

**«Вецер і вые і плача...».** Надрукавана: Недапетая Песьня, б. 85.

**«Вецер скуголіць і плача...».** Надрукавана: Недапетая Песьня, б. 86; Дадатак, б. 7-8.

**Вечар** [Апавяданьне*. Надрукавана: *«Шлях моладзі», !12, 1932; «Веснапесьні», б. 9-10; Недапетая Песьня, б. 46.

**«Вечар лашчыцца, быццам, даль...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 38; Недапетая Песьня, б. 53.

**«Вільня. Рух і шум. Гудкі і грукат...».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 15; Недапетая Песьня, б. 62.

*Віхор. Надрукавана: «Сялянская ніва», 31 студзеня 1926. Подпіс І-ч.

*«**Вогні ярчэйшыя...».** Надрукавана: «Шлях моладзі», !11, 1931.

*Восень. Надрукавана: «Рунь веснаходу». Вільня, 1928.

*Восеньская паэма. Гл. **Асеньняя паэма.**

*«**Вось вам песьня...».** Надрукавана: «Родны край», 4 лістапада 1933, подпіс М. Дальны.

**«Вось у ціхай задуме шагоў...».** Надрукавана: *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 79.

**Вочы места** («Калі ймгла разгорне свае крыльлі...»). Надрукавана: *«Шлях моладзі», !2, 1931; Зорным шляхам, б. 23; Недапетая Песьня, б. 64.

**«Вуліцы! Вуліцы! Вуліцы!..».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 14; Недапетая Песьня, б. 62.

**«Вучуся холаду у сьцен...».** Надрукавана: *«Студэнцкая думка», !1, 1929; Зорным шляхам, б. 64; Недапетая Песьня, б. 72.

**«Вы далёка, вясёлыя вуліцы...».** Надрукавана: *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 75.

**Вызвалілі...** [Незакончанае апавяданьне*. Надрукавана: «Шляхам Жыцьця», !8 (20), 31 жніўня 1947, б. 31-33; !9-10 (21-22), верасень-кастрычнік

1947, б. 29-32; !11 (23), лістапад 1947,   б 15-17; !12 (24), сьнежань 1947, б. 39-41; !1 (25-26), студзень-люты 1948, б. 17; Апавяданьні, б. 22-40. Пад назвай **«Вызвалілі...» (Повесьць)** надрукавана: Недапетая Песьня, б. 115-126. Пад назвай **Вызвалілі (першая апрацоўка)** Надрукавана: Дадатак, 5-7. Подпіс  С. Залужны.

**«Вы паехалі. Вашы вочы тужлівыя...».** Надрукавана: «Новая дарога», !49, 26 сьнежаня 1943.

***Вясеньнія матывы** [Абразок*. Надрукавана: «Студэнцкая думка», !3, 1925. Подпіс Х. І.

**«Вясёлае поле, вакол васількі...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 40; Недапетая Песьня, б. 53.

**Вясковая ідылія** («Прапяялі вазы на дарогах...»). Надрукавана: Зорным шляхам, б. 38; Недапетая Песьня,   б. 67.

**Вясна** («Вясна... на панадворку сьмех срабрысты...»). Надрукавана: *«Крыніца», 18 травеня 1925;. «Веснапесьні», б. 18; Недапетая Песьня, б. 48.

**Вясна** («Кап... кап... кап... Хлюпаціць вада...»). Надрукавана: *«Беларуская ніва», 6 сакавіка 1926; «Веснапесьні», б. 26; Недапетая Песьня, б. 50.

***«Вясна -- адраджэньне!..».** Надрукавана: «Сіла працы», 11 лютага 1926 (1928?).

**«Гарады, гарады Беларусі...».** Надрукавана: *«Нёман», !2, 1932; Зорным шляхам, б. 26; Недапетая Песьня, б. 65.

**Гармонь вясковая** («Заліваецца пераборыста...»). Надрукавана: Зорным шляхам, б. 34; Недапетая Песьня, б. 67.

**Гвардыя** («Мы маладыя, мы ўдалыя...»). Надрукавана: «Веснапесьні», б. 5; Недапетая Песьня, б. 45.

**«Гляджу на літараў радкі...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 67; Недапетая Песьня, б. 59.

**«Гмахі плывуць у блакітныя змрокі...».** Надрукавана: *«Шлях моладзі», !4, 10, 1932; *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 74.

**«Годзе песьні пяяць аб нудзе!..».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 6; Недапетая Песьня, б. 61.

**Груганы** («Ня кружыцеся, вораны чорныя...»). Надрукавана: Зорным шляхам, б. 63; Недапетая Песьня, б. 72.

**Гэй, прасторы!** («Дальняя дарога, зьзяньня агняпас...»). Надрукавана: «Веснапесьні», б. 25; Недапетая Песьня, б. 50.

**«Гэй, хлопцы, брацьці мае...»** [Замалёўка з жыцьця лягеру ў Нямеччыне*. Надрукавана: Недапетая Песьня, б. 113.

***«Гэта не партрэт на продаж...».** Надрукавана: «Родны край», 2 сьнежаня 1933, подпіс М. Дальны.

**Да 25-ці лецьця Віленскае Беларускае Гімназыі. (**Вучнёўская прэса). Надрукавана: «Новая Дарога», 12 сакавіка 1944, подпіс М. Дальны.

**Дазорца** («Ён у ночы страляе кашлем...»). Надрукавана: Зорным шляхам, б. 61; Недапетая Песьня, б. 71.

**Дайце мне спаць...** (Уражаньні з скаўцкай экскурсыі). Надрукавана: «Шляхам Жыцьця», !8, 23 жніўвеня 1946, б. 16-17; Недапетая Песьня, б. 165-166.

**«Даўгая вастрожная ноч...».** Надрукавана: *«Рунь веснаходу». Вільня, 1928; Зорным шляхам, б. 37; Недапетая Песьня, б. 68.

**Дзень павіс шэрай хусткай** («Дзень павіс шэрай хусткай на плоце...»). Рукапісны зб. «Нязжатая радасьць» (Архіў Ул. Пелясы. Нью-Ёрк). Надрукавана: «Калосьсе», кн. 3 (16), 1938, б. 155; Недапетая Песьня, б. 82.

**«Дзіця мястовых песьняў гулкіх...».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 31; Недапетая Песьня, б. 66.

**Drukarnia domu Mamoniczow w Wilnie (1575-1622).** Wilno, 1938, 158str. Разьдзел з кнігі «Канец існаваньня друкарні дому Мамонічаў» надрукаваны: *Запісы Беларускага Навуковага Таварыства. Выданьне непэрыядычнае. Сшыток 1. Вільня, 1938, б. 9-16; Недапетая Песьня, б. 170-176. Рэцэнзія Адама Станкевіча на кніжку Хв. Ільляшэвіча надрукавана: *«Калосьсе», кн. 2 (19), 1939, б. 122-126.

**«Дрэвы шапочуць у боскай драмоце...».** Надрукавана: *«Права працы», 24 сьнежаня 1927; Зорным шляхам, б. 60; Недапетая Песьня, б. 71.

**Думкі** [Імпрэсіі*. Надрукавана: «Веснапесьні», б. 21-23; Недапетая Песьня, б. 49.

**Дымнае места** («Вечарам мглiста дымяцца вуліцы...»). Надрукавана: Зорным шляхам, б. 19; Недапетая Песьня, б. 63.

**Жаданьне** («Беларусь! -- краіна Сіняя...»). Надрукавана: *«Студэнцкая думка», !1, 1929; Зорным шляхам, б. 36; Недапетая Песьня, б. 67.

**Жнеі** («Па ўзьмежжы вяртаюцца жнеі...»). Надрукавана: «Веснапесьні». Вільня, 1929, б. 58; Недапетая Песьня, б. 57.

**Жонцы** («На вуліцах морак. Чужы, пануры готык...». Рукапіс (Архіў Фундацыі).

***Журналіст** [Апавяданьне*. Надрукавана: «Родны край», 25 сакавіка 1935, подпіс М. Дальны.

**«Жывая Газэтка» 1947 (**Чытаў Хв. Ільляшэвіч**).** Надрукавана: Дадатак, б. 32; «Весткі», б. 15.

**Замест прадмовы.** Надрукавана: Недапетая Песьня, б. 45.

**«За ноч, як я спаў у ложку...».** Надрукавана: *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 78.

**За работай** («Оооп! Падымай!..»). Надрукавана: «Веснапесьні, б. 11; Недапетая Песьня, б. 46.

**З архіву Хв. Ільляшэвіча.** (П’еса). [Без назову*. Надрукавана: Дадатак, б. 9-14.

**З архіву Хв. Ільляшэвіча.** [Занатоўкі, замалёўкі*. Надрукавана: Дадатак, б. 7-8.

**«За творчасьці варштатам...».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 5; Недапетая Песьня, б. 61.

**«Зацьвітай, родны край, зацьвітай!..».** Надрукавана: *«Калосьсе», кн. 3, 1935; *«Беларускі каляндар 1936 г.». Вільня, 1935; *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 79.

**«Здавалася, у зімовым сьне...».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 53; Недапетая Песьня, б. 70.

***З-за кратаў.** Надрукавана: «Наша праца», 8 кастрычніка 1927.

**«Зноў чупрыну зьвесіў я над вершам...».** Надрукавана: Недапетая Песьня, б. 87.

**З рабочых матываў** («Рабочы, парабак, салдат...»). Надрукавана: «Веснапесьні», б. 27; Недапетая Песьня, б. 51.

**«Зьвініць... Шуміць... Гудзіць...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 55; Недапетая Песьня, б. 57.

***З гісторыі друкарства** [Водгук на працу І. І. Лапо $K, istorii russkoj staropehati& Vilenskaq tipografiq Mamonihej$& ~Sbornik, Russkago Instituta v, Prag«^ 1^ Praga^ 1929`*. Надрукавана: «Гадавік Беларускага Навуковага Таварыства», кн. 1, Вільня, 1933.

**Зь лета** («Ну і дзень! Як ясна ў вышыні...»). Надрукавана: *«Беларуская крыніца», 31 ліпеня 1926; «Веснапесьні», б. 31; Недапетая Песьня, б. 54.

**«Зямля каханая!..».** Надрукавана: *«Шлях моладзі», !3, 1931; Зорным шляхам, б. 54; Недапетая Песьня, б. 70.

**«Ймгла акутала лог...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 70; Недапетая Песьня, б. 53.

**Каваль** («Чуеш стук? Гэта ў кузьні спацелы каваль...»). Надрукавана: «Веснапесьні», б. 7; Недапетая Песьня, б. 45.

**Казка** («Зноў вачыма кудысь плывеш...»). Надрукавана: *«Маладая Беларусь», !1, 1936; *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 75; «Вехі», !42, люты 1983, б. 13.

**«Кацянём чарапае дожджык у дахі...».** Надрукавана: *«Родны край», 10 чэрвеня 1933. Подпіс І -- ч; *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 75.

**«Кладуцца на бруку і сьценах...».** Надрукавана: *«Шлях моладзі», !5, 1933; *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 77.

**Клёны** («Кожны дзень цяпер стаў гадавінай...»). Рукапіс (Архіў Фундацыі). Рукапісны зб. «Нязжатая радасьць» (Архіў Ул. Пелясы. Нью-Ёрк). Надрукавана: «Пагоня», !4, лістапад 1946, б. 8; «Шыпшына», !4, 1947, б. 17; Недапетая Песьня, б. 85.

**«Колерам ціхае роспачы...».** Надрукавана: *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 76.

**«Колькі раз я пяяў вам, дажджы...».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 25; Недапетая Песьня, б. 65.

**«Куды-б нас лёс ня кінуў...».** Надрукавана: Недапетая Песьня, б. 87.

***«Куйце волю, браты...».** Надрукавана: «Беларускі каляндар на 1929 год». Вільня, 1929.

**Кулак** [Апавяданьне*. Надрукавана: «Новая дарога», !26, 20 чэрвеня 1942. Подпіс У. Залужны.

**«Лаўлю адрыўкамі разгул мястовы...».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 17; Недапетая Песьня, б. 63.

**Лета** («Я ў песьні расьпяю, расьпяю...»). Надрукавана: «Веснапесьні», б. 69; Недапетая Песьня, б. 60.

**«Ліпкі сьнег сярэбраным роем...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 60; Недапетая Песьня, б. 58.

**Ліст Хведара Ільляшэвіча да Масея Сяднёва ад 16 лютага (?) 1947 году.** Надрукавана: «Весткі», б. 32.

**[Лісты Хведара Ільляшэвіча да Вольгі Тапалі*.** Надрукавана: Дадатак, б. 33-38; «Весткі», б. 36-41, подпіс Залужны.

**Літаратурны бандытызм.** Надрукавана: «Шляхам Жыцьця», !12, 25 сьнежаня 1946, б 40; Недапетая Песьня, б. 149. Подпіс С. Залужны.

**«Лягчэйшы ўздох. І погляд вачэй прыяцельскі...».** Надрукавана: «Калосьсе», кн. 1, 1935, б. 13; *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 77; «Вехі», !42, люты 1983, б. 20.

**Максім Багдановіч** (У 25 угодкі сьмерці). Надрукавана: «Новая дарога», !12, 14 чэрвеня 1942, подпіс М. Дальны; Недапетая Песьня, б. 186-190.

***Максім Багдановіч як пясьняр места.** Надрукавана: «Вучнёўскі звон», !3-4, 1930.

**Марш «Адраджэньне»** («Наперад мы ідзем...»). Надрукавана: «Веснапесьні», б. 54; Недапетая Песьня, б. 56.

**Мастацтва.** Надрукавана: Недапетая Песьня, б. 97-99, подпіс М. Дальны.

**Места** («Места вагнявокае... ). Надрукавана: «Веснапесьні», б. 53; Недапетая Песьня, б. 56.

**«Места, места, -- любы вораг...».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 48; Недапетая Песьня, б. 69.

**Месячная казка** («Ў пакоі -- сетка месячных праменьняў...»). Надрукавана: *«Новая варта», !1, 1931; Зорным шляхам, б. 20; Недапетая Песьня, б. 64.

**Месячная ноч** («Сьпіць чарот і дрэмлюць лозы...»). Надрукавана: *«Крыніца», 9 жнівеня 1925; «Веснапесьні», б. 17; Недапетая Песьня, б. 48.

**Мінуўшчына** («Між лет доўгіх няволі й сна...»). Надрукавана: «Веснапесьні», б. 28; Недапетая Песьня, б. 51.

**Міраж** («Хвалі пеняцца злосна...»). Рукапісны зб. «Нязжатая радасьць» (Архіў Ул. Пелясы. Нью-Ёрк). Надрукавана: «Беларускае слова», !1, 17 сьнежаня 1948, б. 3. Недапетая Песьня, б. 86.

**«Многа песьняў згубілі мы ўжо...».** Надрукавана: «Калосьсе», кн. 3 (16), 1938, б. 129; Недапетая Песьня, б. 80.

**«Можа дзіўна, што ў век радыя нарадзіўся я паэтам...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 44; Недапетая Песьня, б. 54.

**Музыка** («Ўзьняліся лёгкакрылыя птушкі...»). Надрукавана: Зорным шляхам, б. 58-59; Недапетая Песьня, б. 70.

**«Мы прывыклі казаць...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 13; Недапетая Песьня, б. 47.

**Навагоднія Запросіны** (Навагодні скэч). Надрукавана: Адбітак з часапісу «Шляхам Жыцьця», выданьне Беларускага Дапамогавага Камітэту, Ватэнштэт, 1946, 11 б.; Дадатак, 23-30, подпіс С. Залужны; «Весткі», б. 17-24.

**«Навакол муры -- простыя лініі...».** Надрукавана: *«Шлях моладзі, !11, 1932; *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 74.

**На дарогу** [Апавяданьне*. Надрукавана: «Калосьсе», кн. 1, 1935, б. 14-16; Недапетая Песьня, б. 89-90.

**«На двары вастрожным бура...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 52; Недапетая Песьня, б. 56.

**«На двары марозы лютыя...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 61; Недапетая Песьня, б. 58.

**«Над сінімі сьнягамі...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 37; Недапетая Песьня, б. 53.

**На прагулцы** («Сьветла! Блакіт! Вышыня!..»). Надрукавана: «Веснапесьні», б. 48; Недапетая Песьня, б. 55.

**«На прадмесьцях»** («Рух на вуліцах, гамон...»). Надрукавана: *«Крыніца», 20 верасьня 1925; «Веснапесьні», б. 19; Недапетая Песьня, б. 48.

**На разьвітаньне** («У край нязнаны і далёкі...»). Рукапіс (Архіў Ул. Пелясы. Нью-Ёрк), назва **Дарагой сяброўцы.** Надрукавана: Недапетая Песьня, б. 86.

**На ростані** [Апавяданьне*. Надрукавана: *«Калосьсе», кн. 2, 1937. Подпіс М. Дальны; Недапетая Песьня, б.99-106.

**На рубяжы** [Апавяданьне*. Надрукавана: «Шыпшына», !6, 1948, б. 15-19. Подпіс Сьвятаслаў Залужны; Недапетая Песьня, б. 136-140.

**«Насталі цудоўныя ночы...».** Надрукавана: *«Студэнцкая думка», !3, 1930; Зорным шляхам, б. 21; Недапетая Песьня, б. 63.

**«На турэмнай глебе сьмягнуць...».** Надрукавана: *«Родныя гоні», !26, 1927; «Веснапесьні», б. 46; Недапетая Песьня, б. 52.

**«На шляхох бярозы -- шэраньню займгляцца...».** Надрукавана: *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 78.

**Нашы песьняры** (З нагоды літаратурнага вечару). Надрукавана: «Шляхам Жыцьця», !8, 23 жніveня 1946, б. 18-20; Недапетая Песьня, б. 147-149. Подпіс С. З.

**На этапах** (Замест прадмовы). Надрукавана ў кнізе: Масей Сяднёў. Ахвяры бальшавізму. Беласток, 1944, б. 5-7.

«**Неба зноў лязурнае...».** Рукапіс (Архіў Ул. Пелясы. Нью-Ёрк). Надрукавана: «Сьцяг працы», !1, 4 ліпеня 1928.

*__Не змаглі__ [Апавяданьне*. Надрукавана: «Родны край», 27 лютага 1935, подпіс М. Дальны.

**Нехта стаў за вакном і маўчыць** («За вакном дробны дождж шалясьціць...»). Рукапісны зб. «Нязжатая радасьць» (Архіў Ул. Пелясы. Нью-Ёрк), бяз назвы. Надрукавана: «Беларускі Студэнт», Бэрлін, !2, 1942, б.10; «Шыпшына», !1, 1946; «Бацькаўшчына», !12-13 (194-195), 27 сакавіка 1954; !43 (429), 9 лістапада 1958; Ля чужых берагоў, б. 164; Недапетая Песьня, б. 83.

**«Ноч. Паўноч, ліпа б'е ў вакно...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 68; Недапетая Песьня, б. 59.

**«Ноч прыйшла туманная...».** Надрукавана: *«Студэнцкая думка», !3, 1930; Зорным шляхам, б. 35; Недапетая Песьня, б. 68.

**«Ноч ужо. Я ня сплю...».** Надрукавана: «Калосьсе», кн. 2, 1935, б. 87; *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 75.

*__Ноч у турме.__ Надрукавана: «Рунь веснаходу». Вільня, 1928.

**«Няхай я для цябе -- міраж...».** Верш Вольгі Таполі. Памылкова зьмешчаны ў кнізе: Дадатак, б. 15.

**«Паверце, я яшчэ вельмі наіўны...».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 56; Недапетая Песьня, б. 70.

**«Па вёсках Беларусі...».** Надрукавана: *«Калосьсе», кн. 3, 1935; *«Беларускі каляндар на 1936 г.». Вільня, 1935; *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 74.

*__Пакрыўджаны__ [Апавяданьне*. Надрукавана: «Родны край», 11 травеня 1934; Зборнік «Роднага краю» за 1934 г. Вільня, 1935. Подпіс М. Дальны.

*__Першы сьнег.__ Надрукавана: «Шлях моладзі», !12, 1932.

**Песьні жыцьця** (Ліст з астрогу). Надрукавана: *«Нёман», кн. 1, 1932, Вільня; Недапетая Песьня, б. 88.

**«Песьні каханьня, вы -- птушкі...».** Надрукавана: *«Шлях моладзі», !4, 1931; Зорным шляхам, б. 43; Недапетая Песьня, б. 68.

**«Песьні, мае краскі...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 65; Недапетая Песьня, б. 59.

**Песьні «Радасьці і мукі».** Надрукавана: «Раніца», !37 (199), 18 верасьня 1944; Недапетая Песьня (2), б. 194-195. Подпіс Ю. М.

**Песьня жаўранка** («У лазурнай, сьветлай вышы...»). Надрукавана: *«Наша праўда», 27 красавіка 1927; «Веснапесьні», б. 32; Недапетая Песьня, б. 52.

**«Плакаў дожджык ноччу...».** Надрукавана: *«Шлях моладзі», !10, 1931; Зорным шляхам, б. 45; Недапетая Песьня, б. 68.

**Плач жальбы** («Дзе разьляглася лясамі...»). Надрукавана: *«Крыніца», 15 сакавіка 1925; «Веснапесьні», б. 16; Недапетая Песьня, б. 48.

**«Плёскае, пеніць вазёрная роўня...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 59; Недапетая Песьня, б. 58.

**Поле** («Вясна адраджэньня! Родныя скібы...»). Надрукавана: «Веснапесьні», б. 39; Недапетая Песьня, б. 53.

**«Праз сьнежную муць льлецца месяц-жаўток...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 62; Недапетая Песьня, б. 58.

**«Прамінуць учора дзён жыцьцёвых сьлякаць...».** Верш Уладзімера Клішэвіча. Памылкова зьмешчаны ў кнізе: Недапетая Песьня, б. 87.

**Прарок беларускага народу** (Ідэя Беларускага Адраджэньня ў творах Янкі Купалы). Надрукавана: «Шляхам Жыцьця», !6 (18), чэрвень 1947, б. 3-10; Недапетая Песьня, б. 158-164. Подпіс С. З.

**«Праяўляе вечар вуліц клішы...».** Надрукавана: *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 76.

**«Прыбраліся ў чырвань галіны...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 42; Недапетая Песьня, б. 54.

**Прыляцелі гусі.** Надрукавана: Недапетая Песьня, 114; Дадатак, б. 7-8. [Зь ліста Янкі Золака*: «На бачыне 114 (Недапетая Песьня) верш "Прыляцелі гусі". Гэта -- народная песьня». Надрукавана: Недапетая Песьня (2), б. 201.

**«Прынёс цягнік зь вясковых даляў...».** Надрукавана: *«Шлях моладзі», !1, 1933; *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 77.

***Прыпадак.** Надрукавана: Зборнік «Роднага краю» за 1934 г. Вільня, 1935, подпіс М. Дальны.

**Прыяцелю** («Так расставацца, мой дружа...». Надрукавана: «Калосьсе», кн. 3 (16), 1938, б. 155; Недапетая Песьня, б. 80.

**Пясьнярка барацьбы** (У 31-ыя ўгодкі сьмерці Цёткі). Надрукавана: «Шляхам Жыцьця», !2 (14), 28 лютага 1947, б. 2-4; Недапетая Песьня, б. 150-151.

**Пясьняр няўмёручае красы** (Да 30-ых угодкаў ад дня сьмерці Максіма Багдановіча). Надрукавана: «Шляхам Жыцьця», !5 (17), 26 мая 1947, б. 2-12; Недапетая Песьня, б. 151-158. Подпіс С. Залужны.

**Работнік** («Я работнік: гэта знача...»). Надрукавана: «Веснапесьні», б. 6; Недапетая Песьня, б. 45.

**Разьвітальнае слова з матуралістамі. 1948.** Надрукавана: Дадатак, б. 31.

**Разьвітаньне** («Прашумеў вадапад авечак...»). Надрукавана: «Калосьсе», кн. 1 (18), 1939, б. 34; Недапетая Песьня, б. 82.

**«Рассыпаліcь іскрынкі-зоры...».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 18; Недапетая Песьня, б. 63.

**Расшумеліся ветры...** («Расшумеліся ветры на прасторы у полі...»). Надрукавана: «Калосьсе», кн. 3 (16), 1938, б. 154; Недапетая Песьня, б. 81.

**«Родзяцца, творацца новыя дні...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 45; Недапетая Песьня, б. 54.

**Рыгор Крушына.** Надрукавана: «Беларускі работнік», !46, 12 лістапада 1944; Недапетая Песьня (2), б. 196-197. Подпіс Леанід Нічыпарук.

**«Салодкі шум грымячых шын...».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 40; Недапетая Песьня, б. 66.

**«Серабрысты месяц...».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 49; Недапетая Песьня, б. 69.

**«Сінія далі -- каляровыя хусткі...».** Надрукавана: *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 79.

*«**Сінія ночы шэптам калосьсім...».** Надрукавана: «Сіла працы», 11 лютага 1926 (1928?).

**«Сіняе, сіняе неба...».** Надрукавана: *«Наша праўда», 24 жнівеня 1927; «Веснапесьні», б. 35; Недапетая Песьня, б. 52.

**Скаўцінг і грамадства.** Надрукавана: «Шляхам Жыцьця», !5, 9 чэрвеня 1946, б. 5-7; Недапетая Песьня, б. 167-169. Подпіс Стары Скаўт.

**Скаўцкае вогнішча.** Надрукавана: «Шляхам Жыцьця», !1 (13), 30 студзеня 1947, б. 20-21, подпіс Стары Скаўт.

**Сон** [Апавяданьне*. Надрукавана: «Шляхам Жыцьця», !3, 5 травеня 1946, б. 9-11; Апавяданьні, б. 12-14; «Шыпшына», !9, 1950, б. 7-9; Недапетая Песьня, б. 112-113. Подпіс Сьвятаслаў Залужны.

**Сон** («Я сьніў, што ўзьняўся над зямлёй...»). Надрукавана: *«Наша праўда», 31 травеня 1927; «Веснапесьні», б. 33; Недапетая Песьня, б. 51.

**«Сонца гразьне ў чырвоны кісель...».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 32; Недапетая Песьня, б. 67.

***Сосны шумяць** [Апавяданьне*. Надрукавана: «Родны край», 27 кастрычніка 1934; 10 лістапада 1934; Зборнік «Роднага краю» за 1934 г. Вільня, 1935. Подпіс М. Дальны.

**Спатканьне.** Надрукавана: «Шляхам Жыцьця», !2, 21 красавіка 1946, б. 16-21; Апавяданьні, б. 15-21; Недапетая Песьня, б. 132-136. Подпіс Сьвятаслаў Залужны.

**Спацэр** («Штодзень выходзім на спацэр...»). Надрукавана: Зорным шляхам, б. 62; Недапетая Песьня, б. 71.

**«Спляліся цені -- попел змрокаў...».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 22; Недапетая Песьня, б. 64.

**«Стамілася беднае сэрца ад суму...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 63; Недапетая Песьня, б. 58.

***Старонка.** Надрукавана: «Рунь веснаходу». Вільня, 1928.

**Столькі песьняў** («Столькі песьняў сьпяялі паэты...»). Надрукавана: *«Калосьсе», кн. 1, 1938; Недапетая Песьня, б. 80; «Вехі», !42, люты 1983, б. 20.

**Сыпаліся вішнёвыя краскі** [Апавяданьне*. Надрукавана: «Калосьсе», кн. 2, 1935, б. 83-85; Недапетая Песьня, б. 94-96.

*«**Сьвечка васковая сумна гарыць...».** Надрукавана: «Сіла працы», 11 лютага 1926 (1928?).

***Сьвяточны выпадак** [Апавяданьне*. Надрукавана: «Родны край», 16 сьнежаня 1933; Зборнік «Роднага краю» за 1934 г. Вільня, 1935. Подпіс М. Дальны.

**«Сьмягнуць нашы целы...».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 47; Недапетая Песьня, б. 69.

**«Сьцены! Я вас праславіць хачу...».** Надрукавана: *«Шлях моладзі», !1, 1933; *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 74.

**Сябром** («Асеньні шторм. Чужы мне лістапад...»). Рукапіс (Архіў Фундацыі). Надрукавана: «Шыпшына», !8, 1950, б. 9; «Бацькаўчына», !12-131 (94-195),27 сакавіка 1954; Ля чужых берагоў, б. 165; Недапетая Песьня, б. 15. Перад публікацыямі словы Юрыя Віцьбіча «Перад намі маленькая чорная кніжка...».

**«Сягоньня я хворы...».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 44; Недапетая Песьня, б. 68.

**Сялянская доля** («Ты мужык, цёмны люд...»). Надрукавана: Зорным шляхам, б. 30; Недапетая Песьня, б. 66.

**Сяргей Хмара.** Надрукавана: «Беларускі работнік», !41, 8 кастрычніка 1944; Недапетая Песьня (2), б. 195-196. Подпіс Леанід Нічыпарук.

**Сярод кніг** [Водгук на паэму Масея Сяднёва «На край сьвятла», выданьне «Крыніцы», 1947*. Надрукавана: «Шляхам Жыцьця», !3 (15), 25 сакавіка 1947, б. 34-35; Недапетая Песьня, б. 164-165. Подпіс С. З.

**«Табе, адзінаму і незраўненаму...».** Верш Вольгі Таполі. Памылкова зьмешчаны ў кнізе: Дадатак**,** б. 15-16.

**«Так... жыцьця нашы сьцежкі...».** Рукапіс (Архіў Фундацыі).

**«Так хочацца сказаць новае нешта...».** Надрукавана: *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 79.

**Танго «Нотурно»** [Каляднае апавяданьне*. Надрукавана: «Шляхам Жыцьця», !12, 25 сьнежаня 1946, б. 41-47; «Шыпшына», !5, 1947, б. 21-26; Апавяданьні, б. 5-9; Недапетая Песьня, б. 128-131. Подпіс Сьвятаслаў Залужны.

***«Творчая, небная сінь сьмяецца ў вясеньніх калужах...».** Надрукавана: «Права працы», 24 сьнежаня 1927.

**Толькі вер...** («Толькі вер -- і жыцьцё пераможаш...»). Надрукавана: *«Крыніца», 3 травеня 1925; «Веснапесьні», б. 14; Недапетая Песьня, б. 47.

**Тройка** («Тройка, мая тройка...»). Надрукавана: *«Беларуская ніва» 23 сьнежаня 1925; «Веснапесьні», б. 12; Недапетая Песьня, б. 47.

***«Трывога цяпер усюды...».** Надрукавана: «Рунь веснаходу». Вільня, 1928.

**«Тысячай сонцаў у шыбах разьліўся захад...».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 13; Недапетая Песьня, б. 62.

**«Ты цалуеш мяне і песьціш...».** Надрукавана: *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 77.

**«У баявы марш мы выйшлі».** [Проза*. Надрукавана: Зорным шляхам, б. 7; Недапетая Песьня, б. 61.

**«У бярэзьніку -- зялёнцы...».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 39; Недапетая Песьня, б. 66.

**У вагоне** [Апавяданьне*. Надрукавана: *«Маладая Беларусь», !1, 1936; Недапетая Песьня, б. 91-94. Подпіс М. Дальны.

**«У вакно маё ноч пазірае...».** Надрукавана: *«Беларуская крыніца», 11 кастрычніка 1925; «Веснапесьні», б. 20; Недапетая Песьня, б. 49.

**У гарадскім садзе** («Дрэвы акутаны змрокам...»). Надрукавана: *«Новая варта», !1, 1931; Зорным шляхам, б. 16; Недапетая Песьня, б. 63.

**У кузьні** («Рукі самлелі ад молата...»). Надрукавана: *«Беларускі каляндар на 1932 год». Вільня; Зорным шляхам, б. 55; Недапетая Песьня, б. 72.

**У Купальскую ноч** [Літаратурна-мастацкі мантаж для дзіцячага тэатру*. Надрукавана: «Шляхам Жыцьця», !6, 24 чэрвеня 1946, б. 11-17; Недапетая Песьня, б. 141-146. Подпіс С. З.

**Уладзімер Жылка (1933 -- 1943).** Надрукавана: «Новая дарога», !34, 12 верасьня 1943. Подпіс М. Д.

**У маі** («Як чаромушную бель...»). Надрукавана: «Веснапесьні», б. 30; Недапетая Песьня, б. 51.

**У майскі вечар** («Майскі вечар... Мястовыя вуліцы... »). Надрукавана: «Веснапесьні», б. 29; Недапетая Песьня, б. 51.

**Уначы** (Сцэнічны мантаж). Надрукавана: Дадатак, б. 17-22; «Весткі», б. 7-12, подпіс С. Залужны

**«Ў небе зоркі -- папяроскі...».** Надрукавана: *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 74.

**«У пэрспэктывах вуліцаў -- пусткі...».** Надрукавана: *«Родны край», 29 красавіка 1933; *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 76. Подпіс І--ч.

**«Усё часьцей я цябе ўспамінаю...».** Рукапіс (Архіў Ул. Пелясы. Нью-Ёрк).

**«У сшытку старым знайшоў я...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 64; Недапетая Песьня, б. 58.

**У сьвяты калядны вечар.** Надрукавана: «Беларускае слова», !2, 1 студзеня 1949, б. 1.

**«У цэлі расьселісь халодныя змрокі...».** Надрукавана: *«Беларускі каляндар на 1929 год». Вільня, 1929; «Веснапесьні», б. 50; Недапетая Песьня, б. 55.

**«Учора сонца лашчылася...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 66; Недапетая Песьня, б. 59.

**Фіранка** [Апавяданьне*. Надрукавана: «Новая дарога», !25, 13 верасьня 1942, подпіс М. Дальны.

**«Хвалі пеняцца злосна...».** Надрукавана: Дадатак, б. 7-8.

**Хвіліны суму** («Гэта сум -- ня той заўсёдны...»). Надрукавана: «Веснапесьні», б. 43; Недапетая Песьня, б. 54.

**«Хмары чорныя зьвісьлі над намі...».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 8; Недапетая Песьня, б. 61.

**Худыя плечыкі...** [Апавяданьне*. Надрукавана: «Шляхам Жыцьця», !3 (15), 25 сакавіка 1947, б. 11; Апавяданьні, б. 10-11; Недапетая Песьня, б. 140-141. Подпіс Сьвятаслаў Залужны.

**Цымбалы** («Тады -- я памятаю -- ў вуліцах аквечаных...»). Рукапісны зб. «Нязжатая радасьць» (Архіў Ул. Пелясы. Нью-Ёрк). Надрукавана: «Калосьсе», кн. 4 (17), 1938, б. 196; «Шыпшына», !2, 1946, б. 9; «Беларуская трыбуна», !3 (17), лістапад 1953; «Бацькаўшчына», !12-13 (194-195), 27 сакавіка 1954; Ля чужых берагоў, б. 163-164; Недапетая Песьня, б. 83.

**«Цэлую зімачку буду чакаць...».** Надрукавана: *«Праца», 12 лістапада 1927; *«Студэнцкая думка», !3, 1928; «Веснапесьні», б. 47; Недапетая Песьня, б. 55.

**Цягнікі** («Рэйкі -- жылы...»). Надрукавана: *«Шлях моладзі», !5, 1931; Зорным шляхам, б. 24; Недапетая Песьня, б. 64.

**«Цягнікі і станцыі...».** Надрукавана: «Калосьсе», кн. 2, 1935, б. 87; *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 78.

**«Цяпер у нас засекі поўныя песьняў...».** Надрукавана: *«Калосьсе», кн. 2, 1938; Недапетая Песьня, б. 81.

**«Часамі ў душы маёй дзіўнай мэлёдыяй...».** Надрукавана: *«Наша праўда», 24 жніўеня 1927; «Веснапесьні», б. 36; Недапетая Песьня, б. 52.

**Чорныя цені (**«У вакне -- змрочна-шэрыя хмары...»). Рукапіс (Архіў Фундацыі). Рукапісны зб. «Нязжатая радасьць» (Архіў Ул. Пелясы. Нью-Ёрк). Надрукавана: «Шыпшына», !3, 1946, б. 19; Недапетая Песьня, б. 84.

***«Чуе сэрца, што ня многа...».** Надрукавана: «Рунь веснаходу». Вільня, 1928.

**«Чуеш музыку?..».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 56; Недапетая Песьня, б. 57.

**«Чуць дзень той настане...».** Надрукавана: Недапетая Песьня, б. 85.

**«Шлях даўгі, ланцужны...».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 69; Недапетая Песьня, б. 60.

**Шопат зямлі** [Апавяданьне*. Надрукавана: *«Калосьсе», кн.1, 1938; Недапетая Песьня, б. 106-111. Подпіс М. Дальны.

**Штрых** («Мігае лямпа. Ноч маўчыць...»). Надрукавана: *«Беларуская ніва», 20 студзеня 1926; «Веснапесьні», б. 24; Недапетая Песьня, б. 50.

**«Шум на вуліцах, неба, людзі...».** Надрукавана: *«Нёман», кн. 1, 1932; Зорным шляхам, б. 50; Недапетая Песьня, б. 69.

**«Шырыня -- прастор!..».** Надрукавана: «Веснапесьні», б. 41; Недапетая Песьня, б. 53.

**Эпігоны народніцтва.** Надрукавана: Дадатак, б. 1-4; «Весткі», б. 26-29.

*__Этнограф__ [Апавяданьне*. Надрукавана: «Родны край», 30 лістапада 1935, подпіс М. Дальны.

**«Я гляджу на сьвет вачыма паэта...».** Надрукавана: *«Наша праўда», 24 жніўня 1927; «Веснапесьні», б. 34; Недапетая Песьня, б. 52.

**Ядвігін Ш. (Антон Лявіцкі). Жыцьцё і літаратурная творчасьць.** Вільня, 1933, 37 б.; *«Родны край», 8 красавіка, 29 красавіка, 13 травеня, 27 травеня, 24 чэрвеня, 8 ліпеня 1933; Недапетая Песьня, б. 177.

**Я ізноў** («Ў бездарожжах блукацца даволі!..»). Надрукавана: *«Маладая Беларусь», !1, 1936; *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 78; «Вехі», !42, люты 1983, б. 14.

**«Я не баюсь за Беларусь...».** Надрукавана: Зорным шляхам, б. 9; Недапетая Песьня, б. 60.

**Я ня знаю** («Я ня знаю, чаму я павінен...»). Надрукавана: «Калосьсе», кн. 1, 1935, б. 13; *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 73.

**Я прыйшоў да вас зноў** («Абрусом расьсьцілаецца поле ізноў...»). Надрукавана: *«Калосьсе», кн. 2, 1938; Недапетая Песьня, б. 82.

**«Я сягоньня расчуліўся неяк...».** Рукапіс (Архіў Ул. Пелясы. Нью-Ёрк).

**Яшчэ аб восені** («Калышуцца дамы -- катафалкі...»). Надрукавана: *«Маладая Беларусь», !1, 1936; *Захварбаваныя вершы; Недапетая Песьня, б. 76; «Вехі», !42, люты 1983, б. 13.

# Уладзімер Клішэвіч
# або
# Вернікі і Неафіты

**Часам сказаць «і нічога, апрача праўды», -- ня проста патрабуе пэўных высілкаў, ня толькі складана, а недастаткова: што, калі пры выкрыцьці белых плямаў Індыю абвесьціш Амэрыкай? Якога колеру стануцца плямы?**

**Творчасьць эміграцыйных беларускіх пісьменьнікаў на Бацькаўшчыне сталася. Няведама, наколькі поўна яна знойдзе адбітак у гісторыях літаратуры (вымушаны ўжываць множны лік, бо, нягледзячы на адну літаратуру, маем сёньня некалькі гісторый літаратуры -- прыватных, школьных, акадэмічных, «паспалітых»). Але й тыя постаці і творы, што на вуснах і ў анталёгіях, -- такімі яны былі ці іх хочуць бачыць гэткімі?**

**Любоў да апалягэтызму -- клясік адзіны, твор найлепшы, праца найбуйнейшая -- нагадвае жаданьне дзіцяці мець адну лялькую, «самую-самую». Толькі там хвароба ўзросту. Але-ж ня веку?!**

**Тым ня менш, цыкль «Літаратура беларускага замежжа» ў часапісе «Роднае слова» за 1993 год вылучыў як самую трагічную постаць замежжа Уладзімера Клішэвіча.[1] (Чым вымяраецца трагічнасьць лёсу? Або геніяльнасьць? Якім мэханізмам?). І пакуль рэшта беларускіх пісьменьнікаў не расьцягнута на «самыя-самыя» на гэтым літаратурным конкурсе, варта сказаць колькі слоў пра Клішэвіча -- не ў абарону паэта, але й ня кінуць яшчэ адзін камень. (Як хораша, што ёсьць Біблія. Можна спаслацца на «мудрэйшага з мудрых» -- Эклезіяста, маўляў, такія былі часы: раней раскідалі, а цяпер зьбіраем. Маўляў, час такі).**

---

**[1] Алесь Вішнеўскі. «Я хацеў-бы ізноў нарадзіцца...». Творчасьць Уладзімера Клішэвіча. «Роднае слова», !9, 1993, б. 12-17. Далей: Вішнеўскі.**

**Праблемы з разглядам жыцьцёвага шляху пісьменьнікаў замежжа пачынаюцца з 1941. Да гэтай даты стужка іхняга лёсу разгортваецца ў адпаведнасьці з жыцьцём Краіны: праца або навучаньне, арышты ці публічныя пакараньні «словам і дзелам» -- усё звыклае й таму для савецкага чалавека нармалёвае. Але з 1941... «Цяжка дый немагчыма зразумець, а тым больш апраўдаць тое, чаму замест таго, каб змагацца з акупантамі, ён пайшоў да іх служыць -- пачаў супрацоўнічаць у рэдакцыі "Газэты Случчыны"».[1]**

**Пытаньне вайны, праўды й самаабману занадта балючае для нашае Бацькаўшчыны, каб адшукаць толькі адно -- існае і простае -- вырашэньне. Аднак паспрабуем паглядзець на той час, на той сьвет (ці хутчэй -- пекла) іхнімі вачыма. Ці была для іх розьніца паміж Сталінам і Гітлерам? Першага паспыталі на ўласнай скуры, а другі быццам абяцае беларушчыну. Хто зь іх, тых, хто стаў супрацоўнічаць у імя Беларусі, хто зь іх быў ружовым лятуценьнікам?**

**Клішэвіч? Арыштаваны падчас навучаньня на чацьвёртым курсе Пэдагагічнага інстытуту й высланы -- спачатку ў Сібір, пазьней на Калыму. 14 жніваня 1940 году Клішэвіча прывезьлі зноў у Менскую турму на новыя допыты. Ён сядзеў да 27 чэрвеня 1941, калі быў вызвалены з прыходам на Беларусь нямецкай арміі.**

**Віцьбіч? Гады цкаваньня і штохвілінны жах: даведаюцца пра паходжаньне! Краіна вымусіла адрачыся сына ад бацькі- сьвятара, зь Серафіма Шчарбакова стацца Юркам Віцьбічам.**

**Масей Сяднёў? Дзякуй Богу, зьбег з-пад канвою, а то ляжаць-бы яму ў Курапатах.**

**Антон Адамовіч? Пасьля высылкі?**

**Лявон Савёнак? Пасьля арышту?**

**Уладзімер Сядура, Пётра Сыч, Уладзімер Дудзіцкі, Алесь Змагар, Міхась Кавыль... Кожны зь іх паспытаў «клопат» Краіны, кожны адчуў яе пільны пагляд.**

**Як было застацца вернікам!? Савецкая ўлада зьнішчыла ўсякую надзею на самастойнасьць, незалежнасьць Беларусі, яе нацыянальнае разьвіцьцё. А ў памяці яшчэ жыло нядаўняе: 1918, нямецкая акупацыя, стварэньне БНР.[2] І толькі з часам прыйшло ўсьведамленьне: камуністы й фашысты -- адны адных вартыя. Так яно было, так яно сталася. Гэтак і мы павінны цьвяроза сказаць. І калі абвінавачваць у супрацоўніцтве з фашыстоўскім рэжымам тых, хто друкаваўся ў беларускіх газэтах падчас нямецкай акупацыі, тады трэба абвінаваціць і ўвесь Саюз Пісьменьнікаў БССР у супрацоўніцтве з камуністычным рэжымам.**

**Напэўна, каб ацэньваць людзей, выносіць прысуд іхнім учынкам, трэба ня толькі дамовіцца пра тэрміналёгію, але і ўбачыць сябе ў**

---

**[1] Барыс Сачанка. Беларуская эміграцыя. Менск, 1991, б. 76. Далей: Сачанка.**
**[2] Юры Туронак. Беларусь пад нямецкай акупацыяй. Менск, 1993.**

**суадноснасьці з пэўнай сістэмай каардынат, дзе адна вось -- Час, другая -- Гісторыя, а на іх скрыжаваньні -- Беларусь і ты. Тады ўсё будзе вырашацца з матэматычнай чысьцінёй і непагрэшнасьцю.**

**Эміграцыя, якія-б прычыны яна ні мела, ня была, ды, пэўна, і ніколі ня будзе вызваленьнем ад сябе. Там, на родных палёх, -- тваё, вакол -- тваё, блізкае да болю. Тое, што давала моц, натхняла, супакойвала. Можа і праўда, што «талент Клішэвіча як паэта не паспеў па-сапраўднаму раскрыцца. На тое было шмат прычын, але адна з галоўнейшых -- адарванасць ад сваёй Радзімы, ад яе жыватворных крыніц».[1] Але вось што пра «раскрытыя таленты» ў Краіне пісаў сам Клішэвіч (верш «Менская турма. 1937 г. 20-годзьдзе Кастрычніка»):**

**Пад дзікі крык нямых разлучын**
**Там Цішка Гартны быў замучан.**
**Таўклі чырвоным каты ботам**
**Алеся Звонака й Чарота.**
**Спаткаў таксама лёс свой чорны**
**За кратамі паэт Кляшторны.**

**Далёкі Ўсход, нямы і дзікі,**
**Закрыў зямлёй шкілет Хадыкі.**
**Як языком, зьмяла завея**
**Александровіча Андрэя.**
**Даносчык Кучар быў праворны:**
**Прапаў Зарэцкі, спасься Чорны.**
**За недагляд якога слова**
**Душыў забойца Маракова.**
**Жыцьцё турмы адведаў кожны:**
**Там быў Знаёмы і Дарожны.**
**Сярод нявольнікаў зямных**
**Прысеў Сымон Баранавых.**
**Калі ўжо секлі з-за пляча,**
**Прывалаклі й Галавача.**
**Прыйшлося й мне ў юнацкім ранку**
**Паспрабаваць «Амэрыканку».**
**(«Далячынь», б. 53-54)**

**У сапраўднасьці-ж талент Клішэвіча раскрываецца падчас вайны. У 1943 годзе ён выдае каляктыўны зборнік «Песьняры Случчыны». «Не на апошнім месцы ў нашых случчакоў і Багдановічава-ж захапленьне "даўных форм красой" -- праца каля кананічных формаў вершу, рэдкае строфікі, спэцыфічных вершаваных формаў розных**

---

**[1] Сачанка, б. 78.**

**эўрапейскіх і неэўрапейскіх нацыянальных літаратураў, а таксама й пераклады з гэтых літаратураў. У гэтым дачыненьні першы, бязумоўна, Уладзімер Клішэвіч, гэты, можна сказаць, "Уладзімер IV" нашае вершаванае тэхнікі (пасьля трох папярэдніх Уладзімераў-жа -- Дубоўкі, Жылкі, Хадыкі), якога сюды асабліва цягне, можа якраз тая спустошанасьць, выдзьмутасьць "ветрам халоднай Сібіры"... У гэтыя-ж формы Клішэвіч намагаецца часам уліць і чыста-багдановіцкую філёзофію, глыбіню думкі, афарыстычнасьць... Той-жа Клішэвіч таксама спрабуе адліваць малюнкі прыроды ў клясычных, блізкіх і Багдановічу вобразах».[1] Менавіта тады, у 1943, пачаў шлях Клішэвіч-паэта.**

**У 1944 Клішэвіч разам з тысячамі беларусаў апынуўся ў Нямеччыне, адкуль, ужо з лягераў ДП, трапляе ў ЗША. «Сябра "Шыпшыны" паэта Ўладзімер Клішэвіч жыве цяпер у Нью-Ёрку. Акрамя непасрэднае васьмігадзіннае працы, ён знаходзіць час для творчасьці і актыўнага ўдзелу ў грамадскім жыцьці. У сваім апошнім лісьце паэта падкрэсьлівае сваё цёплае пачуцьцё да роднага Згуртаваньня й выказвае гатовасьць зрабіць усё, ад яго залежнае, для шыпшынаўцаў».[2] (Клішэвіч уваходзіў у беларускае літаратурнае згуртаваньне «Шыпшына» з самых першых дзён заснаваньня). Адна з думак, што валодала ім, -- у Амэрыцы трэба аб’яднацца, мець сваю газэту -- беларускую, сваё радыё -- прынамсі, адзін раз на тыдзень: толькі такім чынам можна згуртаваць сям’ю беларусаў у чужой краіне. Доўгі час выношваў ідэю: выдаць кніжку «Сяброў згуртаваньня «Шыпшына». Праэкт быў такі: на вокладцы бел-чырвона-белы сьцяг і Пагоня, на першай балонцы паведамленьне па-беларуску, што аўтар зьяўляецца сябрам згуртаваньня «Шыпшына». На другой балонцы тое-ж па-ангельску, на трэцяй і чацьвёртай -- па-нямецку і па-француску.[3]**

**Праца на фабрыцы ў Брукліне была цяжкая. Не заставалася часу на чытаньне кніг, знаёмства з горадам. «Калі выпадае час і калі бывае натхненьне, а ў Амэрыцы, трэба сказаць, рэдка бываюць натхненьні, бо за працай сьвету Божага ня бачу, тады я перакладаю сваё натхненьне ў словы -- пішу верш. Прачытаю яго разоў два-тры, а пасьля падшываю ў свой "Збор твораў", і на гэтым усё канчаецца».** ***(Зь ліста Ўладзімера Клішэвіча да Юркі Віцьбіча ад 28 сьнежаня 1949 году)***

**Міхасю Кавылю Клішэвіч пісаў: «Хочацца некалькі слоў сказаць абстрактна, калі так можна выразіцца, філёзофскі. Вы, як паэта, я ў гэтым упэўнены, добра ведаеце, што жыцьцё -- гэта мучэньні. Адны мучацца болей, другія меней, але лёс усіх аднолькавы. І нездарма яшчэ Амар Хайям сказаў:**

---

**[1] Глеб Альгердзіч. Нашчадкі і спадкаемцы. «Шыпшына», !2, 1946, б. 37.**

**[2] «Шыпшына», !7, 1948, б. 59.**

**[3] Зьвесткі пра жыцьцё і творчасьць Уладзімера Клішэвіча на эміграцыі падаюцца па матар’ялах Архіва Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага (Нью-Ёрк).**

**Жыцьцё людзей --**
**мучэньне заўсягды.**
**Ня мінаваць народжаным бяды.**
**Хто не радзіўся,**
**Той, каб нашы мукі ведаў,**
**Ніколі-б ён**
**К нам не пайшоў сюды.**

**Многа на гэтую тэму гаварылі, пісалі і ўсё толькі таму, што жыцьцё наагул -- гэта таямніца. Можа, за Вас я ня меншы пэсыміст, але што-ж з гэтага? Жыцьцё не глядзіць на нашыя перакананьні і пагляды, а патрабуе свайго штодзённага, суровага змаганьня ад нас, і нам цяжка супрацьстаяць».** ***(Зь ліста Ўладзімера Клішэвіча да Міхася Кавыля ад 11 сакавіка 1950 году)***

**Уваход у новае жыцьцё ўсім эмігрантам даваўся цяжка. Усе яны сумяшчалі творчасьць з фізычнай працай -- і Віцьбіч, і Кавыль, і Цэлеш... Толькі хто сказаў, што эміграцыя -- лёгка?! Для беларуса нават пераезд у Саратаў або ў Маскву -- пераварот жыцьця: там сапраўды іншы водар кветак, пах зямлі, іншае неба. Спытацца-б пра гэта ў Язэпа Дылы, Уладзімера Дубоўкі, Алеся Адамовіча... Беларусы былі за мяжой, але сэрцам на Бацькаўшчыне. Нездарма ўлюбёны тост іх: «На наступны год -- на Бацькаўшчыне». Верылася...**

**Пісаць, што «жывучы на Захадзе, Ул. Клішэвіч ня прымаў якога-небудзь актыўнага ўдзелу ў антысавецкіх акцыях, быў у баку ад многіх недабітых былых прыслужнікаў фашыстаў»[1], наўрад ці магчыма. Ягоная дзейнасьць мае дакумэнтальныя сьведчаньні, напрыклад, створаны пры ягоным удзеле часапіс «Беларус у Амэрыцы», матэрыялы для радыёстанцыі «Вызваленьне».**

**У лісьце да Юркі Віцьбіча ён пісаў: «Праўду Вы кажаце, што няхай "міністры" палітыкай займаюцца, а мы возьмемся за свайго коніка, за мастацкае слова. Але ні Вы, ні я не стаімо ўбаку ад палітыкі нашага Беларускага народу, ні Вы, ні я ня можам забываць свой народ і адмазвацца ад яго, бо й беларускае мастацкае слова -- гэта палітыка».[2]** ***(Зь ліста Ўладзімера Клішэвіча да Юркі Віцьбіча ад 11 сакавіка 1950)***

**Іншая справа, што дзейнасьць пісьменьнікаў на эміграцыі была сапраўды «антысавецкай», і праўда, што яны былі «недабітымі»: ні бальшавікамі, ні фашыстамі. Пісьменьнікі-эмігранты пісалі тое, пра што пазьней пачало гаварыцца ўголас на Бацькаўшчыне.**

**Было-б няпраўдай сказаць, што між пісьменьнікамі не здаралася непаразуменьняў, і часам даволі прыкрых. Такое непаразуменьне**

---

**[1] Сачанка, б. 78.**
**[2] Б. Сачанка. Туга па Радзіме. Менск, 1992, б. 6: «Але сярод іх былі і такія, хто не хацеў есьці хлеб з працы рук сваіх, а ўладкоўваўся на розныя радыёстанцыі, пісаў такое, што сорамна было чытаць і чуць».**

**ўзьнікла ў дачыненьнях Юркі Віцьбіча і Ўладзімера Клішэвіча ў 1949-1950 гадох. Сьвятло на сутнасьць канфлікту пралівае іхняе ліставаньне.**

**Клішэвіч -- Віцьбічу: «Чаму Вы не надрукавалі "Ценяў"? Баяліся? Дык чаму-ж Вы мне аб гэтым не напісалі раней?.. Замест "Ценяў" я даслаў-бы Вам іншыя вершы, і было-б усё добра. «...» Вы мяне падалі з адным вершыкам так, як і ўсіх іншых, хто ня мог даслаць сваіх вершаў. Гэта зроблена ўмысна... «...»**

**А што за пераклічка з Лужанінам М.? Бачу "Дзьве вясны". Гэта ня верш, а вяроўка, намыленая вяроўка ката на шыю беларускаму народу. Лужанін быў у Нямеччыне, а пасьля езьдзіў, прапагандаваў і бласлаўляў НКВД у змаганьні зь беларускімі партызанамі. Каб ня быць галаслоўным, дасылаю Вам пра Лужаніна выразку з газэты "Новое Русское Слово". Ня хочу друкавацца там, дзе друкуюцца каты беларускага народу (М. Лужанін). «...» Прышлеце, калі ласка, маю працу "Цень сьмерці". «...»**

**P. S. Ня лічыце мяне сябрам Вашай рэдкалегіі і сябрам аб'яднаньня «...»».** ***(Ліст не датаваны)***

**Нажаль, адказ Віцьбіча Клішэвічу не захаваўся.**

**Але вось што чытаем у лісьце Юркі Віцьбіча да айца Льва Гарошкі, дзе тлумачыцца пазыцыя рэдактара «Шыпшыны» й сутнасьць «справы»: «Наш добры Ўладзімер Клішэвіч прыслаў паэму "Цень сьмерці", якая мае наступны зьмест. Да паэта зьяўляецца цень закатаванага на Калыме й закідае яму пасыўнасьць у змаганьні з бальшавізмам. Паэта адказвае ценю, што няма аніякага сэнсу змагацца, бо ЗША складаюцца з карытнікаў, пяцікалёньнікаў, прайдзісьветаў і г. д. і неўзабаве ўсё роўна загінуць. Цень цалкам апраўдвае паэта і робіць выснаў: "Як добра, што я ня існую", а пасьля гэтага зьнікае. Увогуле, "Апушчайцеся, кума, на дно і ня рыпайцеся... ". Мяне асабіста гэты твор абурыў.**

**Я жыву ў Амэрыцы ўжо без малога год і на сваёй уласнай скуры пазнаёміўся зь некаторымі ейнымі мінусамі, але разам з тым ня згубіў здольнасьці абстрагавацца ад асабістага. Сёньня ЗША -- апошняя надзея ўсяго свабодалюбнага чалавецтва... Ёсьць у ЗША і карытнікі, і пяцікалёньнікі, але куды больш, непараўнальна больш шчырых патрыётаў свае гордае і магутнае краіны.**

**Таму твор Клішэвіча зьявіўся нічым іншым, як пашквілем на ЗША. Ён зьяўляецца таксама пашквілем на нязломных пакутнікаў Калымы, у якіх няма нічога агульнага з чэхаўскімі "лішнімі людзьмі". Зразумела, што такі твор я ня мог зьмясьціць на старонках "Шыпшыны", бо ён па сваёй мэтанакіраванасьці ня мае нічога агульнага з дэклярацыяй Згуртаваньня. А паэта злуецца. Спадзяюся ўсё-ж, што неўзабаве ён зразумее сваю памылку».** ***(Зь ліста Юркі Віцьбіча да айца Льва Гарошкі ад 20 жнівеня 1950)***

**І так сталася. Паэма, выдадзеная ў 1958 годзе ў часапісе «Прыйсьце», была карэнным чынам перароблена. А да таго часу... «Гэта наш сьвяты абавязак «...» падтрымліваць амэрыканскую сыстэму, кіраўніцтва, любіць гэтую краіну, якая ў цяжкую для нас хвіліну дапамагла», -- так пісаў Клішэвіч у тым-жа 1950.**

**У наступным годзе Віцьбіч даслаў яму ліст: «Дарагі Ўладзімер Клішэвіч! Давайце моцна пацісьнем адзін аднаму руку, бо ўсё роўна зацятых ворагаў з нас не атрымаецца. «...» У нас, у пісьменьнікаў, ёсьць «...» гаротным жыцьцём апрабаваны дэвіз: "Беларус беларусу братам"».**
***(Зь ліста Юркі Віцьбіча да Ўладзімера Клішэвіча ад 8 красавіка 1951 году)***

**Ішлі гады... Выгнанец Уладзімер Клішэвіч зьмяшчае вершы й пераклады ў газэтах «Бацькаўшчына», «Беларуская трыбуна», «Беларускі голас», «Незалежная Беларусь», часапісах «Веда», «Беларуская думка», «Баявая Ўскалось», «Прыйсьце»[1], удзельнічае ў выданьні альманаха «Ля чужых берагоў» (гл. бібліяграфію яго твораў). Нарэшце Клішэвіч выдае ў 1964 годзе свой першы зборнік -- «Далячынь»,[2] а ў 1965 выходзіць у Лёндане асобным выданьнем паэма «Васіль Каліна».**

**Наколькі кожная новая кніга пісьменьніка-эмігранта была падзеяй, відаць са слоў аднаго зь першых рэцэнзэнтаў, гаспадара друкарні, што выдаў зборнік Клішэвіча: «Выхад у сьвет кожнае друкаванае кніжкі беларускага аўтара на эміграцыі зьяўляецца для мяне (ды, думаю, ня толькі для мяне, але і для кожнага сьведамага беларуса) прыемнаю і радаснаю падзеяю. Прыемнаю і радаснаю зьяўляецца гэтая падзея для мяне ня толькі таму, што кніжка беларускага аўтара, а ў большай меры, што выдавецкія магчымасьці беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў на эміграцыі -- мізэрныя: у нас няма сталага беларускага выдавецтва на эміграцыі, і кожны наш літаратар, калі хоча выдаць сваю кнігу, у большасьці выпадкаў павінен карыстацца выдавецтвам "Выдайсам!" (г. зн. выдаць за свой кошт) або чакаць адпаведнае нагоды, пакуль тая ці іншая арганізацыя зьбярэ трохі сродкаў і зробіць яму ласку. Так атрымалася і з Уладзімерам Клішэвічам».[3]**

**Варта, мабыць, прыгадаць, што Ўладзімер Дудзіцкі ня выдаў ніводнай кнігі, адзін невялічкі зборнік апавяданьняў за свой кошт надрукаваў Мікола Цэлеш, надзвычай працаздольны, прадуктыўны і**

---

**[1] Сачанка, б. 78: «Ні адзін з яго твораў так і не быў надрукаваны ў часапісе "Конадні"». Да ведама: часапіс «Конадні» ня быў цэнтральным выданьнем замежжа.**

**[2] Вішнеўскі, б. 15: «Немагчымасьць друкавацца, уласная пазыцыя, вельмі і вельмі адрозная ад пазыцыі іншых эмігрантаў, прывялі да таго, што Клішэвіч, па сутнасьці, і знаходзіўся ў тым самым "духовым" вакууме. Гэтым можна растлумачыць і тое, што сваю першую кнігу "Далячынь" ён змог выдаць толькі ў 1964 г.».**

**[3] Янка Золак.Чытаючы «Далячынь» і «Васіль Каліна» Ул. Клішэвіча. -- «Беларуская думка», !8, 1965, б. 34.**

**аўтарытэтны Юрка Віцьбіч убачыў кнігу сваіх расейскамоўных нарысаў літаральна перад сьмерцю.**

**Кнігі Клішэвіча вельмі цёпла былі сустрэты літаратурнай эміграцыяй (да праблемы «духовага» вакууму).**

**«Я радуюся за цябе, за твой посьпех. У паэме "Васіль Каліна" ты сапраўды ўзьняўся да манумэнтальнасьці. Ты мне нагадаў расейскага Лермантава зь ягоным "На сьмерть поэта" ды Грыбаедава зь ягоным "Горе от ума", дзе Чацкі гнеўна абвінавачвае: "А судзьдзі хто?"». Міхась Кавыль.**

**«Яна (паэма) належыць да тых твораў, каторыя чытаюцца па некалькі раз. Вашая паэзія, як крыніца жывой вады, нурцуе між моднага мадэрнізму. Гэта -- вялікі ўклад у нашу нацыянальную літаратуру». Канстантын Акула.**

**«Вельмі цешуся з выхаду ў сьвет твае паэмы "Васіль Каліна". Гэта сапраўды каштоўная літаратурная праца, якая займае ў скарбніцы нашае мастацкае літаратуры на эміграцыі адно зь першых месцаў». Алесь Змагар[1]...**

**Было гэта ў 1965 годзе. Уладзімер Клішэвіч дасылае паасобнікі сваіх кніг з аўтографамі ў Менск, у Дзяржаўную бібліятэку імя Ул. І. Леніна.**

**«Гэты "сэнтыментальны" крок Ул. Клішэвіча вырашыў далейшы ягоны лёс як паэта: праз некаторы час ягоныя вершы зьнікаюць з бачынаў беларускіх выданьняў на эміграцыі, а зьяўляюцца на бачынах газэты "Голас Радзімы", якая выдаецца Беларускім таварыствам па культурных сувязях з суайчыньнікамі за рубяжом. Ні для каго з эмігрантаў не сакрэт, што гэтае "таварыства" -- агентура КДБ.**

**Такім чынам Ул. Клішэвіч ірве ўсякую сувязь з беларускай эміграцыяй ды йдзе на паслугі камуністычнаму панявольніку Беларусі».[2]**

**Так, гэтага не даравалі. Бо ягоныя вершы, лісты, выступленьні ў друку, сам лёс, урэшце рэштаў, не даваў ніякіх падставаў чакаць такога павароту. Бо пазыцыя Клішэвіча выявілася не як прабеларуская (хто сумняваўся ў любові да Бацькаўшчыны!), а пракамуністычная. І да месца, сапраўды, будзе прыгадаць абструкцыю Кнуту Гамсуну, Луі Селіну ў часы вайны. Такое было й будзе. Напэўна...**

**«Вайна асоб» была двухбаковая, з узаемнымі абвінавачваньнямі й закрэсьліваньнем былога. Аднак вось што цікава: закіды былі накіраваны адно супраць асобы Клішэвіча, не ягоных былых твораў! «Васіль Каліна» па-ранейшаму заставаўся творам эміграцыі, ніяк не савецкай паэзіі: у эпіграмах на Клішэвіча паэту супрацьстаяў ягоны герой.**

---

**1 Выказваньні М. Кавыля, К. Акулы, А. Змагара зьмешчаны ў часапісе «Беларуская думка», !8, 1965.**

**2 Яз. Дольны. Памёр Ул. Клішэвіч. -- «Беларуская Думка», !21-22, 1977-1978, б. 32.**

**Калацiўся, як асiна:**
**-- Ня дай Бог спаткаць Калiну...**
**А. Камароўскi. Гiцаль у сталiцы**

**Пакуль тая хвiлiна, --**
**З табой гаворка ветлая.**
**Ды ўсё-ж Васiль Калiна**
**Замкне твой шлях у сьветлае.**
**К. Аса[1]**

**Назваць зборнiк «Сьняцца днi мне залатыя» цiкавым[2] льга толькi пры ўмове, што цiкавы сам факт. З мастацкага боку -- гэта творчая няўдача паэта. Акалiчнасьць, якая, дарэчы, была не апошняй у закiдах Клiшэвiчу. Аднак хваля абурэньня мiнула даволi хутка: не, не даравалi -- пастаралiся забыць. Даравалi пасьля сьмерцi.**

**А сьмерць Уладзiмера Клiшэвiча падаецца сёньня на Бацькаўшчыне крыху дзiўна. «Ул. Клiшэвiч марыў вярнуцца на Радзiму, каб зноў тут жыць, аднак нечаканая i ў нейкай ступенi *загадкавая* сьмерць 14 лiстапада 1978 году не дазволiла яму зрабiць гэта».[3] «I справа нават не ў тым, што па сёньняшнi дзень застаецца *загадкавай* яго нечаканая сьмерць «...» I раптоўная, *загадкавая* сьмерць. Выпадковасьць? А можа знайшлiся тыя, хто не мог даравадь "здрады"? Хто яго ведае...».[4] «*Загадкавая* смерць»[5]...**

**А вось сьведчаньне часапiса «Беларуская думка», дзе стала, на працягу многiх год, друкаваўся Клiшэвiч, дзе было адзначана яго 50-годзьдзе, дзе зьмяшчалiся творы, прысьвечаныя яму, i рэцэнзii на ягоныя творы. Калi прыгадаць, што Клiшэвiч супрацоўнiчаў з савецкiм друкам два дзясяткi гадоў i ня раз меў магчымасьць вярнуцца на Бацькаўшчыну, i што быў ён ужо немаладым чалавекам, меркаваньне «Беларускай думкi» выглядае больш рэалiстычным i, скажам, мэдычна абгрунтаваным:**

**«Цi "выслужыўся" ён перад бальшавiкамi, г. зн. цi быў ён рэабiлiтаваны пасьля сьмерцi Сталiна, як некаторыя iншыя паэты савецкай Беларусi? Хто ведае! Нам ведама толькi, што да самае сьмерцi Ўл. Клiшэвiч жыў у ЗША, дзе распаўсюджвалася i кнiжачка ягоных вершаў "Сьняцца днi мне залатыя", выдадзеная ў 1973 годзе ў "Бiблiятэчцы газэты "Голас Радзiмы".**

**«...» Разрыў з беларускай эмiграцыяй i зьявiўся, мабыць, для Клiшэвiча прычынаю ў апошнiя гады ягонае настальгii. Амаль**

---

1 «Беларуская думка», !16-17, 1973-1974, б. 52-53.
2 Вiшнеўскi, б. 17.
3 Сачанка, б. 78.
4 Вiшнеўскi, б. 12, 17.
5 Алесь Пашкевiч. «Падняцца iзноў...». -- «Першацвет», !1, 1992, б. 79.

**штогадовыя турыстычныя паездкі Клішэвіча ў СССР і БССР ня толькі ня вылечылі настальгіі, а яшчэ паглыбілі яе, бо ён бачыў, што звароту на Бацькаўшчыну няма. У выніку: у красавіку 1978 году -- першы сэрцавы прыпадак, а ў лістападзе -- другі, фатальны».[1]**

**Чалавек пайшоў... Засталіся зборнікі вершаў «Песьняры Случчыны», «Далячынь», паэма «Васіль Каліна», творы, раскіданыя па розных эміграцыйных выданьнях.**

**Захаваўся ў Архіве Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (Нью-Ёрк) падрыхтаваны аўтарам, але нявыдадзены зборнік вершаў і перакладаў «Мора гневу». Гісторыю стварэньня зборніку раскрываюць два лісты У. Клішэвіча да Вітаўта Тумаша. Першы ліст ад 27 сьнежаня 1947 году:**

**Добры дзень, паважаны Вітаўт Тумаш!**

**Атрымаў Ваш ліст і ўсьцешыўся, што Вы не забываеце і пра мяне, а адгукнуліся на маё прывітаньне. Дасылаю Вам маленькае апавяданьне «Вартаўнік». Надалей думаю напісаць больш падрабязна аб Амэрыцы, бо вас усіх цікавіць яна.**

**Таксама выслаў Вам асабіста зборнік вершаў пад назваю «Мора гневу». Зборнік, а ён яшчэ ня зборнік, а толькі, калі Вы надрукуеце, тады будзе зборнік, мае 92 вершы разам з перакладамі і 106 старонак.**

**Мне тут амаль што немагчыма надрукаваць, бо няма беларускіх друкарняў, а расейцы ці ўкраінцы гэтай справай займацца ня хочуць. Хто яго ведае, як будзе надалей, але мне дужа хацелася-б мець зборнічак сваіх вершаў -- і толькі (не для грошаў), дзеля маральнага задаваленьня. Я сабраў іх усе разам, і гэта пэрыяд майго жыцьця ў Эўропе і Азіі. Назва «Мора гневу» -- адпавядае цалкам, хоць можа слова «мора» будзе выражаць гіпербалізм гневу, але гэта так. З атрыманьнем гэтага ліста і зборніка (рукапісу) паведамце мне, як будзе справа з друкаваньнем. Калі Вы ня будзеце мець мажлівасьці надрукаваць, перадайце рукапіс М. Сяднёву, ён мне дапаможа ў гэтай справе. Ул. Клішэвіч**

**Другі ліст быў напісаны 22 чэрвеня 1948 году:**

**Добры дзень, Вітаўт Тумаш.**

**Атрымаў Ваш ліст і, прачытаўшы разоў пяць, сам сабе ня веру, бо я ўжо згубіў усякія надзеі на выхад у сьвет зборніка. Проста нечаканая навіна для мяне. Вельмі і вельмі рад і шчыра дзякую, што зборнік усё-ж выплыве на сьвет Божы, бо я лічыў, што ён патануў на дно.**

**Назву, Вы добра ведаеце таксама, ні я ў Салаўя, ні Салавей у мяне не запазычаў -- проста выпадковасьць. Каб ня было лішніх гутарак аб тым, хто ў каго «ўкраў» назву, я згодзен зьмяніць на іншую. Цяжка**

---

**[1] Яз. Дольны. Памёр Ул. Клішэвіч. -- «Беларуская Думка», !21-22, 1977-1978, б. 32.**

**знайсьці такую ўніверсальную назву, каб яна адпавядала ўсім вершам і ўсім настроям зборніка. Дайце назву «Залатая восень».**

**А гэта хіба адпавядае? Не! А я і ня імкнуся, каб яна адпавядала, а каб толькі была далёкай ад назвы Салаўя.**

**Таксама на тытульным лісту (а не на вокладцы) наверсе, з правага боку, напішэце: Прысьвячаецца сыну Валерыку Клішэвічу.**

**Каб я раней ведаў, што зборнік выйдзе ў сьвет, я-б тут заказаў клішэ свайго фота і можна было-б пасадзіць і сваю «морду», але ўжо няхай будзе без фатаграфіі. Можа, яно ў наш час бяз розных фотаў будзе лепей.**

**Як Бога, чакаю апошні час выхаду зборніка. Вершаў я мала маю, бо мала іх пішу, а калі напішу некалькі новых, абавязкова дашлю Вам.**

**Прывітаньне. З пашанай да Вас**

**Ул. Клішэвіч**

**Існуюць два варыянты зборніка -- рукапісны (108 балонак) і друкаваны на машынцы (104 балонкі, другая або трэцяя копія). Абодва пазначаны 1947 годам і ідэнтычныя за адным выключэньнем -- друкаваны мае прысьвячэньне «Сыну Валерыку Клішэвічу». Абодва зборнікі маюць «Замест Прадмовы»: «Многа часу канула ў вечнасьць, а за гэты час зроблена надта мала. Невялікі зборнік -- падлік жыцьця, працы і настрояў у Эўропе і Азіі. Аўтар. 25 сьнежаня 1947 году. Нью-Ёрк, ЗШ Амэрыкі». Мабыць, зборнік -- той самы «Збор твораў», які прыгадваўся раней, а потым, у 1964, стаўся асновай зборніка «Далячынь».**

**Ніжэй зьмяшчаюцца вершы, што, паводле нашых зьвестак, не друкаваліся. Пераважная большасьць твораў -- з рукапіснага зборніка «Мора гневу», арыгіналы іншых захоўваюцца ў Архіве Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага (Нью-Ёрк).**

## З ТВОРЧАЙ СПАДЧЫНЫ ЎЛАДЗІМЕРА КЛІШЭВІЧА

### З Амара Хайяма

**Ад страху сьмерці нам ратунку не знайсьці,**
**І старцу і цару яе не абысьці.**
**Каб з асалодай жыць, жыві для асалоды.**
**Астатняе ўсё -- турботы ў жыцьці.**

*** * ***

**Раджае лань дзяцей, і львіца дрэмле там,**
**Дзе некалі гуляў сярод сяброў Бэхрам.**
**Вялікі паляўнічы сьмерць стэпнаму зьверу нёс,**
**Ён зараз мірна сьпіць -- ахвяра сьмерці сам.**

*** * ***

**Ты бачыў сьвет, і ўсё, што бачыў ты, --**
**нікчэмнасьць.**
**І ўсё, што ты сказаў і што пачуў, --**
**нікчэмнасьць.**
**Да глыбіні зямлю праверыў ты -- нікчэмнасьць.**
**І ўсё, што ў хату раздабыў, -- нікчэмнасьць.**

*** * ***

**Ў аднэй руцэ бакал, у другой -- букет у цьвеце.**
**Піруй з каханаю, забыўшы аб сусьвеце,**
**Пакуль жыцьця сарочку не абарве зь цябе,**
**Як з розы лісьцікаў, халодны сьмерці вецер.**

**Вечна сьмяюцца і плачуць**

**Вечна сьмяюцца і плачуць --**
**Такі ўжо жыцьцёвы закон.**
**Людзі праз крыўды, няўдачы**
**За шчасьцем бягуць уздагон.**

**Моляцца з просьбай фартуне,**
**Толькі патугі дарма.**
**Вецер сьцюдзёны падуе --**
**І шчасьця людскога няма.**

**1944**

*** * ***

**Вось дзе прыкра, вось дзе гадка,**
**За табою да позьняй пары**
**Ходзіць з палкаю немец украдкай**
**Ці глядзіць у бінокль з-за гары.**

**1944**

**З Катула**
**Старажытнай грэцкай бабе, калі-б яна дамагался майго каханьня**

**Адстань, вар'ятка! Ласкі рук тваіх -- агіда!**
**З маршчынаў твару пудра розных відаў,**
**Як крэйда, сыплецца і падае на грудзі:**
**Успомні блізкі Стыкс -- каханьне ты забудзеш!**
**Казьлячым голасам ты не дразьні мне слуху!**
**Замоўкні, Фурыя! Мяне ў адным паслухай:**
**Ты лысу галаву схавай (бо не да твару бабе!),**
**Пэргамэнт жоўтых плеч, бо ён мяне не вабіць!**
**Разуешся, на рукі ўзьдзень свае сандалі**
**І ногі пахавай ты куды-небудзь далей!**
**На попел спаленай, даўно такой паскудзе**
**Адпачываць пара у глінянай пасудзе.**

*** * ***

**Да вас, палі, лясы і сёлы,**
**Туды, дзе мой бацькоўскі кут,**
**Няхай плыве ў зямлю пакут**
**Мой голас, мужны і вясёлы.**

**Бо там майго жыцьця крыніца,**
**Змаганьня, радасьці, надзей,**
**Куды жыцьцё заве людзей**
**Сьвятой вады зь яе напіцца.**

**Я піў яе, ваду сьвятую,**
**Пазнаў і радасьці і сум**
**І на алтар я іх нясу,**
**Жыцьця і сілы не шкадую.**

**Бяздомны я няхай загіну**
**Далёка ад сваёй мяжы.**
**Сьвятых сьвятое будзе жыць**
**І вера ў родную краіну.**

**1944**

*** * ***

**Дзе жыцьцё назаўсёды застыла,**
**Азірніся і глянь, -- там крыжы.**

**І нікому аб тым не кажы,**
**Дзе жыцьцё назаўсёды застыла.**

**Ты сябе і другіх сьцеражы.**
**Неўзабаве спаткае магіла...**
**Дзе жыцьцё назаўсёды застыла,**
**Азірніся і глянь, -- там крыжы.**

**1947**

*** * ***

**Засьпявай мне песьню, сумную да болю,**
**Што такой у сьвеце я ня чуў ніколі.**
**Засьпявай мне песьню аб вялікім горы,**
**Калі яно сэрцам аб сабе гаворыць.**
**Засьпяваеш песьню ты зусім іначай --**
**Скамянее сэрца -- толькі не заплача.**

**1944**

*** * ***

**І жыцьцё і нямая трывога**
**Назаўсёды кудысьці сплылі.**
**Абарвецца мая на зямлі**
**Камяністая хутка дарога.**

**Застываюць ужо мае крокі,**
**Сіл амаль што у целе няма.**
**Замяце хутка сьнегам зіма**
**Шлях трывожны і шлях адзінокі.**

**Маладосьць адышла бяз пары --**
**Нават прыкра назад паглядзець.**
**Лісьцяў восені жоўтае медзь**
**Чорным колерам гною гарыць.**

**Я цяпер не шкадую нічога,**
**Бо жыцьцё -- гэта страшныя сны,**
**Дзе ніколі прыгожай вясны**
**Не спаткае крывая дарога.**

**1935**

*** * ***

**Кажуць мне, што я сьмяюся мала,**
**Кажуць мне, што ўсё-ж я пэсыміст.**
**Так. Мой сьмех суровасьць дзён сарвала,**
**Як увосень вецер абрывае ліст.**

**1943**

**Каля віселіцаў Нюрнбэргу**

**Кат:**

**Падумаць, такая акула**
**Зь вяроўкі мае улізнула!**
**І сьмех і туга...**
**Ахвяраў чакаю я новых,**
**Павіснуць чыесьці галовы,**
**За кім-жа чарга???**

**1946**

**Месяц**

**Ты далёкі, халодны, лысы.**
**Закаханы -- твой сябра ўсякі.**
**Узьнімаючы ў неба пысы,**
**На цябе выюць ноччу сабакі.**

**Не маліўся табе я, ня плакаў,**
**Жыў з табою заўсёды ў дабры.**
**І ўчора і сёньня ты мне адзінакаў --**
**Мы старыя з табою сябры.**

**1950**

*** * ***

**Не кажы ты болей мне аб шчасьці**
**І аб прошлым нават не кажы.**
**Я зьбіраюся сябе ў магілу класьці,**
**Разапнуўшы душу на крыжы.**

**Не пакутуй, сэрца, не пакутуй,**
**Годзе слухаць дзікую ману.**
**Выпіў я свайго жыцьця цыкуту**
**І сябе ніяк не абмануў.**

**Досыць мне сьцякаць крывёю словаў,**
**Я ў жыцьці ўсяго часовы госьць,**
**А жыцьцё, што моршчыцца нанова,**
**Будзе гэтакім, якім было і ёсьць.**

**Вось таму мне не кажы аб шчасьці,**
**Ня трывож балючых ран маіх.**
**Хочу я на песьні крыж пакласьці,**
**Каб навекі голас мой заціх.**

**1944**

*** * ***

**О зямля, о нямая плянэта!**
**Колькі год на гарбу ты вязла**
**Чалавека? Ён сёньня за гэта**
**Табе плоціць адплатай зла.**

**Чалавек -- гэта сьмерці істота,**
**Пры узьняцьці ён падае ўніз.**
**Гэта ён сваім зьвера ротам**
**Сабе горла сваё перагрыз.**

**Мы дарэмна хваробу лечым,**
**Яна пройдзе, як рыцар, сама.**
**Прашуміць над жыцьцём чалавечым**
**Дасягненьняў ягоных чума.**

**Хай на небе згушчаюцца хмары,**
**Каб людзей на праклятай зямлі,**
**Як пярун нябывалы ударыць,**
**Больш ніколі сьляды ня былі.**

**1946**

## Пажаданьне на Новы Год хлопчыку Віталю Каракульку

**Дужэй, вучыся і расьці,**
**А лёс хай гнуцца ня прымусіць.**
**Шчасьлівым будзь ты у жыцьці,**
**Не забывай аб Беларусі.**

**1944**

**Перад Новым Годам**

**Ноч глухая, дванаццаць гадзін.**
**Ня чуваць у кватэры нікога.**
**Сын наш сьпіць на пасьцелі адзін,**
**Жонку сум агарнуў і трывога.**

**Спатыкаюць сябры Новы Год за сталом,**
**Песьня звонкая льецца далёка..**
**Толькі я адчуваю духовы надлом**
**Між людзей -- бязь людзей, адзінока.**

**І тады, калі я пад замкамі сядзеў,**
**Новы Год сустракаў лустай хлеба,**
**Сёньня ў большай сябе адчуваю бядзе,**
**Бо нікому я нават ня трэба...**

**Ноч глухая, дванаццаць гадзін,**
**Ня чуваць у кватэры нікога.**
**Сын наш сьпіць на пасьцелі адзін,**
**Жонку сум агарнуў і трывога.**

**Сьпі мой сын у самотнай цішы!**
**Між людзей і такое ня нова,**
**Падрасьцеш, раскажу ад душы**
**Аб усім табе слова ў слова.**

**1944**

*** * ***

**Пі, сьпявай, напівайся дап'яна --**
**Лепей гора зямное зап'ём.**
**Толькі раз: ці то позна, ці рана**
**Трэба будзе расстацца з жыцьцём.**

**У жыцьці мы сваё адлюбілі,**
**Назаўсёды сабой адцьвілі.**
**Аб адным толькі рана забылі,**
**Што мы госьці ўсяго на Зямлі.**

**1942**

**Пэнтамэтры**

**Хто нізка гнецца, скідаючы шапку заўсёды,**
**Ведай, што гэта надзвычай благі чалавек.**

**Думаеш ты -- цябе хваляць суседзі за чаркай,**
**Не, хваляць абед твой, а зь ім і гарэлку тваю.**

**Сябраў сваіх пазнавай не за чаркай гарэлкі,**
**Той будзе сябрам тваім, хто табе ў горы паможа.**

**Самая большая слава і гонар таму чалавеку,**
**Які, не шкадуючы сілаў, служыць народу свайму.**

**Хочаш, каб вершы жанчыны з запалам чыталі,**
**Не забывай аб адным: пішы аб каханьні і здрадзе.**

**Вось як зьмяняецца рэзка характар цудоўнай дзяўчыны:**
**Кветка -- дзяўчынай была, замужам -- пілкаю стала.**
**1944**

*** * ***

**Спаткаў мяне ты, шумны горад,**
**Прыгожай раніцаю лета.**
**І як суседа і паэта**
**Спаткаў мяне ты, шумны горад.**

**Жыцьцё цяплом тваім сагрэта,**
**Шуміць яно, як хвалі мора.**
**Спаткаў мяне ты, шумны горад,**
**Прыгожай раніцаю лета.**

**1944**

## Сумная песьня

**Сяджу сабе ціха і слухаю песьню,**
**А муха гудзе і гудзе...**
**Цяпер толькі восень, далёка прадвесьне,**
**А муха у цяжкай бядзе.**

**Надыдуць марозы, павеюць завеі,**
**І муха на зіму засьне...**

**Як сонца паднімецца, дні пацяплеюць,**
**Растане насыпаны сьнег.**

**Прачнецца і муха. Паднімуцца крыльлі,**
**Хоць шчасьця ня ўбачыць нідзе...**
**Праспала марозы, завеі адвылі,**
**Дык муха ізноў загудзе.**

**Сяджу сабе ціха, каб песьню паслухаць,**
**А муха гудзе і гудзе...**
**І хочацца сёньня быць гэткаю мухай,**
**Ня трацячы ў шчасьце надзей.**

**1942**

*** * ***

**Сяднёў і я -- абодва мы --**
**Шукалі працы ў гэтым тле.**
**У неба пяліся дамы,**
**Нам адмаўляючы ў мятле.**

**Блукалі мы, нас брала злосьць.**
**Паміж людзьмі ступалі квола.**
**Ну, што-ж, калі нязваны госьць**
**Заўсёды горай за мангола.**

**Дапамагчы ніхто ня змог**
**Ва ўласным нашым цяжкім лёсе.**
**І не адзін глухі парог**
**Пераступіць нам давялося.**

**Вось так шукалі хлеба мы.**
**Надзеі уцякалі, вера...**
**Давілі цяжарам дамы,**
**А чалавек рабіўся зьверам.**

*** * ***

**Тое ў вечнасьць пасьпела адплысьці --**
**Аб мінулым адзін успамін.**
**Асыпаліся жоўтыя лісьці**

**На дарогу з чырвоных калін.**

**Час мінуў той, і вецер ня гоніць**
**Болей жоўтыя часу лісты.**
**Праскакалі імкліва коні,**
**Толькі сьлед непаўторны застыў.**

**Адляцела дзяцінства далёка,**
**А здаецца, нядаўна было...**
**Па гразі я у лапцях галёкаў**
**І каровы ганяў за сабой.**

**Быў тады ў жыцьці я шчасьлівы,**
**Пазіраў на жыцьцё бяз турбот.**
**Слухаў песьню шумлівае нівы,**
**Спатыкаў сонца ціхі заход.**

**З тэй пары прайшло часу нямала,**
**Пагубіў я на пашы жыцьця**
**Тых кароў. Нават сонца прапала,**
**Толькі зоры ўначы зіхацяць.**

**Шмат у вечнасьць пасьпела адплысьці.**
**Без сяброў я застаўся, адзін.**
**Пагнілі тыя жоўтыя лісьці**
**Ў каляінах з чырвоных калін.**

**1945**

## Трыялет

**Усё туманнае далёка**
**Адносяць мігам мора хвалі.**
**У пене вод яны схавалі**
**Усё туманнае далёка.**

**Як вочы раптам замігалі**
**У Незнаёмкі дзіўнай Блока,**
**Усё туманнае далёка**
**Адносяць мігам мора хвалі.**

**1944**

*** * ***

**Цьвітуць надзеі у народзе,**
**Як кветкі сонечнай вясною.**
**Адвечнай зоркаю сьвятою**
**Цьвітуць надзеі у народзе.**

**Няхай жыцьцё сваёй ступою**
**Шляхі таемныя праходзіць --**
**Цьвітуць надзеі у народзе,**
**Як кветкі сонечнай вясною.**

*** * ***

**Увесь мінулы час людзей зямлі,**
**Калі яны радзіліся, тварылі і жылі,**
**Чамусьці я ні каплі не шкадую.**
**А толькі ўбачу сам, што хутка дзень настане**
**І над маім жыцьцём закружыць сьмерці танец,**
**Я думаю, хвалююся, шкадую...**
**Аб прошлым нам, хоць надта мала**
**Гісторыя хлусьліва казку расказала.**
**Цяпер мы самі бачым, дзе якая праца**
**Навокал дзеіцца цудоўна і прыгожа...**
**А заўтра, можа, у труну паложаць...**
**Ці варта будучым нябачным турбавацца?**

**1943**

## У забоі

**Вяршыні дзікіх гор закрылі дымна хмары,**
**Сячэ халодны дождж нявольніцкае цела.**
**Сталёвы лом дзяржу ў руках заледзянелых**
**І прагнасьцю ўстаюць аб чорным хлебе мары.**

**Пісугі брудныя цякуць па бледным твары,**
**Рука ўзьнімаецца павольна і нясьмела.**
**Балюча мне туга душу разьела,**
**Прыносячы штодня смяртэльныя удары.**

**Ці вынесу страшэнных дзён пакуты,**

**Ці знойдзецца яшчэ у слабым целе сіла,**
**Каб перажыць свой лёс у ланцугі закутым?**

**Праз туманы, як здань, выростае магіла...**
**О, маці родная! Скажы, скажы чаму ты**
**Няшчасным гэтакім на сьвет мяне радзіла?**

**1944**

*** * ***

**Што каму, а нашыя жанчыны**
**Кожны вечар мараць аб адным:**
**Як-бы ім зьвярнуцца на айчыну,**
**Толькі мроі -- таямнічы дым.**

**Сьпірытызм уцехай бабам служыць.**
**Мроі вечна ў постаці стаяць...**
**Хутка думак ападаюць ружы.**
**Ціхім сном. Пад бокам караваць.**

**1946**

**Эпіграма**

**На патугі рэдактар багаты.**
**Здэцца, зьявяцца зразу двайняты...**
**Толькі цяжка раджаецца «Узвышша»,**
**Ні адзін яшчэ нумар ня выйшаў.**

**1944**

*** * ***

**Я нічому цяпер ня дзіўлюся,**
**Не шкадую сябе і жыцьця.**
**У вар'яцкай людской завірусе**
**У прадоньне гады ляцяць.**

**Адцьвітай ты хутчэй, маё шчасьце,**
**Асыпайся валос маіх медзь!**
**Хутка прыйдзецца лапы скласьці,**
**А то горай таго -- звар'яцець!**

**Можа без пары дзе загіну,**
**Значыць, выпаў мне гэткі лёс.**

**Толькі рад, што я верыць пакінуў,**
**Што сябе пры жыцьці перарос.**

**Пакланюся васеньнім ліпам,**
**Вецер песьню ўздагон прапяе...**
**Не абманіць жыцьцё сваім скрыпам**
**Ачарсьцьвелае сэрца мае.**

**Без пары яно, мабыць, сатлела,**
**Пазіраючы ў чорную муць.**
**Бяз душы матыляецца цела,**
**Ногі цяжка кудысьці ідуць.**

**Досыць нітку нябачную прасьці**
**І бяз меры у вершах зьвінець.**
**Адцьвітай ты хутчэй, маё шчасьце,**
**Асыпайся валос маіх медзь.**

**1944**

## Вартаўнік

**На беразе Чорнага мора жыў стары чалавек, звалі яго Оглы. Меў ён невялікую сям'ю: жонку і дзьве дачкі. Часта ў вячэрні час ён расказваў дзецям аб далёкім мінулым сваёй радзімы. Дзеці заўсёды зь цікавасьцю слухалі апавяданьні.**

**"Жыцьцё Оглы цякло так, як і жыцьцё ягоных кунакоў (сяброў). Кожны дзень ён хадзіў у поле на працу із сваёй сям'ёю.**

**Быў Оглы ўжо старым чалавекам, і яго прызначылі на працу начным вартаўніком у калгасе. Ноччу, калі ён заставаўся адзін з самім сабою, ён аддаваўся ўспамінам аб мінулым.**

**Насыпле, бывала, люльку тытуну, прыпаліць яе і, доўга ўглядаючыся ў зорнае неба ночы, у глыбіні душы шэпча малітву Аллаху. Зь цёмнага мінулага падымаліся туманныя і разам з тым яркія малюнкі дзяцінства, маладосьці, імёны памершых сяброў, непаўторнае жыцьцё, але ўсё гэта выплывала ў нейкім хаосе і непасьлядоўнасьці і раптам зьнікала беспаваротна назаўсёды.**

**Перад ягонымі вачыма паўставаў вобраз дзеда -- багатага чалавека, да якога з усіх бакоў прыязджалі людзі купляць вінаград, якія гутарылі на розных мовах. Дзед памёр, а ўсё багацьце падзялілі пароўну чатыры сыны, паміж якіх Оглы быў самым меншым. Ён атрымаў небагатую бацькаўскую спадчыну. Цяжка прыходзілася дабываць кусок хлеба сям'і, але ў гэтай цяжкасьці было і нешта прыемнае -- праца на самога сябе. То зноў мільгалі ўваччу старога: дзяцінства, бурнае мора, ясныя сонечныя дні, то вяршыні гор,**

**што горда паднімаліся ў неба, а ўнізе іх, пад ценем густых чынар, хаваліся прыгожыя маладыя дзяўчаты ад паўдзённага сонца, закрыўшы твар чадрою.**

**Мінулае было далёкім, але яно было мілей ягонаму сэрцу, як сучаснае. Яму здавалася, што цяпер і людзі перамяніліся, і ня толькі людзі, якія ў сваіх сэрцах ня маюць цяплыні, пашаны да іншых, але нават і сама прырода перамянілася -- няма тэй цудоўнай прыгажосьці, якую яна мела раней; сонца і тое іначай пазірае на зямлю. І гэтая перамена ідзе ў незразумелым яму напрамку, прымушаючы Оглы задумвацца над гэтым.**

**Выгараў тытун, Оглы прыціскаў яго худым дрыжачым пальцам на дно люлькі і рухаўся далей, аглядаючы вінаградныя палі. Ён знаходзіў сабе месца, садзіўся па-ўсходняму, падбіраючы пад сябе ногі, і працягваў, углядаючыся мутнымі вачыма ў цёмна-сіняе неба, зноў марыць аб мінулым... Нешта тупое, цяжкае з болем лажылася на сэрца Оглы.**

**1946**

## БІБЛІЯГРАФІЯ ТВОРАЎ УЛАДЗІМЕРА КЛІШЭВІЧА

СКАРАЧЭНЬНІ

| | |
|---|---|
| **Ул. Клішэвіч. Далячынь. Саўт-Рывэр: Выданьне Саюзу Беларуска-Амэрыканскае Моладзі, 1964, 71 б.** | **Далячынь** |
| **Уладзімер Клішэвіч. Сьняцца дні мне залатыя. Мінск: Бібліятэчка газэты «Голас Радзімы», 1973, 64 б.** | **Сьняцца дні мне залатыя** |
| **Уладзімер Клішэвіч. Мора гневу. Вершы. Рукапісны зборнік, 1947. (Архіў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Нью-Ёрк)** | **Рукапісны зб. «Мора гневу»** |
| **Ля чужых берагоў. Альманах твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў. Мюнхэн, «Бацькаўшчына», 1955, 230 б.** | **Ля чужых берагоў** |
| **Песьняры Случчыны. Збор вершаў, выдадзены пры ўдзеле Лявона Случчаніна, Арыстарха Крота, Палікарпа Манькова.** | **Песьняры Случчыны** |

**Пад рэдакцыяй Уладзімера Клішэвіча. Слуцак, 1943, 233 б.**

**Пражэктар. Літаратурна-мастацкі альманах. Кліўленд, 1967, 79 б.** — **Пражэктар**

**Архіў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Нью-Ёрк** — **(Архіў БІНіМа)**

**Архіў Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага. Нью-Ёрк** — **(Архіў Фундацыі)**

**Уключаныя ў бібліяграфію творы і выданьні, за выключэньнем пазначаных зорачкай, апісаныя de visu.**

---

**Агонь душы гарыць у нас** («Учора краскамі разгубленай душы...»). Надрукавана: «Беларуская газэта», !55 (75), 1 жніверя 1942.

«**Ад дзідаў сьмерці нам ратунку не знайсьці...**» (З Амара Хайяма). Надрукавана: «Незалежная Беларусь», !1 (25), лістапад 1965; Пражэктар, б. 62-63.

**«Ад жаху кроў у маіх жылах стыне...»** Рукапісны зб. «Мора гневу». Надрукавана ў цыклі (Век наш страшны, 5): «Сакавік», !2 (3), 1948, б. 26-27.

**Адказ** («Твае лісты зь Сібіры атрымала...»). Рукапісны зб. «Мора гневу». Надрукавана: «Раніца», !16-17, 18-25 красавіка 1943; Песьняры Случчыны, б. 29-30.

«**Ад мяне йдзі -- я бачыць сьлёз ня хачу...**» (Зь Пятра Карпенка-Крыніцы, пераклад з украінскае мовы). Надрукавана: «Прыйсьце», !1, 1958, б. 30.

**«Адно ўсяго сказаць магу аб ім...».** Прысьвячаецца М. Л. Надрукавана: «Голас Радзімы», !23 (1285), чэрвень 1973.

«**Адплылі ў нябыт, адляцелі...**». Рукапісны зб. «Мора гневу». Надрукавана ў цыклі (Век наш страшны, 8): «Сакавік», !2 (3), 1948, б. 26-27.

**«Ад родных ніў далёка я...».** Надрукавана: «Голас Радзімы», !12 (1223), сакавік 1972.

**«Ад страху сьмерці нам ратунку не знайсьці...»** (З Амара Хайяма). Рукапісны зб. «Мора гневу». Варыянт верша «**Ад дзідаў сьмерці нам ратунку не знайсьці...»** (З Амара Хайяма).

**Акрастых** («Каторы час я аб канцоне мару...»). Гл. **Канцона** («Каторы час я аб канцоне мару...»).

**Цяжкія часы.** Надрукавана: «Газэта Случчыны», !35, 7 лістапада 1943; !36, 14 лістапада 1943; !38, 28 лістапада 1943; !39, 5 сьнежаня 1943; !40, 12 сьнежаня 1943; !41, 19 сьнежаня 1943; !42, 26 сьнежаня.

**Чалавек** («Думкай сьмелай сягаючы ў неба...»). Надрукавана: Далячынь, б. 48; у нізцы вершаў (Новыя вершы, 2): «Бацькаўшчына», !20-21 (202-203), 30 травеня 1954; у нізцы вершаў (Паэзія, 14): Ля чужых берагоў, б. 89.

**Час** («Згарае сонца ліпеньскай сьпякотай...»). Надрукавана : Далячынь, б. 47; у нізцы вершаў (Выбраныя вершы, 9): «Бацькаўшчына», !41-42 (172-173), 25 кастрычніка 1953; у нізцы вершаў (Паэзія, 10): Ля чужых берагоў, б. 87.

**«Час бяжыць, а гора скача...».** У 45-ую гадавіну нараджэньня. Надрукавана ў нізцы вершаў (Вершы, 4): «Бацькаўшчына», !20-21 (456-457), 24 травеня 1959.

**Чаўны** («Я быў тады яшчэ юнак...»). Надрукавана: «Голас Радзімы», !15 (1277), красавік 1973.

«**Чорная ночы навала...».** Надрукавана: «Голас Радзімы», !18 (1382), травень 1975.

**Шлях у сьветлае. (**Паэма). Часткі I-VI. Надрукавана: Сьняцца дні мне залатыя, б. 55-61.

**«Што каму, а нашыя жанчыны...».** Рукапісны зб. «Мора гневу».

**«Што на сьвеце людскія ахвяры...».** Надрукавана ў нізцы вершаў (Выбраныя вершы, 12): «Бацькаўшчына», !41-42 (172-173), 25 кастрычніка 1953; у нізцы вершаў (Паэзія, 12): Ля чужых берагоў, б. 88.

«**Што ні крок, дык падман...».** Надрукавана ў нізцы вершаў (Два вершы, 1): «Голас Радзімы», !44 (1408), лістапад 1975.

**«Шумяць ад ветру пальмы, кіпарыс...».** Надрукавана: «Беларуская думка», !5, 1963, б. 4; Далячынь, б. 67; Сьняцца дні мне залатыя, б. 11, варыянт верша **«Шумяць ад ветру кіпарысы ўсьцяж...».**

**«Шчабятала сініца няўзнак...».** Надрукавана: «Беларуская думка», !1, кастрычнік 1960, б. 21.

**«Шчасьце ад дня дарагога...».** Надрукавана: «Голас Радзімы», !18 (1382), травень 1975.

**«Шыпяць паўзучыя на дне...».** Надрукавана: «Голас Радзімы», !1 (1314), студзень 1974; у цыклі (Куюць рабы ланцуг... Аскепкі апошніх вершаў былога вязьня Калымы, 2): «Баявая Ўскалось», !14, 1974, б. 8.

**Эпіграма** («На патугі рэдактар багаты...»). Рукапісны зб. «Мора гневу».

**Эпіграмы.** 1. **На Т. Кляшторнага** («Тут сьпіць паэт -- душа народу...»), 2. **На А. Крота** («Ён ад ранку да зьмярканьня...»), 3. **На Л. Случчаніна** («Паглядзі,

як ён паехаў...»), 4. **На Ул. Клішэвіча** («Нават я цяпер паверу...»), 5. **На Л. Гая** («Красавалася Крушына...»). Рукапісны зб. «Мора гневу». Надрукавана: «Газэта Случчыны», !28, 19 верасьня 1943. У публікацыі няма эпіграмы на Т. Кляшторнага і ўключана эпіграма: **На Я. Золака** («Той пяе вясьне і маю...»); Пражэктар, б. 60. У публікацыі няма эпіграмы на Л. Гая.

**Эх! начальніку жывецца... (**«Эх! начальніку жывецца..»). Заміж маленькага фельетона**.** Надрукавана: «Беларуская газэта», !41 (61), 13 чэрвеня 1942.

**Эх ты, песьня!** («Эх ты, песьня, чароўная песьня...»). Надрукавана: «Голас Радзімы», !10 (1119), сакавік 1970; Сьняцца дні мне залатыя, б. 8, назва **Смутак па Радзіме.**

**«Яблыка, я і чалом табе б'ю...»** (З Платона). Надрукавана: Далячынь, б. 58.

**«Я вам гэта толькі скажу...».** Надрукавана: «Беларуская думка», !6, 1964, б. 18.

**«Я з радасьцю цёплаю нейкай...».** Надрукавана: «Беларуская думка», !6, 1964, б. 18.

**«Як гублялася ў цемры дарога!..».** Надрукавана: Сьняцца дні мне залатыя, б. 13.

**«Як нудна неяк на сэрцы штосьці...».** Рукапіс (Архіў Фундацыі). Рукапісны зб. «Мора гневу». Надрукавана: «Шыпшына», !6, 1948, б. 6, назва **Прыйшоў пад сонца я толькі ў гось**ці.

**«Я кожны дзень сябе кальну дакорам...».** Рукапісны зб. «Мора гневу». Надрукавана: «Раніца», !48 (210), 22 лістапада 1944.

**«Як толькі ціхі дзень запальвае зару...».** Надрукавана: «Беларуская думка», !3, 1961, б. 12.

**«Я нічому цяпер ня дзіўлюся...».** Рукапісны зб. «Мора гневу».

**«Я ня ведаю, што ў будучыні будзе...».** Надрукавана ў нізцы вершаў (Вершы, 2): «Бацькаўшчына», !47-48 (329-330), 25 лістапада 1956.

**«Я сын твой, мая Беларусь...».** Надрукавана: «Беларуская думка», !8, 1965, б. 12.

**«Я ў Мінску зноў жаданы госьць...».** Прысьвячаецца Станіславу Шушкевічу. Надрукавана: «Голас Радзімы», !45 (1358), лістапад 1974.

## Уладзімер Сядура-Глыбінны

***Я на мосьце жыву.***
***У спакоі.***
***Ён смалой і вадою***
***прапах.***
***Дзьве дарогі***
***сьлядоў не загояць***
***І на мосьце***
***пярэйдуць у шлях.***
***Галіна Булыка***

**У лютым 1976 году, як-бы асэнсоўваючы пражытыя гады, Уладзімер Сядура склаў дакумэнт у сувязі з атрыманьнем чарговага навуковага званьня.**

**Рэнссэльлерскі палітэхнічны інстытут**
**Біяграфічныя зьвесткі й прафэсыйныя абавязкі**

***Імя, прозьвішча:*** **Уладзімер Сядура**

***Адукацыя:*** **Менскі пэдагагічны інстытут, 1930;**
**Ленінградскі ўнівэрсітэт, 1939;**
**Акадэмія навук, Менск, 1941.**

***Займаемыя пасады:***

**Выкладчык замежных моваў, IPA, Інгальштадт, Германія, 1945-1951;**

**Пазаштатны супрацоўнік Радыя «Вызваленьне», 1951-1959;**

**Навуковы супрацоўнік Дасьледніцкай праграмы па вывучэньню СССР, Калюмбійскі ўнівэрсітэт, 1951-1959;**

**Асістэнт прафэсара (1959), прафэсар (1962) Рэнссэльлерскага палітэхнічнага інстытуту.**

***Сфэры зацікаўленьня:*** **Дасьледаваньне беларускага мастацтва, тэатру й драмы;**
**Дасьледаваньне творчасьці Ф. Дастаеўскага;**
**Дасьледаваньне творчасьці А. Салжаніцына.**

***Найважнейшыя працы:***

**Доля беларускае культуры пад Саветамі. Мюнхэн, 1958;**
**Достоевсковедение в СССР. Мюнхен, 1955;**
**The Byelorussian Theater and Drama. New York, 1955;**
**Dostoevski in Russian Literatury Criticism. NY, 1957;**
**The same, second edition, NY, 1969;**
**Dostoevski in Russian Emigre Criticism. Belmont, 1975;**
**Dostoevski's Image in Russia Today. Belmont, 1975;**
**Dostoevski in Russian and World Theatre. North Quincy, 1977;**
**Soviet Literature During the Last seven years. NY, 1960.**

***Прафэсыйныя аб'яднаньні:***

**Беларускі інстытут навукі й мастацтва, з 1952;**

**Амэрыканская асацыяцыя настаўнікаў славянскіх і ўсходне-еўрапейскіх моў. Віцэ-прэзідэнт Нью-Джэрсійскага аддзяленьня, з 1960;**

**Віцэ-прэзідэнт Паўночна-Амэрыканскага таварыства Дастаеўскага, з 1970.**

***Навуковыя ступені і званьні:***

**Доктар філялягічных навук, 1941;**
**Прафэсар, 1962;**

**Ганаровае званьне доктара Народнага ўнівэрсітэту Амэрыкі, 1973;**
**Заслужаны прафэсар, 1976.**

*Дадатак:*

**Як сьведчаньне прызнаньня дасягнутага ў галіне літаратуразнаўства ўключаны ў даведнікі: «Хто ёсьць хто ў амэрыканскай адукацыі», 1965; «Хто ёсьць хто на Ўсходзе», 1969; «Слоўнік інтэрнацыянальных біяграфій», 1970; «Выдатныя амэрыканцы XX стагодзьдзя», 1976.**

**Лічаныя старонкі тэксту, а за імі -- гады і дзесяцігодзьдзі няпростага і нялёгкага жыцьця...**

**Ільля Сядура, карэнны мянчук, на пачатку 1910 году пабраўся з Марыяй Шабан, сялянкай зь вжскі Лагаўская Слабада Ігуменскага павету Меншчыны, якая з маладых год зазнала горыч службы ў чужых людзей. У гэтай сям'і 10 сьнежаня па-старому (24 дня па-новаму) стылю 1910 году нарадзіўся сын Уладзімер. Сям'я ўвесь час жыла на Стара-Віленскай вуліцы ў доме 50/12, на Старажоўцы. Там, дзе Менск, бадай, да самага апошняга часу захоўваў сваю некранутасьць: старыя дамы з ваканіцамі, глухія высокія брамы, сады, прысады бэзу, яшчэ непарушаныя могілкі. Рака Сьвіслач празрыстым струменем агінала Татарскія агароды. Яшчэ існаваў Татарскі мост, можна было пайсьці на пляц супраць былое духоўнай сэмінарыі, прыхаванай ліпамі, дзе льга было сустрэць багата рознага люду. У будынках, што належалі калісьці сэмінарыі, спыняліся вайскоўцы розных армій, розных краін. У першую акупацыю стаялі немцы. Чамусьці запомнілася, як бацька хаваўся ў прыбіральні ад нямецкіх патрулжў, што хадзілі па хатах, забіралі мужчынаў на прымусовую працу. У тую зіму 1918 году, калі нямецкія абозы сыходзілі зь Менску, першы раз пайшоў у школу. Улада мянялася. Прыйшлі Саветы, за імі -- палякі...**

**А пакуль што жыцьцё яго ішло так, як і ў ягоных пагодкаў. Улетку ўжо з раніцы сядзеў на беразе ракі з вудай ці купаў жаўнерскіх коней, каб пасьля вярхом праехаць праз увесь горад аж да самых кашараў. Бяз білета па вадзе пад дашчатай загародай прабіраўся да купальні, якую штогод гэбрай Куська будаваў на Сьвіслачы. Дармова гушкаўся на арэлях Зялжнкі й заўсёды пазьбягаў ягонай пугі. Або разам зь сябрам, крыху старэйшым ад яго, таксама рыбаком-аматарам Сьцёпкам, выбіраўся за горад -- у Зарэчча пад Ратамкай або ў Ясьнінку за Крупцамі -- нанач лавіць рыбу.**

**У былой духоўнай сэмінарыі часам ладзіліся лекцыі для курсантаў вайсковай школы, тэатральныя відовішчы, на адным зь якіх ён упяршыню пазнажміўся з вандроўным тэатрам Уладыслава Галубка.**

**Наагул хлапчук шмат чым цікавіўся: маляваў, гадзінамі праседжваў у бібліятэцы на былой Аляксандраўскай, пачаў вучыцца граць на скрыпцы, а крыху пазьней захапіўся радыёмайстраваньнем, зьбіраў дэтэктарныя радыёпрыёмнікі, больш складаныя лямпавыя апараты. Па радыё вывучыў мову эсперанта -- і марыў аб кантактах з Эўропай.**

**З часам усе гэтыя захапленьні саступілі новаму -- літаратуры, калі Уладзімер пачаў вучыцца ў Пэдагагічным тэхнікуме імя Ўсевалада Ігнатоўскага. Напэўна, гэта ня было выпадковасьцю. Яшчэ ў Першым Менскім прыхадскім чатырохклясным вучылішчы на былой Аляксандраўскай вуліцы, а пазьней у 15-й беларускай сямігадовай школе, якую скончыў у 1927 годзе, настаўнікі абудзілі цікавасьць да беларускай і сусьветнай літаратур. Кузьма Стрыгун, выкладчык беларускае мовы й літаратуры, Поляк, Сокал, выкладчык заходне-еўрапеўскіх літаратур, дырэктар школы й вучыцель гісторыі Каўпак, Міцкевіч, Замбржыцкі давалі ня толькі агульна-адукацыйныя веды, але й трывалую літаратурную падрыхтоўку.**

**Менскі пэдагагічны тэхнікум быў, як вядома, адным з тых асьветніцкіх і адукацыйных асяродкаў, куды на працягу гадоў прыцягвалася таленавітая моладзь і дзе таленавітыя настаўнікі вучылі любіць сваю краіну. Любіць і ведаць. Менавіта з выхаванцаў такіх «калысак» выходзілі тыя, што станавіліся гонарам нацыі. Непадобныя адзін да аднаго, рэалісты й рамантыкі, рацыяналісты й фантазёры, лятуценьнікі й скептыкі, -- усе яны былі аб’яднаныя ідэяй служэньня Незалежнай Бацькаўшчыне. Яны мелі ўсё, каб жыцьцё спрыяла ім, -- талент, працавітасьць, маладосьць, творчае парываньне. Іхні раньні ўзыход абяцаў новае адраджэньне беларускай культуры, можа, больш значнае за «нашаніўскае», -- «узвышэнскае»... Але толькі адзінкам пашанцавала рэалізаваць сябе...**

**«З восені 1927 году я ўжо быў студэнтам Менскага пэдагагічнага тэхнікуму імя Ўсевалада Ігнатоўскага. Тут неўзабаве я пачуў пра студэнтаў-пісьменьнікаў Максіма Лужаніна, Сяргея Дарожнага, Віктара Казлоўскага, Пятра Глебку. Праз гады да гэтае кагорты далучыліся новыя студэнты -- паэты і празаікі: Лукаш Калюга, Сяргей Астрэйка, Гайка, Гінтаўт, Сяргей Русаковіч, Язэп Лешчанка, Уладзімер Гуцька і іншыя. Сярод настаўнікаў былі там і ведамыя ў беларускім руху або навуковай актыўнасьцяй гэткія асобы, як Язэп Лёсік, Міхась Грамыка, А. Бялькевіч, Юлі Дрэйзін, Круталевіч і іншыя. Маім настаўнікам беларускае мовы быў шчыры беларус Антон Лёсік, Язэпаў брат»[1].**

**Потым, ужо на эміграцыі, чамусьці асабліва часта ўзгадваўся Юльян Дрэйзін -- невялічкі чалавечак, хударлявы, з вусамі нашаніўскага пісьменьніка Альберта Паўловіча. Ён ведаў, так здавалася, усіх дзеячаў**

**[1] Уладзімер Глыбінны. Паэта з Божай ласкі. Успаміны й роздум пра Язэпа Пушчу. Нью-Ёрк, 1979, б. 5.**

**асабіста і ў старыя часы нават размаўляў з царом Мікалаем Другім. Аўтар шэрагу артыкулаў ва «Узвышшы», «Полымі», «Маладняку», перакладчык на беларускую мову «Антыгоны» й «Фауста», выкладчык гісторыі й тэорыі музыкі, грэцкай, лацінскай моў, ён быў у 1935 годзе абвінавачаны ў нацыянал-дэмакратызме, мусіў пакінуць Менск і (парадоксы часу!) стаў выкладчыкам Маскоўскага ўнівэрсітэту.**

**Дыспуты і літаратурныя вечарыны, у якіх бралі ўдзел навучэнцы Белпэдтэхнікуму Андрэй Александровіч, Алесь Дудар, Паўлюк Трус, Сяргей Дарожны, Сьцяпан Ліхадзіеўскі, Антон Адамовіч, Рыгор Казак, Алесь Кучар, Міхась Блісьцінаў, жывілі і падмацоўвалі зацікаўленасьць літаратурай -- з'яўлялася жаданьне самому ўзяцца за асадку. Тады-ж Уладзімер пачаў друкаваць свае першыя літаратурныя спробы ў літаграфаваным часапісе «Крыніца», што выдаваўся Валерыем Мараковым. Нажаль, пасьпелі выйсьці толькі тры нумары, потым часапіс быў спынены.**

**Пазьней Уладзімер Сядура пасябраваў з паэтамі «Амсьціслаўскай пляяды» -- Зьмітраком Астапенкам і Юліем Таўбіным, зь якімі вучыўся ў Менскім пэдагагічным тэхнікуме (1929-1930 навучальны год), а потым -- на літаратурна-лінгвістычным адзьдзяленьні пэдагагічнага факультэту Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсітэту (1930-1932 гг.). Быў час «Другога Адраджэньня» -- час надзей, час маладосьці, чалавечай і літаратурнай. «Бурапеніліся» ня толькі старонкі часапісаў, «бурапеніліся» сэрцы дваццацігадовых хлапцоў. «Сяргей (Астрэйка), чытаючы вершы, меў звычку падтрымліваць рукою правую сківаіцу, каб прыхаваць дэфэкт свайго асобнага, губнога вымаўленьня цяжкага для яго гуку л'. Тады на дапамогу прыходзіў я, і мы ўдвох сугалосна і як мага галасьней, каб яшчэ больш пужаць тубыльцаў менскае ўскраіны, калацілі прастору ціхае ранічнае вуліцы, драўлянымі ходнікамі якое мы доўга любілі спацыраваць улетку і чытаць... чытаць вершы нашых улюбёных паэтаў».[1]**

**Былы студэнт Белпэдтэхнікуму Язэп Лешчанка, што стаўся на эміграцыі паэтам Міхасём Кавылём, прыгадвае той час: «Праз пару дзён я сядзеў за партай, слухаў лекцыі пра беларускую мову Антона Лёсіка, пра беларускую літаратуру -- Алесі Александровіч, пра "до"-"ре"-"мі"-"фа"-"соль" нейкага Яфімава, а пазьней сьпяваў у хоры Тэраўскага, запісаўся ў літаратурны "кружок", дзе часта спрачаліся Алесь Кучар, Максім Лужанін і студэнты старэйшых клясаў Ул.Сядура, Лукаш Калюга, Сяргей Астрэйка і іншыя. Я нікога зь іх блізка ня ведаў. Пасябраваў толькі з Сяргеем Русаковічам, які пісаў добрыя апавяданьні, хваліў Калюгу і Астрэйку ды крытыкаваў Сядуру: "Ганарыцца наш "Бялінскі", што напісаў сказ даўжынёю ад Камароўкі да Старажоўкі". «...» Гэта былі неаглядныя мройнікі. Бачылі яны сябе беларускімі Пушкінымі, Талстымі, Бялінскімі. У палітычных адносінах, асабліва беларуска-**

---

**[1] Уладзімер Глыбінны. Паэта з Божай ласкі, б. 80.**

**нацыянальных, -- недаросткі. Паверыўшы незваротнасьці сталінскай беларусізацыі, кінуліся гуляць з агнём. Чаго варта хоць такая дурніца, якая, бадай, і паслужыла ГПУ стварыць "Саюз Вызваленьня Беларусі". Не памятаю хто, Астрэйка ці хто іншы, але дадумаўся "перахрысьціць" СВБ, напісанае на значку Саюзу Ваяўнічых Бязбожнікаў, на Саюз Вызваленьня Беларусі. І канспірацыю прыдумалі: насіць значок не на штрыфелі пінжака, а пад штрыфелем».[1]**

**У 1929 г. Уладзімер Сядура пачаў друкавацца ў газэце «Савецкая Беларусь» і часапісе «Маладосьць». Пераважна гэта былі крытычныя зацемкі, агляды часапісаў, рэцэнзіі, сугучныя сважй ваяўнічасьцю агульнай настраёвасьці тагачаснай крытыкі. Напрыклад, у рэцэнзіі на першы нумар «Полымя» за 1930 год Сядура пісаў пра Паўлюка Шукайлу: «Верш Паўлюка Шукайлы "Акорды дзжн" зьяўляецца яскравым прыкладам макулатурна-халтурнае "творчасьці". Здаецца, ва ўсжй савецкай літаратуры за апошні год не зьявілася ў друку такога "образчика" чванска-дзяляцкай "творчасьці", як "твор" "Акорды дзжн" Паўлюка Шукайлы. І сапраўды, чаго толькі няма там. Тут вам і імкненьне аўтара начапіць на сябе ярлычок носьбіта футурыстычна-лефаўскае плыні беларускае літаратуры, тут і патугі ў канструктывісцкіх "вобразах" даць чытачу адчуць творчы пульс нашае рэканструкцыйнае эпохі, тут і высоўваньне сябе барацьбітом з пэсымістычнымі ноткамі ў беларускай паэзіі, супроць эпігонства старых форм і г.д. і г.д.». («Маладняк», !3, 1930, б. 140).**

**Здавалася, малады аўтар узяў правільны курс -- улавіў дух часу. Аднак ягоная першая «неасьцярожная» станоўчая ацэнка творчасьці Міхася Зарэцкага, у прыватнасьці «Падарожжа на Новую зямлю» (пасьля разгрому ў «Зьвязьдзе»), ня толькі прынесла складанасьці з далейшым друкаваньнем, але й сапсавала адносіны з «Маладняком», сябрам якога Сядура стаў у 1928 годзе. Так, калі абмяркоўвалася пытаньне аб прыёме ў БелАПП новых сяброў, Ілары Барашка выступіў супраць Уладзімера Сядуры як «апалагета буржуазна-кулацкага» «Узвышша», і той быў прыняты ў БелАПП толькі ў 1931 годзе.**

**Непаразуменьні зь сябрамі «Маладняку» сталіся «першым званочкам». Сядура пачуў яго і, спрабуючы ўцячы ад няпрыемнасьцяў, з другога курсу Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсітэту перавёўся ў Маскоўскі Ўніверсітэт. Але схавацца не атрымалася: калі ў 1933 годзе ў беларускай сталіцы пачаліся арышты, Сядуру прывезьлі назад -- у Менск, у «Амэрыканку», дзе ўжо знаходзілася большасьць выхаванцаў Белпэдтэхнікуму. Пасьля сьледства і допытаў Уладзімер Сядура разам з Уладзімерам Дудзіцкім, Зьмітраком Астапенкам, Сяргеем Русаковічам, Зьмітраком Віталіным, Максімам Лужаніным атрымалі -- хто па два, хто**

---

**[1] Язэп Лешчанка. Успаміны. «Казённы дом і далёкая дарога». Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва, !20, Нью-Ёрк, 1992, б.66-67.**

па тры гады -- свой тэрмін зьняволеньня. Паўтара гады прайшлі ў канцэнтрацыйным лягеры, напачатку ў Новасібірску, потым у Марыінску, другія паўтара -- у Байкала-Амурскіх лягерах (горад Свабодны, пазьней -- Тахтамыгд).

У жнівені 1935 г. Сядура быў вызвалены, перабраўся ў Сымфэропаль, бо прыгранічны Менск уваходзіў у сьпіс забароненых для пражываньня гарадоў. Колькі месяцаў без работы вымусілі пераехаць у Гомель, дзе пасьлядоўна звольнілі з працы спачатку ў музэю, потым у школе. Добра, што загадчык Гомельскага аддзелу народнай асьветы Татарчук даў паперу: «звольнены па ўласным жаданьні». З такім дакумэнтам можна было спрабаваць жыць нанава, але за межамі Беларусі. Тады, разам са Зьмітраком Астапенкам, паехаў на Каўказ. Пасьля блуканьняў па Грузіі ды Азэрбайджане нарэшце аселі ў школах -- Уладзімер у Краснадары, а Зьмітрок -- у Новарасійску. Закончыўшы навучальны год, сябры зрабілі яшчэ адну спробу ўладкавацца й пераехалі ў Маскву. Менавіта тут увосень 1936 году Астапенку (разам з Таўбіным) зноў арыштоўваюць і перавозяць ў Менск, у турму НКВД, каб пасьля асудзіць на высылку, дзе Таўбін і памірае. Зьмітрок Астапенка дажыў да апошняе вайны, уцякаў спачатку з штрафнога батальёну, а потым з нямецкага палону і загінуў дзесьці ў Славакіі восеньню 1944 году.

Уладзімеру Сядуру пашанцавала. Ён зьехаў у Ленінград, дзе ў 1939 годзе скончыў філялягічны факультэт, а ў травені 1941 году пры Інстытуце літаратуры й мовы Акадэміі Навук БССР абараніў дысэртацыю і атрымаў ступень доктара філялягічных навук (дыплём ! 55 ад 5 чэрвеня 1941 г.). Зьдзіўляў сам факт абароны: пасьля рэпрэсій, у родным Менску, да таго-ж -- адразу доктар навук.

Чарговы паварот лёсу. 22 чэрвеня Сядура зноў быў арыштаваны, а ўначы з 24 на 25 ужо ішоў бальшаком у натоўпе такіх самых арыштантаў на Чэрвень. Менск гарэў, страляніна мацнела, і толькі ўсеагульная разгубленасьць дазволіла Ўладзімеру ўцячы. Ён вярнуўся назад, у свой «каханы горад», праз некалькі дзён заняты новым акупантам...

Рэдакцыя часапісу «Новы Шлях», як паведамлялася на апошняй балонцы кожнага нумару, знаходзілася быццам-бы ў Менску, на вуліцы Рагнеды (даваеннай Рэвалюцыйнай), у доме !2, на трэцім паверсе. На самой справе, часапіс выдаваўся Паўночным аддзелам нямецкай арміі ў Рызе, цэнтры Райхкамісарыяту. Ідэя выдаваць часапіс на беларускай мове належала акупацыйным уладам, якія пераканаліся, што расейскамоўны «Новый Путь» не надаецца для Беларусі. Адтуль, з Рыгі, улетку 1942 года зьвярнуліся да нямецкіх уладаў на Беларусі з прапановай знайсьці рэдактара. Прапанова, у сваю чаргу, была «спушчана» да беларускага актыву, які, пасьля абмеркаваньня, назваў Уладзімера Сядуру-Глыбіннага.

**Напачатку часапіс рэдагаваў латыш А. Клішан, ня вельмі зацікаўлены ў непасрэдна беларускіх матар'ялах, якім адводзілася прыкладна чатыры старонкі ўсяго нумару. З часам Сядура з «адказнага рэдактара беларускага выданьня» стаўся галоўным рэдактарам часапісу, і беларускіх матар'ялаў пабольшала. У Рыгу перабраўся зь Менску і Альфрэд Радзюк (Алесь Салавей). Адначасна зь ім супрацоўнікам рэдакцыі стаўся і Ўладзімер Брылеўскі. Яны з жонкай уцяклі з этапу ў Нямеччыну і схаваліся ў Вільні, пра што ў лісьце да Сядуры паведаміў Янка Шутовіч. Пасьля пэўных захадаў Брылеўскія атрымалі неабходныя дакумэнты й пераехалі ў Рыгу.**

**Часапіс быў, як для ваеннага часу, надзвычай добра ілюстраваны фатаздымкамі з уласнага архіву рэдакцыі (нават меўся адпаведны разьдзел: «З фота-камэрай па сьвеце», дзе зьмяшчаліся краявіды Беларусі, Нямеччыны, Кітаю, Тыбету), каляровымі малюнкамі; меліся асобныя рубрыкі: беларускага гумару, вывучэньня моў, «джыу-джыцу -- сродку абароны». Натуральна, у першыя год-два пераважалі матар'ялы, прысьвечаныя Нямеччыне, уменьню ўсё рабіць па-нямецку -- абсталёўваць кватэры й вучыцца, маляваць і плённа працаваць.**

**Паступова прапагандовы матар'ял саступаў месца беларускаму. Асноўная ідэя яго -- культурная спадчына беларусаў. Гісторыі, мастацтву, культуры Беларусі прысьвечаны шматлікія артыкулы Ўладзімера Сядуры: «Залаты век», «Беларуская мова ў гісторыі Беларусі», «Беларускі дзяржаўны муж -- Лявон Сапега», «Беларускія паясы», «Менскі Белпэдтэхнікум», «Адраджэньне беларускай нацыянальнай вопраткі», «Лёс менскіх цэркваў», «Паэт вялікай культуры Ўладзімер "ылка», «Аляксей Туранкоў -- беларускі кампазытар» і іншыя.**

**«У свой час, -- пісаў пазьней Сядура, -- ня маючы пад бокам дастатковай колькасьці супрацоўнікаў, я часта амаль што цалкам запаўняў балонкі "Новага Шляху" собскімі матар'яламі. Але, каб не рабіць уражаньня, што часапіс робіцца адным чалавекам, я ня ўсё падпісваў собскім прозьвішчам, часам зусім даваў бяз подпісу, а шмат матар'ялаў падпісваў рознымі маімі псэўданімамі, накшталт У. Глыбінны, У. Сьвіславіцкі, Віктар Шабуневіч і іншымі».** ***(Зь ліста Уладзімера Сядуры да Вітаўта Тумаша ад 15 сакавіка 1947 году)***

**Актыўным супрацоўнікам часапісу быў і Кастусь Езавітаў, яму належаць публікацыі: «Беларускі мастак -- Пётра Мірановіч», «Беларуская нацыянальная вопратка», «Напярэдадні 100-годзьдзя беларускага тэатру», «Беларускія паштовыя карткі», «Сьвята Купалы», «Недрукаваныя вершы Максіма Багдановіча». Ягоны артыкул «Вітаю цябе, Наваградская моладзь» быў прысьвечаны часапісу «Покліч» Беларускай настаўніцкай сэмінарыі ў Наваградку.**

**Часта друкаваўся кампазытар М. Шчаглоў, зьмяшчаліся вершы Алеся Салаўя, Уладзімера Дудзіцкага, Ларысы Геніюш, Вольгі Таполі, Анатоля Іверса, Янкі Золака і многіх іншых. Тут былі надрукаваныя**

**ўспаміны «З жыцьця Язэпа Лёсіка» ягонага брата Антона, «Страшны год» Ю. Монвіда (Ф. Аляхновіча), ягоныя-ж «У лясным гушчары», «Круці, ня круці -- трэба памярці», пераклады з Райнэра Рыльке.**

**Трэба сказаць, што такія артыкулы як «Беларускі Нэстар. А. Сапуноў» С. Сахарава ці «Акадэмік жывапісу прафэсар М. П. Багданаў-Бельскі» В. Вэгэнава ці «25 год Віленскай беларускай гімназіі» Р. Мароза (артыкул з партрэтамі Б. Тарашкевіча, М. Косьцевіча, А. Сакаловай-Лекант, А. Неканды-Трэпкі, кс. Ад. Станкевіча, М. Кахановіча, Р. Астроўскага, Ф. Грышкевіча), і некаторыя іншыя, ня вылучаліся ні асаблівай глыбінёю, ні новымі ідэямі і фактамі. Аднак, верагодна, рэдактар і ня ставіў падобнай задачы: большасьць імёнаў і фактаў была забаронена на Беларусі за Саветамі, і таму ўжо само вяртаньне іх чытачу бачылася справай неабходнай. Да таго-ж асьветніцкая накіраванасьць публікацыяў была надзённай: не хапала падручнікаў у школах, а выдаць у той час беларускую кнігу было даволі праблематычна.**

**У кожным нумары падавалася інфармацыя зь беларускага жыцьця:**

**«У ліпені гэтага году Беларусь адзначала дзьве юбілейныя даты: 80-я ўгодкі пэрыядычнае беларускае прэсы (з дня выхаду ў 1862 г. першай беларускай газэты "Мужыцкая праўда" Кастуся Каліноўскага) і першую гадавіну з дня выхаду ў сьвет "Беларускай газэты" ў Менску (першы нумар выйшаў 27 ліпеня 1941 г.). Апошняя цяпер выходзіць тыражом у 50 тысяч экзэмпляраў два разы на тыдзень. Акрамя менскіх выданьняў "Беларуская Газэта" й "Голас Вёскі", беларускія газэты цяпер выходзяць у Бэрліне -- "Раніца" й "Беларускі Работнік", у Баранавічах -- "Баранавіцкая Газэта", у Беластоку -- "Новая Дарога", у Віцебску -- "Беларуская Старонка", у Вільні -- "Беларускі Голас" ды ў некаторых іншых гарадох Беларусі».**

**«Зь ініцыятывы групы пад кіраўніцтвам Сп. М. Панькова зь Дзьвінску падрыхтоўваецца да друку Беларуская Народная Энцыклёпэдыя. У Энцыклёпэдыі будзе разгледжана 50-55 тысячаў словаў і паняцьцяў з дадаткам 7000 здымкаў і малюнкаў, картаў, дыяграмаў, картаграмаў, табліцаў і гістарычна-літаратурнай храналёгіі».**

**«У Слонімскі музэй ад дня адкрыцьця музэю 11.10.1942 да 17.07.1943 г. прададзена 3161 білет».**

**«Беларускі Музэй у Вільні, які ад 1921 г. зьмяшчаўся ў Базыльянскіх Мурох пры Вострабрамскай 9, ад 27 студзеня 1944 г. знаходзіцца ў новым памяшканьні -- Вільня, вул. Сьв. Ганны, 4 (у будынку былой Акадэміі мастацтваў)».**

**«У Бабруйскай акрузе працуе 480 школаў, у якіх выкладае больш за 2000 настаўнікаў».**

**«Віцебск, Лепель, Полацак, Сянно, Бешанковічы й Чашнікі дагэтуль абслугоўваліся "Віцебскай Старонкай" -- невялічкім дадаткам да віцебскае газэты. Рост колькасьці чытачоў давёў да стварэньня**

**самастойнае газэты "Беларускае Слова" на 4-х балонках вялікага фармату».**

**«У Менску выходзіць часапіс пад назовам "Беларуская школа". Часапіс шмат дапаможа ў замене падручнікаў, якіх яшчэ не стае і зьмяшчае на сваіх балонках шмат дапаможных матар'ялаў для школы».**

**Артыкулы Сядуры з «Новага Шляху» і зь іншых беларускіх выданьняў склалі кнігу «Беларускае мастацтва», якая ўжо ў 1944 годзе пачала друкавацца ў Менску, але ваенныя падзеі перарвалі працу над ёй, як і над дзьвума іншымі кнігамі: зборнікам публіцыстыкі «Жыве Беларусь!» і дасьледаваньнем «Беларускі тэатр». Апошнія дзьве кнігі былі набраныя ў Рызе, але не пасьпелі выйсьці з-за падзеяў на фронце. Не атрымалася выдаць іх пазьней і ў Празе Чэшскай; з часам большасьць падрыхтаванага матар'ялу загінула, рэшта й да сёньня ў архіве. Была спроба надрукаваць пазьней кнігу ў Бэрліне, але й тут не атрымалася з прычыны імгненнай дэвальвацыі маркі. Бадай што адзіным здабыткам тых часоў стаўся зборнік «Беларуская народная культура» (Ватэнштэт, 1946), які аб'яднаў артыкулы У. Глыбіннага, К. Езавітава, М. Шчаглова, пераважная большасьць якіх друкавалася ў часапісе «Новы Шлях».**

**Інакш склалася творчае жыцьцё Уладзімера Сядуры на зямлі Вашынгтона, куды ён пераязджае зь лягеру ДП у кастрычніку 1951 году. Зь першых дзён ён уключаецца ў Амэрыканскую дасьледчую праграму па вывучэньню СССР, у выкладчыцкую работу, не пакідаючы літаратурнай працы. Адначасова Сядура шмат увагі аддае лекцыям і артыкулам, прапагандуючым беларускую культуру. І калі ў горадзе Трой, побач сталіцы штату Нью-Ёрк Олбані, на беразе Гудзону, ён набыў сабе дом, дык тут у 1963 г. распачынае сваю дзейнасьць Беларуска-Амэрыканскі літаратурна-навуковы цэнтр. Ажыцьцявілася даўняя мара -- займець сваю друкарню, сваё выдавецтва. Яшчэ напачатку 1961 г. Сядура пісаў да Аляксандра Асіпчыка: «Выдавецтва "Бацькаўшчына" займаецца перавыданьнем нашых клясыкаў або перадрукоўвае творы савецкіх аўтараў, як гэта было з выданьнем аповесьці "Дабрасельцы" А. Кулакоўскага. А арыгінальнае новае літаратуры яно ня выдала аніводнае кнігі. Каб гэтак рабіла калісьці выдавецтва "Нашае Нівы", перадрукоўвала-б толькі клясыкаў XIX ст., дык мы на сяньня ня мелі-б ні Янкі Купалы, ні Якуба Коласа, ні Максіма Багдановіча, ні Максіма Гарэцкага, ні Зьмітрака Бядулі, ні Цішкі Гартнага, ні Алеся Гаруна, ні Ядвігіна Ш., ні іншых, бо яны тады не пабачылі-б сьвету. Ня было-б, фактычна, тады й руху нашаніўскага. Але, дзякуй Богу, нашаніўцы былі разумнейшымі ад нашых выдаўцоў, яны хаця-ж і выдавалі творы Дуніна-Марцінкевіча і Ф. Багушэвіча, але не забываліся на найважнейшую задачу -- даваць дарогу новым пісьменьнікам, дзякуючы чаму і высунуліся нашы цяперашнія клясыкі, пералічаныя вышэй». *(Зь ліста да Аляксандра Асіпчыка ад 26 лютага 1961)***

**Беларуска-Амэрыканскім літаратурна-навуковым цэнтрам у 1964 г. была выдадзена кніга аповесьцяў і апавяданьняў У. Глыбіннага «На Берагох пад Сонцам» -- адна зь нешматлікіх кніг мастацкае прозы беларускіх пісьменьнікаў на эміграцыі, дзе зроблена спроба паказаць нейкія моманты жыцьця звычайнага беларускага эмігранта на амэрыканскай зямлі. Праўда, калі характары «амэрыканскіх» беларусаў атрымаліся пераважна хадульнымі, то ў постаці Міколы Ворнага з апавяданьня «Да родных берагоў» усе пазналі Кузьму Чорнага. Тое, ранейшае жыцьцё, нават вельмі даўняе, было ўсё-ж больш блізкае і больш зразумелае.**

**Сядура імкнецца супрацоўнічаць з самымі рознымі беларускімі суполкамі: у бібліятэчцы «Беларускай Думкі» ў 1963 г. выходзіць ягоная кніга «Смаленшчына -- адвечная зямля беларускага народу»; у Лёндане (выдавецтва «Божым Шляхам», 1972 г.) -- «На Сьвятой Зямлі». Кніга сталася вынікам вандроўкі аўтара ў Іерусалім: «Летапісцы княжнага града Полацку адзначаюць асаблівую славу таго места, што ўзгадаваў такую слаўную дачку, "нявесту Хрыстову", прападобную Сьв. Еўфрасінію Полацкую. Ейны шлях з княжнага Полацку ў далёкую Сьвятую Зямлю і Сьвяты град Ерусалім заўсёды быў і будзе на вякі вечныя пуцяводнай зоркай для ўсіх тых, хто прагне адведаць пакутную радзіму Хрыста. З гэтай думкай не разлучаўся і наш беларускі паломнік, які пасьля 799 гадоў пасьля Сьв. Еўфрасініі прайшоўся ейнымі шляхамі па гарачай Палястынскай зямлі»[1].**

**У 1979 г. у Нью-Ёрку выходзіць кніга «Паэта з Божай ласкі. Успаміны і роздум пра Язэпа Пушчу (1902-1964)».**

**Не пакідае У. Сядура й літаратуразнаўчую дзялянку. У 1958 г. у Мюнхэне ў Інстытуце для вывучэньня СССР друкуецца ягоная кніга «Доля беларускае культуры пад Саветамі» -- своеасаблівы мартыралёг беларушчыны, дзе на багатым фактычным матэрыяле з улікам малавядомых фактаў аўтар абгрунтоўвае сваю пэрыядызацыю беларускае культуры:**

**1. Пэрыяд адноснага рэнэсансу (1920-1929 гг.).**

**2. Пэрыяд змаганьня партыі з беларускім нацыянал-дэмакратызмам і нацыянальнымі ўхіламі ў культуры (1930- 1940 гг.).**

**3. Пэрыяд вымушаных уступак нацыянальнай культуры ў часе вайны (1941-1946 гг.).**

**4. Пэрыяд жданаўскай рэакцыі й кананізаванай сталінскай іканаграфіі (1946-1953 гг.).**

**5. Пэрыяд замены сталінскай кананізацыі культам партыі і Хрушчова ад 1953 г. да нашых часоў.[2]**

---

**[1] Уладзімер Глыбінны. На Сьвятой Зямлі. Лёндан, 1972, б. 5.**

**[2] Ул.Глыбінны. Беларуская культура й таталітарызм. «Беларуская Думка», !3, 1961, б. 5.**

**Сядура пераканальна раскрывае прычыны, як ён называе, «адноснага рэнэсансу беларускай культуры» ў 20-я гады, немалых посьпехаў, дасягнутых у розных галінах культуры, паказвае, зь якім даверам адгукнулася раскіданая па ўсім сьвеце беларуская інтэлігенцыя на адозвы накшталт той, што была прынятая Другім Усебеларускім Зьездам Саветаў: «Таварышы ўраджэнцы Беларусі: навукоўцы, літаратары, школьныя, дашкольныя працаўнікі, наагул культурныя дзеячы! Вашая вызваленая Бацькаўшчына кліча Вас да сябе. «...» Магчыма, вам прыйдзецца на пачатку цярпець нястачы, нявыгоднасьць і нягоды, але працоўныя масы Беларусі «...» не забудуць тых, хто пажадаў зрабіцца ўдзельнікам іхняй творчасьці, дапамагчы ім выкаваць сьветлы меч іх новай культуры».[1]**

**З розных мясьцінаў вярталіся тады дзеячы культуры. Сядура расказвае пра тых, што прыбылі з Адэсы: гэта Сьцяпан Некрашэвіч, Антон Баліцкі, Пётра і Юльян Ілючонкі, праф. М. Пятуховіч, Міхал Грамыка, Яўген Аляховіч і іншыя.**

**Зь веданьнем дакумэнтаў і дакладнасьцю непасрэднага ўдзельніка падзей расказвае аўтар пра разгром беларускай культуры пад лёзунгам барацьбы з нацыянал-дэмакратызмам. Прыведзеныя сьпісы арыштаваных дзеячаў уражваюць і сёньняшняга чытача. Ня ўсё ў кнізе аднолькава каштоўнае, але гэтыя першыя разьдзелы захоўваюць сваю надзённасьць, фактычную і навуковую вартасьць.**

**Найбольшы рэзананс у англамоўным навуковым асяродзьдзі атрымала дасьледаваньне Сядуры «Беларускі тэатр і драма», што пабачыла сьвет на ангельскай мове ў 1955 годзе. Кніга мае 500 балонак, шмат ілюстрацый, вялікую бібліяграфію. У ёй раскрываецца гісторыя беларускага тэатру ў дыяхраніі -- называюцца розныя студыі, іхні рэпэртуар, аналізуюцца ўсе галоўныя п’есы, творчыя мэтады пастаноўшчыкаў, даецца агляд жыцьця й дзейнасьці найбольш вядомых рэжысэраў, актораў і драматургаў.**

**Першы разьдзел кнігі прысьвечаны разьвіцьцю беларускага тэатру з часоў сярэднявечча, прасочваюцца сувязі з Захадам. Гэтая частка грунтуецца шмат у чым на кнізе Францішка Аляхновіча «Беларускі тэатр» (Вільня, 1924). Найбольш сур’ёзныя знаходкі аўтара былі пераважна ў дасьледаваньнях БДТ-1 й БДТ-2, тэатра Галубка. На канкрэтных фактах кніга выяўляе ролю тэатру ў культурным і палітычным жыцьці Беларусі. Узбагачаюць зьмест цікавыя гістарычныя замалёўкі накшталт такой: у 1925 годзе адбываўся плебісцыт наконт далучэньня Гомельскага раёну да БССР. Раён гэты, паводле першапачатковага адміністрацыйнага падзелу, павінен быў адысьці да РСФСР. Сядура зазначае, што менавіта гастролі тэатра Галубка абудзілі нацыянальныя пачуцьці насельніцтва, якое пажадала далучыцца да**

**[1] Уладзімер Глыбінны. Доля беларускае культуры пад Саветамі. Мюнхэн, 1958, б. 13.**

**Беларусі. Ня менш цікавыя старонкі пра пастаноўку маладой трупай БДТ-2 спэктакляў на беларускай мове на маскоўскай сцэне.**

**Падрабязна разгледжаны ў кнізе пэрыяд 30-х гг., калі арыгінальны рэпэртуар пасьлядоўна замяняўся пераважна перакладным -- як з расейскай і ўкраінскай, так і з замежных моваў. Тры балонкі кнігі (129-130) запоўнены імёнамі дзеячаў беларускага тэатру, абвінавачаных у «буржуазным нацыяналізьме».**

**У кнізе знайшла адлюстраваньне і дзейнасьць беларускага тэатру часоў акупацыі, а таксама першых гадоў эміграцыі (у Германіі і ЗША).**

**Прафэсар Калюмбійскага ўнівэрсітэту, кіраўнік аддзелу славянскіх моваў доктар Э. Сіманс у прадмове да кнігі Ўладзімера Сядуры пісаў: «Коратка кажучы, мы ў гэтай кнізе маем першую ў ангельскай мове працу аб беларускім тэатры і драме на падставе шырокага дасьледаваньня й напісаную аўтарам першарадных ведаў і вольным ад савецкае цэнзуры. Кніга гэтая -- даўно чаканы падарунак усім, хто зацікаўлены ў тэатры й драме і хто вывучае культуру СССР».[1]**

**Кніга мела станоўчыя водгукі ня толькі ў беларускім друку, але і ў замежнай рускамоўнай і англамоўнай пэрыёдыцы: «Русская Мысль» (Парыж), «The American and East European Review» (Нью-Ёрк), «New York Times Book Review», «The Russian Review» і іншыя. Прафэсар Нікалас Вакар, даўні дасьледчык беларускае культуры, у лісьце да аўтара зазначыў: «Паводле багацьця фактычнага матэрыялу я ня ведаю іншай такой працы пра беларускую культуру з часоў Насовіча, Шэйна, Раманава, Карскага; ад пазьнейшых дасьледчыкаў яе выгодна вылучае стрыманы тон і характар дакумэнтацыі».[2] Нават газэта «Новое Русское Слово», якая звычайна ня вельмі прыхільна ставілася да праяў нацыянальнай сьведамасьці народаў СССР, зьмясьціла артыкул праф. П. Яршова «Трагический путь белорусского театра», дзе адзначалася: «Уладзімер Сядура пазбаўлены шавінізму, але ён шчыра зацікаўлены ў законным праве на самабытную творчасьць беларускага народу, літаратурная мова якога была настолькі дасканалая ўжо ў XV-XVI стагодзьдзях, што на ёй быў надрукаваны юрыдычны дакумэнт -- "Літоўскі Статут" 1529 году».[3]**

**Наступныя кнігі Сядуры ў ангельскай мове былі прысьвечаны творчасьці Фёдара Дастаеўскага, стаўленьню да ягоных твораў у савецкім літаратуразнаўстве, пастаноўкам на тэатральных сцэнах у СССР і за мяжой. Гэтыя працы таксама мелі добрыя водгукі навуковай грамадскасьці, але амаль ня былі заўважаныя беларускай эміграцыйнай**

---

**[1] Цытуецца паводле артыкулу: К. Старажоўскі. Уладзімер Сядура-Глыбінны. «Беларускі Сьвет», ! 16 (45), 1984,** б. 9.

**[2] Тамсама, б.10.**

**[3] «Новое Русское Слово», 23.10.1955.**

**прэсай. Мабыць, і асабістая крыўда праглядвала ў словах пісьменьніка, калі ў артыкуле пра творчасьць Яна Пятроўскага ён пісаў:**

**«За ўсе гады выдавецкае дзейнасьці Яна Пятроўскага наш друк як вады ў рот набраў, маўчыць. Аніводнае рэцэнзіі на працы Пятроўскага ў друку не зьявілася. Відаць, не дарасьлі яшчэ, каб ацаніць належным чынам і заахвоціць да далейшае дзейнасьці. Гэта каб у іншай эміграцыі, дык выдатны культурны чын Яна Пятроўскага атрымаў-бы ўсеагульнае вызнаньне і ўдзячнасьць усіх суайчыньнікаў».[1]**

**Уласьцівая кожнаму грамадству складанасьць чалавечых адносін -- сымпатыя і антыпатыя, памяркоўнасьць і нецярпімасьць, -- бязумоўна, у пэўнай ступені ўплывала на ацэнку кніг Сядуры ў эміграцыйным асяродзьдзі. Але вызначальнымі былі розныя погляды беларускай эміграцыі на культурную дзейнасьць у выгнаньні.**

**Адзін з гэтых паглядаў сфармуляваў Уладзімер Сядура ў лісьце да Юркі Віцьбіча: «Я ўважаю, што мы, апынуўшыся ў вольным сьвеце, павінны зрабіць тут як мага больш, каб сьвет нарэшце ведаў аб нашых культурных здабытках і магчымасьцях. Дробнай мітусьнёй каля бруклінскіх хутароў нічога не асягнецца, і значэньне яе навонкі часьцей роўнае нулю».[2]** ***(Зь ліста ад 29 жнівеня 1954 году)***

**Прынцыпова іншага пагляду прытрымліваўся, напрыклад, той самы Юрка Віцьбіч. Расейскамоўныя эміграцыйныя выданьні, зь якімі ён супрацоўнічаў на працягу многіх гадоў, Віцьбіч разглядаў толькі як варожую тэрыторыю, на якой можна і трэба змагацца за нацыянальныя інтарэсы.**

**«Тым больш, што ў мяне пры гэтым ёсьць, мне думаецца, самае галоўнае, істотнае -- я ні на каліва не губляю нашае нацыянальнае прынцыповасьці, а заўжды застаюся на варце нашых нацыянальных вартасьцяў. Калі ўлічыць вялікі тыраж "Нового Русского Слова", дык роля артыкулаў і зацемкаў у іх набывае вылучны прапагандовы характар».** ***(Зь ліста Юркі Віцьбіча да Антона Адамовіча ад 5 ліпеня 1952 году)***

**Менавіта таму Віцьбіч адмовіўся прыняць прапанову стаць выкладчыкам расейскай мовы у вайсковай акадэміі і абраў для сябе працу на фабрыцы.**

**Уладзімер Сядура стаўся папулярызатарам беларускага тэатру на эміграцыі, знаным у навуковым сьвеце дасьледчыкам творчасьці Ф. Дастаеўскага (ён, між іншым, спрабаваў давесьці гістарычнымі фактамі, псыхалягічным аналізам творчасьці Дастаеўскага ягоную беларускую**

---

**[1] У. Глыбінны. Сусьветная клясыка па-беларуску. «Беларуская Думка», ! 25-26, 1981-1982, б. 36.**

**[2] Ліставаньне Уладзімера Сядуры-Глыбіннага захоўваецца ў Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага (Нью-Ёрк).**

**прыроду). Нажаль, Сядура ня меў часу, каб скончыць і выдрукаваць свой галоўны мастацкі твор -- аўтабіяграфічны раман «Вялікія дарогі», пачатак якога друкаваўся ў часапісе «Веда»; каб дачакацца выдаўца кнігі «Тэстамэнт»; каб скончыць дасьледаваньне пра беларускую опэру й балет, пра разьвіцьцё беларускага мастацтва. Засталася ў рукапісе і кніга «Мая карэспандэнцыя з маімі чытачамі», у аснове якой ляжаць лісты-водгукі на публікацыю зборніка аповесьцяў і апавяданьняў «На берагох пад сонцам».**

**Кожны рабіў свой выбар, кожны меў сваю рацыю. Уладзімер Сядура набыў вядомасьць у славістычных колах, ліставаўся з такімі знанымі дзеячамі расейскай эміграцыі, як Л. Ржэўскі, Г. Сьвірскі, А. Гідоні, Р. Гуль, М. Слонім, З. Шахаўская, але яму вельмі не хапала адпаведнага прызнаньня ў колах беларускае эміграцыі...**

**15 студзеня 1981 году была пастаўлена кропка ў апошняй кнізе Уладзімера Сядуры «Пад лебядзіным знакам». Яна ўбачыла сьвет праз два гады, у 1983, у выдавецтве Беларуска-Амэрыканскага навукова-літаратурнага клюбу. Аповесьць прысьвечана Максіму Багдановічу, яго гасьцяваньню ў Вільні, Ракуцёўшчыне, сустрэчам з братамі Луцкевічамі, Вацлавам Ластоўскім. Праз усё жыцьцё Уладзімера Сядуры прайшло імкненьне зразумець і адлюстраваць нашаніўскія часы. Дзеячы беларускай культуры таго пэрыяду прыцягвалі яго і на Бацькаўшчыне і на эміграцыі. Постаці Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Вацлава Ластоўскага не адзін раз узьнікаюць у кнігах, артыкулах, прыватных лістох. Нездарма-ж калісьці, марачы аб выданьнях арыгінальных кніг беларускіх пісьменьнікаў-эмігрантаў, ён прыгадвае «Нашую Ніву».**

**Калі Сядура задумаў аповесьць пра Максіма Багдановіча, яму здавалася, што ён нямала ведае пра «нашаніўцаў». Але для напісаньня кнігі не хапала канкрэтных дэталяў. Сядура на доўгі час асталёўваецца ў Нью-Ёркскай Публічнай Бібліятэцы, вывучае літаратуру тых часоў і пра тыя часы. Але-ж і кнігі, і часапісы не даюць дастатковых зьвестак пра многія цікавыя падрабязнасьці, і Сядура зьвяртаецца да людзей, што самі ці праз сваякоў маглі яму дапамагчы. Гэтае ліставаньне вельмі багатае. Нажаль, строга абмежаваныя ў кнізе падзеі не дазволілі аўтару ўключыць у кнігу ўсё, што сталася яму ведама, многія-ж факты па-мастацку пераасэнсаваліся. Зразумела, само гэтае ліставаньне мае вялікую дакумэнтальную вартасьць, але адначасна яно дае ўяўленьне і аб мэтадзе работы Сядуры як навукоўца і пісьменьніка. Вось некаторыя з гэтых лістоў.**

**9 студзеня 1981 году**

**Вельмі Паважаны Прафэсару.**

**Імя па бацьку Аляксандра Ўласава ня знаю, ды ў аповесьці з часоў «Нашай Нівы» яно бадай і непатрэбнае -- шануючыя сваю беларускую мову нашаніўцы ніколі да сябе не зьвярталіся на лад**

**расейскае мовы па бацьку. Ведаю гэта добра, бо спатыкаўся па Першай сусьветнай вайне з тымі нашаніўцамі, якія тады яшчэ жылі ў Вільні. Па бацьку да сябе не зьвярталася і ўся сялянская Беларусь. Калі цяпер у некаторых падсавецкіх аўтараў па бацьку гавораць і сяляне беларускае вёскі (і навет у XIX ст.), дык гэта знак іхняе няведы беларускае мовы й беларускіх традыцыяў, або -- калі ход пра сучасную вёску, -- магчыма, і адзнака ўжо русыфікацыі гэтае вёскі. «...»**

**Ваш Вітаўт Тумаш.**

**23 студзеня 1981 году**

**Вельміпаважаны Спадар Глыбінны!**

**«...» Вы пытаецеся, як называлася жонка Вацлава Ластоўскага? Я ня памятаю. Я яе клікала цётка Ластоўская. У 30-м годзе яна мела гады сорак два, была нявысокая, шчуплая, вельмі прыемная кабета. У Ластоўскага яна другая жонка. Першая жонка В. Л. памерла, калі ягоная дачка Ганна была малым дзіцем. Другая жонка выгадавала Ганну.**

**Ластоўскія жылі ў кватэры пры музэі. Пасьля арышту бацькі Ганна пакінула цётку Ластоўскую саму. Памятаю цётку Ластоўскую ў хаце Язэпа й Ванды Лёсікаў недзе ў сярэдзіне ліпеня 1930-га году. Яна цяжка перажывала арышт мужа, адчувала сябе перапалоханай і разгубленай. Скардзілася на Ганну, бо таму, што яна засталася сама, яе пачалі высяляць з кватэры.**

**Пазьней я чула, што Ганка зацяжарыла і пабралася зь нейкім партыйцам. Свайму першаму мужу, які ў Літве за камуністычную дзейнасьць быў засуджаны на 15 год турмы, напісала, што ня можа чакаць яго так доўга.**

**Да Вацлава Ластоўскага варожа ставіўся археалёг Аляксандр Ляўданскі. Ластоўскі адказваў Ляўданскаму тым-жа самым, бо лічыў яго сымпатыкам Масквы. Напрыклад, у класыфікацыі курганоў на Беларусі кожны зь іх рабіў іншы выснаў. Нажаль, навуковыя спрэчкі пераносіліся ў прыватнае жыцьцё. Ластоўскі шмат пацярпеў ад Ляўданскага. «...»**

**З пашанаю**

**Іна Рытар.**

**30 чэрвеня 1981 году**

**Вельмі паважаны й дарагі Спадар Сядура!**

**Толькі што атрымала Ваш ліст і адразу-ж адказваю. Так, гэта праўда, што М. Багдановіч насіў мяне на руках і расказваў мне казкі, але мне тады было два гады (я нарадзілася ў 1909 г.) і ведаю я аб гэтым із слоў маёй маці, якая памерла ў 1974 годзе.**

**Мая мама, успамінаючы тыя часы, казала, што Антон, пазнаёміўшыся з М. Б. у рэдакцыі «Нашай Нівы», запрасіў яго ў Ракуцёўшчыну на лета, бо той ужо тады быў хворы на сухоты. Яму лекары сказалі, што калі ён перажыве 25 год жыцьця, то будзе жыць. (Ён**

**гэтага веку не перажыў). М. Б. жыў у Ракуцёўшчыне ў маленькім доміку ў садзе, там яму было выгадней, як у вялікім доме і спакайней. За стол сядалі ўсе разам, вяліся гутаркі, жартавалі, пасьля хадзілі на спацыр, бо ваколіцы там вельмі маляўнічыя. У той час моладзь захаплялася паэтам Надсанам, у тым ліку й мая маці, але М. Б. казаў, што яму паэзія Надсана не падабаецца, зашмат эротыкі (мне здаецца, што яе хапіла і ў Багдановіча). Лёс гэтых паэтаў быў аднолькавы: Надсан памёр у 24 гады жыцьця на сухоты ў Ялце.**

**Вы пытаецеся, хто быў гаспадар маёнтку? Я ведаю, што гэта -- фальварак (маёнткам у пэўным сэнсе слова ён ня быў). Належаў да сям'і маёй бабкі, з дому Лычкоўскіх, там жылі ейныя сёстры і, відаць, браты, але да каго менавіта належаў фальварак, я ня ведаю, фактычна ня ведаю іхніх імёнаў.**

**Але сёньня-ж напішу ліст у Вільню да сыноў Антона Луцкевіча, якія й цяпер наведваюць Ракуцёўшчыну. Я запытаюся ў іх пра ўсё тое, што Вас цікавіць. Яны павінны гэта ведаць, тым больш, што малодшы сын Антона, Лявон, жанаты з дачкой Зоські Верас (Людвіка Сцяпанаўна Шантыр), якая асабіста ведала Максіма і працавала зь ім у Менску ў выдавецтве часапісу (здаецца, «Заранка»).**

**Бывайце здаровы.**

**Шчыра адданая Яніна Каханоўская.**

**Даражэнькі Спадар Сядура!**

**У сваім лісьце Вы пытаецеся, як сталася, што бацька Антона, Іван, пішацца па-расейску «по отчеству», калі ён быў каталік. Вось-жа ў тыя далёкія часы, калі Беларусь называлася «Северо-Западный Край» і разам з Польшчай была пад уладай расейскага імпэратара, усе дакумэнты пісаліся ў расейскай мове. Гэтак і касьцёл быў абавязаны пісаць мэтрыкі аб нараджэньні па-расейску. Па-польску было-б:** Jakub, syn Jana; Jan, syn Jakuba, **але ў расейскай мове забавязвала «отчество»: мая маці -- Емилия Ивановна, Антон Иванович і г. д. Гэтак пісаліся ўсе дзяржаўныя дакумэнты тых часоў, касьцёл быў падпарадкаваны дзяржаве, у Польшчы ксяндзы служылі па-латыні, але дакумэнты пісаліся па-расейску.**

**Я, якая нарадзілася ў 1909 годзе й была хрышчоная ў Менску, у касьцёле, мела падобную мэтрыку, цалкам у расейскай мове і з «Двухглавым Орлом».**

**З глыбокай пашанай Яніна Каханоўская.**

**Прыехаць на Беларусь запрасілі Максіма Багдановіча браты Іван і Антон Луцкевічы -- людзі, адданыя беларускай справе. З чэрвеня па жнівень 1911 году ён жыў у фальварку Ракуцёўшчына, які належаў Вінцэнту Лычкоўскаму -- дзядзьку братоў Луцкевічаў. Сустрэча з віднымі дзеячамі-нашаніўцамі, размовы зь імі пра мінулае і пра будучыню**

**Беларусі, прыгажосьць краявідаў, тамтэйшая моладзь, архітэктура Вільні -- усё гэта зрабіла незабыўнае ўражаньне на паэта, аказала глыбокі ўплыў на ягоную творчасьць. «Ён пачаў пералічваць, што тут была напісана. Колькі лірычных вершаў, цэлы цыкль твораў на тэмы старой Беларусі, цыкль вершаў "Места", а найбольш значныя -- гэта "Мадонны" зь вершамі-паэмамі "У вёсцы" ды "Вэраніка"».[1]**

**Кампазыцыя кнігі Сядуры пра Максіма Багдановіча цікавая: з трох разьдзелаў першы і трэці -- «Там, дзе плывуць берагі Вяльлі» і «Пад Лебядзіным Знакам» -- апавядаюць пра віленскія сустрэчы Багдановіча. Тут Сядура ўдала стварае атмасфэру напружанай творчай працы «нашаніўцаў». Размовы, бяседы Вацлава Ластоўскага, братоў Луцкевічаў, Браніслава Эпімаха-Шыпілы з Максімам Багдановічам пра выдавецкія справы і лёс газэты, пра «залаты век» і Пагоню, пра Скарыну і Мамонічаў, пра калекцыі музэю і слуцкія паясы -- усё нясе чытачу веды як пра даўніну, так і зусім блізкае мінулае Беларусі.**

**Другая частка -- «За плыньню Ушы, за хвалістымі ўзгоркамі» -- малюе Ракуцёўшчыну, яе насельнікаў і напісана мякка, лірычна, як-бы кампэнсуючы напружанасьць іншых частак. Увесь твор зроблены так, што кожнай старонкай выклікае ў чытача асацыяцыі зь вершамі Максіма Багдановіча.**

**Завяршае кнігу гісторыя выданьня першага зборніку Багдановіча, які сам аўтар назваў «Кніжка выбраных вершаў», а Ластоўскі даў яму назоў «Вянок». Грошы на выданьне атрымалі часткова за кошт продажу старажытнага гербу Равічаў, а другую частку дала княгіня Магдалена Радзівіл. «Каб паказаць спраўнасьць перад княгіняй, фундатары "Нашай Нівы" пастанавілі на загалоўнай балонцы кнігі вершаў пад загалоўкам даць яшчэ знак лебедзя, які азначаў герб Завішаў. А сама Магдалена Радзівіліха паходзіла з дому Завішаў».[2] Так пад знакам лебедзя выйшаў зборнік Багдановіча. Знак лебедзя даў назву і кнізе Ўладзімера Сядуры-Глыбіннага. Можна толькі са смуткам прыгадаць, што гэтая кніга сталася ягонаю лебядзінаю песьняю.**

**1983 год. Здавалася, яшчэ заставаўся час, надзеі, якім ня суджана было спраўдзіцца, рукапісы, што будуць даводзіць да ладу іншыя. Цяжкая хвароба на даўгія гады паклала ў ложак.**

**Уладзімер Сядура-Глыбінны адышоў 13 сакавіка 1995 году.**

---

**[1] Уладзімер Глыбінны. Пад Лебядзіным Знакам. Аповесьць пра Максіма Багдановіча. Выдавец: Беларуска-Амэрыканскі Навукова-Літаратурны Клюб, 1983, б. 72.**

**[2] Уладзімер Глыбінны. Пад Лебядзіным Знакам, б. 94.**

## З ТВОРЧАЙ СПАДЧЫНЫ УЛ. СЯДУРЫ-ГЛЫБІННАГА

### Полацкае дзіва

**1**

**Зіма ў 1486 годзе была доўгай і лютай. Яшчэ на пачатку сакавіка стаялі злосныя маразы. Усе рэкі скаваныя тоўстым вэлюмам лёду, бялюткага ад штодзённага напластаваньня сьнегу. Ужо каторы месяц спыніўся рух чаўноў і купецкіх баржаў па рацэ Дзьвіне. Дзе-каторыя зь іх пасьпелі сваім часам адысьці з полацкае прыстані і цяпер, як тыя абледзянелыя прывіды, агромністымі патарчакамі безнадзейна глядзелі на бясконцую беласьнежную роўнядзь шырака разьлеглага рэчышча. Чакаць ім і не дачакацца вясновай цяплыні, што павінна разваражыць**

**заснулую прыгажуню і адрадзіць бурнае жыцьцё ўздоўж дзьвінскіх берагоў.**

**Ня чуваць цяпер на тых берагох зухаватых выкрыкаў купецкіх людзей, што давалі загады найманым, як і куды разгружаць прывезеныя ў Полацак з Смаленску і Віцебску або з маёнткаў Паддзьвіньня футры і скуры, мёд і воск, лён і збожжа, смалу і попел. Ня рэжа цяпер тут мясцовае вуха мова рыжскіх ды кралевецкіх купцоў, якія некалі ўжо зраньня гарлапанілі па-нямецку на мясцовых грузчыкаў, устаўляючы для зразумеласьці дзе-якое славянскае слова. Ня чуецца і зусім зразумелая тут гаворка віленскіх і горадзенскіх купцоў. Замоўк стрыгат скрыняў зь сякерамі, нажамі, жалезам, волавам, медзьдзю і цынкам зь нямецкіх земляў. Заціхла водгульле гуканьня паміж людзьмі, калі перакідвалі адзін аднаму пакі вугорскага і валахійскага сукна, турэцкіх сукняў. Вецер даўно ўжо разьнёс і выветрыў дарэшты пахі перцу і міндалю ўздоўж прырэчных будынінаў, выпетраўся смурод нямецкага піва і кіслы пах замежных вінаў. жыцьцё як-бы зусім запынілася, усё як-бы занямела, на ўсім была адзнака зімы-чарадзейкі.**

**Аднак сіла тае вядзьмаркі слабела і сыходзіла на ніштo ў самім Полацку. Ужо на ягоным заходнім узьмежжы, уздоўж выкручастай ракі Палаты, натоўпы хлапчукоў-падлеткаў павыраблялі сабе сьцежкі на лёдзе і з крыкамі юнацкае радасьці насіліся на коўзанках. Вуліцы Вялікага пасаду кішэлі ад народу.**

**Быў гандлёвы дзень. Уздоўж Вялікай вуліцы на правым беразе Дзьвіны ды на Прабойнай вуліцы зраньня каля крамаў праходзілі грамадкі людзей, апранутых у цёплыя адзежыны з куніцынымі і сабалінымі каўнярамі ды лісінаю падшыўкаю. Зваблены размаітымі вырабамі мясцовых і замежных майстроў, дзе-хто адчыняў дзьверы ў крамы. Па Віцебскай вуліцы, Невельскім тракце ды па Прабойнай з поўначы цягнуліся вялізарныя калымагі з дабром. Іхнім возьнікам проста ўперадзе, удалячыні, на Чорнай гары за Чорным ручаём, на Дзядзінцы, вырысоўваліся муры Верхняга замку. Над ім магутна ўзносіліся абрысы выцягнутых стромка ўвысь званіцаў Сафійскага сабору. Па гэты бок Дзядзінцу цягнуўся лес колькіпаверхавых ладных дамоў полацкіх багацеяў Вялікага пасаду.**

**На поўначы гораду пад зімовым, але ўжо досыць высокім і зыркім у сакавіку сонцам зіхацела вясёлым золатам свайго купалу Спаса-Ефрасінеўская царква.**

**Мінуўшы ўзгорыстыя палі і перасекшы Задзьвінскую дарогу, кіруючыся на Гандлёвую плошчу, возьнікі ўпіраліся ў Бельчыцкія ўзгоркі. На іх нельга было ня ўбачыць чатыры высачэзныя крыжы над званіцамі Барысаглебскага манастыра, якія асянялі разьлеглыя там вялікакняжыя замкі. Праўда, возьнікам цяпер было не да тых дойлідскіх пэрлаў. Ім трэба было трапіць як найхутчэй да пакупнікоў места.**

**Гандаль у Полацку пачынаўся ад самага сьвітаньня. Запозьненыя падводчыкі адно з зайздрасьцю паглядалі на пакупнікоў, якія ўжо ўправіліся валачы адтуль поўныя кошыкі. Купчыкі, якія ўжо выгадна прадалі свой тавар, цяпер цягнуліся да пітных дамоў. Каля каторых шынкоў чулася гамана людзей. Адтуль выходзілі ў кажухох рупныя дзяцюкі, якія выглядалі ўжо зраньня падвесялелымі, зь вясёлымі словамі на вуснах.**

**Тымчасам з Запалацьця і Вялікага пасаду новыя людзі ішлі і ехалі на конях усё ў тым-жа кірунку да Гандлёвага пляцу. Чалавекі і жанкі, хлапцы і дзяўчаты, рухавыя дзеці ішлі на рынак, каб удзельнічаць ва ўсеагульным гандлю. Новы чалавек у Полацку мог вынесьці ўражаньне, што ўвесь Полацак бяз вынятку заняты ў той вымене.**

**А дзясятай гадзіне раніцы на Прабойнай вуліцы каля крутога берагу ручая зьявіліся ваяводскія стражнікі і пачалі зганяць адтуль тыя падводы, якія заместа таго, каб зьехаць на Гандлёвую плошчу, запыніліся тут на прыбярэжжы і пачалі прадаваць на недазволеным месцы. Тымчасам на плошчы пачалі зьбіраць мыта, пяць пенязяў з падводы бралі мытнікі ваяводы. Зборка ішла гладка, тым болей, што тут-жа для астуджваньня жарсьцяў побач знаходзіліся і стражнікі з баёвымі сякерамі на доўгіх паліцах. Сяньня той збор прынясе ў ваяводскую казну ладны куш -- багата копаў грошаў. Аднак радаснае ўзбуджаньне панавала сярод людзей на Гандлёвай плошчы і вакол яе. Цэлае мора зычных галасоў будзіла гучнае рэха і несла яго далёка на вуліцы полацкага Вялікага пасаду.**

**2**

**Дом купца футраў і скураных вырабаў Лукаша Скарыны высіўся ў Вялікім пасадзе на Вялікай вуліцы на ўзьбярэжжы Дзьвіны. Адтуль добра быў бачны стары манастыр Багародзіцы, а за ім за Чорным ручаём на высокай далячыні ўздымаўся славуты Сафійскі сабор. Для тых, хто шукаў Скарыніну хату, бліскучы ў нябёсах Багародзіцкі крыж заўсёды быў добрым паказальнікам напрамку. Па той бок Дзьвіны ў паўднёвым кірунку красаваўся сваімі званіцамі манастыр Яна Папярэдніка. Кожны малы і стары мог паказаць знаны Скарынаў дом у тры паверхі з вычварнымі выкрунтасамі на ліштвах. Фігура выразанага з моцнага дубу шарсьцістага бабра на падстрэшшы ўпрыгожвала той будынак. Па ім прыезджыя купцы лёгка знаходзілі патрэбны ім дом.**

**У пакоях кожны навапрыбылы бачыў разьвешаныя на сьценах сабаліныя і гарнастайныя скуркі. Яны-ж засьцілалі крэслы і тапчаны. Чучала прыгатаванай да скоку на сваю ахвяру куніцы шчэрыла пашчу ў дальшым кутку прасторнай гасьцёўні. Высокія сьцены з усіх бакоў былі ўпрыгожаныя малярскімі палотнамі. На адным зь іх мастак перадаваў у колерах сцэну князёўнага паляваньня -- конных паляўнічых з князёўскай**

**сьвіты ў калярова-парэстых гарнітурах і карункавых каўнярох, а ўперадзе іх -- чараду ганчакоў з ашчэранымі ад узбуджаньня зяпамі. А перад імі -- уцёкі ашалелага ад пагоні, спалоханага лася. На іншых абразах былі намаляваныя родзічы і заснавальнікі слаўнага дому Скарынаў. Вісела колькі іншых абразоў на біблейскія тэмы. Паміж імі вылучалася сваімі памерамі шматфарбная карціна, на якой было намалявана Ўваскрашэньне Хрыстова.**

**Тут, у гэтай упрыгожанай абразамі гасьцёўні, адбываліся многія пагадненьні купцоў з усяго сьвету са старшынёй Полацкае купецкае гільдыі Лукашом Скарынай. Апошні ведаў сабе цану. Вялікая ягоная крама была недалёка адгэтуль, побач Гандлёвага пляцу. Калі ён часам ішоў пехатою да свае крамы каля яткаў, паглядаючы на дробныя крамкі, ён з гонарам думаў, што яны -- драбяза, не раўня яму, купцу шырака знанаму ў сьвеце, часта нават згадванаму ў наказах князёў і каралёў. Кожны сустрэчны нізка кланяўся яму ў пояс, аддаючы належнае славутаму палачаніну.**

**Сяньня Лукаш Скарына не пайшоў у сваю краму. У той дзень, 6 сакавіка, ён меў вялікую турботу -- жонка чакала дзіця. Старэйшаму сыну было ўжо восем гадоў. Але Іванка яшчэ не памочнік. Хлапчанё. З дачкі невялікая дапамога. А тымчасам гандлёвы абыходак расьце. Вось-жа некалі свае хлопцы яшчэ як спатрэбяцца, каб было на каго палажыцца бяз ніякае рызыкі і круцельства.**

**Лукаш цешыўся сваім сынам Іванкам, пелегаваў, як зрэнку вока, надзею, што расьце будучы спадкаемца, каб пасьпяхова весьці далей слаўны і багаты дом Скарынаў.**

**Акрамя ўсяго, Лукаш праз усё жыцьцё адзначаўся дзеталюбствам. Любіў гладзіць малых па галоўцы, калі сустракаў іх у часе сваіх шпацыраў або па дарозе ў краму. Наглядаючы за тым ці іншым хлопчыкам, ён заўсёды параўноўваў яго ў думках са сваім малым Іванкам. Яму заўсёды ягоны малы здаваўся лепшым за іншых, больш кемлівым дый спрытнейшым. Цяпер прыгадваў, зь якім спрытам Іванка ў імгненьне вока мог апынуцца на самым версе даху, каб парадкаваць сваю галубятню.**

**Лукаш пры гэтым не забываўся, што той немец, які вучыць ўжо Іванку лічэньню і дае яму ўрокі лацінскае мовы, надта-ж ужо хваліць ягонага малога за посьпехі ў латыні ды і ў нямецкай мове. «Даймаю я свайго малога рознымі даручэньнямі, -- думаў цяпер Лукаш. -- То зьбегай туды, аднясі рахунак аднаму купцу-пакупніку, то паведамі другога, каб пасьпяшаўся з даўгамі, каб ня было патрэбы скардзіцца ваяводскім людзям аб няспраўнасьці. Ёсьць-жа людзі для гэтага іншыя. Трэба будзе абмежаваць сынковую дапамогу. Няхай лепш вучыцца больш ды і гуляе ўволю. Лепш будзе гадавацца на нашую радасьць. Расьце хай на волі -- некалі ў жыцьці мінецца яна».**

**Тут ён прыгадаў сваю Магдалену. «З часіны на часіну яна чакае дзіцяці. Паводле ўсіх адзнакаў, роды мусяць стацца сяньня. Павітуха ўжо не адыходзіць ад яе ні на хвілінку. Адылі трэба і яму быць блізка. Кажнай хвіліны можа яно здарыцца. Яму трэба быць тут, каб распарадзіцца».**

**З гэтымі думкамі ён падаўся ісьці на другі паверх па шырокіх, бліскучых ад воску, драўляных усходках. Крыху задыхаўшыся ад таропкае хады, ён з хваляваньнем адчыняў дзьверы ў спальны пакой, дзе на шырокім ложку, затонутая ў пуховай пярыне, пад ватнаю коўдраю ляжала ягоная Магда. Ейны зблялнелы твар выразна акаймляўся шатэністымі валасамі, што беспарадкавымі пасмамі рассыпаліся вакол галавы на падушцы. Збалелыя рысы твару выказвалі, што парадзіха ўжо цярпела ад болю. Павітуха трымала яе за руку і нешта прыгаворвала.**

**-- Ну як, Магдачка, ці не прыйшоў ужо час? -- запытаўся Лукаш, дарма, што яно відаць было і без запытаньня. Лукаш глядзеў у вочы Магдзе, нібыта чакаючы ейнага слова. Але парадзіха павяла вачыма на свой жывот і ледзь чутна прамовіла:**

**-- Ужо пачынаецца... нешта надта забалела ўнізе. Балець стала і ў грудзёх... Можа лепш лекара прывезьці. Тога немца, што некалі Іванку прымаў...**

**Яна хацела яшчэ нешта дадаць, але ад болю не магла прамовіць, і адно скрыўлены твар прамаўляў сам за сябе, што пачыналіся мучэньні.**

**-- Я зараз-жа загадаю паклікаць тога лекара, ён тут недалёка жыве... -- прамовіў Лукаш і пабег стрымгалоў з пакою ўніз.**

**-- Іваська, Івась! -- гукнуў ён свайго хлопца на двары, дзе той гуляў зь іншымі дзецьмі, коўзаючыся на санках па абледзянелым дварышчы. -- Бяжы хутчэй, Івась, на Нямецкую вуліцу да лекара, Курта Бэйкмана. Ты-ж ведаеш, дзе ён жыве, быў у яго колькі разоў. Кажы яму, каб зараз-жа на кані ехаў да нас. Скажы, што парадзіха чакае на яго дапамогу.**

**-- Добра, татка, -- адказаў танклявым галаском хлопчык і зараз-жа пабег рухавымі крокамі ў бок Прабойнай вуліцы, каб адтуль дастацца да Нямецкай. Не прайшло і паловы гадзіны, як стары лекар Курт ужо злазіў са сваёй каламажкі дый ішоў са двара ў Скарыніну гасподу.**

**3**

**Тымчасам сонца, якое ўжо стаяла досыць высока, пачало з усходняга боку засланяцца нейкаю цёмнаю плямаю. Тая паступова расла і гусьцела, рабілася менш пранікальнай для сьвятла, кожным сваім пасоўваньнем на сонечную кулю ўсё больш і больш зьмяншаючы ейную сьвятлейшую часьціну. На вуліцах Полацку рабілася ўсё цямней і цямней. Ужо, як у тумане, пачалі хавацца ад зроку людзей абедзьве брамы Дзядзінца: паўночна-заходняя -- Духаўская, што выводзіла на Себежскую**

**дарогу, і Астрожская, што злучала з Астрогам дарогаю каля знанае Чырвонае вежы.**

**Народ з апаскай углядаўся ў тое дзіва на небе і пачаў хавацца, дзе мог. Было ўжо не да гандлю. Полацкія мяшчане беглі дахаты, каб прыхавацца пад дахам. Прыезджым ня было куды бегчы ад сваіх коней, і яны адно палахліва пазіралі на неба і пакрыты змрокам горад. Аднекуль выпаўзалі шаптуны, якія прарочылі канец сьвету. А старая блазнаватая Анішчыха запынілася каля ятак і пачала апавядаць пра тое, як яна бачыла ўва сьне нікому тут не вядомага «сьвятога» Ахрыма, які раіў усім пакідаць Полацак перад нячуваным няшчасьцем. Горад нібыта апануюць нячыстыя сілы і будуць вышукваць усіх праведнікаў, каб спаліць іх у смале на вогнішчы на вачох блуднікаў. Гаварыла Анішчыха, што ўжо недзе бачыла тыя вялікія катлы ды нават нарыхтаваныя для гэтае мэты смалу і карчы для падпальваньня. Спачатку яе слухалі з увагай. А потым нейкі малады дзяцюк без пашаны вымавіў да старой:**

**-- Дык чаму-ж ты не ўцякаеш, падсмаліўшы пяткі, замест таго, каб нам тут чмурыць галовы?**

**І ён, наблізіўшыся да яе, над самай галавой старой моцна засьвісьцеў, нібыта падуў у самаробную дудку. Хто-ніхто зарагатаў усьлед. Старая Анішчыха адно бліснула на яго злоснымі вачыма і адразу-ж зьнікла... Яткі пачалі пусьцець, і адно адзінотныя пешаходы яшчэ дзе-нідзе кандыбалі сваёю дарогаю дадому.**

**Па часе вежа Спаса-Ефрасіньнеўскае царквы пачала таксама зьнікаць за даляглядам на поўначы гораду. У далёкай шэрасьці толькі залацісты высокі крыж цяпер ледзь прыкметнаю зданьню яшчэ заўважаўся на пачарнелым небе. Цемень адбірала усе адрознасьці на званіцах Сафіі, затуляла іх узорыстыя падкрыжжы. Ужо ня бачылася знаная мігатлівасьць Сафійскіх сьценаў. Адно сем вярхоў саборавых па-ранейшаму ахіналі горад унізе сьвятой раскошай і надавалі яму натхнёны высокай мудрасьцю выгляд. Паднятыя высака ўгару крыжы ледзь прыкметнымі прывідамі па-ранейшаму арыентавалі палачаніна і паказвалі кірунак ягонаму руху ў густым мораку.**

**Зацьменьне сонца над Полацкам тога шостага сакавіка захапіла палачан неспадзеўкі і напоўніла іхнія душы турботным неспакоем. Усе хутка пахаваліся па хатах, а каторых яно засьпела наводшыбе, гнала безаглядна ў кірунку хаты. Вуліцы неўзабаве апусьцелі і пачалі здавацца фантастычным марывам. Вялізарнымі прывідамі сярод маленькіх дамкоў вылучаліся шэрыя абрысы большых камяніцаў. Людзі жагналіся, гледзячы на Сафійскія крыжы, перад тым, як увайсьці ў хату. Прайшло некалькі часу, пакуль зьнікла першае ўтрапеньне. А потым людзі, як краты, пачалі вылазіць са сваіх сховішчаў. Першымі пачалі выбягаць жэўжыкі-падлеткі з задымленымі шкельцамі, каб назіраць, як сонца будзе вызваляцца паступова з паланеньня. Хлапецкая дапытлівасьць відавочна брала верх над першым прыступам баязьлівасьці. Калі на пачатку**

**зацьменьня хлапчукі беглі з рэчышча Палаты стрымгалоў дахаты, дык праз некаторы час яны зноў пачалі зьбірацца на ачышчаным лёдзе тае ракі. Але на гэты раз ня гэтак дзеля коўзаньня на ёй, а каб гуртам, дзеля весялосьці, наглядаць за тым полацкім дзівам, якое гэтак зьбянтэжыла на пачатку усіх палачанаў і перавярнула на той дзень звыклы ход жыцьця. Дзіцячы гоман зноў перапаўняў лядовыя прасторы Палаты і поўніў рэхам бліжэйшыя да ракі вуліцы і плошчы. Малады запал перадаваўся старэйшым. Хутка сталі бачныя і дарослыя з задымленымі шкельцамі ў руках перад вачыма з узьнятай да неба галавой. Яны рабілі спробы нешта бачыць на сонцы, якое нешта надта доўга не магло вызваліцца ад навалы на яго цёмнае сілы.**

**4**

**У доме Лукаша Скарыны тымчасам адбываліся іншыя падзеі. Нікога там зацьменьне ня спужала і выклікала адно нейкае нявыразнае зьдзіўленьне. Калі ў хаце сьцямнела, пакаёўка запаліла сьвечкі і паставіла іх у гасьцёўні ды ў пакоі, дзе ляжала парадзіха. Лекар распрануўся і на запросіны Лукаша хуценька пайшоў у пакой да парадзіхі. Адтуль ужо чуліся галосныя енкі. Курт агледзеў Магдалену, паслухаў ейны пульс, абмацаў жывот і загадаў прынесьці цёплай вады і ручнікі.**

**Ад бязупыннага руху людзей каля ложка хісталася полымя сьвечкі, і на твар парадзіхі клаліся сьцені і пасьпешліва, мітусьліва перабягалі зь ейнага твару на грудзі й коўдру. Курт ссунуў убок зь ейных ног коўдру, вызваліў іх з-пад лішняе ношкі. Цела парадзіхі адразу адчула палёгку, і стала лягчэй дыхаць. А Лукашу Курт Бэйкман загадаў выйсьці з пакою парадзіхі.**

**Лукаш з трапяткім сэрцам стаяў за дзьвярыма ў другім пакоі і ўслухоўваўся ў кожны шорхат. Ён пераступаў з нагі на нагу, шаптаў пацеры, вусны ягоныя ціхама вымаўлялі словы звароту да Бога. Час здаваўся яму вечнасьцю.**

**Калі ўжо пасьвятлела ў доме і сталася бачная ікона Божай Маці зь дзіцянём-Ісусам каля грудзей, ён раптам пачуў за дзьвярыма выразны і прарэзьлівы крык дзіцяці. Во, як закалацілася ягонае сэрца! Ён адразу памкнуўся быў ісьці ў той пакой і зрабіў нерашучы крок у той бок, але раптам спыніўся і пачаў чакаць адтуль навіны. Тыя лічаныя хвілінкі здаваліся яму гадзінамі...**

**Аж раптам адчыніліся запаветныя дзьверы, адтуль выйшла пакаёўка радасным голасам абвесьціла:**

**-- Сын, ладны хлопец, віншую! -- прамовіла яна і запрашальна паказала, што Лукаш можа ўвайсьці. «Дзякуй Богу, відаць, дайшлі мае словы да Яго», -- удзячна прамовіў ён шэптам і, калоцячыся ад хваляваньня, увайшоў у жончын пакой. Магдалена ляжала супакоеная, адкінуўшы голаў. Рассыпаныя па падушцы валасы падкрэсьлівалі**

змучанасьць ейнага зьбялелага твару. Але бачна было, што яе апанаваў ўжо нейкі новы клопат. Задаволеная нараджэньнем моцнага і ўвесістага хлапца, яна цяпер турбавалася іншым. Яна ўсё не магла ў сваіх думках пагадзіць нарадзіны з гэтым зацьменьнем. Лукаш узяўся лагодна за ейную руку і моцна прыціснуў яе да сваіх вуснаў.

-- Дзякую табе, Магдачка, за сынка і за ўсё, што вынесла за яго, -- ціхама гаварыў Лукаш, нахіліўшыся над жонкай, узрушаны бачаным каля Магдаленавых грудзей ружовенькім смактуном, які прытуліўся да поўнае цыцкі чырвоненькім роцікам.

-- Гэта-ж такая цемень была найшла сярод белага дня, калі я раджала! Што гэта магло значыць, ці не на бяду якую? -- запыталася Лукаша ледзь чутным слабым голасам Магда. Курт Бэйкман пачуў і пасьпяшаўся супакоіць парадзіху.

-- Гэта звычайная прыродная зьява, добра ведамая астраномам. Раз у якое дзесяцігодзьдзе сонца засланяецца месяцам. Але зацьменьне звычайна прыносіць зямлі, над якой яно бачыцца, добрыя ўраджаі. Значыць, гэты год будзе ўрадлівым, зьявяцца новыя людзі, багата народзіцца скаціны і зьвяр'я, кожнае зерне дасьць багаты плён. А ў вас у хаце ўжо ёсьць добры плён -- такога сына вам Бог паслаў. Асяні, Ойча, гэтую слаўную хату вечнай любоўю, ласкай Божай!

-- А тое, што ваш сынок зьявіўся на сьвет якраз у момант, калі пачало сьвятлець і зьнікла цямнота, дык гэта таму, -- дадаў аўтарытэтна Курт -- што яму наканавана вялікае прызначэньне быць сьветачам свайму народу: будзе множыць веду і добра паслужыць людзям паспалітым сваім навучаньнем.

Слова адукаванага чалавека было важкім для Скарынаў. Магдалена супакоена з удзячнасьцю зірнула на лекара. А Лукаш паціснуў ягоную старэчую руку. Раптам усе заўважылі, што ў пакоі зрабілася ўжо зусім сьветла. Пакаёўка кінулася гасіць сьвечкі.

Калі выйшлі на панадворак выпраўляць Курта Бэйкмана, іх зрокі прыпалі да неба на паўдні. Сонца зноў радасна сьвяціла над зямлёй і адбівалася бліскучымі іскрамі на паддахавых лядзяшках. Адылі левая частка сонца была накрытая маладзіковым сярпом, які засланяў сабою прамяністую зыркасьць. Непранікальная шэрасьць тога сярпа на сонцы засталася ў памяці Лукаша. Ён даў сабе зарок расказаць, калі падрасьце сынок, якім выглядала сонца ў дзень ягоных нарадзінаў.

Ад таго дня ўсё жыцьцё і дзейнасьць нованароджанага пайшлі пад знакам месяца на сонцы. Ён надасьць ім чалавечыя твары і будзе ўжываць іх як друкарскі гуманістычны герб. Такім вызначальным стаўся сымбаль ягонага нараджэньня.

Люты 1982

## БІБЛІЯГРАФІЯ ТВОРАЎ УЛАДЗІМЕРА СЯДУРЫ -- ГЛЫБІННАГА[1]

### СКАРАЧЭНЬНІ

| | |
|---|---|
| «Вестник Института по изучению СССР». Мюнхен. | Вестник |
| «Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва». Нью-Ёрк. | Запісы |
| «Новое Русское Слово». Ежедневная газета на русском языке. Нью-Йорк. | «НРС» |

### ПОДПІСЫ. ПСЭЎДАНІМЫ

**Уладзімер Глыбінны**
**Вяч. Дняпроўскі**
**Макар Караткевіч**
**Уладзімер Сядура**
**Д-р Банадысь Чарнецкі**
**В. Шабуневіч**

---

[1] Бібліяграфія падаецца паводле аўтарскіх сьпісаў.

**А всё-таки встреча Достоевского с Гоголем была. Н**адрукавана: «Новый Журнал», !117, декабрь 1974, б. 84-100.

**Ад Вільні да Кракава.** Да дыскусіі пра беларускае малярства ў старой Польшчы. Надрукавана: Запісы, !2(6), 1954, б. 104-111.

**Американские гастроли МХАТ'а.** Надрукавана: «Современник», !12, декабрь 1965, б. 82-93.

**Бацька навейшае беларускае літаратуры** (Да 70-х угодкаў нарадзінаў і дзявятае гадавіны трагічнае сьмерці Францішка Аляхновіча). Надрукавана: «Беларус», !5(29), 7 сакавіка 1953; «Сьвет», !5(24), 1961, б. 2-6.

**Беларуская культура.** Надрукавана: «Сьвет», !6(25), 1961, б. 2-8.

**Беларуская культура і таталітарызм.** Надрукавана: «Беларуская Думка», !3, сьнежань 1961, б. 5-6, 12-13, 20-26.

**Беларуская мова ў гісторыі Беларусі.** Надрукавана: «Пагоня», !3, 1946.

**Беларускае палесьсе.** Надрукавана: «Палесьсе», !1, студзень 1955, б. 9-12. Подпіс Макар Караткевіч.

**Беларускі арнамэнт.** Надрукавана: «Беларуская народная культура» (Зборнік нарысаў). Ватэнштэт, 1946, б. 8-11.

**Беларускія народныя танцы.** Надрукавана: «Беларуская народная культура» (Зборнік нарысаў). Ватэнштэт, 1946, б. 18-25.

**Белорусская культура и тоталитаризм.** Надрукавана: «Материалы Конференции Института по изучению истории и культуры СССР (Нью-Йорк, 20-22 марта 1953)». Мюнхен, 1953, б. 103-113.

**Білоруська культура під тоталітаризмом.** Надрукавана: «Украінска літературна газета», !4(10), квітень 1956, б. 4; !5(11), травень 1956, б. 7.

**Варты вянок** (З выдавецка-друкарскай дзейнасьці М. Прускага). Надрукавана: «Беларус», !299, 1982.

**Верасень.** Надрукавана: «Конадні», !5-6, 1958, б. 93-108.

**В мире сердечной красоты и душевного лада** (О книге Е. Климова «Русские жен]ины по изображению русских художников). Надрукавана: «НРС», 4 февраля 1968; «Русская Мысль», 29 февраля 1968.

**Волат беларускага мастацкага слова (Янка Купала).** Надрукавана: «Шыпшына», !3, 1946, б. 30-36.

**Вытокі беларускага мастацтва. Беларускае выяўленчае мастацтва у XIX і XX стагодзьдзях.** Надрукавана: «Конадні», !5-6, 1958, б. 146-152.

**Вытокі беларускага мастацтва. Беларускае малярства.** Надрукавана: Запісы, !2, 1953, б. 80-93.

**Вытокі беларускага мастацтва. Беларуская архітэктура.** Надрукавана: Запісы, !2, 1952, б. 77-87.

**Вытокі беларускага мастацтва. Да праблемы рэнэсансу й барока ў Беларусі. Разьбярства. Графіка і іншыя галіны мастацтва.** Надрукавана: Запісы, !1(5), 1954, б. 25-40.

**Вялікія дарогі** (Раман). Надрукавана: «Веда», !4, 1952;
!5, 1952; !6, 1952; !7, 1952; !9-10, 1952; !11-12 1952.

**Глыбіня жыцьцёвага дазнаньня** (Інтэрвію). Надрукавана: «Час», !24, сакавік 1980; !25-26, травень-ліпень 1980.

**Горка і моташна...** (Урывак з аповесьці «Да родных берагоў»). Надрукавана: «Баявая Ўскалось», !10, 1970, б. 31-32.

**Горчаков Н. А. История советского театра.** (Рэцэнзія на выданьне: Нью-Йорк, **1956, 416 с.).** Надрукавана: Вестник, !1 (29), 1959, б. 126-129.

**Да гісторыі першае беларускае опэры.** Надрукавана: «Прыйсьце», !1, 1958, б. 39-47.

**Да родных берагоў.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !16(500), 17 красавіка 1960; !18(502), 1 травеня 1960; !19(503), 8 травеня 1960; !20(504), 15 травеня 1960.

**Дваццаць чатыры гадзіны Боба Браўнэла.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !20(504), 15 травеня 1960; !21(505), 22 травеня 1960; !22(506), 5 чэрвеня 1960.

**Добры дзень, акіян!** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !8(492), 21 лютага 1960; !9(493), 28 лютага 1960.

**Доля беларускае культуры пад Саветамі.** Мюнхэн: Выданьне Інстытуту для вывучэньня СССР. Досьледы й матэрыялы. Сэрыя II, ! 68, 1958, 161 б.

**Достоевский в послереволюционной эмигрантской критике.** Надрукавана: «Современник», !16, декабрь 1967, б. 124-132; !17-18, декабрь 1968, б. 78-92; !19, июнь 1969, б. 32-41; !20-21, июль 1970, б. 113-121.

**Достоевский и трагедия революции в советском осве]enии.** Надрукавана: Вестник, !4(25), 1957, б. 83-97.

**Достоевский как создатель полифонического романа.** Надрукавана: «Новый Журнал», кн. 52, 1958, б. 71-93.

**Достоевский на американской сцене.** Надрукавана: «НРС», 28 февраля 1958; «Русская Мысль», 25 февраля 1958.

**Достоевсковедение в годы войны.** Надрукавана: Вестник, !2(30), 1959, б. 46-62.

**Достоевсковедение в СССР.** Мюнхен: Институт по изучению истории и культуры СССР, 1955, 90 б.

**Другая гадавіна Варкуцкае забастоўкі** (Прамова Уладзімера Глыбіннага ў Нью-Ёрку). Надрукавана: «Бацькаўшчына», !30-31 (260-261), 31 ліпеня 1955.

**Е]ё о Достоевском и Некрасове.** Надрукавана: «НРС», 17 июня 1973.

**Е]ё о «Краткой Литературной Энциклопедии»** (Дополнение к мартирологу репрессированных писателей Белоруссии). Надрукавана: «Русская Мысль», 30 октября 1965.

**Жанчыны ў паэзіі Максіма Багдановіча.** Надрукавана: «Сакавік», !2(3), 1948, б. 30-31.

**Залаты век.** Надрукавана: «Пагоня», !4, 1946.

**«Запісы Беларускага Інстытута Навукі й Мастацтва»** (Рэзэнзія на ! 1, 1952). Надрукавана: «Новый Журнал», кн. 31, 1952, б. 330-332. Подпіс Вяч. Дняпроўскі.

**Издание произведений Достоевского в СССР.** Надрукавана: «Современник», !11, май 1965, б. 82-92.

**Імя Янкі Купалы. Тэатральная доля драматургіі Янкі Купалы** (Рэфэрат, прачытаны ў Крывіцкім Навуковым Таварыстве 7 студзеня 1953 г.). Надрукавана: «Беларускі Эміґрант», !7(55), 1953; 8(56), 1953.

**Истоки Белорусского Искусства. Архитектура и живопись.** Надрукавана: «Новый Журнал», кн. 36, 1954, б. 177-188.

**Калі вазёры сьвецяцца ружовым водбліскам...** Надрукавана: «Беларускі Сьвет», !1, 1963, б.1-12.

**Камсамол у беларускай паэзіі.** Надрукавана: «Маладняк», кн. 1, 1932, б. 142-156.

**Лев Толстой на Бродвее** («Холстомер» в театре Елены Гейс). Надрукавана: «Русская Мысль», 21 февраля 1980.

**Лженаучная история театра.** Надрукавана: «НРС», 12 марта 1959; «Русская Мысль», 1 марта 1960.

**Лірычнае адтварэньне перажытага** (Паэзія Масея Сяднёва). Надрукавана: «Раніца», 1944; «Шыпшына», !1, 1944, б. 32-41.

**Лынькоў. Андрэй Лятун** (Рэцэнзія). Надрукавана: «Маладняк», кн. 4, красавік 1930.

**Лявонавы жарты.** Надрукавана: «Беларускі Сьвет», !2, 1963, б. 1-6.

**Максімава сяброўка** (Урывак з аповесьці пра Максіма Багдановіча «Пад лебядзіным знакам» -- з разьдзелу «За плыньню Ўшы, за хвалістымі ўзгоркамі»). Надрукавана: «Беларус», !294-295, 1981; !296, 1982.

**Мастак народнага жыцьця** (Да 60-годзьдзя Пётры Сяргіевіча). Надрукавана: «Конадні», !7,1963, б. 96-108.

**Международное об]ество достоевсковедов.** Надрукавана: «НРС», 6 декабря 1970; «Русская Мысль», 4 февраля 1971.

**Михаил Михайлович Бахтин (1895-1975).** Надрукавана: «Бюллетень Международной Ассоциаии Достоевсковедов», !6, ноябрь 1978, б. 33-34.

**Мурашка Р. Прыгранічны манастыр** (Рэзэнзія). Надрукавана: «Маладняк», !8-9, жнівень-верасень 1930, б. 142-144.

**На Берагох пад Сонцам.** Апавяданьні і аповесьці. Нью-Ёрк -- Трой: Беларуска-Амэрыканскі Літаратурна-Навуковы Цэнтр, 1964, 191 б.

**Над Вяльлей.** Надрукавана: «Родны край» (Зборнік). Кн. 1. Ватэнштэт: Выданьне Беларускага Дапамаговага Камітэту, 1946. Подпіс В. Шабуневіч.

**Найноўшыя праявы змаганьня за самабытнасьць беларускай культуры.** Надрукавана: «Беларускі зборнік». Мюнхэн: Інстытут для вывучэньня СССР, 1959, кн. 11, б. 55-68.

**На Сьвятой Зямлі** (Нарысы з падарожжа ў Палестыну). Лёндан: Выдавецтва «Божым Шляхам», 1972, 118 б.; «Божым Шляхам», !5 (116), 1969; !6 (117), 1969; !1 (118), 1970; !2 (119), 1970; !3 (120), 1970; !4 (121), 1970; !5 (122), 1970; !6 (123), 1970; !1 (124), 1971; !2 (125), 1971; !3 (126), 1971.

**Наш Генэрал (К. Езавітаў).** Надрукавана: «Раніца», !47, 15 лістапада 1944; !48, 22 лістапада 1944.

**На шляху да паэтычнага мастацтва** (Зборнікі вершаў М. Кавыля «Ростань» і «Пад Зорамі Белымі»). Надрукавана: «Беларуская Думака», !7, 1965, б. 25-29.

**Не в уровень и с любовью, а в свете морального суда** (Сталин в изображении А. Солженицына). Надрукавана: «Русская Мысль», 6 апреля 1978.

**Недовопло]енный «Игрок».** Спектакль на русско-американской сцене. Надрукавана: «Русская Мысль», 29 марта 1958.

**Не «некий», а талантливый поэт-невольник** (О Ярославе Смелякове). Надрукавана: «НРС», 2 апреля 1972.

**Нечаканыя госьці** (Разьдзел 3 рамана «Вялікія дарогі»). Надрукавана: «Бацькаўшчына», !3(233), 16 студзеня 1955; !4-5(234-235), 31 студзеня 1955; !6(236), 6 лютага 1955.

**Новое собрание сочинений Ф. М. Достоевского.** Надрукавана: «Русская Мысль», 29 января 1959; 31 января 1959.

**Нравственный императив и герои Михаила Булгакова** (Роман Михаила Булгакова «Мастер и Маргарита»). Надрукавана: «Современник», !25, ноябрь 1973, б. 26-46.

**Ня ведаючы броду, ня сунься ў воду!** (Адказ інж. С. Зеркалю на ягоны паклёп на беларусаў). Надрукавана: «Беларускі Голас», !127, травень 1965. Подпіс Д-р Банадысь Чарнэцкі.

**Ня згаснуць іскры Скарыны.** Надрукавана: «Шыпшына», !2, 1946, б. 40-44.

**Ня стратай... а росквітам.** Адкрыты крытычны ліст паэту Юлію Таўбіну. Надрукавана: «Маладняк», кн. 4, 1932, б. 90-101.

**Об академическом собрании сочинений Достоевского.** Надрукавана: «НРС», 8 ноября 1970.

**Обломки автопортрета Ф. Достоевского.** Надрукавана: «НРС», 9 июля 1961; «Русская Мысль», 9 ноября 1961.

**Обра]ение к участникам Второго с<езда советских писателей по радио «Освобождение».** Напечатано: «Свободный голос на с,езде советских писателей», Нью-Йорк, 1955, б. 16-17; «Русская Мысль», 21 января 1955.

**О «голом короле» советской литературы.** Надрукавана: «НРС», 6 февраля 1955.

**О достоевсковедении и достоевсковедах.** Надрукавана: «НРС», 26 декабря 1971; «Русская Мысль», 13 января 1971; 20 января 1971.

**О Достоевском и его критиках.** Надрукавана: «НРС», 19 января 1958.

**О Петербурге Осипа Мандельштама.** Надрукавана: «НРС», 20 января 1974.

**О Пушкине, проф. Штильмане и Шкловском.** Надрукавана: «Русская Мысль», 25 апреля 1959.

**О статьях Марка Слонима «Достоевский в Советской России» и В. Ермилова «Ф. М. Достоевсий».** Надрукавана: Вестник, !2, 1956, б. 130-135.

**Ответы на анкету о Достоевском.** Надрукавана: «Русский Голос в Риме», вып. 13, !2, март-апрель 1981, б. 6-8.

**Пад Лебядзіным Знакам**. Аповесьць пра Максіма Багдановіча. Трой -- Нью-Ёрк: Беларуска-Амэрыканскі Навукова-Літаратурны Клюб, 1983, 95 б.; «Беларускі Сьвет», !9(38), 1981; !10(39), 1981; !11(40), 1982; !12(82), 1982.

**Паэта высокай культуры.** Уладзімер Жылка. Надрукавана**:** «Беларус», 1953.

**Паэта з Божай Ласкі.** Успаміны й роздум пра Язэпа Пушчу (1902-1964). Нью-Ёрк, 1979, 132 б.; «Беларуская Думка», !16-17, 1973-1974, б. 34-44; !18-19, 1974-1975, б. 24-31; !20, 1976, б. 15; !21-22, 1977-1978, б. 19-27.

**Первые послевоенные книги о Достоевском.** Надрукавана: Вестник, !2(30), 1959, б. 46-62.

**Переписка великого романиста.** К выходу IV тома «Писем» Ф. М. Достоевского. Надрукавана: «Русская Мысль», 10 марта 1960; 15 марта 1960; 17 марта 1960.

**Пётра Абуховіч, Рывэр-сайдскі мрыйнік.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !12-13(4496-497), 25 сакавіка 1960.

**Пётра Мірановіч.** Запісы, !1(3), 1953, б. 44-51.

**Пётра Мірановіч -- мастак беларускае вёскі.** Надрукавана: «Раніца», !47, 15 лістапада 1944; !48, 22 лістапада 1944.

**Победа человечности** («Белый бакен» и «Невесомость» Евгения Маркина). Надрукавана: «НРС», 5 марта 1972.

**Под знаком легенды о «жестоком таланте».** Н. К. Михайловский как критик Ф. М. Достоевского. Надрукавана: «Русская Мысль», 19 апреля 1958; 22 апреля 1958; 24 апреля 1958.

**Полоцкае дзіва** (Апавяданьне). Надрукавана: «Час», !38-39, ліпень-верасень 1982.

**Полымя ! 1** (Рэцэнзія). Надрукавана: «Маладняк», кн. 3, сакавік 1930, б. 140-142.

**Полымя ! 2** (Рэцэнзія). Надрукавана: «Маладняк», кн. 4, красавік 1930, б. 129-130.

**Полымя, ! 7** (Рэцэнзія). Надрукавана: «Маладняк», кн. 11, лістапад 1930, б. 139-140.

**По поводу издания в СССР эпистолярного наследия Достоевского.** Надрукавана: «Современник», !8, декабрь 1963, б. 71-87.

**Под прессом психологической травмы.** Надрукавана: «Русская Мысль», 11 апреля 1963.

**Поэт Білорусії (Янка Купала).** Надрукавана: «Українські вісти», 18 ліпеня 1946.

**Пра «Вяршыні жаданьняў» Вал. Маракова** (Рэцэнзія). Надрукавана: «Маладняк», кн. 1, студзень 1931, б. 118-122.

**Пралёг: Жыць...** (з рамана «Вялікія дарогі»). Надрукавана: «Бацькаўшчына», 1-2(231-232), 7 студзеня 1955.

**Пра маладую рэвалюцыйную паэзію** (пра творчасьць З. Астапенкі і М. Багуна). Надрукавана: «Маладняк», кн. 12, сьнежань 1930, б. 152-156.

**Пясьняр, змагар, чалавек** (Ул. Жылка). Надрукавана: «Беларус», !11 (35), 1 чэрвеня 1953.

**Раскрытая страница истории** (О книге Александра Далина «Немецкое управление в России, 1941-1945»). Надрукавана: «Русская Мысль», 26 февраля 1959.

**Р. Мурашка «Прыгранічны манастыр»** (Рэцэнзія). Надрукавана: «Маладняк», кн. 8-9, жнівень-верасень 1930, б. 142-144.

**Санэт, варты паэмы** (Урывак з аповесьці пра Максіма Багдановіча «Пад лебядзіным знакам»). Надрукавана: Час», !34-35, 1982.

**Сквозь призму участника и исследователя** (О книге Г. Свирского «На лобном месте»). Надрукавана: «Русская Мысль», 20 ноября 1980.

**Смаленшчына -- Адвечная Зямля Беларускага Народу.** Гістарычны нарыс. Надрукавана: «Народная Бібліятэчка», ! 2, Бэрлін, 1944, 32 б.; Бібліятэка «Беларускае Думкі», Нью-Ёрк -- Саўт-Рывэр, 1963, 44 б.; «Беларуская Думка», !4, 1962, б. 5-11; !5, 1963, б. 10-18.

**Солженицын и традиции полифонического романа Достоевского.** Надрукавана: «Современник», !32, 1976, б. 88-92; !33-34, 1977, 172-178.

**Сом.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !41(576), 8 кастрычніка 1961.

**Спектакль триумфального успеха** («Братья Карамазовы» в МХАТ'е в 1910 г.). Надрукавана: «Современник», !43-44, 1979, б. 120-130.

**Стильові особливості білоруського театру.** Надрукавана: «Українська літературна газета», !3, вересень 1955, б. 7-8.

**Судьбы Достоевского в СССР** (Доклад, прочитанный на весенней Конференции Американской Ассоциации Преподавателей Славянских и Восточно-Европейских Языков в Нью-Йорке 25 апреля 1964). Надрукавана: «Русская Мысль», 16 июня 1964; 18 июня 1964.

**Сьмерць Гэнрыка Шлегеля.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !9 (493), 28 лютага 1960; !10 (494), 6 сакавіка 1960; !11 (495), 13 сакавіка 1960.

**Там, дзе цьвіце бружмель.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !14(498), 3 красавіка 1960; !15(499), 10 красавіка 1960.

**У вянок генію «Народаў Забраных».** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !20 (555), 14 травеня 1961.

**Удалае завяршэньне эпапеі** (Рэцэнзія: Канстантын Акула. «Гараватка»). Надрукавана: «Беларус», !292, 1981.

**У імя братэрства** (Пра пераклады твораў М. Багдановіча і іншых паэтаў украінскім паэтам Ярам Славутычам). Надрукавана: «Час», студзень 1980.

**Уладзімер Стэльмах «Шляхі». П'еса** (Рэцэнзія). Надрукавана: «Маладняк», кн. 2, 1931, б. 115-116.

**Уладыслаў Галубок.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», 13 лістапада 1955.

**У пошуках сьвету вечнае красы** (Інтэрвію). Надрукавана: «Бацькаўшчына», верасень 1964.

**«Холстомер» на Бродвее.** Надрукавана: «НРС», 18 декабря 1979.

**Ценная книга о советском театре** (Рэцэнзія на кнігу: Горчаков Н. А. История советского театра. Нью-Йорк, **1956, 416 с.).** Надрукавана: «Русская Мысль», 4 июля 1961; 6 июля 1961.

**Ці-ж было Вялікае Княства Літоўскае Незалежнай Беларускай Дзяржавай у XVII і XVIII стст.?** (Адказ «Незалежніку»). Надрукавана: «Беларускі Голас», !182, красавік 1970; 183, травень 1970.

**Цісьнем руку тваю** (Артыкул-віншаваньне Ўладзімеру Дубоўку). Надрукавана: «Незалежная Беларусь», !1 (27), лістапад 1967.

**Belorussian Culture After World War II.** Надрукавана: «Belorussian Review», no. 6, Munich: Institute for the Study of the USSR, 1958, pp. 45-59.

**Belorussian Culture and Totalitarizm.** Надрукавана: «Proceedings of the Conference of the Institute for the Study of the History and Culture of the USSR». New York. 1953, pp. 83-93.

**The Byelorussian Theater and Drama.** Надрукавана: «Research Program of the USSR». New York. 1955, 517 pp. (The original manuscript is deposited at Columbia's Archive of Russian History and Culture, New York).

**The Byelorussian Opera and Ballet.** The manuscript is deposited at Columbia's Archive of Russian History and Culture, New York. (Copy at the Archives of the Belarusian Institute of Arts & Sciences, New York).

**Critical essays and studies. (Part 1. Essays on great masters: Dostoevski, Solzhenitsyn, Bulgakov, Gogol'. Part 2. Studies of national culture. Part 3. Weissruthenishe kunst).** The manuskript, 140 p. Archiv of the Belarusian Institute of Arts & Sciences, New York.

**The controversy over Dostoevsky in the 1960's in Soviet Dostoevsky Studies.** Надрукавана: «Transactions of the Association of Russian-American Scholars in USA», Volume V, 1971, p.15.

**Dostoevski in Russian Literary Criticism, 1846-1956.** Надрукавана: «Columbia University Press». New York. 1957, 417 pp. (The original manuscript is deposited at Columbia's Archive of Russian History and Culture, New York).

**Die Dostoevskij-Briefe.** Надрукавана: «Osteuropa», Heft 11/12, Nov./Dec. 1961, S. 856-863.

**Dostojevskij in the Sowjetunion.** Надрукавана: «Osteuropa», Heft 5, 1965, S. 310-315.

**Dostoevskij und die Revolutionstragoedie in sowjetischer Darstellung.** Надрукавана: «Sowjet Studien», Nr. 5, Juli 1958, S. 35-40.

**Dostoevsky in Russian Emigre Criticism.** Надрукавана: «Bulletin of International Dostoevsky Society», no. 2, November 1972, p. 15.

**The Dostoevsky Type of Polyphonic Novel in Contemporary Prose.** Надрукавана: «Resumes. The Fourth Interntional Dostoevsky Symposium. August 17-23». Bergamo, Italy. 1980, pp. 88-89.

**Dostoievsky vu par l'ecole de critique litteraire sociologique sovetique.** Надрукавана: «Problemes Sovietiques», Nr.2, 1959, pp. 136-152.

**Dramatic MusicalVersions of Dostoevsky: Sergej Prokof'evs «The Gambler».** Надрукавана: «Transactions of the Association of Russian-American Scholars in USA», Volume IX, 1975, pp. 118-132.

**Les Etudes sur Dostoievsky en Union Sovietique, 1960-1965.** Надрукавана: «Problemes Sovietiques», Nr. 11, 1966, pp. 92-96.

**The Fate of Stavrogin's Confession.** Надрукавана: «The Russian Review», Vol. 25, no. 4, October 1966, pp. 397-404.

**Gogol and Dostoevsky. Concerning the Question of Dostoevky's Farawell to Gogol and Romanticism.** Надрукавана: «Bulletin of International Dostoevsky Society», no.4, November 1974, p. 52.

**The Latest Developments in the Struggle for the Indepedence of Belorussian Culture.** Надрукавана: «Belorussian Review», no. 8, September, 1960, pp. 17-25.

**Less recent developpements des etudes sur Dostoievsky en Union Sovietique (1955-1960).** Надрукавана: «Problemes Sovietiques», Nr. 3, 1960, pp. 1-132.

**Letters of Fyodor Michilovich Dostoevsky to his Family and Friends.** (Review: Letters of Fyodor Michilovich Dostoevsky to his Family and Friends. Translated by Ethel Colburn Mayne. Introduction by Avrahm Yarmolinsky. New York: Horizon Press, 1961, 344 pp.). Надрукавана: «Slavic Review», March, 1962, pp. 175-178.

**Linguistic Metamorthosis.** Надрукавана: «Academic Freedom Under the Soviet Regime». A Symposium. April 3-4». New York . 1954, pp. 64-67.

**An Outline History of the Soviet Russian Dramatic Theater in Three Volumes.** (Review: Volume 1. 1917-1934. Edited by N. G. Kalashnikov, O. A. Markov, B. I. Rostocky. Published by the Academy of Sciences of the USSR. Moskow. 1954, 782 p.). Надрукавана: «Bulletin, Institute of the Study of the USSR», Vol. VI, January 1959, no. 1, pp. 59-60.

**The Problem of F. M. Dostoevski's Origin.** Надрукавана: «Zapisy of Byelorussin Institute of Arts and Scinces», no. 16, 1978, pp. 44-60.

**Scenic Collision and Technique.** Надрукавана: «Bulletin of International Dostoevsky Society», no.7, November 1977, p. 95-97.

**Socialist Realism in the Theater.** Надрукавана: «Report of the Soviet Union in 1956». A Symposium of the Institute for the Study of the USSR». Munich. 1956, pp. 123-127.

**A Speech at the Congress of Soviet Writters Over Radio** «**Liberation**», December, 1954. Надрукавана: «A Free Voiceat the Soviet Writters Congress»,
New York, 1955.

**Das Trauma der Alteren Generation.** Надрукавана: «Osteuropa», Heft 1-2, 1965.

**Vierzig Jahre Weissruthenischer kultur unter den Sowjets.** (Monographien). Muenchen: Institut zur Erforschung der UdSSR, 1959, 145 S.

**Zur neuen Dostoevskij-Ausgabe der Sowiets.** Надрукавана: «Osteuropa», Heft 1, Januar 1960, S. 35-40.

## Мікола Вярба: адзін з адзінаццаці

*О, колькі гэтаю дарогай*
*назад ня вернецца ізноў?*
*О, колькі больш ужо ня ўбачаць*
*ні тых шляхоў, ані краіны...*
*Мікола Вярба*

**Іх было адзінаццаць, што падпісалі «Дэклярацыю» Літаратурнага Згуртаваньня «Шыпшына»: Натальля Арсеньнева, Юрка Віцьбіч, Мікола Вярба, Янка Золак, Хведар Ільляшэвіч, Аўген Кавалеўскі[1], Уладзімер Клішэвіч, Алесь Салавей, Масей Сяднёў, Уладзімер Сядура, Анатоль Чэслаўскі (Мікола Цэлеш).**

**Пры ўсёй рознасьці жыцьцёвага вопыту і мастацкага бачаньня, іх аб'ядноўвала адзінае разуменьне задач літаратуры і будучыні Бацькаўшчыны: «"Шыпшына" стаіць на варце поўнае свабоды творчых пошукаў, але для ейных сяброў з'яўляецца абавязковым крытэрый высокае мастацкасьці літаратурнага твору, імкненьне да ідэёвае насычанасьці і арыгінальнасьці, глыбокая пашана да нашае літаратурнае спадчыны і пачуцьцё спадкаемства да ўсяго лепшага ў ёй, узаемная пашана да творчасьці адзін аднаго, а ў галіне ідэёвай -- самаахвярная адданасьць Найвышэйшаму Ідэалу нашага Народу».[2]**

**З гадамі ад Згуртаваньня нехта адышоў, нехта далучыўся, але большасьць з заснавальнікаў аб'яднаньня жыла з ідэямі «Шыпшыны».**

**Пасьлядоўным і перакананым «шыпшынаўцам» быў і Мікола Вярба, чалавек шматгранных здольнасьцей і зацікаўленьняў. Нажаль, ён ня так ведамы, як ягоныя аднадумцы з «Шыпшыны». Таленавіты паэт, ён ня выдаў ніводнага зборніку сваіх твораў (яны засталіся адно на старонках газэт і часапісаў), дый ня ўсё з напісанага друкаваў. Не пакінуў па сабе і багатай творчай спадчыны, -- час аддаваў грамадскай працы і шматлікім мастацкім захапленьням.**

**Разам з тым, Мікола Вярба -- паэт арыгінальны, са сваім творчым стылем, нечаканымі вобразнымі знаходкамі. Ягоная «Паніхіда», прысьвечаная памяці паўшых нязнаных сыноў Беларусі ў абароне яе**

**[1] Аўген Кавалеўскі (1921--13.08.1963), артыст Беларускага Драматычнага Тэатру ў Менску, кіраўнік Беларускай Тэатральнай Студыі ў беларускім лягеры Остэргафэн, артыст Беларускага Тэатру Эстрады на эміграцыі, драматург. Быў адным з заснавальнікаў Беларускай Незалежніцкай Арганізацыі Моладзі ў Францыі, сябра рэдакцыі часапісу «Моладзь» (Менск-Парыж). Зьяўляўся сакратаром управы Аб'яднаньня Беларускіх Работнікаў у Францыі пры французскіх сындыкатах і сябрам управы Міжнароднай Арганізацыі Ўцекачоў і Эмігрантаў Усходняе і Цэнтральнае Эўропы.**
**[2] «Шыпшына», !8, 1950, б. 1.**

**вольнасьці, -- адзін з найбольш пранікнёных літаратурных рэквіемаў. Ягоная «Малітва ДП» -- немы крык душы, адарванай ад Бацькаўшчыны. Ягоная пэйзажная лірыка -- новае адкрыцьцё «мілых вобразаў роднага краю».**

**І творчасьць, і жыцьцё Міколы Вярбы (Міколы Сільвановіча) патрабуюць увагі і асэнсаваньня.**

**Каля 300 беларусаў у 1946 годзе апынулася ў Эттлінгэне, украінскім лягеры ДП. Яны стварылі свой камітэт, заарганізавалі беларускую пачатковую школу, але была ўсё-ж патрэба ў сваім, беларускім лягеры. І яны атрымалі яго неўзабаве -- былі перавезены ў горад Гэрэнбэрг, на захад Штутгарту. Атрымалі, дзякуючы высілкам кіраўніка групы Міколы Сільвановіча, прадстаўніка Беларускага Цэнтральнага Дапамогавага Камітэту (пазьней -- Беларускі Нацыянальны Камітэт -- БНК) на Амэрыканскай зоне ў Штутгарцкай акрузе.**

**БНК паўстаў у нялёгкі час для эміграцыі, калі ўзьнікла сур'ёзная пагроза прымусовай рэпатрыяцыі. У кола дзейнасьці Камітэту ўваходзіла сацыяльнае апекаваньне (пераважна над хворымі, інвалідамі й сіротамі, бо сродкі былі досыць абмежаваныя); культурна-асьветніцкая праца (была ўтворана адмысловая камісія, якая складалася з настаўнікаў і на сваіх паседжаньнях абмяркоўвала пытаньні арганізацыі школьнага навучаньня). Камітэт аказваў юрыдычную дапамогу, асабліва ў атрыманьні неабходных папераў, што дазвалялі атрымаць стасус і права жыць у лягерах ДП. Аднак, бязумоўна, адной з найбольш важных справаў сталася ўтварэньне беларускіх лягераў ДП.**

**Прадстаўнікі БНК мусілі наведваць лягеры ДП і арганізоўваць там беларускія групы, якія пазьней сталіся асновай беларускіх лягераў, кантактавалі з уладамі, уладкоўвалі арганізацыйныя справы. БНК вёў перамовы з прадстаўнікамі Польскага Эміграцыйнага Ураду, Украінскім Цэнтральным Дапамогавым Камітэтам, даводзіў прадстаўнікам УНРРА, што беларусы, як асобная нацыя са сваёй мовай, культурай, рэлігіяй, мусяць мець свае лягеры. У выніку дзейнасьці БНК паўсталі новыя беларускія лягеры, а сярод іх і лягер Гэррэнберг.**

**Акрамя звыклых ужо для беларускіх лягераў ДП устаноў -- школы, скаўцкай арганізацыі, -- у гэтым лягеры 1 красавіка 1947 году была арганізаваная Міколам Сільвановічам майстроўня беларускага мастацкага рамяства «Кааператыўна-Мастацкая Працоўня "Раніца"», дзе з саломкі, фанэры пры дапамозе клею, фарбаў, нешматлікіх спэцыяльных прыстасаваньняў і прылад рабілі калажы, аплікацыі ў выглядзе беларускіх народных арнамэнтаў, альбомы, табакеркі, рамкі, якія ішлі ў розныя куткі Нямеччыны, Англіі, Амэрыкі. На выставе ў нямецкім горадзе Байройце Міколу Сільвановічу быў прысуджаны дыплём за**

**ягоныя мастацкія вырабы, а на выставе ў Аўстраліі яны атрымалі першае месца.**

**Тут, у лягеры Гэрэнберг, у 1947 годзе Мікола Сільвановіч да ўгодкаў 25 Сакавіка выдаў паштоўку «Вялікія Дзеячы Беларускага Адраджэньня» з выявай Пагоні і партрэтамі Кастуся Каліноўскага, Ігната Грынявіцкага, Францішка Багушэвіча, Пётры Крэчэўскага, Васіля Захаркі.**

**Пра гісторыю стварэньня паштоўкі Мікола Сільвановіч расказвае так:**

**«Два тыдні таму назад, 2 сакавіка 1947 г., у маёй галаве паўстала думка выдаць на 25 Сакавіка паштоўку нацыянальнага зьместу, і я прыступіў да працы. Праца была нялёгкая, у нас няма Кругловічаў[1], якія маглі-б выканаць заказ, і мне прыйшлося шукаць немца-мастака, зь якім я працаваў і які згадзіўся намаляваць абраз, але з тым, каб я даў яму кампазыцыю, ну і рэчы ці асобы якія, якіх я хачу намаляваць. Так і сталася. Я кампанізаваў (хай даруюць усе, калі дрэнна) з малюнкаў волатаў нашага народу, якія ў мяне знаходзіліся. І сёньня ўжо абраз гатовы. Я ўжо яго перафатаграфаваў на цынк, думаю падаць у друкарню і выдаць да 25-га 1000 паштовак (ня ў колерах) па аднэй марцы ў продаж. А калі крытыкі пахваляць і разойдуцца паштоўкі, то тагды выдам на камені літаграфічным спосабам у колерах. Падбор асоб, здаецца, добры: паўстанец-дыктатар Беларусі Кастусь Каліноўскі -- закладчык ідэялёгіі незалежнасьці нашае Дзяржавы. Нарадаволец Ігнат Грынявіцкі -- ягоны пасьлядоўца. Франціш Багушэвіч -- сьведка тэй эпохі і супрацоўнік іх абодвух і Бацька Беларускай Адраджэнскай літаратуры. Пётра Крэчэўскі -- Прэзыдэнт Беларускай Народнай Рэспублікі, цьвёрды незалежнік і дыплямат. Васіль Захарка -- другі Прэзыдэнт БНР, спадкаемца Каліноўскага, Грынявіцкага, Багушэвіча, іхні вучань, што памёр у выгнаньні. Дзяржаўны герб Беларусі -- Пагоня, на якім коньнік імчыцца ў роўным размаху, прадстаўляець поўны размах і сілу паднятых імі ідэй у нашым сёньняшнім эміграцыйным асяродзьдзі. Вось уся тая сымболіка, на якой абапёртая і выдадзеная на Сакавік паштоўка».**

**У тым жа 1947 годзе Мікола Сільвановіч дасылае ліст Віцьбічу: «Дзякую і вельмі дзякую за крытыку, ня думаю злавацца. Адно думаю, што паштоўка не такія ўжо, здаецца, мае буйныя заганы; як для чужыны, мне здаецца, можна зрабіць трохі ўступкі. Недахоп сапраўдных падабізнаў. Што датычыць "Пагоні", то гэта была рэпрадукцыя старой паштоўкі, зробленай нашымі старымі змагарамі. З панядзелка, паводле Вашае крытыкі, раблю паправу абраза і перад сьвятамі заказваю шматкаляровыя, літаграфічным спосабам апрацаваныя абразы вялікага фармату. Адбіваецца Вялікодная паштоўка тысячным тыражом.**

---

[1] **М. Кругловіч -- беларускі мастак, які жыў у лягеры Міхельсдорф.**

**Мне тут за гэты час давялося сустрэцца з такімі бацькамі нашага адраджэнскага руху 1918 году, як з камандзірам 1-га Гродзенскага палка сп. палкоўнікам Усьпенскім, старшынёй Гродзенскай Краёвай Управы Ўсеваладам Боевым, што наведалі мяне, ці як казалі, знайшлі "беларуса", а пасьля ўшанавалі наш лягер сваёй прысутнасьцю ў дні Сакавіковага сьвята. І вось, калі яны былі ў мяне на вячэры і на начлезе, мы ўдаліся ў глыбейшыя размовы з нашымі славутымі адраджэнцамі. Даведаўся вельмі шмат са старых часоў, а 'шчэ больш з сучасных, чым з Вамі і дзялюся.**

**Сп. палкоўнік Усьпенскі маець 70 гадоў, але 'шчэ крэпкі і чэрства выглядаець. Ён жывець на нямецкіх картачках у Штутгарце, маець сям'ю і працуець як пісьменьнік. Належыць да згуртаваньня расейскіх пісьменьнікаў (Мюнхэн) і ў Вітэмбэргіі ці, карацей сказаць, у Штутгарце, кіруець расейскім культурным жыцьцём, каторае на ягоную асобу тут абапіраецца. "Таварыш прэдсядацель" (паводле кніжыцы К. Езавітава "Беларусы і Палякі") Усевалад Боеў працуець адвакатам і зьяўляецца культурным працаўніком у расейскім гуртку, якім кіруець сп. палкоўнік Усьпенскі.**

**Дык вось што робяць нашы "унікалы". Сум і жаль. Тут у нас, як я даведаўся, нашыя старыя беларусы пашыраюць расейскую культуру. Гімназія расейская, якая існуе тут, ёсьць заарганізаваная старым беларускім эмігрантам, сьвятаром Савіцкім.**

**Што рабіць? Да нас тут вельмі дрэнна адносяцца. 25 сакавіка сп. палкоўнік быў у форме Беларускага Гродзенскага палка, з усімі адзнакамі заслугі, як Крыж летувіскай дзяржавы, якім застаўся ўзнагароджаны за супольную барацьбу ў абароне беларуска-летувіскай дзяржаўнай незалежнасьці. У сучасны час сп. палкоўнік працуець над кніжыцай "У Літве", дзе чырвонай ніткай ідзе справа беларусаў. Кніжыца перакладаецца з расейскай мовы (палкоўнік не валодае беларускай) на летувіскую і ангельскую мовы. Сп. Боеў валодае нядрэнна беларускай. Па супольных дыскусіях над беларускай сучаснай доляй паўзялі зрабіць у нас зьезд і заснаваць Беларускі Замежны Чырвоны Крыж.**

**Што да зборніка, аб каторым ужо двойчы ўспаміналася ў "Шыпшыне", то я падрыхтаваў зборнік пад назвай "У дарозе", куды ўваходзяць 16 вершаў, друкаваных у розных часапісах. Паўсталая гарачка ў месяцы лютым гэтага году выдаць зборнік друкам пакуль што ня зьдзейсьнілася. Неатрыманьне дазволу ад улад на друк, адсутнасьць кірылічнага шрыфту, паперы, выдаўца, пустая ўласная кішэня і жывот (я ня лічуся працоўным у лягеры) змусілі задумацца: як выдаць? І ўсё вышэйпададзенае змусіла адкласьці ўсю літаратуру і зборнік з болем у сэрцы і стаць на якую-колечы фізычную працу, каб ізноў зарабіць грошы і тагды прыступіць да выданьня. Вось што прымушае рабіць нядоля. Праўда, што гэта праца, на маю думку, прыносіць нам, беларусам, таксама славу і розгалас, робячы добрую нам славу як народным**

**мастаком. Мо’ толькі што гэта справа не паэта. Але той бяды. Трэба грошы. За гэты час працы я раздумаў, што зборнік мой замалы, і мо’ "зазялёны". 16 вершаў сустрэне такі крытык, і што? Загрызе. Я думаю дадаць хоць-бы толькі, значыць, што напісаў за гэты год, і дзесь пад канец гэтага году, мо’ ў лістападзе, выдаць. Не дачакаўшыся ад Вас кароткіх дадзеных аб "Даніле Паломніку", што хацеў узяць у аснову задуманай мной паэмы аб гэтым слаўным нашым сьвятым мужы, пішу ад красавіка гістарычную паэму "Чацьвёрты этап. (Адраджэньне 1863-1946)".**

**Да сёньняшняга дня была пустэча й холад, калі ’шчэ была ў мяне душа, але я адчуваў, што мяне абакралі і з душы, або, інакш кажучы, вырвалі ў мяне душу. Але ворагі мае забыліся на адно -- што я Беларус, што я нашчадак таго народу, якога не пераможа ніякая варожая сіла. Ворагі забыліся, што я Вярба, што мяне можна пакалечыць, фізычна і маральна, адабраць усе сродкі да жыцьця, а я ўсё роўна буду жыць і расьці. Хоць і абкрадзены з душы, хоць і з дуплом унутры, але пры надышоўшай вясьне я пушчу пучкі.**

**Дык да пабачэньня ў Сьвятыні Вялікай і Сьвятой нашай княгіні Ефрасіньні Полацкай.**

**З пашанай да Вас Мікола Вярба».**

**Мікола Сільвановіч (Вярба) жыў у лягеры ўдалечыні ад большасьці сяброў згуртаваньня «Шыпшына», для яго само «сяброўства» значыла непараўнальна больш за фармальную прыналежнасьць да аб’яднаньня:**

**«Адчуваючы цяжкую тугу на чужыне ў дзень Сьвятога Ушэсьця, на якое ў нас на радзімай Беларусі заўсёды адбываліся гучныя фэсты, якіх я ніколі ня мінаў, прыпамінаючы ў мроях бацькоў і братоў, я пачуў стук у дзьверы майго бараку і да мяне ўвайшоў паштальён зь лістом ад Вас, дарагі спадар Віцьбіч, і доўга зь нецярпеньнем чаканай нашай "Шыпшынай". Усемагутны Бог на нас, выгнанцаў, не забываецца. У самыя цяжкія для мяне хвіліны ўспамінаў прысылае мне тое, што я тут, у далёкай і чужой Нямеччыне, маю найдаражэйшае. Я ўзяў "Шыпшыну" і, падобна да алкаголіка, не адклаўшы з рук, прачытаў.**

**Моцны нумар. Вельмі ўдала і па-мастацку выканана першая балонка да трыццатых угодкаў 25-га Сакавіка. Я яшчэ такога чагось ня бачыў. І мне гэта вельмі спадабалася. Рысунак гэты можна будзець узяць у Вольнай і Незалежнай Бацькаўшчыне на мядаль "Мяча Пагоні", які, напэўна, будзець устаноўлены. Адно, што мне здаецца (але гэта, можа, толькі недагляд): было-б шмат лепш, каб павязка дубовага вянку ўвярху была не адна, а тры. Гэта прадстаўляла-б сабой рымскую трыццатку, што якраз-бы супадала з Трыццатымі ўгодкамі.**

**Што да сяброўскай кніжкі, то гэта вельмі добра. Нам яе трэба было тут выдаць даўно. Але мы ўсё адкладаем. Толькі я думаю, што запрапанаваная Вамі вокладка засьціплы маець загаловак, або, проста**

**кажучы, яго ня маецъ зусім. Я думаю, увярху над Пагоняй на вокладцы павінен быць назоў гэтай кніжкі. Напрыклад, "Сяброўская кніжка сябры Беларускага Літаратурнага Згуртаваньня "Шыпшына".**

**Парадзьцеся там з усім Згуртаваньнем. Я думаю, каб гэта кніжка была нейкай надзвычайнай. Хаця яна нам нічога ня дасьць, але трэба, каб яна была такая зьмястоўная, як зьмястоўнае для нас ёсьць слова "Шыпшына". Бо бачыце, у чужынцаў, як Вы ведаеце, згуртаваньні называюцца іначай. Украінцы маюць "МУР", палякі "Polski Klub Literacki", расейцы "Зарубежный Союз Писателей". Гэта ўсё простыя празаічныя словы. "Шыпшына" -- гэта слова-сымбаль для нас».** ***(Зь ліста ад 12 чэрвеня 1948 году)***

**Пазьней Мікола Сільвановіч разам зь беларусамі Гэрэнбэргу пераехаў у лягер Майнлейс, дзе цалкам аддаўся грамадскай працы й вытворчасьці «Раніцы». У 1947-1949 гадох вырабы «Раніцы» выстаўляліся ў Нюрнбэргу, Гамбургу, Мюнхэне, Зальцбургу і ў іншых гарадох Заходняй Нямеччыны.**

**Мікола Сільвановіч цесна супрацоўнічаў зь беларускім скаўтынгам. Зь яго ініцыятывы ў Майнлейсе адбылася ўрачыстая скаўцкая прысяга ды быў арганізаваны ці адзін беларускі культурны вечар.**

**У тым самым часе ён найбліжэй сышоўся з сэнатарам Васілём Рагулем (пэўны час жылі на аднэй кватэры) і падзяляў ягоныя думкі пра неабходнасьць аб'яднаньня ўсёй беларускай дыяспары[1]. У лісце да скаўтаў М. Сільвановіч пісаў:**

**««...» Здабывайце веду, якая вам скажа, што на шляху да Вольнасьці і Незалежнасьці не павінна быць беларусаў "рускіх", "польскіх", "усходніх" і "заходніх", "каталікоў" і "праваслаўных", "дрыгавічоў" і "крывічоў", а толькі --БЕЛАРУСЫ. Адзіны маналіт, Сыны Вялікага Народу, вялікіх сваіх продкаў, пераможцаў з-пад Грунвальду, з-пад Оршы, Творцаў Акту 25 Сакавіка».[2]**

**16 травеня 1949 г. Мікола Сільвановіч выехаў у Канаду, яшчэ болей аддаліўшыся ад сяброў «Шыпшыны». Канада, па ягоных словах, -- краіна, «магчымая для жыцьця». Яго па-сапраўднаму ўразіла толькі тое, што мясцовае насельніцтва не пераймаецца беларускімі праблемамі. Праўда, у Вінніпэгу, дзе ён пасяліўся, пра беларусаў раней ніхто ня ведаў і ня чуў.[3] На першыя-ж выступленьні беларусаў у газэце «Беларускі Эмігрант» рэдакцыя «Вестника» («Единственной газеты русской общественности в Канаде») у Таронта, аб'яднаўшага расейскіх**

**[1] Гл. зварот Васіля Рагулі да ўплывовых дзеячаў беларускай эміграцыі (Разьдзел «Хведар Ільляшэвіч»).**

**[2] Скаўцкі Бюлетэнь Штандару «Гарц», 5-6, 30 чэрвеня 1948, б. 2-3.**

**[3] Р. Жук-Грышкевіч. «Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча». Торонто-Канада, 1993, б. 229.**

**манархістаў і асіміляваных старэйшых эмігрантаў-беларусаў, прыцягнула да друку артыкулы Міхася Лынькова, Максіма Танка, Якуба Коласа і пачала публікаваць матар'ялы пра Беларусь як сувэрэнную краіну, дзе няма нацыянальных праблемаў ды й ня можа быць, бо зьяўляецца яна спрадвечнай часткай Расеі.**

**Таму першаснай задачай было ўтварэньне беларускай нацыянальнай арганізацыі, якое сталася ў 1950 г., -- Беларускага Нацыянальнага Камітэту на чале з Гарасімам Галожыным і сакратаром Міколам Сільвановічам.[1] (У 1955 годзе БНК зьмяніў назву на Беларуска-Канадыйскае Нацыянальнае Аб'яднаньне ў правінцыі Манітоба).**

**«Беларускі Нацыянальны Камітэт у Віньніпэгу, бяз розгаласу ў беларускай прэсе, вядзе сваю нацыянальную беларускую працу, таму мясцовая англамоўная прэса вельмі часта ўспамінае пра беларусаў у Віньніпэгу.**

**"The Winnipeg Tribune", "Winnipeg Free Ress" зь дня 22. 7. 1952 г. паведамляюць, што Беларускі Гурток Мастацкай Самадзейнасьці ставіў канцэрт з нагоды 70-х угодкаў сьв. памяці Янкі Купалы.**

**Успомненая газэта нядаўна прысьвяціла вялікі артыкул Лявона Коссара, з упрыгожаньнем фота беларускага мастака саламянай мазаікі, сп. М. Сільвановіча. Ягоным прыгожым мастацкім вырабам зацікавіліся канадскія ўлады. [Вырабы*, у якія ўлажыў шмат маруднай працы сп. Сільвановіч, меліся быць высланыя як экспанаты на канадскую выстаўку ў Ванкувэр, якая адбывалася ад 19 жнівеня да 1 верасьня гэтага году пад зазначэньнем: "Беларускае Народнае Саламянае Мастацтва"».[2]**

**Найбольшы розгалас і зацікаўленасьць выклікалі мастацкія імпрэзы, ладжаныя БНК, і не ў апошнюю чаргу дзякуючы выдатнаму тэнару М. Радчанку. Захавалася праграма сьвяткаваньня 33-х угодкаў «Абвешчаньня Незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі» пад дэвізам: «Мы за аднаўленьне вольных і незалежных дзяржаваў: Беларусі, Украіны, Грузіі, Азэрбайджану, Казахстану і другіх паняволеных Савецкай Расеяй народаў»:**

**Праграма**

**I**

**1. Адкрыцьцё (гадз. 2.00 па палудні).**
**2. Даклад на тэму «Беларускае Дзяржаўнае Сьвята 25 Сакавіка» (чытае Г. Галожын).**
**3. Зачытаньне прывітаньняў.**

---

[1] **I. Kasiak. Byelorussia. Historical outline. London, 1989, p. 316.**
[2] **«Беларускі Голас», 15 кастрычніка 1952 г.**

**II**

**4. «Васілёчкі», сола ў выкананьні М. Радчанкі, пры акам. баяніста А. Радчанкі.**

**5. «Беларускаму люду», верш Янкі Купалы, дэклямуе Валянтына Гарох.**

**6. «Люблю наш Край», гімн беларускіх жанчын, у выкананьні жаночага хору пры акам. баяніста А. Радчанкі.**

**7. «Ох ты, Нёман рака» -- сола ў выкананьні М. Радчанкі.**

**8. «Клясычная эўрапейская музыка», выконвае баяніст А. Радчанка.**

**9. «Помніш», дуэт у выкананьні З. Бурдзь і М. Радчанкі.**

**III**

**10. «Лявоніха», беларускі народны танец у выкананьні Сп. Сп. Гарох, З. Бурдзь, Міхнавец, В. Гарох, Т. Калашук, В. Міхнавец, М. Радчанка, Н. Скок, музыка А. Радчанкі.**

**IV**

**11. Сяброўская кава.**

**У сваёй дзейнасьці БНК знаходзіў падтрымку і разуменьне ў нацыянальных арганізацыях украінцаў у Віньніпэгу, таму на старонках украінскіх газэт часта можна было ўбачыць паведамленьні пра сумесныя акадэміі, дзе М. Сільвановіч чытаў даклады пра сучасную беларускую літаратуру (па-беларуску) ці маладую беларускую паэзію (па-ўкраінску), або ўбачыць такое запрашэньне: «Увага! Увага! Украінці міста Виннипегу! Гурток Мистецькоі Самодійности Білоруськоі Народньоі Пісні і Танку при Білоруськім Національнім Комітеті у Виннипегу під управою А. М. Радченка улаштовує в неділю, 8-го квітня, 1951, у годині 8-ій ввечері в залі Читальні Просвіта, (Флора і Мекензі) КОНЦЕРТ Білоруськоі Народньоі Пісні і Танку. Оцим запрошуємо українське громадянство прибути на цей концерт. Прийдіть -- не пожалуєте. Почуєте перший раз білоруську пісню й танок у Виннипегу».[1]**

**Але, нягледзячы на пэўнае прызнаньне ў якасьці «беларускага амбасадара ў Канадзе», як любіў называць сябе Мікола Сільвановіч, павагу канадскіх беларусаў[2], яго не пакідала пачуцьцё, знаёмае яшчэ з часоў лягераў ДП, -- абыйдзенасьці, закінутасьці, здавалася, што ўсе яго байкатуюць, ня лічацца зь ім. (На самой справе гэта было ня так: шырокая грамадскасьць вельмі паважала М. Сільвановіча за вырабы «Раніцы», якія ў той час выдатна прэзэнтавалі Беларусь). Варта было**

---

**[1] «Новий шлях», Вінніпег, Манітоба, 7 красавіка 1951 г.**

**[2] Р. Жук-Грышкевіч. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Торонто-Канада, 1993, б.214**

**спазьніцца чарговаму нумару «Шыпшына», як Вярба дасылаў у ЗША лісты, поўныя абурэньня і крыўды:**

**«Я адчуваю, што мой голас у Аб'яднаньні саўсім малы, зь ім ніхто ня лічыцца і што-б я ні прапанаваў, яно застанецца толькі прапановай». (*Зь ліста ад 10 верасьня 1951*) «Згуртаваньне Беларускіх Літаратараў на Чужыне заарганізаваць трэ' абавязкова, але я спрычыніцца да гэтага не магу з тае прычыны, што я далёка жыву ад большага (Нью-Ёрк) згуртаваньня інтэлектуальных сіл. Мае-ж лістоўныя праэкты (за 1951 год), як Вы добра ведаеце, засталіся толькі праэктамі, а некаторыя "...і проста зьнявагай"». (*Зь ліста ад 28 студзеня 1953*)**

**Паступова ён аддаляецца ад беларускіх спраў, усё радзей піша. Ліставаньне скарачалася таксама, бо перастала выходзіць «Шыпшына», сябрамі Згуртаваньня, як лічыў Мікола Вярба заставаліся хіба што толькі ён і Юрка Віцьбіч:**

**Дарагі Юры Аляксандравіч!**

**Цудоўна зрабілі, што напісалі ліста! Мы пакуль што таксама жывы і здаровы. Я працую (12-ты год) у шпіталі магазынэрам. Праца ня лёгкая, але і не цяжкая, адно толькі мала платная, 1.50 на гадзіну, 40 гадзін у тыдзень. Сям'я таксама нядрэнна маецца, жонка ужо па-над 6 гадоў ня робіць. Дзеці -- усе трое -- ходзяць у школу: Пятрусь сёлета пойдзе ў 6-ы аддзел, Алена ў трэці, Паўлюк у 1-ы.**

**Хата мая каля самае маёй працы. Я заўсёды прыходжу на палудзень дахаты (7 хвілін хады). Так што ў мяне маецца вельмі і вельмі шмат вольнага часу. Цяпер, гады са тры, зьбіраю паштовыя маркі. Выпісваю з гэтае галіны адмысловую газэту (22 бачыны на тыдзень) ды вяду вельмі шырокую перапіску з замежнымі філатэлістамі Індыі, Японіі, Швайцарыі, Нямеччыны, Польшчы, СССР, Чэхіі ды Амэрыкі. За апошнія сем месяцаў гэтага году выслаў 165 лістоў і блізу столькі-ж атрымаў.**

**Вам, «неўтаямнічанаму» ў гэтую гульню, бязумоўна, будзе ахвота разрагатацца. Затое-ж мне, пакаштаваўшаму звычаяў народаў у галіне перапіскі, іх псыхікі, гандлярскага сумленьня, халоднага разьліку і дыпляматычнай ветлівасьці, усё гэта вельмі падабаецца. Гэтым можна было-б дзяліцца бясконца, толькі, магчыма, яно Вам не па густу, бо не павязана з беларусікай.**

**Што-ж да свайго роднага, то я толькі чытаю, нічога ня пішу з тае прычыны, што ня ўсё было надрукавана, што раней напісаў. А было вельмі шкода, і не таго, што не надрукавалі, а таго, што на пісаньне было затрачана вельмі шмат часу. Часу, якога раней ня так ужо было і шмат.**

**За мінулае дзесяцігодзьдзе, 1949-1959 г.г., уважаю маім найбольшым палітычным асягненьнем артыкул пра беларусаў у Канадзе ў «Encyclopedia of Canada», якая выйшла ў 1956-1957 гадох у дзесяці тамох мільённым тыражом ды зьяўляецца падручнай кнігай па пытаньнях Канады, дзе і мы фігуруем.**

**На грамадска-нацыянальна-сацыяльным адрэзку ў Віньніпэгу (450 тысяч насельніцтва і 100 сямей зь Беларусі) лічу найвышэйшым асягненьнем заарганізаваньне аднэй -- бяз клясавай розьніцы -- беларускай сям'і, якая супольнымі сіламі здабыла сабе пашану між іншымі групамі народаў у горадзе, за што з году ў год у гонар беларусаў ня толькі што ў Віньніпэгу, але цэлае Канады ўзьнімаецца 25 Сакавіка наш бел-чырвона-белы сьцяг!**

**Што-ж да сваіх асабістых надбаньняў, то хіба-ж на першае месца высоўваецца сям'я, з захаваньнем традыцыі веры і звычаяў, ні ад каго не залежны побыт ды чыста і непадзельна асабістае -- удасканаленьне пры помачы Плутарха маіх аратарскіх здольнасьцей.**

**Ведаю, што нядобра хваліцца, але, магчыма, і не спаткаемся ў жыцьці больш -- дык дзеля таго скажу Вам, што прыходзілася прамаўляць да розных нацыяў, якія не разумелі нашай мовы, але плакалі, калі я гаварыў, і думаю, што калі-б сказаў: «Кіньцеся ў атаку і пераможам», паверылі-б і выканалі заклік. (*Зь ліста ад 6 жніўня 1960 году*)**

**Той артыкул у энцыкляпэдыі, якім гэтак ганарыўся Мікола Сільвановіч, прынёс багата непрыемнасьцяў аўтару і ці не канчаткова адштурхнуў яго ад беларускіх спраў. Прафэсар унівэрсітэту ў Атаве, супрацоўнік Міністэрства Грамадзянства і Іміграцыі Канады В. Кэйэ у лісьце да В. Жука-Грышкевіча ў 1960 годзе пісаў, што М. Сільвановіч у 2-м томе энцыкляпэдыі падае колькасьць беларусаў у Канадзе паміж 10000 і 15000, што, на думку аўтара ліста, заніжана, бо сапраўдная колькасьць беларусаў недзе каля 30000.[1]**

**Пра тое-ж (праз дзесяць год!) пісаў да Юркі Віцьбіча і Сяргей Хмара: «Вярба мне ня піша. Калі пытаўся ў нашых адтуль, дык яны адказвалі, што ён нідзе не бярэ ўдзелу, ізаляваўся, а некаторыя прыпушчаюць, што нават запіўся. Больш праўдападобная вестка пра тое, што страху нагнала яму завяртанка, зьмясьціўшы артыкул аб ім і ягонай дзейнасьці ў краі.**

**На мяне ён крывы за крытыку ягонага выбрыку, калі ён, не паразумеўшыся зь нікім, падаў у Канадыйскую энцыкляпэдыю выдуманую ім самім лічбу 12 тысяч беларусаў у Канадзе, тады як нас тут каля 50 тысяч. І тады-ж як ён урэзаў такое глупства, навукоўцы-дасьледчыкі ў Атаве пісалі, што беларусаў прыкладна 35 тысяч, а дзякуючы стараньням нашага інстытуту Кастуся Каліноўскага, прэмьер Антарыё сьцьвердзіў, што нас толькі ў Антарыйскай правінцыі 30 тысяч. Тую шкоду, што прычыніў Вярба нам, адчуваем мы яшчэ часта і цяпер! А**

**[1] Р. Жук-Грышкевіч. Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча. Торонто-Канада, 1993. б.231-232.**

**калі я затаўраваў гэты факт, дык ён абразіўся...». (*Зь ліста ад 11 лютага 1971 году*)**

**У верасьнёўскім нумары «Беларускага голасу» за 1975 год быў зьмешчаны невялічкі некралёг, дзе паведамлялася пра сьмерць Міколы Сільвановіча зь Меншчыны, закладчыка першых беларускіх арганізацыяў у Манітобе: Беларускага Культурнага Таварыства і Беларускага Нацыянальнага Камітэту, чалавека 63 гадоў, які даўно адышоў ад беларускіх спраў. Між іншым, Ян Садоўскі, аўтар кнігі «A History of Byelorussians in Canada», сьцьвярджае, што Мікола Вярба нарадзіўся 9 красавіка 1917 году, гэта значыць, што пражыў ён усяго 58 гадоў. Называючы Міколу Вярбу, разам з Кастусём Акулай і Сяргеем Хмарай, адным з найбольш важных беларускіх пісьменьнікаў у Канадзе, Садоўскі зазначае: «Вярба пачаў пісаць вельмі рана; аднак ягоныя вершы "З табой" і "Ня хмур броваў" не друкаваліся ажно да 1943 г. («Беларуская газэта», 24 сьнежаня 1943 году)...**

**Урачыстае запэўненьне Міколы Вярбы любіць і абараняць Беларусь, ягоная непахісная вера ў ейную здольнасьць вынесьці найбольшыя няшчасьці адлюстраваліся ў вершы "З табою" -- адным з найлепшых ягоных твораў. Дакладны выбар слова, нязвычайная вобразнасьць мовы і ўнутраны рытм сьведчаць пра паэтычную сталасьць.**

**Цяжка ацэньваць паэзію Вярбы, бо толькі нязначная частка ягоных вершаў была апублікаваная. Большасьць з тых, што зьявіліся ў друку, напоўнена настальгіяй па Беларусі, разлуку зь якой ён вельмі цяжка пераносіў.**

**Мікола Вярба мог-бы стацца добрым паэтам, калі-б ня вырашыў пераключыцца на прозу ў 1949 годзе. Перакананьне, што паэзія недастаткова гнуткая, выклікала гэты драматычны крок».[1]**

**Паэзія Міколы Вярбы недасьледаваная.**

**Таму, акрамя вершаў, што ніколі не друкаваліся і рукапісы якіх захоўваюцца ў архіве Юркі Віцьбіча (Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага, Нью-Ёрк), тут зьмяшчаюцца і некаторыя вершы Міколы Вярбы, якія можна сустрэць на балонках беларускіх газэт і часапісаў мінулых гадоў.**

---

**[1] John Sadouski. A History of the Byelorussians in Canada. Ontario, 1981, p. 139-140.**

## З ТВОРЧАЙ СПАДЧЫНЫ МІКОЛЫ ВЯРБЫ

### ПАНІХІДА

**Памяці паўшых нязнаных Сыноў БЕЛАРУСІ ў абароне яе Вольнасьці прысьвячаецца**

**Паўшым верным Сынам Афіцэрам, Падафіцэрам і Жаўнерам Беларускага Армейскага Корпусу.**
**Паўшым верным Сынам Беларускага Асобнага Атраду.**
**Паўшым верным Сынам Першага Беларускага Гарадзенскага Палка.**
**Паўшым верным Сынам Самаабароны сталіцы Беларусі Менску.**
**Паўшым верным Сынам Слуцкага Паўстаньня.**
**Паўшым верным Сынам Вяліжскім Паўстанцам -- Барацьбітам за Волю Беларусі.**

**Паўшым верным Сынам Бясстрашным Нарадавольцам Вялейшчыны.**

**Паўшым верным Сынам Няўтомным Змагарам Наваградчыны.**

**Паўшым верным Сынам на полі навукі -- настаўнікам, прафэсарам, дацэнтам, паэтам, пісьменьнікам, мастакам, артыстам, славячым Імя Беларусі.**

**Паўшым верным Сынам пастраляным, павешаным, жывымі спаленым за тое, што зваліся Беларусамі на роднай беларускай зямельцы.**

**Паўшаму ў выгнаньні вернаму Сыну Беларусі, Першаму Прэзыдэнту Беларускай Народнай Рэспублікі Пятру Крэчэўскаму.**

**Паўшаму ў няволі вернаму Сыну Беларусі, Другому Прэзыдэнту Беларускай Народнай Рэспублікі Васілю Захарку.**

**Паўшым 800,000 верным Сынам Беларусам, замучаным у ссылках халоднага Сібіру, Калымы, Салаўкоў, Беламор-Каналу, Ухта-Пячорскіх сьмертных лягерах, загінуўшым у пяскох Караганды, у стэпах Казахстану,ня вытрымаўшым паходу ў няволю, памёршым у у халодных прыстанях Мурманску. Бяз страху адышоўшым ад жыцьця ў канцлягерах Картузскае Бярозы, замучаным маральна ў Лукішскіх Мурох у Вільні , ціха**

**памёршым у Сьвятым Крыжы, без Дароў Божых адышоўшым у Вронках у жыцьцё вечнае, тым, што з болем памёрлі у казематах Варшаўскае Цытадэлі, усім бязьвінным, за Імя Беларуса бясстрашна памёршым -- Беларусам Паўночнае, Усходняе, Паўдзённае і Заходняе Беларусі.**

**Паўшым сьмерцю мучанікаў у Дахаў, Маўтхаўзэне, Грос-Розэне, Бухэнвальдзе.**

**Паўшым верным Сынам Героям у жорсткіх баёх за Волю Народаў пад Нарвікам, Тобрукам, Монтэ-Касына жыцьцё сваё злажыўшых, каб мы жылі.**

**Паўшым верным Сынам у абароне нашых усходніх Брамаў -- Бранску, Рослаўлю, Смаленску і ўсяе зямлі Смаленскай.**

**Паўшым верным Сынам у абароне горада Воршы, Мсьціслаўлю і ўсяе зямлі Аршанскай.**

**Паўшым верным Сынам у абароне гарадоў Заслаўя, Асіповіч, Менску і ўсяе зямлі Менскай.**

**Паўшым верным Сынам у абароне гарадоў Барысава, Полацку, Вяліжу, Віцебску і ўсяе зямлі Віцебскай.**

**Паўшым верным Сынам у абароне гарадоў Бабруйску, Рэчыцы, Гомелю, Магілёва і ўсяе зямлі Магілёўскай.**

**Паўшым верным Сынам у абароне гарадоў Грэску, Слуцку і ўсяе зямлі Слуцкай.**

**Паўшым верным Сынам у абароне гарадоў Пінску, Драгічына, Турава, Лунінца, Мазыра і ўсяе зямлі Палескай.**

**Паўшым верным Сынам у абароне гарадоў Кобрына, Бельску, Супрасьлю, Пружанаў, Берасьця і ўсяе зямлі Берасьцейскай.**

**Паўшым верным Сынам у абароне гарадоў Аўгустова, Сувалак, Ломжы, Беластоку і зямлі Беластоцкай.**

**Паўшым верным Сынам у абароне гарадоў Саколкі, Гародні і ўсяе зямлі Гарадзенскай.**

**Паўшым верным Сынам у абароне гарадоў Ганцавіч, Ліды і ўсяе зямлі Лідскай.**

**Паўшым верным Сынам у абароне гарадоў Слоніма, Нясьвіжу, Любчы, Наваградка і ўсяе зямлі Наваградскай.**

**Паўшым верным Сынам у абароне гарадоў Трокаў, Ашмянаў, Смаргоняў, Вільні і ўсяе зямлі Віленскай.**

**Паўшым верным Сынам у абароне гарадоў Маладзечна, Ільлі, Радашкавічаў, Жодзішкаў, Валожына, Вялейкі і ўсяе зямлі Вялейскай.**

**Паўшым верным Сынам у абароне гарадоў Дзісны, Друі, Крулеўшчыны, Глыбокага і ўсяе зямлі Глыбоцкай.**

**Усім паўшым верным Сынам, жывымі спаленым, сьмерцю мучанікаў пагінуўшым бяз розьніцы прафэсіі, веравызнаньня, на родных палетках Бацькаўшчыны жыцьцё сваё злажыўшым ці ў халодных стэпах Сібіру, ці ў крэматорыях**

**нацыстоўскага**
**рэжыму Нямеччыны,**
**ці ў жорсткіх баёх за**
**Волю Народаў у Эўропе,**
**Азіі, Афрыцы, жыцьцё**
**сваё аддаўшым за**
**Беларускую Справу.**

**МАЛІТВА БЕЛАРУСКІХ «ДП»**

**Божа Айцец наш! Ты стварыў усе народы вольнымі. Мы просім Цябе: Дай волю Беларусам.**

**Божа Ўсемагутны Уладар наш! Ты вывеў народ Твой Ізраіля зь зямлі Ягіпецкай. Мы просім Цябе: выведзі Ты і наш шматпакутны народ з ярма камунізму.**

**Божа Ўсяўладны! Адзіны Ты можаш зрабіць чаканае намі стагодзьдзямі, хвілінай думкі сьвятой Тваёй. Мы просім Цябе: дай нам вольную Бацькаўшчыну.**

**Ісусе Хрысьце Сыне Божы! Замучаны на крыжы, пахаваны й уваскрошаны. Мы просім Цябе: Уваскрасі нам нашу Бацькаўшчыну.**

**Ісусе Хрысьце! Ты ажывіў дачку Яіра, Ты памёршага Лазара з магілы падняў. Мы молім Цябе: уваскрасі нам нашу Беларусь.**

**Ісусе Хрысьце! Ты дараваў грахі забойцу Варнаве і тым, што Цябе расьпялі на крыжы, просім Цябе, даруй грэх і тым, што вінаватыя нашай паняверцы на чужыне. А нас узнагарадзі за пакуты нашы, за нашы магілы, раскінутыя па ўсім сьвеце, гойнай узнагародай Тваёй, тым, чым некаторыя Твае народы карыстаюць, ад часоў стварэньня іх. Молім Цябе: вольнай Бацькаўшчынай.**

**Духу Сьвяты, у Тройцы Адзінай і Непадзельнай! Праз сотні тысяч мучанікаў, загінуўшых у казематах камуністычнага рэжыму, увядзі ў думкі правячых сьветам сягоньня -- па вялікай міласьці Тваёй. Молім Цябе: Натхні іх зьняць ланцугі з нашай Бацькаўшчыны.**

**Духу Сьвяты! Праз ахвяру нявіннай крыві 4 000 000 загінуўшых Беларусаў у Другую Сусьветную вайну. Молім Цябе: дай нам Вольную Беларусь.**

**Духу Сьвяты! Празь цяжкі крыж нашага выгнаньня. Молім Цябе: зьмілуйся і вярні нас на Вольную Бацькаўшчыну.**

**Ісусе Міласьцівы! Празь зьбясчэшчаньне сьвятых нашых продкаў. Молім Цябе: зьмілуйся над нашай Бацькаўшчынай.**

**Ісусе Уваскрэсшы! Празь зьнішчаны Крыж Сьвятой Ефрасіньні нявернымі. Молім Цябе: зьмілуйся над нашай Бацькаўшчынай.**

**Ісусе Справядлівы! Празь зьнішчаныя сьведчаньні аб нашай славе -- Барысавы камяні. Молім Цябе: зьмілуйся над нашай Бацькаўшчынай.** **Сьвятая Маці, што ў Вострай Браме сьвецішся ў Вільні. Молім Цябе: уступіся за нашу Беларусь.**

**Сьвятая Маці Жыровіцкая! Цудатворная наша. Молім Цябе: уступіся за нашу Беларусь.**

**Сьвятая Маці Менскага Абраза! Заступніца нашае Сталіцы. Молімся да Цябе: пашлі малітву да Бога за Беларусь.**

**Сьвятая Еўфрасіньня Полацкая. Асьветніца нашага народу. Молімся да Цябе: маліся за Беларусь.**

**Сьвяты Кірыла Тураўскі. Япіскап і Красамоўца. Молім Цябе: маліся за Беларусь.**

**Сьвяты Апанас Ігумен Брэсцкі. Мучанік за веру. Молім Цябе: маліся за Беларусь.**

**Усе Сьвятыя Апякуны Беларусі. Молімся да Вас: маліцеся за Беларусь.**

**Божа Усемагутны! Праз нашу веру стагодзьдзямі ў Вольную Бацькаўшчыну. Молім Цябе: скараці нашае чаканьне.**

**Ісусе Добры. Праз нашу надзею, што будзем мець вольную і незалежную. Молім Цябе: дай Яе нам сягоньня.**

**Духу Сьвяты ў Тройцы Адзінай і Непадзельнай! Праз нашу гарачую да Бацькаўшчыны любоў. Зьвярні нас з чужыны ў родныя і вольныя межы дамоў.**

**Станься.**

**Красавік 1947**

### **Асеньні пэйзаж**

**Між хмар гусей у небе клін**
**пад крык шляхі сабе штурмуе.**
**Паджары стог стаіць адзін --**
**пусты абшар вакол вартуе.**

**Ў палоне сумнай пекнаты**
**застыў асілак -- лес суровы.**
**Сланэчнік ў полі залаты**
**спусьціў дасьпелыя галовы.**

**Магутны сонца жар прыгас,**
**цяплом ня сыпле неба просінь.**
**Жыцьця і сьмерці ўжо абраз**
**сваім мазком малюе восень.**

**1946**

### **Валтава**

**Шуміць... пеніцца... пнецца...**
**Рэжацца ў бераг, грукоча,**
**З абоймаў цьвярдых, здаецца,**
**На волю вырвацца хоча.**
**З хваляў наступ збудуе,**
**Ударыць, як бомбай, у сьцены...**
**Закруціўшы вірам, прабуе**
**Сілы набраць, белая ад пены.**
**У легендах сівая, як вочы**
**Дзяўчат, як казка, як ява...**
**Заўжды маладая. Удзень і ўночы**

Ўсьцяж у змаганьні Валтава.

1944

**Вясна**

Таўстыя, тонкія, як клічнікі, вісяць
Ураньні ільдзінкі радамі із стрэх.
Вясна прыйшла. Зганяець сьнег.
На лузе чорныя праталіны відаць.

І дружна у поўдзень дня раўчкі бурляць,
Чуцён зь сяла дзяцей вясёлы сьмех,
Курэй кудахтаньне, сабачы брэх,
І дзесь між хмар увечары гусіны крык чуваць.

Прыйшла яна. А мы ўглядаемся далей...
Ня нам яе краса. Ня цешымся мы ёй.
З клумкамі на прыстані, нам няпрыкметны яе
крык.

Мы ў чужыне, як Посьнік Макавей.
Чакаем мы вясны. Другой вясны сваёй,
Што нам надаў Магутны Сакавік.

1948

**Да берагоў зямлі неабяцанай**

**Фрагмэнты**

* * *

Яшчэ губляецца ў вятрох
адна вясна, пражыта ў горы.
У незнань еду праз прасторы,
зьбіраю думы па шляхох.
З туляцкіх дзён, чужых краёў
гляджу на прышлае з трывогай.
О, колькі гэтаю дарогай
назад ня вернецца ізноў?
О, колькі больш ужо ня ўбачаць
ні тых шляхоў, ані краіны...
Вагон адстуквае часіны,

**асеньнім дожджам шыбы плачуць.**

*** * ***

**Сыгналы, гудкі прагулі.**
**Штурвальны накрэсьліў -- Вэст-Норд.**
**Пакідаем гасьцінны порт**
**чужой няўтульнай зямлі.**
**Рушыў параплаў і за сабой**
**пенай пазначыў сьляды.**
**І чайкі, як усплыўшы з вады,**
**над мачтамі абнялі канвой.**
**Далёкі, няведамы шлях,**
**чужыя вакол маракі...**
**І ўзмах не аднае рукі**
**крыж палажыў на грудзях.**

*** * ***

**Дзесяць ужо дзён, узяўшы ў апеку,**
**нясе акіян на хвалі бліскучай**
**у чужую краіну, ад зоркі пякучай,**
**пільгрымаў дваццатага веку.**
**І шмат іх тут ёсьць. З розных краёў,**
**расаў, народаў і з рознаю мовай.**
**Тут група палякаў з-пад Вільянова,**
**харватаў, славакаў. Там балты**
**расьселіся колам. Побач палтавец**
**з слаўнай у багацьці Ўкрайны,**
**прысеўшы на лаве былога, успаміны**
**дзеліць з старым беларусам.**

**-- Было-б у нас удоваль хлеба і солі,**
**каб кажны сабе быў сам гаспадар.**
**Сабраўшы на полі ўвосень свой дар,**
**на лёс не пакрыўдзіўся-б брат наш ніколі.**
**Здалёку чуваць было-б наша сяло...**
**У рост чалавека бывае пшаніца.**
**Нельга сказаць, родзіць зямліца.**
**Галодных гадоў-бы ў нас ня было!**
**Сяньня расейцы гандлююць пшаніцай.**
**Мы-ж, торбы ўзяўшы, сыны Украіны,**
**ідзём жабракамі ў чужыя краіны.**
**Так, так. Завалодаў зямлёй чужаніца.**

**-- Да нас дабягала зямлі вашай слава,**

**і нават прыказка такая была:**
**«Зрадзіла пшаніца, як на Украіне».**
**Далёка-б слыла**
**і наша краіна! Мяса і сала**
**мы ўдоваль-бы мелі. Жыта родзіць добра**
**ў нас,**
**восеньню мёду ўсяго-бы ня зьелі...**
**У сьвірне заўсёды каўбасы-б віселі.**
**Ну што гаварыць: ў стары даўні час**
**лясы нашу славу далёка нясьлі --**
**далёка за мора.**
**Сяньня чужыя лічаць чырвонцы**
**за нашы лясы. Мы ў горы бясконцым**
**у чужыя краіны ў выгнаньне пайшлі.**

**-- І што назаўсёды? -- Ніколі!**
**Мы прыйдзем з чужыны, і на ўласнай**
**зямлі**
**будзем гаспадарыць!**
**Сырэны гулі,**
**і мачты стагналі ад цяжкае долі**
**(мо’ з Белавескае Пушчы былі?).**
**Дрыжэў параплаў і рашуча цяў хвалі,**
**якія, здаецца, пільгрымам казалі:**
**-- На нашых хрыбтох не адны так плылі**
**і вярталіся ўноў у край свой стары,**
**як раньняй вясной вятры загудзелі.**
**Дзесь чайкі ў паветры зларэчна крычэлі:**
**«Да пары... да пары... да пары...».**

**Уноў вырастаюць з вады ліхтары,**
**ветразі караблёў, рыбацкія лодкі...**
**І калі супакояцца хваляў дрыготкі,**
**за перавалам вадзянай гары**
**ўмерна-лагоднага Зюйд-Вест павароту,**
**направа ў аддалях блакіту бязьмежжа,**
**марака з Гэнуі -- Яна Кабота --**
**зямлі заімчэлі пустыя ўзьбярэжжы.**
**А подыхі ветру нязнаным прывет**
**гурбою нясьлі зь Зямлі Неабяцанай.**
**Мы, скінуўшы шапкі, пашану пашанай**
**аддалі зямлі і тым,**
**хто адкрыў Новы Сьвет.**

**Узмоцнілі чайкі дарожны канвой;**
**з хваляў сваіх на воды Лаўрэнта**
**нас зьвярнуў акіян. І няпэўнасьць**
**дашчэнту**
**ў нябыт уцякла. Мы прад сабой**
**убачылі край, нам дагэтуль нязнаны.**
**Цудоўны, багаты і вольны...**
**Вітаў нас прыязна народ навакольны.**
**Патомкі Кабота, Картэра, Магіканы**
**з падзівам глядзелі на ўцёкшых ад зьдзеку**
**старых і жанок і між сабой паўтаралі**
**’шчэ доўга... І цягнікі нас забралі,**
**пільгрымаў дваццатага веку.**

**25 травеня -- 17 кастрычніка 1949,**
**Брэмэн-Квэбэк-Вініпэг**

**Заўвагі аўтара:**

**Зямля Яна Кабота -- Ньюфаўндлэнд, адна з 10 правінцыяў Канады.**

**Воды Лаўрэнта -- рака Сьвятога Лаўрэна, адна з найбольшых рэкаў Канады, што ўпадае ў Атлантыцкі акіян.**

**Ян Кабот, марак з Гэнуі, які, шукаючы шляхоў да Ўсходняе Індыі, адкрыў узьбярэжжа сучаснай Канады.**

**Джэк Картэр, брэтонскі марак, які ў 1534 г. аднавіў адкрыцьцё Яна Кабота і заплыў ракой Сьвятога Лаўрэна аж да месца, дзе сёньня стаіць Манрэаль.**

## Дождж

**З-за лесу чорнай дождж напоўз дзяругай,**
**заслалі хмары неба ўвесь блакіт,**
**маланкі зазіхцелі скрозь зэніт,**
**і гром заляскаў пяруновай пугай.**

**Брыжы сярэбранай спусьціўшы смугай,**
**лінулі хмары ў глебу даляміт.**
**Вадой паілі скібы ссохлых пліт,**
**што плуг узьняў з надзеяй і натугай.**

**Сасьмягла траў зяленіва, зьлягло,**
**у жніўні лісьцем сыпала гальлё --**

**краіну цяжкая найшла пасуха.**

**І вось -- і зноў задыхала зямля,**
**ля абразоў узьняўся шэпт-хвала,**
**а дождж ўсё біў і біў у стрэхі глуха.**

*** * ***

**Надходзіў дождж. Чорнай дзяругай**
**хмары пакрылі неба блакіт.**
**Зазіхацела маланка, асьвяціўшы зэніт,**
**і ляснуў пярун вогненай пугай.**

**Спусьціўшы брыжы, срэбнай смугай**
**кроплі палі на зямлю-даляміт.**
**На чэрствую ральлю, на скібы пліт,**
**што безнадзейна ляжалі, узараныя з натугай.**

**Падсьмерце: прырода траціла жыцьцё.**
**У жніўні дрэвы скінулі лісьцё --**
**краіну цяжкая наведала пасуха.**

**Прагавіта вохкасьць піло поле ў грудзі.**
**Ля абразоў шапталі нешта людзі...**
**А дождж ішоў і біў у стрэхі глуха.**

**1947**

## Зіма

**Ты сяньня бельлю поле ўслала.**
**І тут ты ў госьці к нам прыйшла.**
**Быў час калісь, я там, бывала,**
**сустракаў цябе, зіма...**

**А сяньня як, Дачка Паўночы,**
**скажы, сустрэлі цябе там?**
**Мае ня цешыла ты вочы --**
**у госьцях сяньня я і сам.**

**Скажы, прызнайся хоць паэту,**
**што там сустрэла на шляху?**
**Ці хату сьветлую сагрэту,**

**ці спапялелую страху?**

**Ці матак выплаканы вочы,**
**шляхі зьмяраючых у стократ?**
**ці шлях апошні сярод ночы**
**пад штыхом чужых салдат?**

**Ці вёску, п'яную ад брагі,**
**ці папялішч сівых курган?**
**Ці твары, поўныя адвагі,**
**у беларускіх партызан?**

**Скажы, пытаю гэтак шчыра,**
**дай інтэрв'ю зь іх там жыцьця!**
**Маўчыш, халодная, нат' ліра**
**ў табе ня збудзіць пачуцьця.**

## Не «сымпатычны»

**За тонкімі дошкамі барачнай сьцяны,**
**у імгле накуранага дыму,**
**на сумную ноту прыгожага Крыму**
**песьню заводзіў голас п'яны.**

**За аджыты час узносілі кілішкі,**
**сусед спраўляў гучныя імяніны.**
**Плялі анэкдоты, плёткі, кпіны...**
**Хвалілі й ганілі прачытаныя кніжкі.**

**Самагонны хмель дум парыў**
**вышэй усё нёс у сьвет шырокі.**
**Я-ж за сьцяной сядзеў, самотны, адзінокі,**
**што ў іх «сымпатыкам» ня быў.**

## З табой

**З табой нас ніхто і нішто не разлучыць,**
**цябе прыраклі мы да сьмерці кахаць.**
**Хай бура бушуе, хай град б'е калючы, --**
**за лёс твой мы будзем змагацца, ўміраць.**

**О Маці! Твае мы сыны -- адраджэнцы,**
**паўсталі мы раны твае загаіць,**
**табе мы ў ахвяру нясём свае сэрцы,**
**з табой мы жадаем памерці ці жыць.**

**Ня страшыць нас бура, празь сілу змаганьне,**
**ня страшыць агонь, што наўкола гарыць.**
**Мы веры аднэй, аднаго пракананьня,**
**што мы мо' і згінем, ды ты будзеш жыць.**

**З табой нас ніхто і нішто не разлучыць,**
**цябе прыраклі мы да сьмерці кахаць.**
**Хай бура бушуе, хай град б'е калючы, --**
**за лёс твой мы будзем змагацца, ўміраць.**

## Крывавы клічнік

**Хвалююць кроў. Крычаць: «Хутчэй сьпяшы.**
**Тут працы шмат. Каторая**
**Радзіму узмацніць. Што хворая**
**ад ран сьцякла; расьпята на крыжы».**

**Прабяжыць між дум бераг роднай Усы,**
**сасновы бор, бярозаў шнур, лагоднае ўзгор'е.**
**Здасца, кануў дрэнны час... Толькі гісторыя**
**пражытага засела глыбака ў душы.**

**Жуткі стогн замучаных з магілы,**
**салёны пах сьвежай крыві нямілы**
**з нажа павіс у паветры, нібы клічнік.**

**Навошта крык дарэмна пружыць жылы?**
**Каб ўзьняўшы нож, набраўшы сілы,**
**захварбаваць 'шчэ больш Кастрычнік.**

**1947**

## Мая малітва

**Сьвітала.**
**Золак блакітна-сіні**
**ноч перамог.**
**Радзіўся дзень...**

**Званы званілі,**
**а ўздоўж дарог**
**крочылі вернікі ў сьвятыні...**
**І я ішоў,**
**зь бясчуцьцем ног,**
**дарогай змучаны далёкай,**
**каб разам быць,**
**дзе быў і Бог.**
**Калі сьвятар ў цішы глыбокай,**
**усхваляваны аж да сьлёз,**
**вітаў Народ, --**
**Хрыстос Уваскрос.**
**Хрыстос Уваскрос!**
**Я на калені паў, з пакорай**
**маліў Уваскросшага: спасі**
**няшчасны мой Народ ад гора...**
**І Беларусь нам Уваскрасі.**

## Медны коньнік XX веку

### I

**На скрыжаваньні гучных вуліц,**
**у цяні мадэрнейшых рэклям,**
**скалёсіўшы зямлі паўкулі,**
**здаўшы ў багаж стары каптан,**
**ў разанскай вышытай кашулі**
**гуляў сусед мой, брат з славян --**
**палітык дня, дансінгаў франт,**
**гадоў сучасных эмігрант.**

### II

**Віно цякло, бурліла ў чары.**
**У знак сустрэчы быў банкет.**
**І каб прыкрыць старыя мары**
**і заімгліць імглісты сьвет,**

**к сабе паклікаўшы ахвяры,**
**як казачнік-хадыка-дзед,**
**казаў мадэрну песьню-казку:**
**«Мы самі, бач, дадзём разьвязку...».**

**III**

**«Няма пытаньня на Ўсходзе.**
**І цень драпежнага Крамля**
**ня зломіць сілы ў народзе,**
**што разгарыцца аднога дня.**
**Народ паўстане, скажа: "Годзе!",**
**і з путаў зволньніцца зямля.**
**Зьмятуць чырвонага цара,**
**як сьмецьце восеньню з двара...».**

**ІВ**

**Піяў і цешыўся, што туга**
**пятнаццаць упрэжана ў ярмо.**
**Грубыя путы і тоўстая пуга**
**з дратоў ізьвітая. Дармо!**
**І сёньня хоць другога «друга»,**
**а конь Пятроў імчыць даўно.**
**Пляны ажылі і зрэалізаваны.**
**«Вступил уж Всадник» на Балканы.**

**В**

**І ўзьнёс капыт падкуты стальлю.**
**Гатоў спусьціць як на кілім,**
**на слаўны Парыж, ў сонца хвалях,**
**І на сівы над Тыбрам Рым,**
**І за Ла-Манш ў імглістай далі --**
**на Лондан з гербам залатым.**
**Згнясьці, што людскасьць натварыла,**
**каб больш ня ўстала, не ажыла.**

**ВІ**

**За акіян, за сіні хвалі,**
**туды, дзе першым быў Калюмб,**
**яго маячуць вочы з сталі.**
**Заданьне ёсьць стварыць там глум**
**над сымбалем, што даравалі**
**народы ім, -- як зноў самум,--**
**што ў іх стаіць даўгія годы**
**пад імем Помніка Свабоды.**

## ВII

Ён зьліў старую думку з новай
у чары срэбнай Чынгіс-Хана.
Й штодзень ужо даўно гатовы
для «рэвалюцый» -- рукой тырана
іх ўсе гуманныя галовы
адцяць, як у Прадцечы Яна.
..........................................
..........................................

## ВIII

«Стоит уж Всадник» на Балканах.
Ў вачах яму маячыць Рым,
Парыж бурлівы, як на экране,
з Барталамея ноччу ў ім...
А ў ценях моднае рэклямы
пяець сусед мой, славянін,
на новы лад старую казку,
што «Самі мы дадзём разьвязку».

1949

## Мы сьведчыць будзем!

Мы з захаду прыйдзем,
пайшоўшыя ўчора...
І тыя зьбяруцца
з халоднай паўночы...
Нас ніхто ня стрымае:
ніякае мора,
ні горы, пустыні,
ні цемрадзі ночы!

На суд прынясём мы
збалелыя раны...
Няхай на іх глянуць
ўчарашнія каты.
І судзьдзі хай глянуць,
каб нашых тыранаў

**за зьдзекі і крыўды**
**ня крыўдзіць адплатай.**

**Сабраўшыся там**
**ў дзень Ушэсьця Народу,**
**у сьветлы дзень, вольны,**
**як роўныя людзі,**
**высока ўзьняўшы**
**сьцягі за Свабоду,**
**на судзе ўгнятальнікаў**
**сьведчыць мы будзем!**

## Няма таго, што сэрцу трэба...

**Імчыць цягнік, журчыць калёсьсе**
**хутчэй, хутчэй, нібы хто гнаў.**
**Гляджу ў вакно -- няма Залесься,**
**дзе я так часта праязджаў.**

**Няма прыгожай з дрэва хаты,**
**на супачынак сеўшай у сад.**
**Тут сад другі і небагаты,**
**І хаты з цэглай селі ў рад.**

**Няма дубоў і ёлак ў неба,**
**бабуляў-ліп, красунь-бяроз.**
**Няма таго, што сэрцу трэба,**
**што я любіў, калі падрос.**

**Няма Вялейшчыны каханай,**
**дзе хвоі засьцяць неба край,**
**няма Вяльлі пасерабранай --**
**ляніва тут цячэ Дунай.**

**1946**

## Ня плач прад чужымі

**Калі лёсам мо' з роднага дому**
**ты будзеш загнаны к чужым,**
**хоць цяжка мо' й будзець самому,**
**жалем сэрца ня ўзрушыш ты ім.**

**Ня плач прад чужымі, ня ўзрушаць іх сьлёзы,**
**ракой каб прыйшлося іх ліць.**
**Халодны іх сэрцы, як лёд, як марозы,**
**братэрства іх плачам табе не здабыць.**

**Калі з роднага дому лёсам ты ўчора**
**застаўся аддадзен чужынцу служыць,**
**ня плач і ня жалься, хоць сэрца гавора:**
**зашмат маеш крыўды, зашмат маеш гора.**
**Ім гора тваё нат' зусім не баліць.**

**1945**

## Паміж пахучых руж

***Прысьвячаецца***
***Аленцы Яцэвіч***

**Паміж пахучых руж,**
**прыгожых і чароўных,**
**паміж тульпанаў, зьвязаных у пучкі,**
**на рынку ў кошах поўных**
**ляжалі сьціпла васількі.**
**З расой сабраныя у полі,**
**яны між руж блішчэлі,**
**нібы тыя зоркі,**
**калі я іх купляў.**
**Мо' яшчэ ніколі**
**купца такога**
**ня было ў вугоркі,**
**які-б пакінуў ружы і тульпаны,**
**купіўшы васількоў --**
**палёў нязнаных кветак.**
**Хоць быў чужы я,**
**усё-ж спытала,**
**дзе яны растуць прыгожа гэтак?**
**Вось ружы і тульпаны!**
**Падарак больш шыкоўны!**
**О не! Такія ёсьць у нас...**
**Нам васількі куды мілей**
**ад усялякіх руж чароўных.**
**Маўчала...**

**Ёй родны край свой,
як сыну Беларусі -- васількі,
у сэрцы адазваўся.
Перад вачмі яе бліснулі
вінаграднікаў узгоркі,
юнацтва шлях прабег, нібы ў сьне.**

**І хвалявала ўсё
душу вугоркі,
як васількі -- мяне.**

**1947**

### Прывід

**Стол. І прада мной у рамцы вузенькай -- партрэт,
зроблены магутнай мастака рукой.
Наўкось падае зь сьвечкі сьвет...
Я гляджу... І на мяне герой,
лагодны з твару, у сьвітку адзет,
глядзіць адважнымі вачыма.
І ў момант чую шорах... Шэпт...
Лёгкі вецер за плячыма...
Згас агонь. І толькі сьвет
з другіх дамоў ці мо', магчыма,
зь Ягонай постаці, што стаў
жывы, як волат прада мною.
Сьвяціў.
Чуў мову я, жывую, з слоў:
«Я Тэстамэнт з-пад шыбеніцы
табе пісаў, нашчадак мой,
ты піў усё зь яго крыніцы --
ў няроўны часта рваўся бой,
каб у барацьбе свае граніцы,
з чужымі за круглы сеўшы стол,
мог выткнуць сам. Каб гаспадар
сваёй быў хаце, і па дазвол
ня йшоў к чужым. Шмат ахвяр
ты ўзьнёс Радзіме на алтар.
Ідзі далей! Ня страшна гора.
Не адну аджылі вы пару
ясьней сягоньня, як учора.**

**Пазналі ўсюды Беларусь,**
**вамі занесеную за мора.**
**І ў гэты край чужы, ў выгнаньне**
**сягоньня тут прыйшоў сказаці,**
**што прыйдзе час, ўжо йдзе, настане...**
**Зь няволі выйдзе -- Радзіма-Маці.**
**Тут буду вас я адвядаць**
**і павяду, як вёў, ў паўстаньне».**

**1947**

### Санэт

**У цяжкія дні мінуўшых часоў,**
**як на край наш спадала варожая сіла,**
**зьяўляўся ў нас легендарны Вашчыла,**
**каб весьці за волю ў змаганьне братоў.**

**Бясьсьмертны Кастусь Каліноўскі ўставаў --**
**ў паўстаньне вёў... Пакуль сілы хапіла...**
**Маці Случанка Сьцяг падарыла**
**і на жорсткую бітву паслала Сыноў.**

**Дамоклаў меч нат' каб зьвіс над табой,**
**сягоньня кроч уперад цьвёрдай ступой,**
**калі вораг Радзіме тваёй суліць скон.**

**Напружыўшы сілы, зь верай сьвятой**
**за Волю Народу бясстрашна йдзі ў бой.**
**Мы толькі ў змаганьні дажджом сьветлых дзён.**

**1948**

### Сваю сабе збудуем хату

**Няхай «фанатыкі» мы будзем,**
**пракляты вамі назаўсёды...**
**Таго, што маюць усе народы,**
**няхай мы тут і не здабудзем.**

**Але да мэт сваіх пайдзем,**
**хаця-б патроіць трэба страты,**
**і сьцяг, што прадзедамі ўзьняты,**

**за Незалежнасьць панясем.**

**Мы не бяром Маскву, Варшаву,**
**ня трэба нам Сыбір бязьмежны --**
**за вольны край і незалежны,**
**мы за сваю ідзём дзяржаву.**

**Няхай «фанатыкі» мы будзем...**
**Хаця-б патроіць трэба страты, --**
**што ўчора страцілі, здабудзем,**
**сваю сабе збудуем хату.**

## Сьвятых -- Сьвятым

**Усяк цябе звалі.**
**Ты мне -- Беларусь.**
**Ты зносіць умела...**
**Прыняла, як шукалі**
**прытулку.**
**Цела**
**і жыцьцё заладзіла.**
**Міцкевічу была Літвой,**
**Глінку і другім -- Русьсю,**
**Манюшку, натхнёнаму Табой,**
**Ты была ўсім.**
**Пілсудскі на Тваім**
**гасьцінным полі**
**абвясьціў:**
**«За нашу і вашу волю!».**
**Хто не гасьціў?..**
**Пасьля хто не маліўся**
**зямлі Міцкевіча?..**
**Той, хто ня жыў.**
**Міцкевічу была Літвой.**
**Глінку -- Русьсю. Другім --**
**карчмой.**
**А мне Ты чым,**
**як я --**
**сын Твой?**
**Чым?**
**Мне над усё --**
**Сьвятых -- Сьвятым!**

**Ты, мая Беларусь**

**Надаела жыцьцё --**
**працы шэрай мазоль --**
**без цаны, як сьмяцьцё,**
**як асеньняя золь.**
**І даўно-б мо’ ня жыў,**
**сам-бы скончыў з сабой,**
**каб цябе ня любіў**
**усім сэрцам, душой,**
**каб ня верыў таму,**
**што з чужыны зьвярнусь**
**хоць на мгненьне к Табе,**
**Ты, мая Беларусь.**

**1944, Рэдлі**

**Ці-ж мне ня даў нічога Бог?**

**Каму радня, свая ёсьць хата,**
**свой Родны Кут, дзедаў парог...**
**Каму другому ліст ад брата...**
**А мне ня даў нічога Бог.**

**Аднак я мужна ўперад крочу**
**праз свой цьвярды за волю шлях,**
**хоць я жабрак, і сёньня ноччу**
**над галавой чужы мне дах.**
**Камусь другому мая хата,**
**мой Родны Кут, дзедаў парог...**
**Ня прыйдзе ліст ка мне ад брата...**
**Ці-ж мне ня даў нічога Бог?**

**1946**

**Чыя?**

***Убит поэт, невольник***
***чести,***
***пал, оклеветанный молвой.***
***М. Ю. Лермонтов***

**Дзераўляная сцэна**
**і абраз...**

генія,
з духам вялікім.
Глядзіць задумана паэт
і слухаець
уласны твор,
чытаны дэкляматарам,
шматлікім
народам і клясам.
І як Манблан, між гор
ні сьцёрты
завірухай,
ні часам,
кідаець ім
сказ грозны, урачысты,
балючы і пануры.
Чыім вы хваліцеся сёньня творам
у дзень сваёй культуры,
расейскія манархісты?
Пушкіна??..
А чыя кроў
пляміла рукі
і лягла пятном
на вас і вашых дзядоў?
Як з братам брат

Хоць нашы дні, юнацтва годы
кавыліць, рвець жыцьця зыгзаг,
заместа радасьці заўсёды
у церні наш прыбраны шлях.

Хоць ліхадзей, сусед-нягоднік,
зярнём няпраўды нас карміў,
быццам-бы Ты мне быў «Усходнік»,
а я «Заходнік» Табе быў.

Нас не зламаў падшэпт, ні гора,
ні дрот мяжы, чужымі ўзьнят.
З Табой сустрэўся я ўчора,
як свой з сваім, як з братам брат.

* * *

*Полі Н.*

**... «Як пішаш?.. Вершаў мне прышлі,**
**я іх з ахвотай прачытаю».**
**Так пішаш мне. Я іх пішу,**
**але ў стол усе хаваю.**

**Іх зьмест суровы, як жыцьцё,**
**як у бойцы бровы генэрала.**
**Навошта слаць усё тое, што**
**Вам больш-бы сьлёз ’шчэ дадавала.**

**Бяз вершаў маеце іх досьць.**
**Навошта візыя ўспамінаў?**
**Ўсё адплыло, як маладосьць,**
**як ў сьне чароўны ўзор кіліма.**

**Хоць пішаш: «Вершаў мне прышлі...»,**
**(злавацца будзеш, гэта знаю),**
**я, як пісаў, так і пішу,**
**але у стол усе хаваю.**

**1948**

**ВІТАНЬНІ**

**Вам шлю прывітаньне**

**Жылі мы ў згодзе, жылі ў нязгодзе,**
**калі на радзіме тварылі сваёй.**
**А сяньня ў выгнаньні, ў чужым мы народзе,**
**на ласцы, няласцы і долі адной.**

**Пацісьнем далоні ў дарозе на згоду,**
**як роўныя з роўнымі, як змагары!**
**Настроіўшы ліры, праз буру, пагоду**
**супольна пайдзема да яснай зары.**

**Вітайце, каханыя, вітаю вас сяньня**
**у нашай за прышласьць дарозе цьвярдой.**
**Прыймеце, прыймеце й маё прывітаньне,**
**ад сэрца Вам шлець Беларус за мяжой.**

**1946**

**Дзень урадзінаў**

**Я маю сяньня дзень радзін.
Трыццаты год мінае сяньня...
Ў дарозе я. Я сам адзін.
Дзялю няшчасны лёс выгнаньня.**

**А там, на родных мне палёх,
чужынец сьлёзы гора сее.
Ляжаць палеткі ў дзірванох,
раджайных ніў загон ня сьпее.**

**Зларэчна крумкае крумкач
над папялішчам майго Дому,
заводзіць Маці ціхі плач,
і нат' суняць няма нікому...**

**Ў чужых праходзіць дзень радзін.
Учынкі лепшага злічаю
і верш пішу на успамін,
каб адчытаць калісь для Краю.**

**9 красавіка 1947**

## БІБЛІЯГРАФІЯ
## ТВОРАЎ МІКОЛЫ ВЯРБЫ

### ПОДПІСЫ. ПСЭЎДАНІМЫ. КРЫПТАНІМЫ

**Мікола Вярба**
**Мікола Сільвановіч**
**М. В.**
**М.С.**

**Уключаныя ў бібліяграфію творы і выданьні апісаныя de visu.**

---

**Асеньні пэйзаж** («Між хмар гусей у небе клін...»). Рукапіс (Архіў Юркі Віцьбіча. Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага). Надрукавана: «Бацькаўшчына», !46-47 (177-178), 29 лістапада 1953.

**Беларусь у Задзіночаных Нацыях.** Надрукавана: «Беларус», !4 (28), 21 лютага 1953.

**Бібліяграфія.** Надрукавана: «Беларускі Эмігрант», !3 (36), 1951.

**Валтава** («Шуміць... пеніцца... пнецца...). Надрукавана: «Шыпшына», !6, 1948, б. 8.

**Вам шлю прывітаньне** («Жылі мы ў згодзе, жылі ў нязгодзе...»). Гл. **Вітаньні.**

**Вітаньні.** Нізка вершаў: 1. **Вам шлю прывітаньне** («Жылі мы ў згодзе, жылі ў нязгодзе...»); 2. **Дзень урадзінаў** («Я маю сяньня дзень радзін...»). Надрукавана: «Сакавік», !1(2), 1948, б. 23.

**Вясна** («Таўстыя, тонкія, як клічнікі, вісяць...»). Надрукавана: «Шыпшына», !7, 1948, б. 13.

**Гэта магчыма толькі ў Савецкай Беларусі.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !30 (312), 22 ліпеня 1956.

**Да берагоў зямлі не абяцанай. Фрагмэнты.** Рукапіс (Архіў Юркі Віцьбіча. Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага). Надрукавана: «Шыпшына», !9, 1950, б. 23-25.

Фрагмэнт першы пад назвай **Праз прасторы** («Яшчэ губляецца ў вятрох...»): Рукапіс (Архіў Юркі Віцьбіча. Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага).

Фрагмэнт другі пад назвай **Паплыў параплаў** («Сыгналы, гудкі прагулі...»): Рукапіс (Архіў Юркі Віцьбіча. Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага). Бяз назвы надрукавана: «Беларускае Слова», !10 (11), 12 кастрычніка 1949; «Шыпшына», !9, 1950, б. 23; «Бацькаўшчына», !46-47 (177-178), 29 лістапада 1953.

**Да 35 угодкаў заснаваньня Беларускай Цэнтральнай Вайсковай Рады** (З гісторыі беларускай вайсковасьці ў часе беларускай нацыянал-дэмакратычнай рэвалюцыі. 31. 10. -- 6. 11. 1917). Надрукавана: «Беларус», !15 (21), 15 лістапада 1952.

**25-га сакавіка ў іншых асяродках беларускай эміграцыі... У Вініпэгу (Канада).** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !15-16 (94-95), Вялікдзень 1952.

**Два юнацтвы.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !14 (348), 7 красавіка 1957.

**Дзень урадзінаў** («Я маю сяньня дзень радзін...»). Гл. **Вітаньне.**

**Дождж** («З-за лесу чорнай дождж напоўз дзяругай...»). Рукапіс (Архіў Юркі Віцьбіча. Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага).

**Дождж** («Надходзіў дождж. Чорнай дзяругай...»). Надрукавана: «Шыпшына», !6, 1948, б. 8.

**Жменька фактаў... (Яшчэ аб «роўнасьці» народаў СССР).** Надрукавана: «Беларус», !12 (36), 15 чэрвеня 1953.

**Зіма** («Ты сяньня бельлю поле ўслала...»). Рукапіс (Архіў Юркі Віцьбіча. Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага).

**Змаганьне за думку народу.** Надрукавана: «Беларус», !16 (40), 15 жнівеня 1953.

**З табой** («З табой нас ніхто і нішто не разлучыць...). Надрукавана: «Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі», !5, 1947, б. 17; «Аб'яднаньне», !24, 1950.

**Зьбірайма й мы!** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !4 (7), 15 лютага 1948. Подпіс Мікола Сільвановіч, ініцыятар Замежнага Саюзу Беларускіх Філатэлістых.

**Крывавы клічнік** («Хвалююць кроў. Крычаць: "Хутчэй спяшы"...»). Надрукавана: «Шыпшына», !7, 1948, б. 12.

**Лісіная шапка** (Навэля). Надрукавана: «Віці», !5, сьнежань 1953-студзень 1954, б. 33-34.

**Ліст да скаўтаў.** Надрукавана: Скаўцкі Бюлетэнь Штандару «Гарц». Орган беларускіх скаўтаў ангельскай зоны, !5-6, 30 чэрвеня 1948, б. 2-3.

**Малітва Беларускіх ДПі.** Рукапіс (Архіў Юркі Віцьбіча. Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага).

**Маўрыцы Гіндус і Панцеляймон Панамарэнка.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !26-27 (208-209), 18 ліпеня 1954.

**Мая малітва** («Сьвітала. Золак блакітна-сіні...»). Надрукавана: «Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі», !8, 1947, б. 9.

**Медны коньнік XX веку** («На скрыжаваньні гучных вуліц...»). Рукапіс (Архіў Юркі Віцьбіча. Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага).

**Моцныя духам.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !23 (357), 9 чэрвеня 1957.

**Мы сьведчыць будзем!** («Мы з захаду прыйдзем...»). Рукапіс (Архіў Юркі Віцьбіча. Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага).

**Нацыянальная дыскрымінацыя ў СССР.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !42 (224), 14 лістапада 1954.

**Не «сымпатычны»** («За тонкімі дошкамі барачнай сьцяны...»). Рукапіс (Архіў Юркі Віцьбіча. Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага).

«**Няма ні старэйшых, ні малодшых»** (Аб так званай «роўнасьці» народаў Савецкага Саюзу). Надрукавана: «Беларус», !11 (35), 1 чэрвеня 1953.

**Няма таго, што сэрцу трэба...** («Імчыць цягнік, журчыць калесьсе..»). Надрукавана: «Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі», !6, 1947, б. 15.

**Ня плач прад чужымі** («Калі лёсам мо' з роднага дому...»). Надрукавана: «Шыпшына», !4, 1947, б. 27.

**Пад ціскам буржуазнага нацыяналізму** (Справа прыняцьця Беларусі і Ўкраіны ў ЗН у сьвятле фактаў). Надрукавана: «Беларус», !15 (39), 1 жніўня 1953.

**Паміж пахучых руж («**Паміж пахучых руж...»). Надрукавана: «Шыпшына», !5, 1947, б. 39-40.

**Паніхіда. Памяці паўшых нязнаных Сыноў Беларусі ў абароне Яе Вольнасьці.** Рукапіс (Архіў Юркі Віцьбіча. Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага). Надрукавана: Юрка Віцьбіч. Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі. Нью-Ёрк, 1996, б. 1-5.

**Перавярнулі Барона Мільтаўзана.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !51-52 (281-282), Каталіцкія Каляды 1955.

**Першае Дзяржаўнае выдавецтва БССР русыфікуе.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !35-36 (317-318), 2 верасьня 1956.

**Пісьмо ў рэдакцыю.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !43-44 (225-226), 28 лістапада 1954.

**Праз прасторы** («Яшчэ губляецца ў вятрох...»). Гл. **Да берагоў зямлі не абяцанай.** Фрагмэнт першы. Рукапіс (Архіў Юркі Віцьбіча. Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага).

**Праз шчэліны зялезнае заслоны** (Артыкул). Надрукавана: «Бацькаўшчына», !7 (237), 13 лютага 1955; !11(241), 13 сакавіка 1955; 26(256), 26 чэрвеня 1955.

**Промень будучыні ці сутункі сучаснасьці?** Надрукавана: «Беларус», !4 (28), 21 лютага 1953.

**Прывід** («Стол. І прада мной у рамцы вузенькай -- партрэт...»). Надрукавана: «Шыпшына», !6, 1948, б. 8-9.

**Прыклад яскравае дыскрымінацыі.** Надрукавана: «Беларус», !14(38), 15 ліпеня 1953.

**Пытаньне, якому трэба больш увагі.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !7 (341), 17 лютага 1957.

**Рэгабілітацыя ці рух да рэгабілітацыі?** Сакавіковыя сьвяткаваньні ў вольным сьвеце. Надрукавана: «Бацькаўшчына», !18 (248), 1 травеня 1955. Подпіс М. В.

**Савецкая амністыя ў тэорыі і на практыцы.** Надрукавана: «Беларус», !8 (32), 18 красавіка 1953.

**Санэт** («У цяжкія дні мінуўшых часоў...»). Надрукавана: «Шыпшына», !7, 1948, б. 13.

**Сваю сабе збудуем хату** («Няхай "фанатыкі" мы будзем...»). Надрукавана: «Бацькаўшчына», !13 (16), 25 красавіка 1948.

**Спадчына Янкі Купалы ў савецкім выданьні.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», 14 (244), 3 красавіка 1955.

**«Сыгналы, гудкі прагулі...».** Гл. **Да берагоў зямлі не абяцанай.**

**Сьвяткаваньні сакавіковых урачыстасьцей.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !17 (351), 28 красавіка 1957. Подпіс М. С.

**Сьвятых -- Сьвятым** («Усяк цябе звалі, -- Ты мне -- Беларусь...»). Надрукавана: «Шыпшына», !2, 1946, б. 25.

**Ты мая, Беларусь** («Надаела жыцьцё -- працы шэрай мазоль...»). Надрукавана: «Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі», !4, 1947, б. 24.

**Хроніка беларускага жыцьця ў Вініпэгу.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !78-79, 25 сьнежаня 1951. Подпіс М. В.

**Ці-ж мне ня даў нічога Бог?** («Каму радня, свая ёсьць хата...»). Надрукавана: «Шыпшына», !3, 1946, б. 29.

**Ці ім хто паверыць.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !39-40 (221-222), 31 кастрычніка 1954.

**Ці запраўды «глыбейшага матыву трудна ў ім дакапацца»?** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !31-32 (162-163), 16 жнівеня 1953.

**Ці можам быць незадаволенымі?** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !16 (147), 19 красавіка 1953.

**Чаму яны не пратэстуюць.** Надрукавана: «Беларус», !17 (41), 5 верасьня 1953.

**Чыя?** («Дзераўляная сцэна й абраз...»). Рукапіс (Архіў Юркі Віцьбіча. Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага).

**Як з братам брат** («Хоць нашы дні, юнацтва годы...»). Надрукавана: «Шыпшына», !2, 1946, б. 25.

**«Як пішаш?... Вершаў мне прышлі...»).** Рукапіс (Архіў Юркі Віцьбіча. Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага).

## «Узвышша», «Шыпшына» і Юрка Віцьбіч

*На дзікім каменьні, на дзікім і жорсткім*
*шыпшына ня зьвяла, пасьцеле цьвяцістасьць.*
*І з гэнай цьвяцістасьці, з гэных пялёсткаў*
*паўстане спрадвечная існасьць.*
*Уладзімер Дубоўка*

**Літаратурнае Згуртаваньне «Шыпшына» паўстала яшчэ ў Бэрліне 5 студзеня 1945 году. На першым арганізацыйным сходзе прысутнічалі Натальля Арсеньнева, Юрка Віцьбіч, Уладзімер Сядура, Уладзімер Клішэвіч, Тодар Лебяда, Алесь Салавей, Мікола Цэлеш, Андрэй Чэмер, Вольга Таполя, Лявон Случчанін, Янка Золак. Сход аднагалосна вырашыў закласьці Згуртаваньне і выдаваць часапіс. Тады-ж былі абраныя два сябры, Віцьбіч і Сядура, каб скласьці аб гэтым адпаведную інфармацыю Р. Астроўскаму і прасіць яго зацьвердзіць Згуртаваньне. Аднак ваенныя падзеі не дазволілі давесьці справу да канца і аформіцца афіцыйна. Пісьменьнікі пакінулі Бэрлін.**

**Толькі 9 красавіка 1946 году ў Рэгенсбургу «Шыпшына» была адноўлена. У яе склад увайшлі: Натальля Арсеньнева, Юрка Віцьбіч, Мікола Вярба, Янка Золак, Хведар Ільляшэвіч, Аўген Кавалеўскі, Уладзімер Клішэвіч, Алесь Салавей, Масей Сяднёў, Уладзімер Сядура, Мікола Цэлеш (А. Чэслаўскі)[1]. Пазьней далучыліся да «Шыпшыны» Міхась Кавыль, Уладзімер Дудзіцкі, Сымон Жамойда, Рыгор Крушына[2].**

---

[1] **Пазьней, у выніку разьбежнасьцяў, са Згуртаваньня выйшлі Н. Арсеньнева, А. Кавалеўскі, М. Цэлеш. Разам з тым, нават у 1951 г. у лісьце рэдакцыі «Шыпшыны» да «Фонду Ўсходняе Эўропы» сярод пераліку сяброў Згуртаваньня падаецца імя Тодара Лебяды.**

[2] **Сяброўства Рыгора Крушыны дасюль лічылася сумніўным. Аднак у архіве часапісу «Шыпшына» захоўваецца ягоны ліст наступнага зьместу: «Вельмі паважаны Рэдактар. Надоечы мне выпадкова давялося ўбачыць часапіс «Сакавік», !1, у якім ўнеспадзеўку для мяне зьмешчана мая «Пэрсыдская легенда». Мне прыемна і ўцешна, калі выходзіць новая кніга зь беларускім словам, а тым больш, калі ў ёй ёсьць часьцінка і маёй працы. Але абураюча прыкра, калі мой твор, які меўся быць найперш надрукаваным у часапісе**

**Згуртаваньне паўстала як агульнаграмадская, а не партыйная арганізацыя; інакш кажучы, ягоныя сябры маглі мець розныя сьветапогляды, але падзяляць Дэклярацыю Згуртаваньня. У час, калі адбыўся падзел на «крывічоў» і «беларусаў», «заходнікаў» і «ўсходнікаў», каталікоў і праваслаўных, гэта было вельмі важна. Адзінай палітычнай мэтай абвяшчалася змаганьне мастацкімі вобразамі за ідэалы 25 Сакавіка.**

**«Шыпшыну» ў значна меншай ступені закранула барацьба з «крывічамі». На старонках часапісу друкаваліся ўрыўкі з рамана Міхася Зарэцкага «Крывічы», верш Ларысы Геніюш «Мы былі і будзем крывічамі» (назва, дадзеная самой рэдакцыяй, якая палічыла аўтарскі назоў «Ня сумуйце, дзяцюкі, вясною» занадта мінорным), зьмясьціла артыкул Глеба Альгердзіча (Антона Адамовіча) «Нашчадкі і спадкаемцы», ня выкрасьліўшы тэрмінаў «Крывія», «Крывіччына», якія аўтар ужыў 86 разоў, што дало падставу часапісу «Рух» (!4) зазначыць, што «Шыпшына» ўжывае гэтыя тэрміны часьцей за самі крывіцкія часапісы. А ў той самы час у Рэгенсбургу і Мюнхэне крывіч Янка Станкевіч з аднадумцамі паліў паэму сябра Згуртаваньня Алеся Салаўя «Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі».**

**Не закранулі часапіс і спрэчкі вакол канфэсій і веравызнаньня. Напрыклад, у першым нумары «Шыпшыны» друкаваўся ўрывак з аповесьці Віцьбіча «Як сацьмела золата найлепшае», а мэцэнатам чацьвёртага нумару выступіў біскуп Слосканс, які ахвяраваў 500 марак на выданьне.**

**Да таго-ж, часапіс друкаваў творы і тых пісьменьнікаў, што фармальна не належалі да Згуртаваньня: Антона Адамовіча, Янкі Юхнаўца, Сяргея Хмары -- людзей розных, калі не супрацьлеглых, палітычных і мастацкіх паглядаў. Бадай што ня было на эміграцыі пісьменьніка, які-б не зьмясьціў сваіх твораў у «Шыпшыне».**

**Не апошнюю ролю ў гэтым адыграла пазыцыя Юркі Віцьбіча. Ягоную «працу» зь пісьменьнікамі, асабісты падыход да кожнага можна праілюстраваць на прыкладзе ліставаньня з Алесем Змагаром, сябрам «Баявой Ускалосі».**

**У лісьце ад 26 студзеня 1952 году Віцьбіч пісаў яму: «На працягу сёлеташняга году маюць выйсьці нумары 11, 12, 13 і 14 "Шыпшыны". Ветліва прашу Вас дасылаць свае добрыя вершы і прозу, якія знойдуць у "Шыпшыне" сваё пачэснае месца. Асабіста я даўно ведаю Вас як Алеся Змагара, і ня толькі па творах, паэтычных ды празаічных, напісаных Вамі на эміграцыі, але яшчэ ў часапісе "Полымя" за 1933 год чытаў Ваш верш**

---

**«Шыпшына», куды я й даслаў у апошняй апрацоўцы, трапіў нейкім спосабам бяз згоды аўтара на балонкі «Сакавіка». У другім лісьце, таксама на імя рэдактара, Рыгор Крушына просіць даслаць яму для UNRRA даведку пра супрацоўніцтва ў часапісе. Такім чынам, прынамсі, напачатку Р. Крушына належаў да Згуртаваньня.**

"Да барацьбы", хаця і тады, здаецца, Вы ўжо былі на эміграцыі. Што датычыць напрамку часапісу "Шыпшына", дык хочацца думаць, што Вы ня маеце ў гэтай галіне тых ці іншых закідаў або засьцярогаў. Прынамсі, акрамя шыпшынаўцаў, у !10 ідуць творы Ніны Змагаркі, Сяргея Хмары, Грэскага, М. Вольнага. Увогуле, у нас тут, у Амэрыцы, апошнім часам паміж беларускімі літаратарамі наладзілася сяброўская еднасьць».

Праз год, у лісьце ад 11 сакавіка 1953 году, Віцьбіч працягваў: «Мяне цешыць Вашая думка наконт Згуртаваньня. Запраўды, тут, у ЗША, робіцца шмат чаго, каб зьнішчыць Згуртаваньне, але тымчасам бяз посьпехаў. Наадварот, гэтыя спробы выклікалі яшчэ большую кансалідацыю шыпшынаўцаў, што раскіданыя злым лёсам па ўсіх краінах сьвету, вакол майго сьціплага імя. У склад "Шыпшыны" ўваходзяць прадстаўнікі ўсіх трох беларускіх эміграцыйных палітычных плыняў (БНР, БЦР, Трэцяя сіла), як і тыя, што стаяць па-за імі, а тым ня менш, паміж шыпшынаўцамі няма аніякіх спрэчак на палітычнай глебе. Менавіта таму шыпшынаўцы супраць падпарадкаваньня ўсіх пісьменьнікаў на чужыне адной з трох плыняў. Разам з тым, яны -- шчырыя прыхільнікі стварэньня брацкае Асацыяцыі ўсіх пісьменьнікаў на чужыне, у якую на аўтаномных падставах уваходзяць "Шыпшына", "Баявая Ўскалось", літаратурныя сэкцыі пры Інстытуце Навукі й Мастацтва, пры Навуковым Таварыстве імя Францішка Скарыны, "Дванаццатка" і г. д. Вельмі ўдзячны за Вашую прапанову дапамагаць "Шыпшыне", а можа яшчэ лепш будзе, калі Вы ўвойдзеце ў ейны склад як шыпшынавец».

І Алесь Змагар у сваім лісьце ад 9 лістапада 1953 году адказаў: «Наконт Вашае прапановы ўвайсьці ў склад згуртаваньня "Шыпшына" я з прыемнасьцю даю згоду, і, як толькі Вы зноў зможаце выпусьціць яе наступныя нумары ў сьвет, паведамце мне, і я надышлю Вам вершы ці апавяданьні свае ды, магчыма, і Кавалеўскага».

Палітыку часапісу ў дачыненьні да новых сяброў Згуртаваньня, як і да пісьменьнікаў наагул Юрка Віцьбіч, рэдактар выданьня, выказаў у лісьце да Клішэвіча і Сяднёва:

«Падалі заяву аб прыняцьці іх у "Шыпшыну" Юры Жывіца і Сьвятаслаў Коўш. Аповесьць Жывіцы "Пушча шуміць", якой пачатак ідзе ў гэтым нумары "Шыпшыны", ягоная-ж аповесьць "Сьвеціць у тумане", якая ідзе ў часапісе "Аб’яднаньне", сьведчаць аб тым, што ён -- таленавіты празаік. Між іншым, ён паходзіць з Палесься, якое амаль нічога не дало нашай літаратуры. Апавяданьні Каўша, напісаныя рытмовай прозай, маюць пераважна сэнтымэнтальны характар. Жывіца значна мацнейшы за Каўша. Калі ўлічыць, што проза была ў нас заўсёды вельмі вузкім месцам, дык усялякая падтрымка і больш шчыльная сяброўская лучнасьць у дачыненьні да гэтых двох празаікаў будзе карыснай і для іх, і для нас.

**Як вы заглядаецеся на тое, каб паслаць ад Згуртаваньня "Шыпшына" цёплы прывітальны ліст Язэпу Варонку ў Чыкага? Мне думаецца, што ніхто, ні Астроўскі, ні Абрамчык, ня маюць большых правоў на рэпрэзэнтацыю нашае эміграцыі і народу, як Язэп Варонка. Зразумела, што нас у дадзеным выпадку і ўвогуле абыходзяць не ягоныя правы на рэпрэзэнтацыю (нашае Згуртаваньне стаіць па-за палітыкай), а магчымасьць наладзіць сувязь з выдатным беларускім дзеячам з тае кагорты, да якой належалі Ластоўскі, Грыб, Мамонька, Шыла, Язэп Лёсік, Езавітаў, Цьвікевіч, Тарашкевіч, Бадунова і інш. Цяпер Язэп Варонка -- дырэктар радыёстанцыі ў Чыкага, якая досыць часта падае перадачы на нашай мове. Менавіта празь яго мы можам трапіць у эфір.**

**Атрымаў ліст ад Юхнаўца. Ён надзвычай таленавіты паэт са сваім уласным абліччам. Ён паэт не для многіх, але гэтыя нямногія будуць чытаць і перачытваць ягоныя вершы. Адштурхнуць каго-небудзь -- адна з нашых адмоўных нацыянальных якасьцяў».**

**У лісьце да Вітаўта Тумаша Віцьбіч пісаў: «Рэдакцыйны партфэль "Шыпшыны" сёньня вялікі, у ім шмат новых твораў. Усё-ж прыходзіцца часам рабіць перадрукі. Справа ў тым, што наш часапіс на 70% прызначаны для чытачоў, і на 30% на рэпрэзэнтацыю нашае літаратуры паміж іншых нацыянальнасьцяў...**

**Цікавіць Вашая думка аб вершах Сяднёва "На пляжы" і "Гераіня". Мне здаецца, што паасобныя неэстэтычныя вобразы і выразы ў іх забіваюць увогуле гэтыя вершы. Каб быць добрым паэтам, трэба мець душэўную патончанасьць, далікатнасьць. Калыма -- дрэнная школа ў гэтай галіне, але Сяднёў мусіць і можа аднавіць гэтую якасьць. Нажаль, ён гэтага не разумее.**

**Якая ў Вас думка аб Юхнаўцу? Аб Крушыне? Можа, я памыляюся, але ў першага пэўныя здольнасьці і, магчыма, немалыя, і адначасова брак пісьменьніцкае культуры, а ў другога -- адваротнае».**

**Напачатку паўстала ідэя друкавацца выключна за грошы, што атрымлівалі ад продажу «Шыпшыны». Аднак ад гэтага мусілі адмовіцца, бо на 60% часапіс распаўсюджваўся дармова. Выручалі падпісныя лісты ці складкі; напрыклад, !5 быў выдрукаваны за грошы, сабраныя беларусамі лягеру Майнлейс. А рассылаўся часапіс па ўсіх лягерах, дзе былі або маглі быць беларусы: Фалькенберг і Гайкендорф, Більфельд і Дальменгорст, Любек і Мюнстэр, Гэрбэрг і Бургдорф.**

**«Шыпшына» дасылалася і на іншыя адрасы: на эміграцыі -- ва ўнівэрсытэцкія біліятэкі Фрайбургу, Мюнхэну, Марбургу, Эрлянгену. У ЗША лісты-ж прыходзілі са зваротнымі адрасамі British Museum, Hoover Institute and Library, East European Fund, Inc., National Committee of the People-to-People Program, New York Public Library з падзякамі за дасланыя нумары і просьбамі дасылаць і надалей.**

**Роля «Шыпшыны» на эміграцыі яе ініцыятару Юрку Віцьбічу бачылася недзе адпаведнай ролі «Ўзвышша», аб'яднаньня і часапіса на**

**Беларусі. Не, не працягам яго. Калі ў 1951 годзе адзначалі 25-я ўгодкі заснаваньня «Ўзвышша», Віцьбіч ня змог прыехаць у Нью-Ёрк, але даслаў ліст, дзе пісаў: «Надысь у адным артыкуле мне давялося прачытаць, што тут, на чужыне, ёсьць спробы адрадзіць "Узвышша". Наколькі мне вядома, гэтае сьцьверджаньне не адпавядае сапраўднасьці. Усякія спробы ці намеры адрадзіць "Узвышша", калі-б толькі яны мелі месца, зьявіліся-б недарэчнасьцю.**

**"Узвышша" непаўторна.**

**"Узвышша" зусім не адышло ў нябыт.**

**"Узвышша" было і будзе.**

**Прыйдзе той час, калі славутае "Ўзвышша" адновіцца зноў, як нязломная кагорта самаахвярных патрыётаў.**

**У дзень 25-х угодкаў ад заснаваньня роднага "Ўзвышша" хочацца перадусім з братнім жалем схіліць голаў перад сьветлай памяцьцю ўзвышэнцаў, закатаваных расейскім бальшавізмам, такіх, як Адам Бабарэка, Уладзімер Дубоўка, Уладзімер "ылка. Няхай ніколі ня згіне памяць аб іх і паўстануць курганы з касьцей іхніх забойцаў.**

**У гэты дзень хочацца цёплым сяброўскім словам прыгадаць тых узвышэнцаў, што дагэтуль гібеюць у савецкіх катавальнях, такіх, як Язэп Пушча, Тодар Кляшторны, Лукаш Калюга, Сяргей Дарожны, Васіль Шашалевіч, Андрэй Шашалевіч, Фелікс Купцэвіч. Няхай дачакаюцца яны Ўваскрашэньня нашае Бацькаўшчыны».**

**Іншая справа, што Віцьбіч і сумаваў па былым сяброўскім згуртаваньні і бачыў неабходнасьць захаваньня традыцый, мастацкіх і чалавечых, захаваньня твораў, імёнаў -- ня толькі, як ён пісаў, для «рэпрэзэнтацыі» на Захадзе, але й для будучыні.**

**Тады-ж Віцьбіч пачаў накідваць успаміны пра той час: «Часапіс "Узвышша" стаўся першым беларускім часапісам, у якім у !9-10 за 1929 год я надрукаваў сваё апавяданьне "Як загінуў Ясь" -- дагэтуль я друкаваўся ў літстаронках і літаратурных дадатках розных газэтаў.**

**Паказальны лёс менавіта гэтага апавяданьня. Спачатку я даслаў яго ў літдадатак да газэты "Савецкая Беларусь", дзе неўзабаве ў паштовай скрынцы зьявіўся наступны адказ Міхася Чарота: "Ю. Віцьбічу. Вашае апавяданьне "Як загінуў Ясь", дарэчы, напісанае вельмі добра, друкавацца ня будзе, бо ў ім слаба адбіліся клясавыя супярэчнасьці на вёсцы".**

**Тады бяз усякіх зьменаў я даслаў гэтае апавяданьне да "Ўзвышша", дзе пабачыў яго надрукаваным пад зьмененым Літбелам назовам "Млынарова рука" і адначасна атрымаў ад Кузьмы Чорнага прачулы ліст, які, па сутнасьці, зьяўляўся дыплёмам на годнасьць пісьменьніка. Мне прыемна таксама прыгадаць, што тады-ж адзначылі мае літаратарскія здатнасьці Ўладзімер Дубоўка і Язэп Пушча. Гэткім партызанскім чынам я прыйшоў да часапісу "Ўзвышша", стала друкуючыся ў ім, а таму для мяне зусім натуральным стаўся пазьнейшы**

**ўваход у Згуртаваньне "Ўзвышша", але ён адбыўся не без змаганьня з паасобнымі пабочнымі чыноўнікамі.**

**З 1922 году я жыў у Маскве, працуючы на ейных хімічных заводах і зарабляючы тым самым сабе на кавалак хлеба штодзённага і права на вышэйшую асьвету, бо гэтага права я ня меў як сын "лішэнца". Менавіта ў 1929-1930 гадох працаваў на Дэрбенеўскім фарбавым заводзе, а жыў разам з паэтам Алесем (цяпер Аляксеем) Зарыцкім, у пазбаўленым дзённага сьвятла сутарэньні на Арбаце (дом 51), у якім знаходзіўся Цэнтральны Беларускі Клюб, і, магчыма, нягледзячы на зусім ня спрыяльныя для творчасьці жыцьцёвыя ўмовы, мае творы, а, значыцца, і іхні аўтар, сталіся знанымі для суродзічаў, бо вычуў бадай паляваньне на сябе з боку розных літаратурных інстытуцыяў, каб я стаўся іхнім сябрам.**

**Бадай адначасна я атрымаў прапановы ўвайсьці ў іхні склад ад Нацыянальнае Сэкцыі расейскага згуртаваньня «Кузница» і Беларускае Сэкцыі МАПП (Маскоўская Асацыяцыя Пралетарскіх Пісьменьнікаў) -- першую ачольваў маладняковец паэт Міхась Дуброўскі, а другую таксама былая сяброўка «Маладняка» Зінаіда Бандарына. Спаслаўшыся на сваю літаратурную маладосьць, я адмовіўся ад гэтых прапановаў. Пазьней у Маскве былы сябра Літаратурна-Мастацкае Камуны (група беларускіх футурыстаў) паэт Паўлюк Шукайла, расстраляны ў 1938 годзе бальшавікамі, спрабаваў разам з вядомым удмурцкім паэтам Кузебай Гердам стварыць МОНП (Маскоўскае Згуртаваньне Нацыянальных Пісьменьнікаў). І я прысутнічаў на ягоным арганізацыйным паседжаньні. Аднак на гэтым паседжаньні МОНП і скончыўся пасьля наступнага, паводле словаў Шукайлы, адказу ЦК ВКП(б): у Маскве ёсьць нацыянальныя сэкцыі пры расейскіх згуртаваньнях, і няма аніякае патрэбы ў стварэньні паасобнага апрычонага згуртаваньня нацыянальных пісьменьнікаў. У тыя-ж часы я атрымаў прапанову зь Менску ад пісьменьніка Хвядоса Шынклера, што загінуў у апошнюю вайну пад Сталінградам, далучыцца да БелАПП, у якую ў 1929 годзе ператварыўся "Маладняк". У гэтым выпадку мяне выратавала тое, што статут БелАПП прадугледжваў сяброўства ў ім толькі тых, што жывуць у межах БССР.**

**Уваход у тую ці іншую з вышэйпрыгаданых літаратарскіх інстытуцый зьяўляўся найбольш мэтазгодным з пункту гледжаньня прыстасаваньня да савецкае рэчаіснасьці. Аднак я пайшоў па лініі найбольшага супраціву. Можа сымбалічна, што гэты рашучы крок я зрабіў пасьля зьяўленьня ў трэцім нумары "Ўзвышша" за 1930 год майго апавяданьня "Грыміць Перакагрыж", якое прысьвечана перамаганьню плытагонамі найбольш небясьпечнага на Дзьвіне парогу Перакагрыж.**

**Я паслаў з Масквы ў Менск да "Ўзвышша" просьбу прыняць мяне да гэтае славутае літаратарскае сям'і, якое сябры тады ўжо напалову апынуліся за бальшавіцкімі кратамі, а самы назоў, "узвышэнец", гучаў для савецкага вуха бадай, як "контррэвалюцыянер".**

**(Трэба яшчэ дадаць, што ад самога "Ўзвышша" я не атрымліваў аніякіх прапановаў далучыцца да яго). У адказ на сваю просьбу я атрымаў паведамленьне за подпісам Кузьмы Чорнага (старшыня) і Кандрата Крапівы (сакратар), што, насуперак традыцыі Згуртаваньня аб прыёме новых сяброў, я аднагалосна прыняты да "Ўзвышша" на першым паседжаньні ягоных сяброў, а паводле традыцыі маім "хросным бацькам", які падрабязна пазнаёміў узвышэнцаў з маім жыцьцём і творчасьцю, стаўся Кузьма Чорны. Мне дагэтуль цяжка пераказаць тую радасьць, якую я вычуў тады з прычыны гэтага паведамленьня.**

**У канцы 1931 году адбылося гэтак званае "самаразьвязваньне" "Ўзвышша". Ягонага старшыню Кузьму Чорнага выклікалі ў ЦК КП(б) і сказалі, што існаваньне "Ўзвышша" зьяўляецца непатрэбным і шкодным. Пад надрукаванай у апошнім нумары часапісу і тагачасных газэтах пастановай аб "самаразьвязваньні" ёсьць подпісы ўсіх сяброў за вылучэньнем майго. Каб я жыў у Менску, дык без сумлеву меўся-б і мой подпіс, але я напісаў потым, што нібы не атрымліваў ад Зьмітрака Бядулі гэтае пастановы для подпісу. Аднак, калі ўзвышэнцы быццам далі гэтаму веры, дык крытык Лукаш Бэндэ дамагаўся ад мяне, каб я паасобна ў друку далучыўся да "самаразьвязваньня"...**

**Усё гэтае дае мне нават юрыдычнае права разам з сябрамі ўзвышэнцамі, якія не падпісалі пастанову, бо пакутвалі на бальшавіцкай катарзе, лічыць сябе не "самаразьвязаным" узвышэнцам, і ці варта ўжо гаварыць пра тое найгалоўнае, што калі ўзвышэнцам я стаўся зь першага свайго твору "Ян Непамуцэн", дык застануся ім да таго часу, калі сьмерць выб'е з мае рукі пёрка» (4 травеня 1957 году).**

**Атрымлівалася, што былыя сябры або зьнішчаны, або іхні сьлед згубіўся ў расейскай Сібіры[1]. Перарвалася лучнасьць. Натуральна, у Віцьбіча, нават разам з Антонам Адамовічам, Ізыдарам Плашчынскім -- тымі, хто друкаваўся ва «Ўзвышшы», ня было спадзяваньняў аднавіць згуртаваньне. Але-ж была магчымасьць захаваць памяць.**

**Так нарадзілася ідэя кнігі «Не чарнілам, а крывёю»[2] -- успаміны пра Эдуарда Самуйлёнка і Тодара Кляшторнага, Юлія Таўбіна і Ўладзімера Хадыку, Міхася Чарота і Паўлюка Шукайлу. Ня ўсё ішло ў друк. Шмат чаго цікавага, характэрнага пра сваіх сяброў-паплечнікаў засталося ў ліставаньні, якое, трэба думаць, дадасьць пэўныя жывыя рысачкі да літаратурнага працэсу 30-х гадоў і ягоных творцаў. Тыя жывыя дэталі, якіх так не хапае падсавецкай (вялікай!) літаратурнай**

---

[1] **Менавіта праз недахоп інфармацыі працяглы час лічылі загінуўшымі У.Дубоўку, Л.Геніюш, Л. Случчаніна і іншых.**

[2] **Некалькі разоў у друку з'яўлялался паведамленьне пра друк кнігі ў ангельскай ці нямецкай мовах. Але выглядае, што кніга ніколі ня была выдрукавана. Можна сьцьвярджаць, што яе зьместам мусілі стацца артыкулы, зьмешчаныя ў свой час у «Шыпшыне», «Бацькаўшчыне», «Беларусе» і некаторых іншых эміграцыйных выданьнях.**

**мэмуарыстыцы. I справа ня столькі ў палітыцы, колькі ў боязі паказаць жывых людзей зь іхнімі чалавечымі асаблівасьцямі і ўчынкамі, часам сьмешнымі, часам сумнымі, часам трагічнымі. Як заўважыў Віцьбіч у адным зь лістоў, што друкуюцца тут, «мне вельмі падабаецца праз тую ці іншую дэталь паказаць жывога, сапраўднага чалавека».**

**Усё гэтае і абумовіла выбар невялікай часткі багатага ліставаньня[1] Юркі Віцьбіча, зьмешчанай ў кнізе: беларускія пісьменьнікі даваенных гадоў, памяць аб іх на эміграцыі, будзённае і надзвычайнае.**

## ЛІСТАВАНЬНЕ ЮРКІ ВІЦЬБІЧА

***Юрка Віцьбіч -- Антону Адамовічу***
***20 лістапада 1951 году***

**Глыбокапаважаны Спадар Адамовіч!**

**Мне хочацца ўдакладніць у гэтым лісьце адно пытаньне, што не хацелася рабіць у прысутнасьці сп. сп. Панькова і Юхнаўца.**

---

**[1] Ліставаньне Юркі Віцьбіча захоўваецца ў шматлікіх грамадскіх і прыватных архівах і лічыцца сотнямі архіўных адзінак.**

Мяне вельмі абышла Вашая заўвага ў прысутнасьці вышэйадзначаных сьведкаў, што ўзвышэнства Юркі Віцьбіча бадай што зьяўляецца ягоным асабістым домыслам і Вам асабіста нічога рашуча невядома, каб Віцьбіча калі-небудзь прымалі ў сябры «Ўзвышша». У сувязі з усім гэтым сп. Панькову ў маёй прысутнасьці даручана прагледзець беларускія газэты й часапісы за адпаведны час, каб праверыць узвышэнства Віцьбіча.

Больш чым зразумела, што Вашая заўвага мяне вельмі й вельмі балюча закранула. Сапраўды, уявіце чалавека, якому спрабуюць давесьці, што ягоная матка не зьяўляецца ў сапраўднасьці ягонай маткай, а таму і сам ён штосьці накшталт «Ивана, не помня]его родства».

Пачну з таго, што нібы Кузьма Чорны ці Кандрат Крапіва ўзялі з «Чырвонага Сейбіту» мае ня зьмешчаныя там апавяданьні і зьмясьцілі іх ва «Ўзвышшы». У сапраўднасьці было наступнае. Я паслаў сваё апавяданьне «Як загінуў Ясь» у нядзельную літаратурную старонку газэты «Савецкая Беларусь». Праз колькі дзён у «Паштовай скрынцы» гэтага дадатку я прачытаў наступнае: «Вашае апавяданьне (дарэчы, вельмі добра напісанае) друкавацца ня будзе, бо слаба адбівае клясавыя супярэчнасьці на вёсцы».

Як значна пазьней даведаўся, гэты адказ належаў Міхасю Чароту. Тады Я САМ гэтае самае апавяданьне (бяз усякае перапрацоўкі) паслаў да «Ўзвышша». Паслаў менавіта да «Ўзвышша» зусім не выпадкова, бо лічыў, што з усіх тагачасных часапісаў гэты зьяўляецца для мяне найбліжэйшым, бо лічыў, што гэты часапіс менш за ўсё цікавяць клясавыя супярэчнасьці на вёсцы. Сапраўды, у ! 9 за 1929 год я ўбачыў сваё апавяданьне пад загалоўкам «Млынарова рука». Новы загаловак аж занадта падкрэсьліваў клясавыя супярэчнасьці, а таму пазьней у сваёй кніжцы «Сьмерць Ірмы Лаймінг» я аднавіў стары загаловак. Як мне перадаваў пазьней Пятро Глебка, гэтае апавяданьне вельмі спадабалася Ўладзімеру Дубоўку. У сувязі з гэтым апавяданьнем я атрымаў вельмі добры і цёплы ліст ад Кузьмы Чорнага (найвыдатнага беларуса й чалавека), у якім ён запрашае мяне стала супрацоўнічаць у часапісе «Ўзвышша». Хачу ўсім гэтым сказаць, што я сам прыйшоў да часапісу «Ўзвышша» і ніхто мяне туды гвалтам не цягнуў. Гвалтам мяне цягнулі ў іншыя месцы.

Вы сьцьвярджаеце, што я падаў заяву ў сябры Згуртаваньня «Ўзвышша», маючы за сьпіной 2-3-4 апавяданьні і мяне туды ня прымалі ці не адразу прынялі. Гэта ня зусім так, дакладней, -- зусім ня так. Я ўжо меў 2-3-4 дзясяткі апавяданьняў і аповесьць «Арцыбіскуп і сьмерд», калі за мною пачалі літаральна паляваць прадстаўнікі розных беларускіх літаратурных згуртаваньняў. Паўлюк Шукайла спрабаваў зацягнуць мяне ў створаны ім МОНРП (Московское Объединение Национальных Революционных Писателей), Хвядос Шынклер па даручэньню Міхася

**Лынькова і Платона Галавача цягнуў мяне непасрэдна ў менскі БелАПП, Зіна Бандарына, зь якой мяне ў той час лучылі і вузка асабістыя дачыненьні, цягнула мяне (па месцы тагачаснага жыхарства) у беларускую сэкцыю МАПП.**

**Да ўсяго гэтага трэба яшчэ дадаць, што ў той час я ўжо меў «свайго» ўласнага сэксота, а менавіта паэта Алеся Зарыцкага. Ён прыехаў зь Менску ці з Рагачову (дакладна ня помню) у Маскву, каб жыць разам зь Віцьбічам. Яго цікавіла маё ліставаньне, мае выказваньні па тых ці іншых пытаньнях, мая чарговая творчасьць і г. д. Калі я зьмяняў кватэру, дык адначасна са мной зьмяняў яе і Зарыцкі, абы толькі жыць разам зь Віцьбічам. Нарэшце адразу зь дзьвюх крыніцаў -- ад былога артыста тэатра Галубка сп. Мароза і ад Зіны Бандарынай я даведаўся, што Алесь Зарыцкі -- сэксот.**

**Згадзіцеся цяпер са мной, што пры наяве ціску з боку Шукайлы, Шынклера, Бандарынай, пры наяве А. Зарыцкага падаць заяву менавіта ва «Ўзвышша», у якім на той час ня было ўжо Дубоўкі, Пушчы, Бабарэкі, а здаецца, ня было ўжо і Вас, ва «Ўзвышша», якое цкавалі з усіх бакоў, трэ' было мець вялікую мужнасьць. Пазьней мне менавіта гэтая мужнасьць неаднойчы вылазіла бокам, але я дагэтуль ганаруся, што мне не забракла яе, каб трапіць менавіта ва «Ўзвышша».**

**Помню, што, пасылаючы з Масквы заяву ва «Ўзвышша», я лічыў сябе асабіста не дарослым да гэтага, але, разам з тым, я хацеў публічна падкрэсьліць, з кім я, да якога лягеру належу. Аднак літаральна праз тыдзень атрымаў ліст ад Крапівы, што мяне аднагалосна прынялі ў сябры «Ўзвышша», атрымаў адначасна таксама адмысловае пасьведчаньне за подпісамі К. Чорнага і К. Крапівы. Я ў той час быў яшчэ вельмі малады, а таму помню, што зь вялікім задавальненьнем пры першай нагодзе тыцнуў гэтае пасьведчаньне пад нос Шукайлу і Бандарынай. Добра помню, што прыняцьце мяне ў сябры «Ўзвышша» адбылося не 26 травеня, а здаецца, у кастрычніку ці ў лістападзе -- пэўне, у гэты час ўжо не прытрымліваліся ранейшых традыцыяў згуртаваньня. Пазьней мне, калі я ў Маскве досыць цяжка захварэў, сябры «Ўзвышша» прыслалі дапамогу ў 300 рублёў.**

**Яшчэ пазьней я атрымаў ад Кузьмы Чорнага ліст з прапановай падпісаць паперу аб самазьліквідаваньні «Ўзвышша». Я не адказаў на гэты ліст, а потым спасылаўся на тое, што ўвогуле гэты ліст не атрымаў. Таму сёньня нават і юрыдычна я лічу сябе верным да канца ўзвышэнцам. Дакладна я ня помню цяпер дату майго прыняцьця ў сябры «Ўзвышша», але затое добра помню, што калі празь некаторы час пасьля «самазьліквідаваньня» я завітаў у Менск, дык не знайшоў ужо і Максіма Лужаніна.**

**Зь нерэпрэсаваных сяброў «Узвышша», магчыма, ніхто ня меў гэткага цкаваньня за «нацыяналістычныя памылкі», як самы маладзейшы ўзвышэнец Юрка Віцьбіч. Мяне не прынялі ня толькі ў**

**сябры, але нават і ў кандыдаты ССПБ. Між тым, туды адразу былі прынятыя старэйшыя ўзвышэнцы -- Кузьма Чорны, Кандрат Крапіва, Зьмітрок Бядуля, Пятро Глебка, Сяргей Дарожны. Толькі Тодар Кляшторны быў прыняты кандыдатам, але не за былое ўзвышэнства, а за справы ТАВІЗ'у. Дарэчы, сябрам тады быў адразу прыняты Мікола Цэлеш. Юрка Віцьбіч ня трапіў у сябры ці кандыдаты не таму, што ён не дарос да гэтае «высокае годнасьці», бо ў лік сябраў трапіў зусім недалужны віцебскі паэт Браніслаў Люгоўскі. Юрка Віцьбіч ня трапіў вылучна таму, што, як яму шчыра сказаў Клімковіч: «Вы тымчасам ня наш. Мы не адкідаем вас зусім, мы не адкідаем вашых здатнасьцяў, мы не забараняем вам друкавацца, але вашая сучасная творчасьць не адпавядае некаторым параграфам статуту ССПБ».**

**Калі ў вас ёсьць магчымасьць перагарнуць старонкі газэты «Літаратура і Мастацтва» за час, папярэдні стварэньню ССПБ, дык амаль у кожным нумары гэтае газэты Вы знойдзеце лаянку ў сувязі з памылкамі Юркі Віцьбіча. Пры гэтым у большасьці гэтых лаянак заўсёды падкрэсьліваецца, што памылкі Віцьбіча ідуць ад ягонае былое прыналежнасьці да «Ўзвышша». Кульмінацыйнага пункту гэтая лаянка дасягнула ў часе гэтак званай рэформы правапісу. Вы знойдзеце ў газэце «Зьвязда» за той-жа час вялікі артыкул Андрэя Александровіча, дзе ён расклаў ворагаў па паліцах, а менавіта: «Уладзімер Хадыка -- прадстаўнік кулацтва, Юлі Таўбін -- старое, не савецкае інтэлігенцыі, Юрка Віцьбіч -- дваранства» і г. д.**

**У той-жа самый час у газэце «Літаратура і Мастацтва» (на трэцяй старонцы зьверху, зьлева) зьявіўся вялікі артыкул «Нашыя абвінавачваньні Ю. Віцьбічу» за подпісамі М. Клімковіча, А. Александровіча і М. Лынькова. Разам з тым, Вы нідзе ня знойдзеце, каб Віцьбіч пакаяўся ў сваіх «памылках», хаця гэтае ад яго патрабавалі і гэтае ў той час лічылася абавязковым.**

**Гэтае цкаваньне мяне перасягнула межы БССР. У «Литературной газете» на той час ёсьць лаянка ў адрас Віцьбіча і нават карыкатура на яго. У часапісе «Калосьсе», у разьдзеле «Хроніка» (гэты часапіс я бачыў у доктара Янкі Станкевіча), прыгадваюцца імёны Ў. Хадыкі і Ю. Віцьбіча як найбольшых апазыцыянэраў да рэформы правапісу. У д-ра Станкевіча ёсьць нарэшце адмысловая праца, прысьвечаная ў сваёй пэўнай частцы рэформе беларускага правапісу, дзе таксама прыгадваецца Юрка Віцьбіч. Пра ўзвышэнскія памылкі Віцьбіча прыгадвае і Плашчынскі ў «Літаратуры і Мастацтве» за 1939 г. у артыкуле «Пра творчасьць Ю. Віцьбіча». За той-жа самы час у часапісе «Полымя Рэвалюцыі» ёсьць вялікі артыкул Кучара, прысьвечаны беларускай літаратуры за 30 год, дзе ў абзацы, што мае дачыненьне да Ю. Віцьбіча, таксама падкрэсьліваецца былая прыналежнасьць яго да «Ўзвышша». Здаецца, усяго гэтага хопіць, хаця яно не абдымае цалкам усё тое, што я меў за «Ўзвышша». Аднак тут ёсьць адна вялікая памылка з боку тых, што мяне**

**лаялі. Я прыйшоў да «Ўзвышша» ўжо ўзвышэнцам. Характэрны ў гэтай галіне хаця-б прыклад з апавяданьнем «Як загінуў Ясь». Наадварот, некаторыя сябры «Ўзвышша» ў той час ужо значна адхіліліся ад ранейшае ўзвышэнскае лініі (Пятро Глебка), якое я саматугам прытрымліваўся.**

**Не захаваю ад Вас, што калі-б хто-небудзь іншы ўзяў-бы пад сумніў маю прыналежнасьць да «Ўзвышша», дык мяне-б гэта не абышло. Зь мяне цалкам хапае таго, што я зьяўляюся найлепшым сьведкам майго ўласнага жыцьця. Але калі гэты сумніў ідзе ад Вас, дык мне гэта крыўдна і нават незразумела. Незразумела тым больш, што ў адным сваім нядаўнім лісьце да мяне Вы пішаце: «Ня прыміце майго "ўзвышэнскага прывітаньня" за штамп з таго боку -- "с ком. приветом". Яно ў мяне ад шчырага сэрца, тым болей, што на цэлай эміграцыі права на гэткае прывітаньне маем толькі мы з Вамі ўдвох і больш ніхто. Ант. Адамовіч». Менавіта таму мне хочацца думаць, што я ня зусім правільна зразумеў Вас у часе нашага спатканьня ў Брукліне. Менавіта таму і гэты мой ліст атрымаўся аж занадта вялікі.**

**Шчыра зычу Вам усяго добрага.**

**Чакаю Ваш ліст.**

**З узвышэнскім прывітаньнем**
**Юрка Віцьбіч**

***Юрка Віцьбіч -- Антону Адамовічу***
***5 сьнежаня 1951 году***

**Дарагі Спадар Адамовіч!**

**Удзячны за Ваш ліст. Уважліва прачытаўшы яго, пераканаўся, што мы, пэўне, абодва ня ў стане цалкам абысьціся бяз шпількаў, але затое не сумняваюся, што мы абодва ў стане абстрагавацца ад іх, не заўважаць іх. Прынамсі я асабіста цяпер цалкам прытрымліваюся апошняга.**

**Вас цікавіць МОНРП. У канцы 30-х гадоў у Маскве мелася значная колькасьць нацыянальных пісьменьнікаў -- адныя зь іх вучыліся ў Інстытуце Валерыя Брусава, другія зьяўляліся палітэмігрантамі, толькі нязначная частка зь іх увайшла ў склад нацыянальных сэкцыяў МАПП, пераважная большасьць зь іх стварыла свае нацыянальныя сэкцыі пры расейскім згуртаваньні «Кузница». Галоўнымі «кавалямі» між «нацменаў» былі -- летувіс Сігізмунд Валайтыс, удмурт Кузебай Герд, беларус Дуброўскі, украінец Аляксеенка і інш. Я асабіста ў той час ня прымаў чыннага ўдзелу ў паседжаньнях гэтых сэкцыяў, бо хаця і меў 2-3 друкаваныя апавяданьні, але ад Дуброўскага атрымаў годнасьць**

**кандыдата, а ня сябра і амаль ніколі не запрашаўся ім на агульнае паседжаньне ўсіх «нацменаў».**

**Між іншым, праца беларускае сэкцыі «Кузницы» звычайна працякала ў Беларускім Клюбе на Арбаце, дзе Дуброўскі выкладаў беларускую мову і літаратуру. Тут-жа я неяк пазнаёміўся з Паўлюком Шукайлам, якога ўжо раней ведаў як паэта. Паўлюк Шукайла ў той час вучыўся ў Інстытуце чырвонае прафэсуры (між іншым, ён яго ня скончыў). Аднойчы (дату ня помню) Шукайла запрашае мяне ў Дом Пісьменьніка на паседжаньне ўсіх нацыянальных пісьменьнікаў.**

**Як малады, я прыйшоў, зразумела, на гэтае паседжаньне раней за ўсіх. Пакрысе падышлі Валайтыс і яшчэ два летувісы разам зь ім, Кузебай Герд, цыганскі паэт Роман, індус Лугані, украінец Аляксеенка, ад беларусаў -- Дуброўскі і Ус, увогуле каля 30 асобаў. Апошнім прыйшоў Паўлюк Шукайла, якога пераважная большасьць прысутных бачыла ўпяршыню. На галаве ён меў баброваю шапку такое велічыні, што яна нагадвала баярскую з тэатральнага рэквізыту (яе ён паклаў перад сабою на стале), вельмі добрае паліто з кенгуровым каўняром ён ня скінуў, хаця ў пакоі было досыць цёпла, у руках трымаў свой заўсягдашні кій. Прысеў ён ня дзе-небудзь збоку, а на самым пачэсным месцы, адсунуўшы пры гэтым крыху ўбок Дуброўскага і аднаго зь летувісаў.**

**Зьяўленьне Шукайлы, а тым больш ягоная імпазантная вонкавасьць зрабілі вялікае ўражаньне на ўсіх прысутных. Што да Дуброўскага, які старшыняваў на гэтым паседжаньні, дык той адразу пачаў заікацца і, між іншым, меў рацыю. Шукайла досыць ветліва папрасіў у яго слова, у якім спачатку адрэкамэндаваўся як шырака знаны ў беларускім народзе паэт, як стваральнік новае школы ў беларускай літаратуры і г. д., а потым раптам абваліўся на Дуброўскага, выказваючы сваё вялікае зьдзіўленьне і нават абурэньне, што тут прысутнічае «такое ўбоства».**

**Дуброўскі сваім тонкім галаском паспрабаваў спачатку пярэчыць, але, зірнуўшы неяк спадылба на славуты кій, што ляжаў на стале побач з баярскай шапкай, дэманстратыўна пакінуў паседжаньне. За ім выйшаў Аляксеенка, бо на ягоную рэпліку Шукайла заўважыў: «А хто, акрамя вашае сям'і, ведае пра тое, што вы паэт?». Ужо каля самых дзьвярэй і нават крыху прыадчыніўшы іх, Дуброўскі затрымаўся, пачаўшы нешта благое выкрыкваць на адрас Шукайлы. Не падумайце толькі, Спадар Адамовіч, што гэтае ёсьць перабольшаньне, але Шукайла схапіў кій і рынуўся да Дуброўскага, які ўмомант зьнікнуў за дзьвярыма і больш не зьяўляўся.**

**І адразу неяк сталася так, што старшынявяць на паседжаньні стаў Шукайла, хаця яго ніхто не выбіраў, а наадварот, ён выгнаў кагадзе абранага старшыню. Шукайла, даўшы сабе слова, літаральна заявіў наступнае: «Не выпадае нам, нацыянальным пісьменьнікам, знаходзіцца ў падсуседках ці прымаках пры іншых згуртаваньнях. Нас тут досыць,**

**каб стварыць МОНРП. Сёньня я быў у ЦК КП(б) і ўжо палагодзіў гэтую справу. дазвольце зачытаць вам праэкт статуту».**

**Жыцьцёвая напорыстасьць Паўлюка Шукайлы агульнавядомая. Між іншым, яна знайшла добры адбітак у паэме Крапівы «Хвядос -- чырвоны нос». На Дуброўскага і, магчыма, Аляксеенку падзейнічаў ягоны кій, на нейкую частку -- іншыя аксэсуары: шапка, паліто з каўняром, нібы залаты гадзіньнік, на значную частку -- прыгадваньне ЦК і амаль на ўсіх -- тое, што сапраўды нікому не хацелася прымакамі стацца. Таму аднагалосна было вырашана стварыць МОНРП, а ягоным тымчасовым (да зацьверджаньня статуту) старшынёй быў абраны Паўлюк Шукайла.**

**Пасьля ніякіх паседжаньняў МОНРП'у не адбывалася. На мае запытаньні аб прычынах гэтага Шукайла адмоўчваўся. Дуброўскі сьцьвярджаў, што Шукайлам зацікавілася ГПУ. Сумняваюся, каб Шукайла ня ведаў, як адчыняюцца дзьверы ў гэтай установе, хаця не сумняваюся, што Дуброўскі мог запабегчы ў гэтай справе. Значна пазьней ад Сігізмунда Валайтыса я даведаўся, што Шукайла быў у ЦК пасьля паседжаньня, а не перад ім, як ён запэўніваў, і ЦК ня даў дазволу на існаваньне МОНРП'у, бо гэтым самым нацыянальныя пісьменьнікі якбы хочуць сьвядома адмежавацца ад расейскіх.**

**Крыху наконт Паўлюка Шукайлы. А ўсё-ж ён здатны паэт, добры беларус, неблагі арганізатар і ўвогуле вельмі цікавы чалавек. Вы, пэўне, ведаеце, што ягоныя радкі**

**«На Беларусі**
**вада з крыві,**
**палеткі**
**з курганоў і крыжоў»**

**былі ўзятыя Міхасём Зарэцкім як motto да «Крывічоў». Прынамсі мне пра гэта гаварыў сам Зарэцкі, але чамусьці (цяпер ня помню, чаму) яму яго выкрасьлілі. Прыгадваецца з Шукайлы таксама:**

**«Мары**
**марыш,**
**Марылька.**
**Сьмехам душыш сьлёзы.**
**Гавары,**
**радная**
**гаварыка,**
**Аб чым там шэпчуць бярозы».**

**І хаця помніцца пародыя (здаецца, Сяргея Дарожнага):**

**«Выйду я на сенажаць**
**ды**
**з нагана**
**ў жабу --**
**бац!»,**

**але зьяўленьне Паўлюка Шукайлы ў новай беларускай літаратуры не зьяўляецца чымсьці выпадковым. І на гэтае невыпадковае месца больш за іншых надаваўся па сваіх якасьцях менавіта Паўлюк Шукайла.**

**Вас цікавіць ТАВІЗ. Пасьля расшыфроўкі атрымліваецца вельмі празаічна -- Таварыства Аматараў Выпіць і Закусіць. Па сутнасьці, гэта штосьці накшталт спробы арганізацыйна аформіць беларускую багему. Вынаходнікам самае назвы ёсьць Міхась Багун. Гэтая назва неаднойчы прыгадвалася і ў друку, і на паседжаньнях, і ў пратаколах гэтых паседжаньняў. У склад ТАВІЗ'у ў розныя часы, або адначасна, уваходзілі Тодар Кляшторны, Уладзімер Хадыка (да жаніцьбы), Васіль Каваль, Алесь Дудар, Міхась Багун, Валеры Маракоў, Эдуард Самуйлёнак (да хваробы), Сяргей Дарожны і іншыя. Зьбіраліся звычайна або ў каго-небудзь на кватэры (пераважна ў Багуна), або ў 2-ой гасьцініцы, калі я прыязджаў зь Віцебску, або ў шашлычнай на вул. Камсамольскай, або ў маленькай піўнушцы -- уніз па вул. Савецкай, або (у крайнім выпадку) у сутарэньні Дома Пісьменьніка, дзе меўся пэўны час рэстаран. У сувязі з апошнім меў няпрыемнасьць: у адказ на заўвагу Эдуарда Самуйлёнка -- «паграбок Аўэрбаха» -- заўважыў: «А можа паграбок Авербаха?». У той-жа дзень меў афіцыйную сустрэчу з Андрэем Александровічам, які даводзіў мне геніяльнасьць Леапольда Авербаха.**

**Беларуская багема, бадай, нічым не адрозьнівалася ад багемаў іншых нацыянальнасьцяў. Яна зьяўлялася пратэстам супраць існуючага «Пракрустава ложа». На паседжаньнях багемы без старшыні і сакратара за кухлем ці кілішкам чыталіся творы, якія пісалі для сябе, а не для друку. Тут кожны адчуваў сябе самім сабой, тут скідваліся тыя «маскі», пра якія прыгадваў Язэп Пушча. ТАВІЗ праіснаваў да самай вайны, а мне здаецца, што ён існуе і сёньня. Прынамсі добра сказана ў пасьляваеннага Максіма Лужаніна:**

**Тут плоціцца дзесяць марак**
**і ставіцца дзесяць чарак,**
**а мне трэба больш купіць --**
**і ўжыць,**
**і сябрам наліць.**

**Шчыра зычу ўсяго добрага.**
**Чакаю Ваш ліст.**

**З пашанай да Вас**
**Юрка Віцьбіч**

***Юрка Віцьбіч -- Антону Адамовічу***
***11 студзеня 1952 году***

**Дарагі Спадар Адамовіч!**

**Удзячны за Ваш ліст, які атрымаў учора, і, адкінуўшы ўбок сваю чарговую працу, сьпяшаюся адказаць на яго.**

**Пачну зь верша Дзямяна Беднага пра «Янкін голас». Упяршыню пачуў яго ў 1919 годзе ў Вяліжы ад свайго настаўніка М. Навіцкага. У другі раз -- у Маскве, у часе дэкады беларускае літаратуры, калі яго ўжыў у сваім рэфэраце, прачытаным у тамтэйшым Доме Пісьменьніка «таварыш» Сянкевіч, які ў той час узначальваў па партыйнай лініі беларускіх пісьменьнікаў. Між іншым, ягоны рэфэрат напалову складаўся з лаянкі на Янку Купалу і Якуба Коласа, пэўне, падрыхтоўвалася глеба для іхняга зьнішчэньня. Потым гэты рэфэрат быў выдадзены паасобнай брашурай. Калі не памыляюся, дык, здаецца, ён быў зьмешчаны таксама ў «Литературной газете» (ці ня ў 1930-1931?). У самым крайнім выпадку, калі пошукі першакрыніцы застануцца бяз выніку, ды, калі толькі, спадзяюся, нічога ня маеце супраць, можна спаслацца на «Шыпшыну». Прынамсі на яе некалькі разоў спасылаліся ў сваіх навуковых працах праф. Біржышка і праф. Вакар. Што да «Завулку Янкі Купалы», дык вялікія фрагмэнты зь яго зьмешчаныя ў найстарэйшай у ЗША летувіскай газэце «Келэйвіс» у Бостане.**

**Крыху яшчэ пра ТАВІЗ. Вы вельмі трапна ахарактарызавалі ягоную існасьць -- сапраўды гэта быў супраціў стварэньню пісьменьніцкага калгасу. Гэта зусім не згуртаваньне алкаголікаў. Характэрна, што аднойчы зусім п’яны Ўладзімер Хадыка прыгадаў з Максіма Рыльскага: «Ти випив самогону з кварту і, весь у бруді, п’яний, спиш», а недзе ёсьць «Паэты, сонца і Парыж». Ня менш характэрна, што таксама зусім п’яны Эдуард Самуйлёнак крычаў: «Чаму я мушу эміграваць у Грузію?». Можна прывесьці яшчэ зь дзясятак прыкладаў.**

**Да нейкае ступені, вельмі невялікае ступені, гэты наш ТАВІЗ нагадвае ясенінска-марыенгофскую «Зойкину квартиру». І тут і там -- літаратарская багема, аднак на гэтым падабенства і канчаецца. У нас ТАВІЗ набыў характар ня толькі палітычнага, але й нацыянальнага супраціву, а таму невыпадкова ня сыходзіў з парадку дзённага на партпаседжаньнях.**

**Прыемна, што ТАВІЗ знойдзе адбітак у Вашай працы.**

**Пра канец Паўлюка Шукайлы чуў ад ягонага сваяка Самахвалава, які загадваў бібліятэкай у Беларускім Клюбе на Арбаце. Па ягоных словах, Шукайлу прызначылі дырэктарам Інстытуту кінематаграфіі ў Ленінградзе. Прыехаўшы туды, ён, ні з кім не ўзгадніўшы гэтае пытаньне, перайменаваў Інстытут у Акадэмію, а сябе ў прэзыдэнты яе, заказаўшы адначасна адпаведныя бланкі й пячаткі. Сапраўды, усё гэтае вельмі характэрна для Шукайлы, але сумняваюся, каб толькі за гэтае яго расстралялі. Ад Данілы Абакшонка, дырэктара Беларускага Клюбу на Арбаце, чуў, што Шукайлу расстралялі як нацдэма і што да ягонага арышту спрычыніўся Іл. Барашка. Між іншым, гэта той самы Даніла Абакшонак, які зьмясьціў некалькі сваіх апавяданьняў ва**

**«Ўзвышшы» і якога Хв. Шынклер (па словах самога Абакшонка) заўсёды вітаў воклічам: «Здароў, Даніла, што памачыў х... у чарніла».**

**Дуброўскі, Шукайла і ГПУ. Дуброўскі быў сэксотам, і менавіта за гэтае, але навонкі, бязумоўна, па іншай прычыне, «камуніст» Абакшонак выставіў яго зь Беларускага Клюбу. Усё-ж Абакшонка прымусілі аднавіць Дуброўскага на ранейшай пасадзе. Тым ня менш, праз два тыдні Абакшонак (трэба аддаць яму павіннае) выкінуў Дуброўскага зноў. Шукайла, на маю думку, па самой сваёй натуры не надаваўся на тое, каб стацца сэксотам. Аднак, самаабараняючыся, ён, бязумоўна, мог лёгка знайсьці дзьверы ГПУ.**

**Шукайла і Зіна Бандарына. «Сувязь» іхняя ёсьць вынаходка Звонака, які за штосьці помсьціўся Бандарынай. Прынамсі добра ведаю, што Бандарына за гэтую вынаходку пры людзях аплявушыла Звонака і хацела прыцягнуць яго да большае адказнасьці. І хаця сама Зіна Бандарына была прыхільніцай «крылатага Эраса», аднак чуткі аб ейнай сувязі з Шукайлам не адпавядаюць сапраўднасьці.**

**«Выйду я на сенажаць...». Мне цяпер прыгадалася, што калі аднойчы мы ўтрох (Дарожны, Лужанін і я) сядзелі за гарэлкай і Лужанін парушыў між іншым гэтае пытаньне, дык Дарожны амаль хрысьціўся, што аўтарам гэтае эпіграмы ёсьць Міхась Багун. Крыху падобна на гэтае. Асабліва, калі прыгадаеш, што на зборнік Кляшторнага «Праз шторм на штурм» Багун зьмясьціў у «Чырвонай зьмене» рэцэнзію пад загалоўкам «З дарогі, крот і кракадзіл». Сам Кляшторны не надаваўся на тое, каб за гэтае вылаяць Багуна, але проста з гора бязупынку цэлы тыдзень піў. Сам Шукайла гэтую эпіграму прыгадваў зь пенай на вуснах, таму ня думаю, каб ён быў ейным аўтарам.**

**Крыху наконт «Літаратурна-Мастацкай Камуны». Сапраўды, найздатнейшым у ёй быў Прыбытак Лад. Мяне хвалюе сумны лёс найвыдатнага Макара Шалая, які таксама належаў да «Камуны», а значыцца, добра вядомы Вам. Мне даводзілася калісьці чытаць ягоныя добрыя творы й рэцэнзіі. Пра яго цяпер там ніхто ня згадвае. І хоць я асабіста яго ня ведаў, але мушу напісаць аб ім.**

**Між іншым, у «Літаратурна-Мастацкай Камуне» была жалезная шукайлаўская дысцыпліна. Чуў, што аднойчы, калі Менск наведаў Міхаіл Сьвятлоў і наладзіў свой літаратурны вечар, дык шукайлаўцы зьявіліся ў поўным сваім складзе і літаральна затукалі Сьвятлова. На гэты год прыпадае 25-годзьдзе «Літаратурна-Мастацкае Камуны», і я хачу прасіць колішняга ейнага сябра Рыгора Крушыну напісаць пра яе адмысловы артыкул у «Шыпшыну».**

**Кузебай Герд. Бачыў яго толькі аднойчы і менавіта на тым паседжаньні, якое прыгадваў у папярэднім лісьце да Вас. Чуў, што ва ўдмурцкай літаратуры ён займаў месца, раўназначнае нашаму Янку Купалу. Чытаў ягоныя вершы ў перакладзе на расейскую мову -- моцныя**

**і глыбока патрыятычныя. Ад Пятра Глебкі пазьней даведаўся пра ягонае рэпрэсаваньне.**

**Мне хочацца думаць, што Вы ў сваёй працы не амінеце супраціву беларускіх пісьменьнікаў рэформе беларускага правапісу і ўвогуле русыфікацыі нашай мовы. Акрамя газэтаў, гэты супраціў знайшоў адбітак у кнізе «Акадэмія Навук БССР. Пісьменьнікі БССР аб рэформе правапісу беларускай мовы. Менск. Выд. Беларускай Акадэміі Навук. 1934 г.».**

**Кніга гэтая ёсьць у Нью-Ёркскай бібліятэцы. Між іншым, пераглядаючы нашыя эміграцыйныя выданьні, знайшоў у адным зь іх вялікі сьпіс беларускіх кніжак, што ёсьць у гэтай бібліятэцы. Пры гэтым складальнік сьпісу адзначае, што сьпіс ёсьць павярхоўны і зусім не абдымае ўсяго таго, што ёсьць на 42-й вуліцы. «...»**

**Тымчасам усяго добрага.**

**Прашу перадаць прывітаньне Вашай сям'і ад маёй сям'і.**

**З пашанай да Вас**

**Юрка Віцьбіч**

**P. S. Перачытаў уважліва ліст і ў сувязі з ТАВІЗ'ам прыгадаў, што ў мяне тут ёсьць фотакартка Валерыя Маракова, дзе ён сядзіць у шашлычнай за кухлем піва і перагортвае свае добрыя вершы. Ёсьць у мяне таксама добрае і невялікае памерам клішэ з партрэту Ўладзімера Хадыкі. Хочацца пры нагодзе апублікаваць яго, але не ў малых газэтах, бо яны занадта палітычныя для гэтае мэты.**

**Яшчэ раз усяго добрага.**

***Юрка Віцьбіч -- Антону Адамовічу***
***15 чэрвеня 1956 году***

**Дарагі Сябру!**

**Перад усім аб «Ўзвышшы». «...» Калі мне не давялося асабіста ведаць Дубоўку, Жылку, Пушчу, Бабарэку ды іншых старэйшых узвышэнцаў, а з Вамі, здаецца, пазнаёміўся толькі ў часе вайны ў Менску, дык затое меў сталую беспасярэднюю і лістовую лучнасьць зь іншымі ўзвышэнцамі. Максіма Лужаніна, нягледзячы на ўсе ягоныя перайманьні, лічу адным з нашых найбольш таленавітых і цікавых паэтаў. Нас пазнаёміў у Менску Сяргей Дарожны, і ў мяне склалася ўражаньне пра Лужаніна, што як чалавек ён куды больш валявы, заўзяты, чым той-жа Сяргей Дарожны або Тодар Кляшторны. Захоўвалася ў мяне і жменька ягоных лістоў, добрых, сяброўскіх. У «Шыпшыне» я перадрукаваў некаторыя вершы Лужаніна («Вільнянка», «Дзьве вясны» і інш.), што выклікала абурэньне з боку Клішэвіча, Сядуры, Дудзіцкага і Сяднёва. Яны штосьці супраць яго маюць, але я ім не сказаў пра тое, што й супраць**

**іх хтосьці на эміграцыі штосьці мае. А ўвогуле-ж «ня судзіце ды нясудзімыя будзеце». Каб аб’ектыўна заглядацца на нашую родную літаратуру, мы ня будзем пазычаць акуляры ў баранцэвічаў, як і ў іхніх беларускіх прысьпешнікаў.**

**Мне хочацца напісаць артыкул або нарыс, прысьвечаны ўзвышэнцам напярэдадні і пасьля «самазьліквідаваньня». Мне хочацца прыгадаць у гэтым нарысе Зьмітрака Бядулю, Кузьму Чорнага, К. Крапіву, Т. Кляшторнага, П. Глебку, С. Дарожнага, В. Шашалевіча, як і ўскосна, праз успаміны прыгаданых, ужо рэпрэсаваных бальшавікамі сяброў Згуртаваньня. «...»**

**Шчыра зычу ўсяго добрага.**
**З пашанай да Вас**
**Юрка Віцьбіч**

***Юрка Віцьбіч -- Антону Адамовічу***
***8 верасьня 1962 году***

**Дарагі Сябру!**

**«...» Дастаў просьбу ад аднаго нашага выданьня напісаць успамін пра Янку Купалу і пішу пра... Якуба Коласа, а ўласьне: «Зь Якубам Коласам па грыбы».**

**Давялося мне калісьці летаваць у Падбярэзьзі пад Пухавічамі, паблізу (2 км) ад лецішча Коласа і неаднойчы разам хадзіць па грыбы. Там Якуб Колас, бадай, нічым не нагадваў афіцыйнага Коласа з Дому Пісьменьніка на вул. Савецкай, 67 у Менску: «Зірні, браце, гэта табе не дыялектычны матэрыялізм, а баравік, духмяны шчыры грыб».**

**Хтосьці ўцякаў ад савецкай рэчаіснасьці (ад таго-ж дыямату ды іншага, паскуднага) у шашлычную на Камсамольскай ці ў «Эўропу», а Якуба Коласа ратавала замілаваньне да грыбоў, ягадаў, кветкаў, птушкаў, да сустрэчаў з «простымі, звычайнымі» людзьмі, а ўвогуле -- да таго, у чым адбівалася ягоная бязьмежная любоў да свае краіны і народу. Згадваецца эпіграма Кандрата Крапівы на Якуба Коласа:**

**Быў я ў Парыжы на Кангрэсе,**
**То ў Загібельцы, браце, лепш:**
**Грыбоў няма ў Булонскім лесе,**
**А ў Сене -- хоць-бы адзін лешч.**

**Вось акурат каля гэтае самае Загібелькі (надзвычай прыгожая мясцовасьць на беразе Сьвіслачы) і хадзілі разам па грыбы.**

**Я арганічна ня ў стане зрабіць агляд творчасьці таго ці іншага нашага пісьменьніка, хоць, можа, і няблага ведаю ягоную творчасьць. Ніхто гэтае ня зробіць лепш за Вас. Затое мне вельмі падабаецца праз тую ці іншую дэталь паказаць жывога, сапраўднага чалавека. І мне здаецца, што суродзіч лепш зразумее дзядзьку Зьмітрака Бядулю, калі даведаецца,**

**як ён шукаў у Магілёве старую гэбрайскую школу, лепш зразумее Янку Купалу, калі дазнаецца, як ён сам ставіўся да свае «Над ракой Арэсай», лепш зразумее Якуба Коласа, калі пачуе, як ён для самога сябе, для душы і ад усяе душы пад скрыпку ўпаўголаса пяяў: «Колесницегонителя фараона погрузи...». Вось і тут грыбы -- нішто іншае, як тая-ж дэталь. «...»**

**З пашанай да Вас**

**Ваш Юрка Віцьбіч**

***Юрка Віцьбіч -- айцу Льву Гарошку***
***15 кастрычніка 1950 году***

**Дарагі Айцец Леў!**

**Не пасьпеў яшчэ адказаць на адзін Ваш ліст, як атрымаў другі разам зь вершам Алеся Гаруна. Вельмі й вельмі ўдзячны. Гэтым вершам мае пачацца ! 9 «Шыпшыны» ў сувязі з 30-й гадавінай ад дня сьмерці паэта. Люблю Гаруна. Люблю і як паэта і як змагара. Ягонае жыцьцё зьяўляецца прыкладам і для нашае моладзі і для старэйшых. Там ягоныя творы спалены акупантамі, ягонае сьветлае імя сьвядома замоўчваецца. Аднак прыйдзе, абавязкова прыйдзе той сьвяты час, калі Алесь Гарун вернецца на Бацькаўшчыну, вернецца ў ейныя школы і кніжніцы і ўстане помнікам на адным з пляцаў Менску або Вільні, або Віцебску.**

**Мяне цікавіць Вашая праца -- «Беларускія пісьменьнікі ў адношаньні да Бога». Запраўды, я ў свой час хацеў апрацаваць гэтую тэму і зьбіраў адмысловы матар'ял, але вымушаны быў адмовіцца. У чытача такога артыкулу склалася-б уражаньне, што пісьменьнікі Ўсходняе Беларусі зьяўляюцца атэістамі, бо ў іхніх творах ніколі не прыгадваецца Бог. Між тым, добра ведаючы ўсходніх беларускіх пісьменьнікаў, сьцьвярджаю, што сярод іх ня было атэістаў, яны былі вернікамі. Проста цэнзура (Белгалоўліт) не прапушчала або амаль не прапушчала нічога пра рэлігію на старонкі друкаваных выданьняў. Вера пісьменьнікаў Усходняе Беларусі насіла катакомбны характар.**

**Дазвольце прывесьці адзін канкрэтны прыклад. Аднойчы ўвечары ў Менску Ўладзімер Дубоўка і Мікалай Равенскі, паэт і кампазытар, вырашылі па адной пільнай справе наведаць Якуба Коласа. Дайшоўшы да ягонае сьціплае хаты, яны пабачылі, што дзьверы на вуліцу адчыненыя. Яны ўвайшлі ў першы пакой, потым -- у другі, нікога не сустракаючы, і нарэшце пачулі скрыпку і пяяньне пад яе. У паўзмрочным вячэрнім пакоі стаяў сьпіной да тых, што ўвайшлі, Якуб Колас і пад акампанемэнт скрыпкі сьпяваў «Колесницегонителя фараона погрузи, чудотворяй мойсейский жезл...». Заўважыўшы Дубоўку й Равенскага, Якуб Колас вельмі спалохаўся і, адкінуўшы ўбок скрыпку, з дрыготай у голасе сказаў: «Як вы неўзаметку ўвайшлі. Вы нічога ня**

бачылі і ня чулі. Добра?». Можа пасьля гэтага на другі ці на трэці дзень Якуб Колас напісаў блюзьнерскі верш, але ў той самы вечар у сваім ціхім самотным пакоі Якуб Колас быў самім сабою.

Гэты выпадак датычыць старога паэта, нашаніўца, былога царскага арыштанта. Што патрабаваць тады ад беларускага падсавецкага пісьменьніцкага маладняку? І тым ня менш, гэты маладняк ня быў атэістычны. Не кажу пра Віцьбіча, якому Міхась Клімковіч у сваіх «крытычных» артыкулах закідаў, што «ні адзін герой Віцьбіча ня можа прайсьці паўз крыжа, каб не перахрысьціцца». Віцьбіч у гэтым ня зусім характэрны. Ён усё-ж сын, унук, праўнук, прапраўнук і г. д. сьвятароў. Але-ж у дзяцей сялянаў забароненая вера ў Бога ішла па іншым рэчышчы. Прыгадваецца адна страфа расейскага паэта Гумілёва, расстралянага бальшавікамі:

Есть Бог, есть мир -- они живут вовек,
А жизнь людей мгновенна и убога,
Но всё в себе вме]ает человек,
Который любит мир и верит в Бога.

І вось у беларускага пісьменьніцкага падсавецкага маладняку ўсмактаная з матчыным малаком вера ў Бога ішла па лініі любові да людзей, да Народу, да Бацькаўшчыны. За гэтую любоў яны амаль усе прайшлі Хрыстосаў Шлях. Калыма, Казахстан, капальні Бэльгіі, аўстралійскія лясы, дзе сёньня пакутуе Алесь Салавей, -- іхняя Галгофа. Мая вера ў Бога не дазваляе мне думаць, што Госпад Бог не дараваў Уладзімеру Жылку ягонага блюзьнерскага верша «Альбігоец». І як усё-ж добра сказаў другі былы савецкі катаржнік Масей Сяднёў:

Няхай прабачыць мне Магутны,
што верыць я раней ня мог.
О, так! Я -- грэшнік, раб пакутны,
я прад Табою на каленях, Бог.

Дазвольце тымчасам на гэтым скончыць мой ліст, які, магчыма, атрымаўся занадта вялікі. Шчыра зычу Вам усяго добрага. Памаліцеся, айцец Леў, у сваіх малітвах і за мяне, неўгамаванага, якому часам цяжка жыць, але якога заўсёды падтрымлівае вера ў Бога і любоў да Бацькаўшчыны.

Чакаю Ваш ліст.

З пашанай Юрка Віцьбіч

*Юрка Віцьбіч -- айцу Льву Гарошку*
*1 травеня 1951 году*

Дарагі Айцец Леў!

**Вельмі ўдзячны за Ваш ліст, за верш Я. Фарботкі і за добрую думку наконт ! 9 «Шыпшыны». Верш лішні раз сьведчыць аб вылучнасьці Я. Фарботкі як паэта. Што да ! 9 «Шыпшыны», дык спадзяюся зрабіць ! 10 яшчэ лепшы. Прыкра, зразумела, што часапіс ратататарны, але тымчасам лепей ратататарны, чым нічога.**

**Прашу прабачэньня і бяру назад сваю заўвагу наконт датаў, зьвязаных з Прэпадобнай Еўфрасіньняй, князёўнай Полацкай. Вашая праца аб ёй -- каштоўная навуковая праца, і ў ёй якраз ёсьць тая навуковая праверка нашае храналёгіі, аб якой прыгадваецца ў рэцэнзіі.**

**Мне спадабалася Вашая рэцэнзія ў апошнім нумары «Божага Шляху». Гэта ўзор рэцэнзіі, якая мусіць адзначаць і дадатныя і адмоўныя бакі твора. На вялікі жаль, у нас так рэцэнзіі ня пішуць. Варта прыгадаць рэцэнзію не наконт твора, а наконт аўтара з закідам яму ў колішняй прыналежнасьці да ўласаўшчыны («Беларус» аб Ул. Дудзіцкім), артыкул Міколы Равенскага ў «Баявой Ускаласі» з акцэнтаваньнем на тым, што Міхась Чарот -- былы камуніст і г. д. У сувязі з гэтым пішу артыкул для ! 10 «Шыпшыны» -- наконт «былых» увогуле і ў прыватнасьці.**

**Дазвольце крыху выказацца наконт «былых». Нашыя высокапрынцыповыя змагары часам пакідаюць бяз увагі тое, што для бальшавікоў мы ўсе ўвогуле «былыя людзі».**

**Я ўпэўнены, што тыя беларусы з адзінаццатага корпусу, якія загінулі пад Монтэ Касына сьмерцю харобрых, змагаліся за Незалежную Беларусь, а не за ажыцьцяўленьне ведамых выказваньняў Андэрса. Упэўнены таксама ў тым, што тыя беларусы з фармацыяў Уласава, якія загінулі сьмерцю харобрых, абараняючы Магілёў ці Віцебск ад расейска-бальшавіцкае пачвары, змагаліся за Незалежную Беларусь, а не за «Единую и Неделимую». Я апраўдваю тых беларусаў-заходнікаў, якія трапілі ў камуністычную партыю або камсамол, шчыра думаючы, што там, за жалезнай заслонай, у БССР будуецца «беларускі дом». Я апраўдваю тых беларусаў-усходнікаў, якія трапілі ў шэрагі камуністаў або камсамольцаў, шчыра думаючы, што ў СССР будуецца рай для людства, а трапіўшы ў часе апошняе вайны за жалезную заслону, або і без вайны пераканаліся ў агіднасьці бальшавізму і сталіся зацятымі ворагамі бальшавізму і жыцьцё паклалі за сваю памылку. Які няўлюдак зможа кінуць сёньня каменем у Чарвякова, Галадзеда, Шаранговіча, Некрашэвіча, Убарэвіча і іншых, а тым больш абразіць сьветлую памяць Усевалада Ігнатоўскага, Цішкі Гартнага і Міхася Чарота? Нам невядомыя магілкі Галадзеда, Шаранговіча, Некрашэвіча, Убарэвіча, Цішкі Гартнага, Міхася Чарота, але на магілках Ігнатоўскага і Чарвякова ў часе апошняй вайны, у дні нашых нацыянальных сьвятаў, стаяла ганаровая варта СБМ. Мы проста забываемся пра тое, што ўся падпольная ўсходняя Беларусь сьпявала, як гімн, верш «камуніста» Міхася Чарота:**

Жывуць Шыла, Грыб, Мамонька.
Будзем жыць і мы.

Мы проста забываемся пра тое, што Міхась Чарот расстраляны расейскім бальшавізмам як зацяты вораг расейскага бальшавізму, як Змагар за Незалежнасьць Беларусі. Я занадта добра ведаў бацьку беларускага «маладнякізму» Міхася Чарота, каб нехта мне давёў, што ён падзяляў бальшавіцкі сьветапогляд.

Я асабіста не належаў ні да ўласаўцаў, ні да андэрсанцаў, ні да камуністаў, ні да камсамольцаў, а таму, магчыма, вельмі таленранцыйна стаўлюся да «былых». Затое лічу, што няма аніякага дараваньня для аднаго бэцээраўца, які надысь меў у Нью-Ёрку «цёплую гутарку» з Керанскім, або для аднаго бээнэраўца, які крыху раней меў такое-ж «цёплае спатканьне» ў тым-жа Нью-Ёрку з Андэрсам. Гэта сапраўдныя здраднікі. Іхні шлях зь беларускім вызвольным шляхам не супадае. А між тым якраз гэтыя асобы вельмі прынцыповыя ў дачыненьні да «былых».

Цяпер крыху наконт «трэцяе сілы», якую Вы прыгадваеце. Фактычна яна сёньня пабілася на дзьве сілы, на два крылы -- бээнэраўскае і бэцээраўскае. «...» У сувязі з гэтым міжволі думаецца, што «трэцяя сіла» мусіць спачатку сама паяднацца, а потым ужо заклікаць да паяднаньня іншых. Асабіста я ня веру ў магчымасьць паяднаньня бээнэраўцаў з бэцээраўцамі і наадварот. Але затое моцна веру, што праз пэўны час усё сапраўды патрыятычнае і самаахвярнае, што ёсьць у гэтых дзьвюх плынях, спалучыцца, адкінуўшы пры гэтым убок зачэпленыя амбіцыі, асабістыя крыўды з узаемным дараваньнем адзін аднаму ўзаемных зьнявагаў і г. д. Беларусь -- нашае сьвятое-сьвятых -- станецца перадусім для сапраўдных змагароў за ейную Незалежнасьць.

Пераходжу да Вашых заўвагаў наконт сьпісу паэтаў Заходняе Беларусі. Хочацца зазначыць, што Андрэя Зязюлю аніяк нельга залічыць да маладзейшага пакаленьня заходне-беларускіх паэтаў, якім прысьвячаецца разьдзел у ! 10 «Шыпшыны». Ён пачаў друкавацца ў «Нашай Ніве» (1910 г.) і па ўсім складзе свае творчасьці належыць да нашаніўцаў. Менавіта таму нельга таксама прыгадаць у гэтым разьдзеле Францішка Аляхновіча, Гальляша Леўчыка, Казіміра Сваяка і іншых. Затое ў гэтым годзе трэба абавязкова адзначыць 30-годзьдзе (17 студзеня 1921 г.) ад дня сьмерці Андрэя Зязюлі. Калісьці я напісаў і надрукаваў аб ім даўгі артыкул, але цяпер ня маю ні рукапісу, ні тае газэты, дзе артыкул быў зьмешчаны. Маю цяпер, акрамя рэлігійнага гімну, яшчэ 5-6 ягоных вершаў ды фотаздымкі касьцёлу Ягайлы, дзе ён пэўны час адпраўляў Божую Службу. У адным з нумароў «Шыпшыны» за 1951 год будзе аб ім артыкул. Хочацца думаць, што гэтая гадавіна будзе адзначана і на старонках «Божага Шляху» і на старонках «Зьніча».

Дарэчы наконт «Зьніча». Адзін бээнэравец зь Лёндану параіў мне зьвярнуць у «Шыпшыне» ўвагу на мову «Зьніча». «Шыпшына» ня лічыць сябе занадта аўтарытэтнай у гэтай галіне. А потым навошта

ўвогуле адбіраць хлеб у Янкі Станкевіча? На маю асабістую думку, айцец Татарыновіч не зьяўляецца ні лінгвістам, ні журналістам, але адно не падлягае сумніву: ён -- добры беларус. Апошняе -- самае галоўнае ў нашых эміграцыйных умовах.

**Дарэчы і наконт доктара Янкі Станкевіча. Калі выкінуць з ! 1 «Веды» ўсё лушпавіньне (маю на ўвазе «станкевічызмы»), дык тэма галоўнага артыкулу -- пашырэньне беларускае мовы на ўсход -- робіць увесь нумар дадатным. Затое у ! 2 наш Янка расьперазаўся. Мне асабіста здаецца, што хопіць ужо пісаць аб зьмене нашага нацыянальнага назову. Сёньня ёсьць больш актуальная тэма -- змаганьне за Незалежнасьць Бацькаўшчыны. Навукоўцы, пісьменьнікі, журналісты, ня кажучы ўжо пра палітыкаў, мусяць падрыхтаваць у гэтым сэнсе глебу для нашых жаўнераў, для нашых дыплёматаў. Не надаецца доктар Янка Станкевіч на прапагандыста. Адна справа, калі Крывію прапагандуе Вацлаў Ластоўскі, адзін з найвялікшых беларусаў, і зусім іншая справа, калі за гэтае прапагандаваньне бярэцца доктар Янка Станкевіч. Можа, гэта добра, што недзе зьніклі Зюземюль і Пачопка. Таксама спрытныя былі ў сэнсе зьмены назоваў. Асабіста я -- прыхільнік зьмены нашага нацыянальнага назову, але толькі не на эміграцыі і толькі ня гвалтам.**

**Аднак мой ліст атрымаўся аж занадта вялікі. Пэўне, гэта тлумачыцца тым, што першы дзень я вярнуўся са шпіталю, дзе ладнага «адпачыў».**

**Тымчасам дазвольце на гэтым скончыць ліст.**

**Прашу Вашых малітваў і багаславеньня.**

**З пашанай да Вас**

**Юрка Віцьбіч**

***Юрка Віцьбіч -- Ізыдару Гуткоўскаму***

***23 сакавіка 1957 году***

**Дарагі Ізыдар!**

**Ведаю, што Вы не аматар пісаць лісты або на іх адказваць, і ўсё-ж спадзяюся на Ваш ветлівы адказ. Хто ведае, можа, мае спадзяванкі ня стануцца цацанкамі.**

**Яшчэ за часы вайны я напісаў нарыс, прысьвечаны Эдуарду Самуйлёнку, ці, дакладней, на ягоным прыкладзе, таму -- як савецкая рэчаіснасьць забівае таленты. Дарэчы, паказальны нават самы назоў гэтага ненадрукаванага нарысу «Спадманулі русальчыны сьцежкі», рукапіс якога ў мяне не захаваўся. «...»**

**На сёлета прыпадаюць 50-ыя ўгодкі ад дня нараджэньня Эдуарда Самуйлёнка, і на гэты раз я аб ім абавязкова напішу. Напішу, бо, па-першае, ён не «рабкор» і не «пісака» (ацэнка М. Цэлеша), а адзін з**

найбольшых беларускіх (па форме) і савецкіх (па накінутым яму жыцьцём зьместу) пісьменьнікаў, які ўрэшце-рэштаў стаўся ахвярай, загінуў пад гэтым накінутым; па-другое, хоць Віцьбіч і Самуйлёнак ішлі рознымі літаратурнымі шляхамі -- першага цкавалі, другога ўсхвалялі, але гэтае не перашкаджала ім сябраваць, і, магчыма, таму ніхто больш за Віцьбіча ня ведае сапраўдны твар Самуйлёнка, забітага ў літаральным і ўскосным сэнсе бальшавікамі.

Нават больш, я абстрагуюся ад таго, што нейкі час Самуйлёнак спрабаваў на маіх «памылках» нажываць сабе капітал, патрабуючы ад мяне на адной агульнапісьменьніцкай нарадзе, акрамя рознага іншага, каб я расшыфраваў ініцыялы «П. Г.» -- аўтара добрае рэцэнзіі ў «Полымі Рэвалюцыі» на маю кніжку «Сьмерць Ірмы Лаймінг». Не падлягае сумлеву, што ўсе прысутныя ведалі, хто такі «П. Г.», але, значыцца, Самуйлёнак дамагаўся, каб я стаўся шкурнікам і сам кінуў каменем у літаратара, да якога заўсёды ставіўся і дагэтуль стаўлюся зь вялікай пашанай. Ён гэтага не дамогся, як ніхто таксама не дачакаўся ад мяне пакаяльных лістоў у рэдакцыі.

Пазьней мне давялося бліжэй пазнаёміцца з Эдуардам Самуйлёнкам, калі разам належалі да ТАВІЗ'у. «...»

Таму ўрэшце-рэштаў, калі прыгадваецца Самуйлёнак, як і шмат хто з тагачасных і сучасных тамтэйшых літаратараў, дык адначасна прыгадваюцца радкі:

Паэтаў тых, Магутны, не карай,
Што пекла ўслаўляюць, нібы рай,
Бо лёс іх можа самы найцяжэйшы:
Яны, услаўляючы чужы закон,
Які нікога не сагрэў і не пацешыў,
Выпростваюць у хаце вольную далонь,
Уночы іншыя складаюць вершы
І кідаюць дзеля бясьпекі ў агонь.
Ня ўбачыць іх: «*Вясна ў тых канцонах*
*Рыдае так, што на душы сьцюдзёна».*

Перадусім падкрэсьленае мной ужываю як эпіграф да нарысу «Спадманулі русальчыны сьцежкі», але гэта адхіленьне ўбок. Гэтак мог напісаць у сваёй паэме «Праклятыя гады» толькі вялікі інтэлігент, што належаў да славутага «Пяцярнога Грону» Юры Клэн. Між іншым, працытаванае ўзята з урыўку «Памолімся за тых», зьмешчаным у !6 «Шыпшыны». Дарэчы, гэты пераклад Янкі Золака няўдалы, з чаго слушна абураўся ў лісьце да мяне Алесь Салавей, але што зробіш -- пераклад патрабаваўся да нэкралёгу. Аднак справа палягае ня ў гэтым, а ў тым -- як выгодна розьніцца зварот да Магутнага ад безапэляцыйных прысудаў розных нашых судзьдзяў зь іхнімі «добродетелями стопудовыми».

**Дазвольце цяпер перайсьці да мае просьбы. Я зноў і нават у большай ступені, чым раней, сабраў адпаведны матар'ял, што маю дадаць да маіх непасрэдных успамінаў і такім чынам аднавіць нарыс. Аднак мне патрэбна ўдакладненьне некаторых момантаў, і я спадзяюся на Вашую ветлівасьць.**

**Як у Менску называюць тыя могілкі, на якіх пахаваны Эдуард Самуйлёнак? Вайсковыя? А можа, Аляксандра-Неўскія, па імені царквы, што на іх знаходзіцца? Як мянуецца тая частка Менску? Або вуліца? Я ня жыў стала ў Менску, але, прыязджаючы зь Віцебску, неаднойчы наведваў гэтыя могілкі. Адразу, калі ўваходзіш, зьлева зьняважаны помнік на магілцы Ўсевалада Ігнатоўскага, направа, крыху воддаль ад дарогі, помнік на магілцы Паўлюка Труса, каля самае царквы пахаваны Самуйлёнак, а побач актор Крыловіч?**

**Як звалі жонку і дзіця Самуйлёнка? Паміраючы, ён неаднойчы іх прыгадваў, але, між іншым, жонка наведала яго ў Сасноўцы пад Віцебскам толькі аднойчы і пры гэтым далей парогу да яго не падышла.**

**Хто і прыблізна якія па зьместу прамовы гаварыў у часе пахаваньня Самуйлёнка? Пятро Глебка? Міхась Лынькоў?**

**Вось і ўсё тое, чаго мне нестае. Хоць гэтае -- тое -- другараднае ў параўнаньні зь іншым, але ўсё-ж патрэбнае. Калі ласка, дапамажыце мне гэтае ўдакладніць.**

**А на разе шчыра зычу ўсяго найлепшага.**

**Даруйце за клопаты.**

**Чакаю Ваш ліст.**

**З пашанай да Вас. Ваш Юрка Віцьбіч**

***Юрка Віцьбіч -- Ізыдару Гуткоўскаму***
***18 травеня 1957 году***

**Глыбокапаважаны Спадар Гуткоўскі!**

**Шкадую, што ня ў стане сёньня прысутнічаць на Вашым цікавым рэфэраце на тэму «Сучасны стан беларускае савецкае літаратуры». Мне тое-сёе вядома аб ёй з набытых мною кніжкаў (Очерк истории белорусской советской литературы. Москва, 1954; Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры. Мінск, 1956), як таксама і з таго-сяго, што сустракалася ў нашым дый ня нашым пэрыядычным друку. Дарэчы, неяк кінулася ў вочы характэрная дэталь.**

**У «Нарысах па гісторыі», у сувязі з раманам Міхася Лынькова «Векапомныя дні» (б. 316), пададзена наступнае:**

**«Сакратар абкома Васіль Іванавіч Шэршань (у рускім перакладзе Сокалаў)».**

**Па-першае, шэршні ў нашым фальклёры сымпатыяй не карыстаюцца, і таму прозьвішча, як у сук улепленае, але, па-другое, што**

найгалоўнае -- для расейцаў Шэршань перамяноўваецца ў Сокалава. І думаецца, што да гэткага «перакладу» спрычыніўся сам аўтар, а не перакладчык. Але гэта хай сабе й паказальная, але ўсё-ж дэталь у параўнаньні з шмат чым іншым, часта-густа перакручаным, падробленым дзеля ўгодніцтва перад Масквой. І вось, нажаль, я незнаёмы з самымі творамі тамтэйшых літаратараў, каб склалася аб іх непасрэднае ўражаньне.

Між тым «рэгабілітацыя», хоць і ў двукосьсях, не зьяўляецца міфам. Учора дастаў зь Лёндану цікавы каталёг: «Савецкія кнігі на беларускай мове. 1957 год».

Зь яго даведаўся, што «рэгабілітаваныя» (акрамя прыгаданых П. Броўкам на III Зьездзе):

*Юлі Таўбін.* Здаўна люблю гэтага паэта. Прыгадваецца ягонае:

Я зь вершам праходжу жыцьцёвыя тракты,
Я зь вершам -- і ў крозах, і ў сьне...
Харэі і ямбы, і пругкія дактылі
Заўсёды на варце ў мяне.

Між іншым, у сувязі з маімі ўспамінамі пра Таўбіна ў «Шыпшыне» (!8) Сяднёў і Клішэвіч назвалі ягонае:

Шолах шын
і шум машын, Вашынгтон і Віскансін...
(«Злучаныя Штаты»)

-- «жыдоўскай дрындушкай». Ой, як ім далёка абодвум да Таўбіна, якога даўно, на глыбокі жаль, няма цяпер у жывых.

Мне Таўбін тым болей блізкі, што належу разам зь ім да «ахвосьця разгромленага нацыянал-дэмакратызму» -- гэтак калісьці Андрэй Александровіч назваў Лужаніна, Калюгу, Таўбіна, Хадыку і Віцьбіча, расклаўшы іх па паліцах. Таўбін у яго стаўся «паўпрэдам у літаратуры буржуазна-кулацка-нацыяналістычнай інтэлігенцыі», а ў творчасьці Віцьбіча «працягваецца выразная дваранска-нацыяналістычная сутнасьць». («Пісьменьнікі БССР аб рэформе правапісу беларускай мовы». Менск. 1934 г., б. 19)

*Зьмітро Астапенка.* З тае-ж «Амсьціслаўскае плеяды». Пра яго ў каталёгу адзначана: «загінуў на фронце», што не адпавядае праўдзе. Не паводле прыпушчэньняў, а паводле сьведчаньня аднаго з уцекачоў, ён закатаваны СМЕРШ'ам. Таму паказальна, што ў сьпісе тых, што, «абараняючы Радзіму, загінулі гераічнай сьмерцю» («Нарысы па гісторыі», б. 301), няма З. Астапенкі, як няма таксама й Рыгора Мурашкі.

*Сымон Баранавых.* Аб ім прыгадаў П. Броўка, але ў каталёгу адзначана, што ў 1957 г. выйдзе з друку ягоны раман «Калі ўзыходзіла сонца». Ён пасьпеў яго скончыць і здаць у друк перад катаргай, зь якое не вярнуўся. Дзівіць, аднак, што неяк у Дзяржаўным выдавецтве

перахаваўся ягоны рукапіс. А можа Баранавых вярнуўся, хоць яшчэ перад вайной ён дайшоў на Калыме да стану «дахадзягі».

Далей прыгадваюцца ў выдавецкім пляне на 1957 г.: Цішка Гартны «Сокі цаліны», Рыгор Мурашка «Сын», Андрэй Александровіч «Выбраныя творы», Алесь Звонак «Табе адной», Мікола Хведаровіч «Вершы».

Між іншым, Александровіча арыштавалі ў Мар'інай Горцы, калі ён разам з Хведаровічам, босы і без кашулі, лавіў рыбу ў Цітве. Александровіч, перадаючы сваю вуду Хведаровічу (паводле пазьнейшых слоў Жаўрука мне), сказаў: «Трымай, Мікола. Праз гадзіну вярнуся назад».

Праз тыдзень арыштавалі Хведаровіча. Гадзіна абярнулася на два дзесяцігодзьдзі -- або працягнулася прыблізна на 175 тысяч 200 гадзінаў. Тым ня менш, няма ў мяне спачуваньня да «двудушнага Януса» Александровіча. У часе допытаў у яго зламалі два рабры, выслалі аж на Ігарку, а ён там (сьведчыў Тодар Лебяда) да нябёсаў усхваляў ВКП(б), апраўдваў НКВД і ўсім гэтым нажыў сабе ворагаў ня толькі паміж паліткатаржанаў, але нават «уркаў».

Разам з розным іншым у мяне перахаваўся фотаздымак з Дому Пісьменьніка ў Мар'інай Горцы. Мне не давялося там жыць, але два леты пражыў паблізу, за Пухавічамі, у Падбярэзьзі, на беразе вельмі прыгожае Сьвіслачы. Там-жа заўсёды летавалі Пятро Глебка і акторы -- Уладамірскі, Ржэцкая, Ждановіч, Бялінская, Малчанаў, Пола і інш. Але-ж як яны ўсе пастарэлі паводле іхніх фотаздымкаў у кнізе «Мастацтва Савецкай Беларусі» (Мінск, 1955 г.), -- адзін толькі я памаладзеў. «...»

Дарэчы, у тым-жа каталёгу зазначана, што Алесь Зарыцкі выдае сваю паэму «На дзьвінскіх парогах» пра каханьне беларуса-плытагона і латышскае дзяўчыны. Калісьці мы разам жылі ў Маскве, у Цэнтральным Беларускім Клюбе на Арбаце. Там я, між іншага, напісаў апавяданьне «Грыміць Перакагрыж» і аповесьць «Ціхая Руба» (ёю распачаўся !1 часопісу «Полымя Рэвалюцыі»), прысьвечаныя дзьвінскім плытагонам і парогам. У гэтай аповесьці ёсьць разьдзел пра каханьне беларуса-плытагона да дзяўчыны латышкі. Не хачу сказаць, што Зарыцкі стаўся плагіятарам, але мне здаецца, што ён, які тады захапляўся маймі творамі, трапіў у гэтым сэнсе пад мой уплыў.

Між іншым, акурат у сувязі з героем «Грыміць Перакагрыж» Вы калісьці і ў сваім рэфэраце, і ў артыкуле зусім слушна заўважылі, як дадатнае, тое, што, калі ў першым варыянце («Узвышша», !3, 1930) гэты герой гіне, дык у другім варыянце (кніжка «Формула супрацiўленьня касьцей») хвалі выкідваюць яго жывым на скалы. Нажаль, я ня ў стане тады быў Вам сказаць, што наўмысьля забіваў сваіх улюбёных герояў (Ірма Лаймінг -- «Сьмерць Ірмы Лаймінг», сьмерд -- «Арцыбіскуп і сьмерд», Станіслаў Галькевіч -- «Лшона Габоа Бійрушалайм», Ясь -- «Як

**загінуў Ясь», Самусь зь «Ціхай Рубы» і г.д.), абы толькі ня бачыць іх на каленках ці за кратамі. Нават вецер паваліў у мяне і здрушчыў апяяную мной статую Яна Непамуцэна (апавяданьне «Ян Непамуцэн»), каб яна, прыдарожная сьведка стагодзьдзяў нашае гісторыі, ня сталася экспанатам антырэлігійнага музэю. І каб падкрэсьліць, што вінавайцам гэтага здарэньня зьяўляецца вылучна вецер, я узяў ўсё-ж сымбалічнае ў дадзеным выпадку motto з Эміля Верхарна:**

**Не спаткалі часам ветру**
**На растанках ста шляхоў?**

**Тымчасам пішэце. З пашанай да Вас**
**Юрка Віцьбіч**

***Юрка Віцьбіч -- Аўгену Кахаsuccеўскаму***
***23 чэрвеня 1956 году***

**Глыбокапаважаны Спадар Каханоўскі!**

**Бадай цалкам падзяляю Ваш погляд на альманах «Ля чужых берагоў». У ім гэтулькі хібаў, што цяжка ў лісьце на ўсіх нават коратка затрымацца, але ўсё-ж я паспрабую.**

**Па-першае, чаму «Ля *чужых* берагоў»? Хіба чужыя для нас, беларускіх палітычных эмігрантаў, берагі ЗША, якія сымбалізуе сабой Статуя Волі -- падарунак Дзядзьку Сэму ад Марыянны ў фрыгійскім калпаку? Няўжо чужыя для нас Нотр-Дам і Луўр? Хіба не расчуляць сапраўднага беларуса Вэстмінстэрскае Абацтва і Брытанскі Музэй, у якім ён убачыць Біблію Францішка Скарыны? А можа чужы для нас Адвечны горад з крушнямі Калізэю? Мы арганічна ня можам ня любіць сваю родную Сьвятую Сафію, але, разам з тым, мы паважаем, любім і Айя-Сафію ў Стамбуле і сабор Сьвятога Пётры ў Ватыкане. А хіба чужыя для нас Джордж Ноэл Гардон Байран і Ісаак Ньютон, Онорэ дэ Бальзак і Эжэн Дэлякруа, Імануіл Кант і Людвіг ван Бэтховэн, Санты Рафаэль і Алігьеры Дантэ? Яны зьяўляюцца агульначалавецкім, а значыцца, і нашым беларускім здабыткам ды гонарам. Няма нічога больш шкоднага, як самаізаляваны ад чалавецтва ўвогуле, а ў сувязі з гэтым абмежаваны, падсьлепаваты патрыятызм. Напрыклад, вельмі прыгожая нашая нацыянальная вопратка, але мы ўсё-ж не дадаем да яе лапці ды ў дадатак ня прычосваемся пры гэтым пад каўтун. Таму тыя мястэчковыя мудрагелі, што вынайшлі гэты загаловак, нагадваюць мне толькі «володимерского богомаза» з апавяданьня Івана Гарбунова, які заўважыў: «Конечно, Рим, чай, хороший город, но далеко ему до нашего Володимера». Дарэчы характэрна, што вельмі блізкі па глыбіні свае натуры да «володимерского богомаза» спадар Асіпчык у дыскусіі з**

палякамі («Америка -- Эхо») «изрёк»: «А навошта нам той Адам Міцкевіч, калі свайго Міцкевіча маем».

Аднак Бог зь ім, Асіпчыкам, з нашым эміграцыйным Мартынам Задэкам. Беларус па крыві, Дастаеўскі із замілаваньнем гаварыў пра «сьвятыя камяні Эўропы».

Крыху асабістага. Калі мне давялося калісьці трапіць у найпрыгажэйшае месца прыгожага Рэйну з ахутанай паданьнямі і апетай паэтамі скалой Лёрэлей і крушнямі замку Фрыдрыха Барбаросы, дык у мяне ад хваляваньня моцна затыхкала сэрца. Яшчэ ў свае дзіцячыя гады сумаваў аб тым, што ня ўдзельнічаў у Крыжовых паходах разам з Рычардам Львінае Сэрца. І ўсё гэтае ня толькі не затуляе ад мяне Беларусь, але, наадварот, маё замілаваньне, мая любоў да Беларусі набывае яшчэ большую акрэсьленасьць на агульначалавецкім фоне.

Няўдалы загаловак падкрэсьлівае ня менш няўдалы малюнак Міхася Наўмовіча на агортцы, дзе хваля (беларуская палітычная эміграцыя) б’ецца грудзьмі аб чужы, каменны, жорсткі, няўтульны бераг. А зьверху над хваляй горда лётаюць два птахі, якія чымсьці падобныя да альбатросаў, хоць, як вядома, яны найбольш пашыраныя ў паўднёвым паўкульлі. Прыпушчаю, што Вы згадваеце, якія літаратары маюцца тут на ўвазе, але, ва ўсякім разе ня Віцьбіч.

Пераходжу да ўступнае зацемкі -- «Ад Выдавецтва». Перадусім ужываць у дадзеным выпадку вялікую літару ў слове *выдавецтва* сьведчыць толькі аб нясьціпласьці, але справа нарэшце ня ў гэтым. Ананімовы аўтар гэтае зацемкі даволі шчыра зазначае, што «прыкладам, Натальлі Арсеньневай адведзена найбольшае месца» (бедная беларуская мова!        Юр. В.), а іншыя аўтары ўсяго толькі фігуранты -- «выразілі жаданьне фігураваць і ў альманаху».

Між іншым, вельмі добра тлумачыць гэты тэрмін «фігурант» «Словарь иностранных слов» (Москва, 1949), у якім на б. 683 зазначана: «Фигурант «...» 2/ актёр без слов, статист; 3/ лицо, не имею]ее действительного значения и выдвигаемое вперёд лишь для видимости». Увогуле гэтая зацемка складаецца вылучна з узаемназабойчых супярэчнасьцяў, якія зразумець цяжка ня толькі з дапамогай элемэнтарнае лёгікі, але, фігуральна кажучы, лёгарытмічная лінейка тут не дапаможа. Аднак нават эзопава мова не захоўвае белых ніткаў.

Далей ідзе артыкул, а можа, таксама зацемка, Сп. Др. Ст. Станкевіча «Аб беларускай літаратуры на эміграцыі», пра якую мне ўжо давялося прыгадваць у сваім нарысе «Урачыста панясём цымбалы мнагазвонныя». Пачынаецца гэтая зацемка страфой Натальлі Арсеньневае:

О Беларусь, хай так,
мы зь верай
Цябе і ўдалеч панясём...

**Па-першае, складаецца такое ўражаньне, што хай ты й Беларусь (гэткая ды разгэткая), але, тым ня менш, мы, маўляў, ад цябе не адмаўляемся. Па-другое, выклічнік «О!», гэтак характэрны для часоў нашаніўства, сёньня сьведчыць толькі аб кепскім мастацкім гусьце. Чамусьці мімаволі прыгадваецца:**

**Екатерина Великая! О!**
**Поехала в Царское Село...**

**І калі паважаны аўтар прадмовы лічыць, што гэтая страфа Натальлі Арсеньневае зьяўляецца** motto **ўсяе нашае эміграцыйнае літаратурнае творчасьці», дык ён аніякае рацыі ня мае. Ёсьць іншыя радкі іншых нашых эміграцыйных паэтаў, якія з адпаведнай праўдзе шчырасьцю і з куды большай мастацкай сілай адбіваюць у сабе існасьць нашае эміграцыйнае літаратуры. Урэшце-рэштаў у тае-ж Натальлі Арсеньневае ёсьць куды мацнейшыя патрыятычныя вершы.**

**Не хачу хлусіць, мне прыемна, што Сп. Др. Станіслаў Станкевіч у добрым пляне прыгадвае і Юрку Віцьбіча і «Шыпшыну», але разам з тым ня цешуся з гэтае прычыны. Па-першае, магчыма, нельга сёньня амінуць Віцьбіча й «Шыпшыну», па-другое, прыпушчаю, што тут усё-ж ёсьць спроба залічыць іхнія высілкі да свайго партыйнага капіталу. «...»**
**Між іншым, і далейшыя цытаты ў гэтай прадмове вельмі ўжо няўдалыя. Гэтак, напрыклад, з Натальлі Арсеньневае:**

**І сонца п’юць усе**

**-- недарэчнасьць пад перш-лепшым кутом, гэта -- мастацкае саматужніцтва.**

**Таксама з Алеся Салаўя:**

**О Афрыка! Крывіччынай была-б ты,**
**каб Нёманам стаўся твой паўнаводны Ніл**

**-- зьяўляецца вельмі павярхоўнай геаграфічнай філязофіяй. З аднолькавым посьпехам можна заўважыць:**

**О Парыж! Ты-б стаўся Менскам,**
**каб Сена сталася Нямігай**
**ды Камароўкай твой Вэрсаль.**

**Радок з Рыгора Крушыны:**

**Чужыя людзі ловяць песьню,**
**каб у вастрог яе загнаць,**

**-- нічога агульнага ня мае з паэзыяй, ні аднаго грану зь яе, гэта -- празаізмы.**

**І калі Сп. Др. Ст. Станкевіч канчае сваю прамову бадай сэнтэнцыяй: «Прыгожа выразіўся Сяргей Ясень, адзін з наймалодшых паэтаў:**

**Калі ночы ёсьць -- мусіць быць Раньне»,**

**-- дык з гэткай-жа мастацкай сілай і пераканальнасьцю гучыць: калі сёньня панядзелак, дык заўтра будзе аўторак.**

**Маленькі дадатак да папярэдняга ў сувязі з Афрыкай і Крывіччынай, Парыжам і Менскам. У аднаго з маіх колішніх найлепшых сяброў, суздром паэтычнага і найталенавітага Ўладзімера Хадыкі ёсьць усё-ж радкі:**

**І цяпер мне ня верыцца ў моц гаманін,**
**што пякней Беларусі Швайцарыя.**

**Аднак гэта наіўна, што адзначыў у свой час яшчэ Максім Гарэцкі. Гістарычныя, геаграфічныя ды іншыя паралелі («Уладзімер Клішэвіч -- беларускі Джакомо Леапардзі». Масей Сяднёў) надзвычай рызыкоўныя. Крый Божа, ад гэтага, я паўтараюся, каб наш патрыятызм стаўся падсьлепаватым. Мімаволі мне прыгадваюцца радкі з укрыжаванага за сваю любоў да Расеі Сяргея Ясеніна:**

**Нездоровое, хилое, низкое,**
**Водянистая серая гладь.**
**Это всё мне родное и близкое,**
**От чего так легко зарыдать.**

**У мяне дагэтуль грыміць у вушах параг Перакагрыж на Дзьвіне. Ён для мяне бясконца блізкі і дарагі, але, разам з тым, я ня ў стане сьцьвярджаць, што ён больш велічны, чым Ніягара. Мажа я проста ў стане заплакаць, трапіўшы на Лысую Гару, аб якой гэтак прыгожа напісаў Уладзімер Дудзіцкі:**

**І стогне Лысая Гара:**
**Як тую кроў крывёю сьцерці?**
**Галосіць нема родны Край**
**У  танцы выскаленай сьмерці,**

**-- але аднагалосна не хачу сьцьвярджаць, што Лысая Гара вышэйшая за Манблян. Мы -- беларусы дарэшты, мы не зьмяняем сваю Беларусь ні на адну краіну на сьвеце, але ня трэба злоўжываць гіпербаламі, якія разбураюць мастацкі вобраз.**

**Цяпер аб супрацоўніках, фігурантах, як і аб тых, каго альманах зьігнараваў. «...»**

**Дзе Сяргей Хмара? Можна ўсяляк ставіцца да яго як да палітыка, але замоўчваньне яго як паэта зьяўляецца проста дзіцячай недарэчнасьцю. Надзвычай паказальна, што ўсялякі бяз вылучэньня, акупант Беларусі (паляк, расеец, немец) саджаў Сяргея Хмару за краты, а таму ён больш за іншых мае права пісаць:**

**Усьцяж Беларусь!**
**Беларусь на губах,**
**У сэрцы-ж --**
**Чорная здрада!**

**і далей ў адрас тых-жа featureзнакаляровых калябарантаў:**

**Бэрлін, Масква ці Варшава --**
**Хто даражэй дасьць --**
**напоіць каня**

**ў Нёмане...**

**Кажнаму крыкніце: «Слава!»**

**Дарэчы, мне вельмі прыемна, што ў !3 «Шыпшыны» надрукаваны гэты верш Сяргея Хмары «Беларусь», які зьяўляецца клясычным узорам палітычнае паэзіі, патрыятычнага мастацтва. Урэшце-рэштаў ён успрымаецца, як паэтычны маніфэст «Баявое Ўскалосі».**

**Чаму ў прадмове да альманаху не прыгадваецца «Баявая Ўскалось» (і сустань, і часапіс), якая, падабаецца гэта каму-небудзь ці не, але не выпадковая -- жыцьцёвая, апрычоная? Аніякае замоўчваньне для яе ня страшнае, але той, хто яе спрабуе замоўчваць, згубіў пачуцьцё рэальнага, вызнае толькі сваю парахвію і ейнага айца-настаяцеля. Зазначу, што «Баявая Ўскалось» на сваіх старонках абражала «Шыпшыну», але затое апошняя на сваіх старонках заўсёды са шчырай сымпатыяй ставілася да «Баявое Ўскалосі». Прыгадваецца і тое, што ўсе «крывічы», разам узятыя, гэтулькі ня кпілі зь Юркі Віцьбіча, колькі Сяргей Хмара ў розных сваіх гумарыстычных выданьнях. «...» Але ўсё гэтае аніяк не перашкаджае мне бачыць у асобе Сяргея Хмары і ў «Баявой Ускалосі» хаўрусьніка, сябра ў супольным змаганьні за ажыцьцяўленьне Акту 25 Сакавіка.**

**Чаму адсутнічае таленавіты паэт Янка Юхнавец і ня менш таленавіты празаік Я. Юхневіч? Як літаратар параўнальна малады, Янка Юхнавец стаіць непараўнальна вышэй за «престарелого» паэта Рыгора Крушыну. Калі чытаеш, напрыклад, «Калыханку» Крушыны (часапіс «Зьніч»), дык прыгадваецца нашая народная прыказка:**

**Раскалыхаўся, як Брацкі звон...**

**Аднак і гэтае не адпавядае праўдзе. Брацкі звон, як вядома, мае непасрэднае дачыненьне да Брацкага манастыра ў Магілёве, і гэта ён заклікаў да таго паўстаньня 1661 г., якім кіраваў Пара-Левановіч. Гэтая прыказка -- адна з нашых найпрыгажэйшых паэтычных прыказак, да якое Крушыне вельмі далёка. Калісьці «Шыпшына» адмовілася зьмясьціць на сваіх старонках «клясычны» верш Рыгора Крушыны «Камары», які ўсё-ж пазьней знайшоў прытулак у часапісе «Палесьсе». Калі помніце, дык у гэтым сваім «патрыятычным» творы ён самаахвярна аддаецца на зьяданьне камарам, бо тыя нібы нагадваюць яму Беларусь ці то адмыслова прыляцелі адтуль, каб пасмакаваць Рыгоравае крыві. Увогуле -- ежце мяне мухі з камарамі. Якая ўсё-ж «бяздонная» камарыная настальгія. Рыхцік той Муцый Сцэвала! Прывалок-бы яшчэ з сабой на эміграцыю і пару клапоў. Аднак гэтае адхіленьне ўбок.**

**На маё колішняе запытаньне: «Чаму ў альманаху адсутнічае Янка Юхнавец?» -- адзін X мне адказаў: «Дзюркі ў небе з гэтае прычыны ня будзе». «...»**

**Дзе Мікола Вярба -- аўтар гэткіх узорных вершаў, як «Паміж пахучых руж», «Сьвятых -- Святым», «Дождж» і інш.? Прыгадваюцца**

**апошнія радкі «Дажджу» Вярбы («Шыпшына», !6). Мяне асабіста гэтыя глыбока паэтычныя радкі проста ўзрушылі:**

**Прагавіта вохкасьць піло поле ў грудзі.**
**Ля абразоў шапталі нешта людзі...**
**А дождж ішоў і біў у стрэхі глуха.**

**Дзе добры празаік Уладзімер Сядура? Можа, хто скажа, што ягоныя «Вялікія дарогі» яшчэ ня скончаныя, а таму, паводле зацемкі ад выдавецтва, і нязьмешчаныя. Няпраўда, бо ў Натальлі Арсеньневае зьмешчана шмат урыўкаў, а паміж імі адзін нават мае характэрны назоў: «Прадмова да ненапісанае паэмы». Я ўжо не кажу пра тое, што гэты гістарычны твор прысьвечаны слаўным нацдэмам, і ўрыўкі Ўладзімера Сядуры больш цэльныя, чым нібы скончаныя творы некаторых іншых аўтараў, якія бездапаможна заблукаліся паміж сваімі героямі, абанкруціліся перад імі.**

**Дзе Янка Ліманоўскі -- на гэты раз як аўтар надзвычай цікавае працы пра Янку Купалу? Магчыма, Вам вядомая гісторыя гэтага твору, які аўтар меўся, паводле адмысловае просьбы аднаго з рэдактараў «Бацькаўшчыны», зьмясьціць у ёй. Аднак некаторыя літаратары і «па-за літаратары» зь Нью-Ёрку наклалі на гэты твор сваё вэта, і аўтар вымушаны быў эміграваць, зьмясьціўшы яго на ўкраінскай мове ў газ. «Укр. Вісті». Прычына гэтага вэта -- Ліманоўскі неаб'ектыўна падышоў да колішніх літаратурных згуртаваньняў на Бацькаўшчыне. Між тым, Сп. Ліманоўскі ў сваім лісьце да мяне згадзіўся перапрацаваць адпаведнае месца. Значыцца, справа палягае зусім ня ў гэтым, а ў іншым, агульназнаным. І хоць прадмова Сп. Др. Ст. Станкевіча і не пазбаўлена літаратурных вартасьцяў, але, разам з тым, нічога новага, раней не знаёмага, не дае, а ў той-жа час багаты па сваім зьмесьце артыкул Янкі Ліманоўскага зьяўляецца каштоўным укладам у нашую літаратуру на чужыне.**

**Не забаронена таксама нікому па-свойму заглядацца на творчасьць Ю. Жывіцы і С. Жамойды, але адно не падлягае сумлеву, што іхнія творы з мастацкага боку нічым ня ніжэйшыя за творы, напрыклад, Шынклера, Бужана, Абакшонка, Пасьлядовіча, якія на Бацькаўшчыне друкаваліся ў часапісах. Да таго-ж аповесьць Ю. Жывіцы «Пушча шуміць...» па-мастацку асьвятляе змаганьне нашага народу з польскімі наезьнікамі.**

**Дзе Янка Золак? Нягледзячы на ягоныя дагэтуль ня зжытыя «маладнякізмы», аб ім-жа гэтак добра прыгадаў узвышэнец Г. Альгердзіч у сваім артыкуле «Нашчадкі і спадкаемцы» («Шыпшына», !2).**

**Дзе Кавалеўскі, Вольны, Змагар, Саковіч, Шакун, Грэскі і г. д.? Пэўне-ж бракуе тактоўнасьці падысьці да больш ці менш маладога аўтара, як роўны да роўнага, не абражаючы пры гэтым ягонага чалавецкага «я», дапамагаючы яму адначасна знайсьці сваё літаратарскае «я».**

**І гэтак далей, і гэтак далей.**

**Нарэшце, чаму ня трапілі ў альманах раней для яго прызначаныя «Бацькаўшчынай» творы Юркі Віцьбіча -- «Паданьне аб таямнічым сьвятле», «Аб чым крычалі мерцьвякі», «Як сацьмела золата найлепшае», «У той самы Дзень», «Ходзіць па нашай краіне Рагнеда» і г. д.? Вось цяпер мне й хочацца адказаць на гэтае пытаньне «Чаму?». Чаму адсутнічаюць, а калі й прысутнічаюць, дык перакручаныя або абкарнаныя вышэйпрыгаданыя беларускія літаратары на чужыне, а ў іх ліку і Юрка Віцьбіч.**

**Я асабіста лічу, што нашая мастацкая літаратура на чужыне проста ня мае права на апалітычнасьць, як літаратура палітычнае эміграцыі. Аднак пісьменьнік, змагаючыся мастацкім словам за зьдзяйсьненьне Акту 25 Сакавіка, зьяўляючыся сымпатыкам або сябрам (гэта вузка асабістая справа) тае ці іншае нашае палітычнае плыні на эміграцыі, разам з тым, мае сьвятое права на тое, каб паставіцца вышэй за змаганьне гэтых плыняў паміж сабой. Усялякім, часам даволі неахайным чынам, яго спрабуе прысабечыць, ператварыць у свайго «одописца» тая ці іншая плынь. Адным з доказаў апошняга ёсьць альманах «Ля чужых берагоў», які, па сутнасьці, рэдагаваўся ня ў Мюнхэне, а ў Нью-Ёрку. Трэба толькі да выразна партыйных мэтаў навуковага й літаратарскага недарэкі Сп. Др. Вітаўта Тумаша дадаць асабістую амбіцыю Натальлі Арсеньневае.**

**Вельмі зьдзівіў мяне ў альманаху архаічны надсанаўскі падзагаловак «Абарваныя струны», якія зьяўляюцца проста зьдзеклівымі ў дачыненьні да Ларысы Геніюш, Хведара Ільляшэвіча й Лявона Случчаніна, творы якіх пад ім зьмешчаныя. Якія гэта струны? З балалайкі зошчанкаўскага «управдома»? Якія -- абарваныя? Ні ссылка, ні сьмерць не перамаглі іхняе творчасьці, яна гучыць з ранейшай мастацкай сілай, якое акурат бракуе тым жывым, што апынуліся ля ціхае брамы, як і тым, хто за гэтую ціхую браму ўзьнімае мешчанчукоўскі кілішак. Калі мяне хто пасьля мае сьмерці назаве абарванай струной, дык я касьцяком вылезу з труны ды прывалакуся да аўтара гэтае чаўпні, каб зьвесці зь ім парахункі.**

**Між іншым, пад біяграфіямі Хв. Ільляшэвіча і Л. Случчаніна зьмешчана прозьвішча Юркі Віцьбіча, хоць той сапраўды, на падставе шматлікіх крыніцаў напісаўшы іхнія біяграфіі, прасіў друкаваць іх безь ягонага подпісу, недарэчнага ўвогуле пад біяграфічнымі даведкамі. І пэўне-ж мяне не паслухалі вылучна таму, што трэба было зьмясьціць пад біяграфіяй Ларысы Геніюш подпіс Сымона Брагі (чаму не Сымон Самагон?). Мімаволі прыгадваецца, што, паводле словаў Раісы Евец, калісьці ў Вільні яшчэ студэнт Станіслаў Станкевіч упрошваў таксама студэнта Вітаўта Тумаша: «Адкасьніся, дзеля Хрыста, ад навукі, літаратуры й мастацтва».**

**Чамусьці ў біяграфічных даведках супрацоўнікаў і фігурантаў альманаху адзначана, колькі і дзе той ці іншы літаратар адбываў бальшавіцкую кару. Гонар і слава іхнім пакутам, але ўсё-ж гэта літаратурны альманах, а не часапіс былых савецкіх палітвязьняў. Таму, па-першае, мімаволі складваецца такое ўражаньне, што аўтары просяць гэткім чынам у чытачоў нейкае скідкі да свае творчасьці, як калісьці ў біяграфіях ударнікаў, пакліканых у літаратуру, абавязкова адзначаўся іхні рабочы стаж. І найгалоўнае тут нават ня ў гэтым.**

**Толькі адзін узвышэнец Васіль Бірыч (Антон Адамовіч), рэпрэсаваны адначасна зь іншымі ўзвышэнцамі (Дубоўка, Жылка, Пушча, Бабарэка, Купцэвіч, Шашалевіч), пакутваў менавіта за тое, што зьяўляўся літаратарам. Калі, напрыклад, Юрка Віцьбіч у нарысе «Ўрачыста панясём цымбалы мнагазвонныя» шчыра адзначыў, што трапіў у энкавэдэшную катавальню не за свае творы, а за помнік, пастаўлены ім на могілках вяліжскіх паўстанцаў, дык чаму Натальлі Арсеньневай бракуе мужнасьці вызнаць, што ў ссылку яна трапіла як жонка афіцэра польскае службы, а праз кароткі час яе менавіта за тое, што яна -- паэтка, вызваліў адтуль сам Панамарэнка. Далей. Калі Юрку Віцьбічу пашанцавала раней ня трапіць на Калыму (дарэчы, найлепшым маім адвакатам быў Кузьма Чорны), дык ён больш за іншых перасьледваўся менавіта за літаратуру.**

**І ўрэшце-рэштаў, я з глыбокай пашанай стаўлюся да паліткатаржанаўскіх пакутаў Сяднёва, Кавыля, Клішэвіча, але-ж пакутвалі яны не за тое, што зьяўляліся літаратарамі, а ГПУ закідала ім прыналежнасьць да студэнцкіх нацдэмаўскіх гурткоў. Між іншым, Кавыль прыгадвае сваю лучнасьць з Сяргеем Астрэйкам, але той -- аўтар «Бэнгаліі» -- ня толькі студэнт, але на карні зьнішчаны бальшавікамі за свае нацдэмаўскія літаратурныя творы найвыдатны беларускі паэт.**

**Сумна, але альманах «Ля чужых берагоў» стаўся крывым люстрам нашай літаратуры на чужыне. У незнаёмага ён пакідае даволі благое ўражаньне аб ёй. Таму мяне асабіста зусім ня дзівіць, чаму нашыя літаратары пакідаюць бяз водгуку сталыя заклікі «Бацькаўшчыны» дасылаць свае творы да новага альманаху. А ўвогуле сучаснае становішча нашае эміграцыйнае літаратуры бадай што ўбогае. З аднаго боку -- «У бубны і літаўры», а з другога -- «Са сьвятымі ўпакой».**

**Аднак ніколі яшчэ я Вам гэткага вялікага ліста не дасылаў. Спадзяюся, што ў Вас не забракне часу ды хопіць цярпеньня, каб зь ім пазнаёміцца.**

**Найлепшае прывітаньне Вам і Вашым ад мяне і маіх.**

**Чакаю Ваш ліст. З узвышэнскім і шыпшынаўскім прывітаньнем (фігурант?) Юрка Віцьбіч**

***Юрка Віцьбіч -- Лазарэвічу***

*10 чэрвеня 1973 году*

**Глыбокапаважаны Спадар Лазарэвіч!**

**Удзячны за Ваш ветлівы ліст. Паколькі Вы ў ім парушылі шэраг даволі спрэчных пытаньняў, дык дазвольце і адказаць на іх. Прычым загадзя прашу прабачэньня, калі сёе-тое ў маіх шчырых адказах здасца Вам крыўдным.**

**Гэтак Вы пішаце: «На маю думку, створаная эміграцкая літаратурная мова нязграбная і цяжкая, каб тварыць на гэтай мове якую-небудзь вартасную літаратуру, магчыма, таму яе й няма». А далей дадаяце: «На эміграцкай літаратурнай мове немагчыма ня толькі пісаць творы, але й гаварыць. Помню, як Антон Адамовіч у Менску сказаў, што створым такую мову, каб расейцам была незразумелая. Вось і стварылі, што й беларусам цяжка зразумець яе».**

**Няўжо? А як на мой пагляд, дык беларуская літаратурная мова на чужыне заслугоўвае толькі падзякі за тое, што яна, па-першае, сьвята захоўвае ўсе апрычонасьці нашае літаратурнае мовы, зьнішчаныя там у выніку прымусовых рэформаў правапісу, а па-другое, дбае таксама пра чысьціню ейнае лексікі, якая там усё больш і больш абмаскальваецца.**

**Варта таксама ўзяць пад увагу, што літаратурная мова, як там -- раней, гэтак і тут -- цяпер, ніколі ня будзе цалкам супадаць з народнай, а гэта ўласьціва літаратурным мовам усяе зямлі. Характэрна, напрыклад, што калі ў 20-х гадох мне давялося прачытаць аднаму падмаскоўнаму селяніну ўрывак з «Войны и мира» Льва Талстога, дык ён зразумеў яго на якія-небудзь 75%, бо ягоны асабісты слоўнік значна меншы, чым слоўнік пісьменьніка. І сапраўды, скуль гэты селянін можа ведаць словы накшталт «носовой платок» або «уборная», калі ў жыцьці зь імі ня сутыкаўся.**

**Вы далей выказваеце свой жаль, што аўтар аповесьці «Драбы» не растлумачыў чытачам паходжаньня тэрміну «драбы» (ад «драбанты» -- пазьнейшыя «драгуны»), у старыну -- «асобая конная ахова, прывучаная біцца ў конным і пешым страі». Між тым, паводле гістарычных дакумантаў, яшчэ за часы Вітаўта Вялікага драбамі называліся пяхотнікі, ды ніхто на тыя акурат часы ня ведаў пра драгуноў, назоў якіх бяз усякае зьмены ўзяты з францускай мовы. Іншая справа, што нядобра ўжываць гэты тэрмін у загалоўку, бо пад драбамі ў нашай мове разумеюцца ня толькі «пяхотнікі», але і «дрогі» і «рэбры».**

**Вам не спадабалася ўжыцьцё мною агульназразумелага для ўсіх беларусаў тэрміну «адраджэньне» ў ягоным адзіным сэнсе -- «рэнэсанс», бо, паводле Вашага тлумачэньня, ягоным коранем нібы зьяўляюцца... «отразить, отражать». Між тым, апошнія расейскія тэрміны нічога агульнага зь беларускаю мовай ня маюць, дзе ў такім выпадку беларусамі ўжываюцца -- «адбіваць», «адкідаць», «адперці». Гэтак цудоўны «Баркулабаўскі летапіс» прыгадвае: «Маскву ад Магілева адперлі». Што**

**да «Адраджэньня», дык найбольшым прадстаўніком яго на Беларусі быў Францішак Скарына. Мімаволі згадваецца, што і добры часапіс Інбелкульту меў назву «Адраджэньне».**

**І нарэшце ў першым абзацы свайго ліста да мяне Вы, маючы на ўвазе прычыну зьяўленьня свайго адкрытага ліста ў газэце «Новое Русское Слово», адзначаеце: «Прынудзіў мяне напісаць яго самаўвераны ліст». А ці ня лепш было сказаць: «Прымусіў мяне напісаць ягоны самаўпэўнены ліст»? Справа ў тым, што на беларускай мове «нудзіць» -- гэта тое-ж самае, што на расейскай «тошнит».**

**Дарагі Спадар Лазарэвіч, Вы добра зрабілі, што зьмясьцілі ў «НРС» свой ліст у абарону беларускае мовы, але ўсё-ж ведаеце Вы яе, прабачце, не нагэтулькі добра, каб раптам вычуць сябе ў дачыненьні да сваіх суродзічаў на чужыне пракурорам, судзьдзёю й настаўнікам у галіне іхняе цудоўнае мовы.**

**Шчыра зычу Вам усяго найлепшага.**

**З пашанай да Вас Юрка Віцьбіч**

## БІБЛІЯГРАФІЯ
## ТВОРАЎ ЮРКІ ВІЦЬБІЧА

### СКАРАЧЭНЬНІ

| | |
|---|---|
| **Архіў Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Нью-Ёрк** | **(Архіў БІНіМа)** |
| **Архіў Фундацыі імя Пётры Крэчэўскага. Нью-Ёрк** | **(Архіў Фундацыі)** |
| **Архіў Юркі Віцьбіча (Фундацыя імя Пётры Крэчэўскага. Нью-Ёрк)** | **(Архіў Юркі Віцьбіча)** |
| **Бюлетэнь Інфармацыйнай Службы. Беларускі дэмакратычны незалежніцкі двухтыднёвік. На правох рукапісу.** | **«БІС»** |
| **Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі. Часапіс праваслаўных беларусаў. Рэгенсбург.** | **«Зьвіняць званы»** |
| **Летапіс беларускай эміграцыі. Грамадска-палітычны незалежніцкі часапіс.** | **«Летапіс»** |
| **Ля чужых берагоў. Альманах твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў. Мюнхэн, 1955, 230 б.** | **Ля чужых берагоў** |
| **«Новое Русское Слово». Ежедневная газета на русском языке. Нью-Йорк.** | **«НРС»** |
| **Юрий Стукалич. Мы дойдём! Очерки, статьи, фельетоны. Фонд имени П. Кречевского. Нью-Йорк, 1975, 156 с.** | **«Мы дойдём!»** |

### ПОДПІСЫ. ПСЭЎДАНІМЫ. КРЫПТАНІМЫ

**Зьмітро Ажгірэй** **Янка Салагуб** **Ю. В.**
**Юрка Віцьбіч** **Селянін (?)**

**Міхась Жыгалевіч** **Стары Жаўнер**
**Алесь Крыжаніч** **Юрий Стукалич**
**Міхась Крыніцкі** **Ігнат Тур**
**Васіль Савіцкі** **Ювенал**

**Уключаныя ў бібліяграфію творы і выданьні, за выключэньнем пазначаных зорачкай, апісаныя de visu.**

---

**Абарані нашую радзіму-Беларусь** (Абраз Менскае Божае Маці). Надрукавана: «Беларуская газэта», ! 43 (261), 31 травеня 1944.

**Аб беларускай картаграфіі і геаграфічнай наменклятуры.** Рукапіс (Архіў Юркі Віцьбіча).

***Аб ім расказала песьня.** Апавяданьне. Надрукавана: «Чырвоная зьмена», 28 жніweня 1940.

**Абое вартыя.** Фэльетон. Надрукавана: «Беларускае Слова», ! 6 ~7), 3 травеня 1949, подпіс Ігнат Тур.

**Абрасимов посетит Тараскон.** Надрукавана: «НРС»[1], 11 октября 1971.

**Аб чым змаўчаў пратаярэй Вайтовіч** (Вачыма жывога сьведкі). Надрукавана: *«Царкоўны Сьветач», ! 22; тое-ж: «НРС», 6 марта 1974; 7 марта 1974; «Мы дойдём!», с. 73-78.

**Аб чым крычалі мерцьвякі.** Урывак з аповесьці «Ціхая Руба». Надрукавана: «Бацькаўшчына», !1-2 (183-184), 7 студзеня 1954.

**Аб чым крычыць каменьне** (Барысаў камень «Сьцяпан»). Надрукавана: «Зьвіняць званы», !3, красавік 1946, б. 17-18; тое-ж: «НРС», 11 августа 1963; «Мы дойдём!», с. 13-14.

**Аб чым пяюць куранты.** Надрукавана: «Беларус», ! 203, сакавік 1974.

***«А виноват в этом Жан-Жак Русо».** Надрукавана: «НРС», 6 сентября 1968.

**«А гвалту мы дамо адпор».** Надрукавана: «Беларуская газэта», ! 1 (219), 5 студзеня 1944; «Беларускі работнік», ! 15-16, 16 красавіка 1944.

**Агент Абрамчык падарожнічае.** Надрукавана: «БІС», !18, 10 ліпеня 1948; «Летапіс», !63, студзень 1989, б. 14-16, подпіс Ігнат Тур.

**Ад «Ваські» да «Сафійкі» (**Ліст у рэдакцыю) Машынапіс, 13 лістапада 1965 (Архіў Юркі Віцьбіча).

---

[1] **Усе публікацыі Юркі Віцьбіча ў газэце «Новое Русское Слово» маюць подпіс Юрий Стукалич.**

**Адгрымелі гарматы Быхава.** Надрукавана: «Беларус», !175, лістапад 1971.

**Ад дойліда Івана да Броніка Макаеда.** Надрукавана: «Беларус», !210, кастрычнік 1974.

**Адкрыты ліст да беларускае грамадскасьці (Міхельсдорф, 14 лістапада 1947).** Надрукавана: «Летапіс», ! 62, сьнежань 1988, б. 128-130.

**Адкрыты ліст да Спадара Часлава Будзькі.** Надрукавана: «Бацькаўшчына», !13 (597), 22 верасьня 1962.

**Ад Лукаша Жыдзяты да Янкі Купалы.** Надрукавана: «Беларус», !189, студзень 1973; «Жыве Беларусь!». Бюлетэнь Беларускай Цэнтральнай Рады, !6, кастрычнік 1981, б. 27-28.

**Адоніс.** Апавяданьне. Надрукавана: «Полымя рэвалюцыі», !9, 1935, б. 43-48.

**Ад палянэза да шчабёнкі.** Надрукавана: «Беларус», !169, травень 1971; тое-ж: «НРС», 4 августа 1971.

**Ад рэдакцыі.** Надрукавана: «Зьвіняць званы», !1, 1946, б. 1-2, бяз подпісу.

**«Ад Сьцяпана да Няжылы».** Надрукавана: «Беларус», !184, жнівень 1972.

**«Адтуль маскалі, а стуль швяды...».** Надрукавана: «Беларус», !167, сакавік 1971; тое-ж: «НРС», 10 мая 1967; «Мы дойдём!», с. 20-21.

**Аист с подбитым крылом.** Надрукавана: «НРС», 20 марта 1969.

**А каков он в действительности.** Гл. **А які ён у сапраўднасьці.**

**Альдэбаран.** Апавяданьне. Надрукавана: «Полымя рэвалюцыі», !9, 1936, б. 20-23.

**Аматарам «найпрыгажэйшых паданьняў»** (Аб салідарыстых на Беларусі). Надрукавана: «Бацькаўшчына», !36 (422), 21 верасьня 1958.

**А может быть, Мао Цзе-дун тоже белорус?** Надрукавана: «НРС», 9 февраля 1963.

**Анафема запятым.** Надрукавана: «НРС», 25 июля 1968.

**Антон Радзівілоўскі.** Надрукавана: «Зьвіняць званы», !3, красавік 1946, б. 10, бяз подпісу.

**Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі**. Нью-Ёрк, 1996. 397 + XV б.

***Апавяданьне каваля Раяка.** Надрукавана: «Полымя рэвалюцыі», !2, 1938.

***Апавяданьне шаўца Суразіна.** Надрукавана: «Літаратура і Мастацтва», 23 ліпеня 1939.

**Апалёгія Варнянскай вежы.** Надрукавана: «Беларус», !192, красавік 1973.

***Апошні сантым (**Урывак з аповесьці). Надрукавана: «Літаратура і Мастацтва», 1 мая 1940.

